АПОВЕСЦЬ
ПРА МАТЧЫНА СЭРЦА

НА ЗЯМЛІ,
ДЗЕ БЫЎ ПОДЗВІГ
ГАСТЭЛЫ

НЁМАНСКАЯ
ВЯСЁЛКА

ПА ЗАЛАХ
МУЗЕЯ
АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

З ДАЛЁКАГА
ПЛАВАННЯ

ІНЖЫНЕР
ШТУРМУЕ
КІЛАМЕТРЫ



6

ЧЭРВЕНЬ

МІНСК 1966

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе — № 6 ЧЭРВЕНЬ 1966

Выдавецтва «Звязда»

## У НУМАРЫ:

Вокладка **М. Чэпіка**





**Аўгіння КАВАЛЮК**



# ДОЖДЖ

**Прыгадаўся той дождж,**
**Лівень люты,**
**гарачы...**
**Брат з сястрычкай малою**
**Каля ног маіх плачуць.**
**Дождж цадзіўся,**
**будан наш, як сіта, свіціўся.**
**Раптам крык нечаканы:**
**— Чалавек нарадзіўся!**
**Нават бой пераціх**
**І прайшла навальніца.**
**Чалавека на рукі**
**ўзяла маладзіца,**
**Паказала яна яго**
**сонцу і людзям.**
**І сказала:**
**— Жыць будзе...**
**Хтось рукою шурпатай**
**малога пагладзіў.**
**Стала больш на мужчыну**
**ў партызанскім атрадзе.**
**Стала больш на мужчыну —**
**прыбаўляецца сіла.**
**Усміхнулася сонца,**
**хітра вочы скасіла**
**І таксама з малым**
**пачало забаўляцца.**

Зараз тому малому,
Пэўна, недзе
за дваццаць,
Зараз тому малому
Сны дзівосныя сняцца.
І гукаюць і клічуць яго
таямніцы...
А ні хмар,
ні дажджу
партызан не
баіцца.

## СПЫТАЙСЯ Ў СЭРЦА

Калі твае вочы
туманяцца сумам,
Ты ў сэрца спытайся, у сэрца
і ў думак.
Ці клічуць цябе
найкрутыя дарогі,
Якому багаццю
ты хілішся ў ногі?
Якому багаццю ты
молішся, дружа,
Ці тому, што вырвеш
у зморанай сцюжы,
А можа таму, што
ў шафе зачынена?
А мне,
мне спазнаць бы,
чым неба падсінена.
Багацце маё на кожнай
дарозе,
У кожным сустрэчным,
У кожнай бярозе...

●

Гляджу я ў неба,
прыжмурыўшы вочы:
Сонца маё
асляпіць мяне
хоча.
Сонца маё пад купалам
неба,
Гэтулькі свету
адной мне
не трэба.



Лепш пакіруй свае, сонца,
праменні
Туды, дзе зімовыя
сцюжы і цені.

## ЛЮДЗІ І МОРА

Зноў сёння Балтыцы шалець.
Змяіна скачуць хвалі.
Плыве рыбацкі траўлер ледзь.
Губляюць траўлер далі.
Як маякі, стаяць ля хваль
Латышскія рыбачкі
І позіркам лагодзяць даль,
Адно шукаюць мачты.
І ўпарта вераць —
рыбакі
У моры не заблудзяць:
Трымаюць курс
на маякі
Ў фуфайках мокрых людзі.

●

Узмор'е спіць.
Якая любата!
Вада ад зор святлее —
віднота.
Ніхто не ўбачыць нас
і не асудзіць —
Узмор'е спіць,
і спяць ля мора людзі.
Нарэшце
ў хвалях тоне маладзік.
Якая любата,
ты паглядзі,
Не, ты наслухай толькі,
дарагі,
Як мора
рве са звонам ланцугі!
Узмор'е спіць.
Якая любата!
Мне не заснуць:
на сэрцы — дабрата.

Уладзімір ПАЎЛАЎ



# ЯЖЭЛІХА

Аповесць

Мал. В. Шаранговіча

Ах, бяроза, бяроза,
Чаго тонка, высока,
Гэй, чаго тонка, высока?
Чаго тонка, высока,
*На карэнне глыбока,*
Гэй, на карэнне глыбока?

*З народнай песні.*

Заўсёды Беларусь знаходзілася
на скрыжаванні ваенных дарог.

*З гісторыі.*

— Далей не паедзем. Мне трэба во ў гэты лясок, там зборны пункт,— гаворыць тата і саскоквае з воза.

Злезла і маці.

Бацька ўгнуў галаву і пайшоў наперад, паправіць каню хамут, праверыць супоню.

Уперадзе пачынаўся горад. Адтуль ішлі і ехалі людзі: хто як і хто на чым. Бязладныя крыкі і шум. У бязвоблачнае неба паўзлі агромністыя клубы чорнага дыму. «Гарыць нафтабаза»,— сказаў бацька.

Ён завітаў дамоў учора вечарам, у вайсковай вопратцы, бо быў узяты тыдні два назад на перападрыхтоўку. Пераначаваў — і ў дарогу, «на вайну», як растлумачыў ён нам, дзецям.

У горад мы выехалі раніцай. А цяпер полудзень. Па дарозе не надта гналі каня, бо яшчэ меўся ў запасе час і хацелася пабыць разам. Усю ноч дрыжала зямля. Самалёты, відно было, плылі і плылі ў бясхмарным небе некуды за далягляд. «Нямецкія»,— гаварыў па дарозе тата, і мы глядзелі ўверх.

Тата падыходзіць да нас, гладзіць маю стрыжаную галаву, весела падміргвае...

— Што будзе, Андрэйка? Што будзе?..— горка пытае ў яго маці.— Як жа нам жыць без цябе? Ды яшчэ калі немец прыйдзе...

— Як жыць без мяне ты, Мар'я, ведаеш. Жыла. Глядзі сябе, беражы дзяцей. Я... вярнуся...— і быццам нейкі камяк перасядае ў яго ў горле.

Мама плача. Абнімае шырокія татавы плечы і хіліцца галавой да яго грудзей. Бацька гладзіць чорныя маміны валасы і глядзіць некуды ўперад. Што ён бачыць там?..

Час. Тата разварочвае падводу. Мы з мамай сядзім на возе. Затым ён падхоплівае мяне, ускідвае на руках і глядзіць знізу ўверх у вочы. Саджае назад у воз, па чарзе цалуе мяне і маму. Мама зноў плача, аберуч трымае тату і ніяк не хоча адпускаць яго. Нарэшце бацька выслабаняецца...

— Ну, едзьце...

Але самае цяжкае — скрануцца з месца. Тады тата сцябае ляйчынай каня і ўжо на хаду ў апошні раз ловіць нашы рукі. Сам застаецца стаяць на дарозе, шырока расставіўшы ногі, пазірае нам услед. Азіраецца і мама. А я дык увесь час махаю тату рукой.

Усё далей і далей бяжыць дарога. Па ёй ідуць людзі і засланяюць бацьку. Вось і зусім не відно яго. Не бачыць і маці. Тады яна хутчэй падганяе каня: трэба ж і дадому. Дома чакаюць нас мае сястрычкі — Валька, Наташа, Зойка — і непачаты край работы...

Уперадзе людзі сыпанулі з дарогі ў кусты і жыта. Мама яшчэ нічога не разумее, затым тузае на сябе лейцы, хапае з воза мяне. Удваіх мы коцімся ў канаву.

Над дарогай ляціць самалёт. Агромністы цень мільгае над намі. Стракоча хуткая чарга: «Та-та-та-та-та!» Я самалёт не бачу, бо закрывае яго сабой мама. Пыльная травінка гойдаецца каля вачэй, я адхінаю яе і хачу ўстаць. Мне цікава, дзе самалёт, як ён страляе і што робіцца ў тым баку, дзе мы пакінулі тату. Мама прыціскае мяне да зямлі, не даючы падняцца... І зноў над дарогай: «Та-та-та-та!» — толькі ўжо з другога боку. Ляжым яшчэ колькі часу, прыслухоўваемся. Узлазім на насып, калі ўсё сціхла і самалёт знік. Каля задніх колаў фурманкі з некалькіх ямчын курыцца пыл. Гэта ад куль. А каня хоць бы зачапіла... «Наша шчасце»,— гаворыць мама і шлёгае дубчыкам каня. І як далёка ні ад'язджай, бачна: над горадам нізка кружацца тры самалёты, а ўнізе штосьці бухае, рвецца, і ў неба ўскідваюцца густыя дымы...

На канюшню, калі мы распрагалі каня, збегліся людзі. «Ну, што? Як там, у горадзе?»

Маці адказвае, што горад гарыць, што самалёты лятаюць над дарогай і страляюць у людзей. Жанчыны ўтрапёна слухаюць, верачы і не верачы пачутаму. («Што будзе, што будзе?») Праз іх не густы гурцік праціскаецца настаўніца Соня Рыгораўна і строга гаворыць:

— Не выдумляй, Мар'я. Панікі не разводзь... Перадавала радыё, нашы пацяснілі немцаў і вядуць баі на іх тэрыторыі. А ты людзей баламуціш. Не любяць гэтага, ты сама ведаеш.

Дзе «гэтага» не любяць, хто — Соня Рыгораўна не сказала. Але словы яе падзейнічалі. Мама моўчкі распрагае каня і думае штосьці сваё.

— Пра што ты думала, мама, тады, на канюшні, калі мы адвезлі на вайну бацьку?

— Хіба ж утрымае галава ўсё, сынок. Але думалася, здаецца, пра гэта...

«Не любяць» панікі. А хто яе любіць? Толькі тое, што бачыла я на свае вочы,— праўда. Чаму ж не сказаць праўды? «Ты сама ведаеш...» О, я ведаю! Ведаю, што ў чымсьці і твая праўда, Сонечка. І можа пагэтаму змоўчала, пабаялася гаварыць лішняе. Гарэў горад, і самалёт страчыў па людзях на дарозе — хіба такое выдумаеш?! Але трэба маўчаць. І я маўчу. Па сабе ведаю, калі не сааступіш ліху,

то яно зробіць так, быццам ты вінават у ім. Хіба ж не абвінавачвалі Андрэя ў шкодніцтве? Хіба мала гора зведала яна без яго? Таму і змоўчала.

... Забралі яго ноччу. Прыехалі і забралі. «А як жа калгас? У мяне пячатка, я... старшыня». «Нічога не здарыцца. Цяпер — калгас будзе жыць, а пячатку пакінь, заўтра забяруць, каму трэба»,— адказалі яму. Асабліва разанулі словы: «Цяпер калгас будзе жыць». Чула, Андрэйка, што кругом шпіёнаў і ворагаў ловяць. А завошта ж цябе? Ой, божачка, што ж гэта робіцца?

Суд ішоў па ўсіх правілах: з засядацелямі і сведкамі. Галоўным з іх быў новы старшыня, Вінцэсь. «Я, Мар'я, не вінаваты, што ў мяне ў кішэні пячатка. Сказалі бяры, я і ўзяў»,— гаварыў Вінцэсь, быццам апраўдваўся, а ў самога вочы бегалі, як у прыблуднага сабакі.

— Грамадзяне суддзі, усё, што тут гаварылі пра маё злачынства, няпраўда. Вы ведаеце, якое было мінулае лета. Дажджы папрыбівалі сена ў пракосах да зямлі. А пасля ўдарыла маланка, і вялікі стог згарэў. У суседзяў таксама не багата, не купіш. Вось і раскрывалі мы, дзе можна,— я ж і кажу, дзе можна, а не ўсюды,— стрэхі і рэзалі на сечку. Затое падзяжу мінавалі. А гэтыя гумны мы накрылі пасля жніва...— апраўдваўся ён у апошнім слове.

Не памагло.

— Недзе ўсё ж павінна быць праўда, Маруся. Буду шукаць яе...

Ці знайшоў ты яе ці не, а вярнуўся. Праз два гадкі вярнуўся. Ды зноў жыць няма калі, мой Андрэйка,— вайна...

— Вось пра што мне мільганулася тады, сыне...

Спачатку дзень, а мо і два ішлі праз Залессе з горада чырвонаармейцы. Трапляліся сярод іх і пешыя і конныя, у доўгіх кавалерыйскіх шынялях. Але больш за ўсё было дзядзькоў і хлопцаў у пінжаках і ватоўках з амаль пустымі белымі торбачкамі за плячыма. Іх ніхто не спыняў і не пытаў, куды, бо начальства, вышэй за старшыню, брыгадзіраў і конюхаў, у Залессі не было. А якое яны начальства для вайскоўцаў?

На чацвёрты дзень усё сціхла. Нямая, незразумелая і страшная сваёй нечаканасцю цішыня палохала і прыгнятала.

Людзі зашыліся ў ямы, якія выкапалі на агародах у бульбоўніку. Больш за ўсё палохалі чуткі пра дыверсантаў, атручаныя калодзежы і яшчэ хто ведае пра што.

Затым папаўзло: прыйшоў немец.

Праз Залессе ж ён ні ішоў, ні ехаў. Вёска стаяла ў баку ад дарог, не мела нават ручая, не то рэчкі, дзе б можна было зачапіцца войскам і біцца. Вораг ступіў на залескую зямлю пасля, калі грымоты адпаўзлі далёка на ўсход. Так было, казалі, і ў германскую, і ў грамадзянскую. А вось раней шведы ды Напалеон не абміналі Залесся. Нібы наўмысна захацелі скруціць сабе шыю — за вёскай шмат курганоў з тых часоў...

Недзе праз тыдзень пасля пачатку вайны наехалі ў вёску тупарылыя машыны з вялікімі круглымі люстэркамі каля кабін, ды каляскі на трох колах. Немцы пасаскоквалі, пайшлі па хатах, не саромеючыся нікога, лапалі маладзіц і скалілі зубы: «Матка, война гут». Поўнымі пілоткамі насілі яйкі да машын, прадавалі блішчастыя пляскатыя пакуначкі сахарыну і жоўтыя пахучыя яблыкі. Мала-памалу пачалі выходзіць на вуліцу людзі. Брала верх цікаўнасць да вялікіх аўтамашын і трохколавых матацыклаў з каляскамі, да яблыкаў-персікаў, як іх называла настаўніца Соня Рыгораўна, пра якія



ў Залессі чуць чулі, а бачылі ўпершыню. На машынах і матацыклах стаялі кулямёты, а на жыватах у немцаў матляліся чорныя аўтаматы. І ўпэўненасць чужынцаў, і іх весялосць, і нечыя роспачныя словы: «а ў нас такіх аўтаматаў няма» — нараджалі разгубленасць. Старая Тэкля, казалі, зазывала чужынцаў да сябе на пачастунак. А пасля гаварыла на вуліцы: «Бальшавіку немца не адолець».

— У іх тэхніка, нічога не скажаш...— сказаў дзядзька Апанас.

І толькі дзесяцікласнік Міша Канёвых скасавурыўся на дзядзьку:

— Тэ-эхніка... Яшчэ ніхто Расіі не перамагаў...

— Цыц,— прытупнуў на яго дзядзька Апанас.— Малако на губах высушы... От! Цыц!

... Маці прыйшла дадому і доўга плакала, а мы, малыя, здзіўлена і насуплена пазіралі на яе і не маглі зразумець, пра каго яна гаварыла: «Мякка сцелюць, а мулка будзе спаць», але тут жа забылі пра ўсё, дзелячы на ўсіх невялікі скрылік персіка.

А яшчэ праз колькі часу з'явіліся ў вёсцы «прахадзяшчыя», як у нас у той час ахрысцілі акружэнцаў, і,— не было б шчасця, ды бяда памагла! — самая апошняя няўклюда ці ўдава ад фінскай вайны магла выбіраць сабе хлопца ці мужчыну па сваім гусце. Акружэнцам трэба было неяк жыць і карміцца. Стаўшы прымакамі, яны, аднак, не асабліва налягалі на гаспадарку, а вечарамі збіраліся разам і расказвалі, напаўголаса спявалі «нашы песні». Так і цягнулася жыццё да восені: усё яшчэ і не сваё і не чужое. Далей прымакам заставацца ў Залессі і ў навакольных вёсках было рызыкоўна.

Гаварылі, што ў гарадах лютуюць немцы. І зусім ужо страшна было чуць пра «сваіх», што павылазілі аднекуль і падаліся ў паліцыю, апранулі чорныя шынялі. Яны памагалі вышукваць камуністаў, расстрэльвалі ні за што ні пра што яўрэяў. Здраднікаў абхітрыць было цяжэй, і схавацца ад іх немагчыма.

Дзе ж наш тата, калі ён прыйдзе і прагоніць ворагаў, і ўсім зноў будзе добра? Мама плача і прыгаворвае:

— І нашто табе трэба быў гэты калгас, і сельсавет... Дзе ж ты зараз ходзіш, чаму не чуеш нашага гора?.. А можа ўжо і твае ручанькі, і твае ножанькі, і вочы твае не чуюць і не бачаць нічога...— І ціха: — Во-о-ёй...

●

Аднойчы з самае раніцы прыкацілі ў Залессе тры фурманкі з мястэчка. На пярэдняй стаяў «максім», перавязаны на ствале шырокай чырвонай стужкай, нібы падарунак на свята. На кожнай падводзе сядзела чалавекі па чатыры, перагаворваліся і гучна смяяліся. Спыніліся насупраць хаты Соні Рыгораўны, пасаскоквалі з вазоў, піхнулі перад сабой вароты. Гэтак жа адчынілі дзверы і, не выціраючы і не абіваючы ад гразі ног у парозе, зайшлі ў хату. Спачатку сказалі падрыхтаваць сняданак. Соня Рыгораўна зразумела гэта як просьбу, кінулася даставаць гарачую бульбу і высушаную на вышках каўбасу і з кладоўкі вішнёвае варэнне без костачак. Пакуль яе нязваныя і страшныя госці расхаджвалі па хаце і бесцырымонна шнырылі і заглядвалі і ў шафу, і ў куфар, і ў стол, яна выняла аднекуль запацелую, яшчэ да вайны купленую ў краме бутэльку гарэлкі. Паставіла яе да закускі — «сядайце, хлопчыкі»,— абы толькі хутчэй мінула гэтае ліха. А яно і не думала мінаць, яно гартала ўжо альбомы, высыпаючы пад ногі не прыклееныя фотаздымкі, а Соня Рыгораўна завіхалася каля стала, і ёй хацелася не заўважаць таго, што

рабілася ў хаце. Здымкі рассыпаліся па падлозе шырокім кругам. На адным з іх настаўніца ўбачыла сябе ў гурце калег, удзельнікаў раённай нарады. Соні Рыгораўне зрабілася ніякавата і ад сабранага стала і яшчэ больш ад свае прытворы. Яна села на зэдлік пасярод хаты і — нібы акамянела... Спакойна пазірала,— хоць і калацілася ўсё ў сярэдзіне,— на тое, што рабілася ў хаце, шкадавала, што так няўмела і брыдка хацела адвесці ад сябе бяду. А яны знайшлі ордэн на чырвонай падушачцы, якім узнагародзілі яе год таму назад. Загадалі прывінціць яго, і яна лёгка паднялася з зэдліка, апранула пінжак з дзірачкай на борціку, прывінціла ордэн і правяла рукой па ім, нібы разгладжваючы, накінула шаўковую белую хустку, у якой была некалі, калі атрымлівала ўзнагароду. Рабіла яна гэта не спяшаючыся і не звяртаючы цяпер ніякай увагі на здаровых мардатых дзецюкоў у чорных шынялях, якія дзелавіта корпаліся ў яе хаце. Яны здаваліся чорнымі і злымі мурашкамі. Соня Рыгораўна неяк нечакана ўбачыла біклагу побач з яе паўлітэркай «маскоўскай». Падумалася, што такую вось біклагу бяруць на сенажаць касцы і кладуць пад куст, каб не саграваласяа на сонцы вада.

Колькі мінула часу, як яны пілі і елі і, нарэшце, павылазілі з-за стала, нахабна смеючыся і лаючыся, нібы нікога ў хаце акрамя іх не было,— Соня Рыгораўна не памятала. Яна адышла ад акна, у якое глядзела ўвесь час іх балявання на яшчэ аднаго, нізкаватага і згорбленага, з вінтоўкай амаль да каленяў, што тупаў каля фурманак, і нешта крыўднае і балючае хавалася ў яе на вуснах. Моўчкі пазірала, як ад удару прыкладам на друзачкі разляцелася люстэрка шафы. Залатазубы паліцай распароў нажом пярыны, шукаючы нечага, а магчыма, і не шукаючы больш нічога, а так, ад дурасці. А выбіваць шкло і высаджваць кулаком раму ў агародчык і зусім ужо не было ніякай патрэбы.

— Хадзем! — падштурхнуў настаўніцу рабы паліцай.

Соня Рыгораўна выйшла на двор, і на момант мільгануліся ёй суседзі ў хаце насупраць — Патап і яго жонка. Патап стаяў маўклівы і грозна. Алена выцірала слёзы ражком хусткі. Стаялі яны пасярэдзіне пакоя, не вытыркаючыся ў акно, бо з хаты ўсё бачна на вуліцы, а знадворку ў хаце мала што і прыкмеціш. Соня Рыгораўна ледзьве кіўнула ім і прайшла да таго паліцая на вуліцы, якога пазнала яшчэ з акна.

— Дзень добры, Ваня,— сказала яна, і той ваўкавата зірнуў з-пад насупленых броваў і, як здалося ёй, вінавата апусціў галаву.

Соня Рыгораўна даўно зразумела, што ён прывёў сюды зграю. Каму ж яшчэ!

Ён вучыўся ў яе класе, хадзіў кіламетраў за сем у Залессе ў школу. На выпускным вечары год таму назад ён быў зусім раскіс, і ўвесь час гаварыў, што некаму нешта абавязкова дакажа. І ёй верылася, бо Ваня быў настойлівы, хоць і ціхманы. Гаварылі, што ён падаваўся на камандзіра ў пяхотнае вучылішча, але яго не прынялі ці то па стану здароўя, ці то яшчэ з-за чаго. І вось яны сустрэліся на той вуліцы, па якой ён хадзіў у школу.

П'яныя паліцаі развярнулі фурманкі, і першай выправілася тая, на якой былі Соня Рыгораўна і няўклюдны чалавек з вінтоўкай ля каленяў, былы яе вучань. Пад жараб'інае гагатанне рабы паліцай, па прозвішчу Рабакляч, пасадзіў іх побач у задку, зняў з «максіма» чырвоную стужку, завязаў на дугу. Ён нечакана стукнуў каня наском пад чэрава і гыркнуў, задаволены сабой:

— Но-о! Маладыя, паехалі!..





На дзвюх задніх фурманках пабраліся за жываты і ажно лажыліся ад смеху. Рабакляч ускочыў бокам да іх на драбіны другой фурманкі, абапёрся на нейчую спіну і задраў у неба рулю вінтоўкі. Паветра скалануў стрэл.

Ваня спалохана азірнуўся, і на задніх фурманках зноў зарагаталі ў добры дзесятак горлаў. Мабыць, стрэл і быў разлічаны на гэты яго позірк цераз плячо.

Ваня пакрыўджана тузануў ляйчынай, а Соня Рыгораўна сказала, не паварочваючыся, свае адзіныя за ўсю дарогу словы:

— Глядзі, каб мая кроў была апошняя на тваіх руках. Бо і так табе не даруюць. Ніхто і ніколі...

Ваня моцна сцебануў каня. Стоячы пасярод фурманкі, круціў над галавой пугаўём, а вінтоўка мякка падскоквала на ўбітым сене побач з Соняй Рыгораўнай. Колы моцна лескацелі на ўмёрзлай зямлі, і ўсё менш заставалася дарогі да мястэчка. Рэдкія прахожыя саступалі з дарогі, доўгімі позіркамі праводзілі сваю настаўніцу. Быццам змей, над дугой віўся чырвоны каснік. А на пачатку дарогі, праз выбітае акно ляцеў пух ад выпатрашанай пярыны. І здавалася, што гэта снег замятае сляды.

●

«Без лірычных адступленняў не вяжацца сюжэт!»
*З дзённіка пачынаючага пісьменніка.*

На двары былі раннія прыцемкі, і ў Ганнінай хаце яшчэ не запальвалі газоўкі з падсоленым бензінам. Жанчыны, што прыйшлі ў адведкі, сядзелі ў запечку і ціха перагаворваліся. Ганна карміла грудзьмі Федзьку, з-за якога і збіраліся сёння адведзіны. Ён нарадзіўся з тыдзень таму назад, і Ганна амаль ні разу не спаўзала з пасцелі — у хаце пыніла ўсю работу дванаццацігадовая Юлька.

Гаварылі пра вайну, пра яе нельга было не гаварыць. Глядзелі на пунсовага Федзьку, ківалі галовамі: «Вось яна якая, мужчынская доля... Вырас, пайшоў — і няма». Хоць і ім таксама было не лягчэй заставацца з дзецьмі і неяк выкідацца і дачакацца. Верылі, што ўсё перамелецца, будзе добра. Толькі гэтага добрага не бачна яшчэ і пачатку. А хто яго ведае, як павернецца жыццё заўтра? Удовіна ж доля надта любіць слёзы... Думкі неадольныя і страшныя! А ў вушах стаяць, нібы толькі што сказаныя словы: «Беражы дзяцей, Аўдоцця!..», «Нарадзі мне яшчэ аднаго сына, Ганулял!..»

І вось ён нарадзіўся. Жывы камячок — круціць галоўкай, шукае матчыных грудзей... Хто ён: сірата ці не? І кожную працінае думка пра сваіх дзяцей, і робіцца холадна ў сярэдзіне.

Жанкі разбіралі посуд, калі ўбегла ў хату Юлька і крыкнула з парога:

— Паліцманы!...

Кабеціны кінуліся па хаце, шукаючы і не адразу знаходзячы свае хусткі, жакеты, карзіны. Расплакаўся Федзька, але Ганна выпаўзла з запечку. Спяшаючыся, разрэзала вялікую перапечку хлеба, кінула па кавалку ў кожную карзіну. Госці выпырхнулі з хаты, адна за адной, быццам птушкі з гнязда. Толькі Юлька, тая Юлька, якая крыкне праз дваццаць гадоў маёй маці, нібы сваёй роўні: «Яжэліха! Пусці сына пагуляць!», усё яшчэ стаяла ў парозе. Яна чакала загаду. А маці яе, цётка Ганна, цяжка апусціўшыся на ўслончык, сказала толькі, каб Юлька знайшла Косціка і на адной назе гнала яго дамоў.



●

... Над качарэжнікам пагойдваецца рыпучая карзіна з перавязанай дужкай. Туды-сюды перакочваецца ў ёй ладны акраец хлеба. Што гэта хлеб, мы бачылі на сваё вочы, шаснуўшы да карзіны, калі маці вярнулася з адведак і выбегла замкнуць на засаўку дзверы.

— У вёсцы паліцманы,— гаворыць яна, седзячы каля коміна і абхапіўшы рукамі калені.— Вам трэба спаць.

Мы кладзёмся чацвёра на цёплы чарэнь, пакідаючы адно месца з краю. Там ляжа мама. На двары свішча вецер, страшна завывае ў коміне. Брэшуць сабакі.

— Чуюць чужога,— ціха гаворыць маці, і мы яшчэ цясней тулімся адно да другога.— Спіце...

Марудна цягнецца час, у столі над галавой точыць шашаль, а сон ніяк не ідзе. Побач — толькі працягні руку — цэлы акраец хлеба... Мы думаем пра яго, а маленькая Зойка хныкае:

— Мама, хлеба...

Маці нячутна спаўзае з печы, рыпіць у яе руках карзіна, і мы пачынаем варочацца. Маці выходзіць у сенцы і праз нейкі час вяртаецца.

— Няма хлеба. Хлеб на заўтра,— гаворыць яна.— Хутчэй засынайце, заўтра будзем есці.

Цяпер самае большае жаданне — адразу заснуць і адразу ж прачнуцца, каб было ўжо заўтра. Тады маці падзеліць хлеб. Успамінаецца, як тата купляў мне некалі зялёны самалёт з чырвонымі зоркамі на крылах. Зверху на ім было вечка. Я ніяк не хацеў адчыняць і гаварыць бацьку і крамніку, што там: цукерак мне не хацелася. Затым тата купіў нізанку абаранкаў, і, калі падаваў мне іх на печ, мотуз парваўся, і абаранкі гулка пасыпаліся на падлогу. Коцяцца, падскокваюць і ніяк не могуць упасці...

Раскінуўшы на падлозе посцілку, маці перанесла з печы і паклала на яе ўсіх нас. Схапіла падушку, кінулася да акна. Утраіх — Валька, Наташка і я — сядзім на падлозе. У акне цёмнае начное неба чыруюць жоўтыя чмялі.

— Страляюць,— гаворыць Наташка. Валька штурхае яе ў бок: маўчы!

— Чаго яна б'ецца? — пачынае румзаць меншая.

Маці ўжо каля нас, гладзіць па ўскудлачаных галовах, супакойвае:

— Ціха, ціха, дзеткі, а то Зойку разбудзіце...

Зноў укладвае нас, акрывае зверху, лажыцца сама, працягвае руку да самага краю, да мяне, нібы птушка крылом накрываючы птушанят. Упэўніваецца, што з ёю ўсе.

Недзе каля таго канца, дзе стары шлях з райцэнтра ўразаецца ў вуліцу, спяшаючыся, татахкае кулямёт. Больш гулкія стрэлы лопаюцца радзей, але таксама не запавольваючыся, быццам хтосьці з шуфля сыпле гарох. Страляніна то ўзмацняецца, то заціхае. Вось зноў шалёна праляскацелі калёсы, і ўсё сціхла. Толькі там, каля старога шляху, ляснулі два стрэлы, і начная цішыня сышлася, быццам чорная вада ў выжарыне. Але ненадоўга. У акно ціха, але настойліва пастукалі. Маці ўсхапілася, нячутна ступаючы, падышла да акна, прыслухалася. Знадворку зноў пастукалі. Адняла падушку, трывожна спытала:

— Хто там?

— Свае. Адчыні, хазяйка...

Мабыць там, на вуліцы, падаліся да дзвярэй, бо маці праслізнула ў сенцы.

— Адчыняй, хазяйка,— больш нецярпліва і грозна гаворыць патрабавальны голас.

Маці маўчыць. Мы, здаецца, бачым, як стулілася яна за вушаком, каля сцяны, дзе таўсцей і праняць куляй цяжэй, чым дзверы, калі адтуль, знадворку, пачнуць страляць.

Людзям на парозе не церпіцца, яны напіраюць у дзверы. Пацiху шаргаціць засаўка па скобах. Дзверы расчыніліся і зноў нягучна зачыніліся,— засаўка прашаргацела і сціхла. У хату ўвальваюцца двое, а на іх плячах вісне трэці.

— А мае хлопчыкі, пашкадуйце! Ідзіце, у мяне ж дзеці...— просіць маці.

— Дзе муж? — нібы і не чуў яе слоў, строга пытае адзін з іх.

— Адна... Чацвёра дзяцей... Пашкадуйце...— упрошвае маці.

— Нас тожа ніхто не шкадуе, хазяйка,— гэтак жа цвёрда, але больш цёпла гаворыць усё той жа. Ён намагаецца ямчэй падставіць плячо пад паху таварыша. Ад валтузні дзве вінтоўкі, што вісяць на другім плячы, з'язджаюць да локця, і ён ускідвае іх назад на плячо. Глуха ляпаюць адна аб адну дзеравяшкі прыкладаў. Паранены маўчыць.

Яны ідуць у другі пакой, і мы, седзячы на падлозе, праводзім іх цікаўнымі і палахлівымі позіркамі.

— Праўда — дзеці... Вось уліплі, Кулага...— гаворыць адтуль другі.

— Ладна. Цяпер позна,— адказвае той, першы, каго назвалі Кулагам, і выходзіць да нас.— Вымі з акна падушку, хазяйка. Цяпер яна ні к чаму. Поўная цішыня. І вось што — каб раніцай дзяцей вывела з хаты,— ён знімае кубанку, выцірае з ілба пот і паказвае ёй на дзверы.— А зараз — спаць.

Апошнія словы, пэўна, датычацца нас, бо сам ён, асцярожна ступаючы, прабіраецца ў сенцы. У хаце сцішылася. Толькі яшчэ больш захадзіліся сабакі...

Раніца ўдарыла ў вочы беллю першага снегу. Пульхны і лёгкі, ён выпаў перад самым світаннем. Урачыста ўзнімаюцца дымы над комінамі. Толькі на вуліцы — пустынна і ціха. Натапырыўшыся, па плоце ідзе кот да бэзавага куста, дзе таўкуцца бухматыя вераб'і.

Маці крадком схадзіла да Дзямідавых. Прынесла нярадасныя навіны: на скрыжаванні ляжыць забіты партызан, а ў канцы вёскі — перакуленая фурманка і паранены конь. У вёсцы поўна паліцэйскіх. Яны шныпараць па хатах, кагосьці шукаюць.

Мы збольшага прапалілі ў печы, як параіў Кулага: «каб дым валіў і з твайго коміна, хазяйка». Маці заграбла вуголле на загнетак. Накарміўшы бульбай, сабрала большых — Вальку і мяне, каб адправіць да дзядзькі Яна. Наташку пакінула пры сабе, а двухгадовая Зойка яшчэ нічога не разумела. Першымі павінны былі ісці мы з Валькай. Маці завязвала цёплую хустку на сястры, калі дзверы ў сенцы задрыжалі. Хтосьці нецярпліва тузаў іх узад-уперад. Прыйшлі! Маці шаснула да акна, зазірнула ў яго і — збялела з твару. Подбегам падалася адчыняць.

— Што, не рада госці? — пачуўся ў сенцах рыпучы, старэчы голас.

— Ды што вы, цётка Тэкля! Чаму ж? Заходзьце...

— І зайду. Даўно не заходзіла. А гэта куды: у партызаны ці што? — пераступаючы парог, тыцнула яна кіем на нас.— Ідзіце, ідзіце, вунь ляжыць ужо адзін. У-у, мала вас яшчэ душылі! — падступіла яна да маці.

— Што вы кажаце, цётка? Што мы зрабілі каму? — спрабавала гаварыць маці.

— А ты не ведаеш? Забылася? — шыпела старая, калоцячыся, нібы ў ліхаманцы.— Кулачылі, з'есці думалі — не пад'елі. Хату на школу расцягвалі — не навучыліся. Во хто вас навучыць,— паказала яна кіем на вуліцу.— Не будзе літасці ні табе, ні тваім шчанятам.

— Цётка Тэкля, не вініце нас: дзеці за бацькоў не ў адказ. Ды і сваякі ж мы... Я да вас хадзіла, калі гадавалася сіратой.

— Успомніла! Не, Яжэліха, хопіць... Адпанавала... Дзякуй скажы вашыўцу свайму, што збег... Усіх, усіх перасеем... на частае сіта. У дзесятым калене выкаранім.

Маці стаяла перад Тэкляй і не ведала, што сказаць, каб не ўгнявіць яе. Матчыны рукі дробна дрыжалі, твар стаў белы, быццам палатно. А мы стаялі ўсе чародкай, тулячыся да спадніцы яе і пачыналі баяцца старой бабкі. Яна і сапраўды, мабыць, злосная, як баба Яга, калі нават крычыць на нашу маму.

— А цяпер вось што...— стомлена апусцілася Тэкля на лаву каля стала.— Твой камуніст гарцаваў на выязным жарабцы. Хопіць, наездзілася...

— Цётка Тэкля, то я жарабца па цэтліку выцягнула, калі калгас дзялілі. Хіба я вінавата, што ён мне трапіўся. Ды і конь жа на два двары. Сымон Гараськавых такі ж гаспадар, як і я...

— Каб не Сымон, то я з табой і не гаварыла б. Во як! Але цэтлік цягнула ты. Вось і забяры жарабца ў свой хлеў...

— Мне і дзяцей няма чым карміць, не тое каб каня. Куды я яго забяру?!

— Шчанят тваіх мы хутка накормім,— паабяцала Тэкля.

І адразу бабка здалася не такой страшнай, як спачатку. Бач, і накарміць нас збіраецца... Але чым, чым яна толькі нас накорміць? Можа хлеба дасць? А можа і бліноў са здорам? От, каб бліноў! Але чаго плача маці, чаго яна закрыла твар фартухом?

Вось яна ўзняла заплаканыя вочы, падштурхнула нас з Валькай да дзвярэй.

— І Наташку з Зойкай бярыце,— толькі і вымавіла. І ўсіх чацвярых выпхнула на вуліцу...

У тую першую снежную раніцу я пабег да хлапчукоў, забыўшы на паліцэйскіх, на старую Тэклю, на маці, на сваіх сясцёр, якія падыбалі да дзядзькі Яна. Я з хлапчукамі застаўся гуляць у вайну каля нашага хлева, што стаяў пры вуліцы, дзе шуміць зараз малады сад.

Хлопцы рассыпаліся хто куды, заціхлі. Разведчыку трэба было ісці шукаць іх. Схіліўшыся на рукі і заплюшчыўшы вочы, палічыў за вуглом хлева пяць разоў па пяць, сказаў: «Я іду шукаць» і сігануў прама пад ногі паліцэйскаму. Той ішоў да нас у хату. Але прыпыніўся, здзіўлены нечаканым маім з'яўленнем. Я стаяў перад ім у расхрыстаным рыжым кажушку, у шапцы з адным адкасаным вухам і пазіраў прама ў пабіты рабаціннем і воспай твар. Адна шчака ў паліцая была нядаўна, відаць, парэзана — на ёй пунсавела свежая баразёнка.

— Ты паліцэйскі ці партызан? — запытаўся ён грозна.

— Сіні,— схітраваў я.

— Сіні? — зарагатаў рабы і нагнуўся.

У наступны момант ён схапіў мяне за каўнер, і снежка шаснула

аж да самага пояса. Нечаканы халодны камяк апёк спіну, прымусіў скрывіцца і сагнуцца. Па ўсім целе пабеглі непрыемныя казытлівыя мурашкі. У адно імгненне прыціхлыя было хлапчукі павыскоквалі са сваіх хованак. Ім здаўся смешным жарт паліцая. Яны кінуліся да мяне, збілі з ног, пачалі гупаць кучу-малу. Рукамі, нагамі — усім целам можна адчуць, як скачуць з разлёту, з'язджаюць і зноў скачуць наверсе. Пад нізам можна задыхнуцца, але не вырабіцца адтуль. Здаецца, што цябе з неймавернай сілай расцягваюць або сціскаюць да іскраў у вачах. Рабы паліцай стаяў побач і рагатаў. Калі ж нарэшце я ўстаў, то ўбачыў, што старая Тэкля шкандыбае з хаты да нас.

— Ну як, цётка Тэкля, мне не трэба туды ісці? — спытаў паліцай.

— Калі трэба будзе, то паклічу,— злосна кінула старая.— А партызанаў, пане Рабакляч, трэба ў лесе шукаць, яны даўно там... Ды ў вас, у мястэчку...— зайшлася яна сухім, сіплым смехам.

— Ну, навошта так? — пакрыўджана сказаў Рабакляч, і твар яго стаў аднаго колеру з баразёнкай на шчацэ.

Ён зразумеў, пра што намякнула старая.

Гэта адбылося ў іх каравулцы ў тую ноч, калі расстралялі Соню Рыгораўну. І дазнаўся пра гэты выпадак я намнога пасля той першай снежнай раніцы.

Настаўніцу доўга дапытвалі, і білі таксама доўга, са смакам — і сам камандзір узвода, і ён, Рабакляч, і ўсе, хто толькі хацеў. Яна ж маўчала, як сцяна. Ні пра партызанаў, ні пра сваю сувязь з імі... Агародамі вывелі яе на луг за мястэчкам, паставілі над загадзя выкапанай ямай. «Вам адпомсцяць!» — толькі і крыкнула настаўніца ціхім, надломленым голасам. «Страляй!» — сказаў ён Івану, былому яе вучню, і першы ўскінуў вінтоўку. Але напарнік не варухнуўся, нават не браў на прыцэл. «Малакасос!» — вылаяўся Рабакляч і выхапіў з яго рук вінтоўку, кінуўшы пад ногі сваю. Прылажыўся і стрэліў. І ўсё. Затым старшы паліцай вырашыў зрабіць з яго чалавека, а не баягуза, узяў з сабою начным патрулём. Патрулявалі па цэнтральнай вуліцы: адзін з аднаго канца, другі — з другога. Хадзілі да сярэдзіны вуліцы, да самай змены.

Іх разам змянілі з варты, разам палезлі яны на тапчан адпачываць. Рабакляч хутка заснуў. Ціха і спакойна, нават хораша, быццам чалавек, які зарабіў гэты адпачынак нялёгкай дзённай працай. Рукі былі сашчэплены на жываце, галава крыху закінута назад. На твары, трошачкі пабітым воспай, не было ні складкі, ні думкі — адзін сон.

І чым больш ляжаў Ваня побач з гэтым чалавекам, тым страшней рабілася яму. Усё здавалася заблытаным і таму яшчэ больш страшным. Хлынуў да шчок сорам і пякучы боль. Ад яго нават і ў сярэдзіне зрабілася горача. Успомніў «вясельную» дарогу з Залесся. Хацелася, каб конскія капыты малацілі ў зямлю як наймацней, каб заглушылі ў яго душы і крыўду, і боль, і злосць. Хацелася, каб Соня Рыгораўна ўзяла яго вінтоўку, якая падскоквала побач з ёй, і стрэліла яму ў спіну, каб паваліцца тут жа, на возе, да яе ног, каб хоць падумала яна: «Вось ён які, някепскі і... няшчасны».

Але ні конскі галоп, ні грукат колаў не маглі заглушыць думак. Ніхто не страляў і ў спіну...

Стрэлілі там, на лузе. І Ваня нібы ачнуўся тады. На імгненне ён убачыў, як пахіснулася постаць настаўніцы і паляцела ўніз, у прорву. Прыйшла тупая, амаль нерэальная думка праваліцца і самому ў такую прорву, сысці са свету.

Тым часам, Рабакляч, нахіліўшыся над ямай, паглядзеў уніз. Пасля прыставіў да жывата прыклад, спакойна выкінуў гільзу з вінтоўкі. Падышоў да Вані, які ўсё стаяў на адным месцы, нібы ўтрапёны, загадаў засыпаць яму. Ваня старанна зашоргаў рыдлёўкай, ссоўваючы мёрзлыя камякі зямлі, а яго напарнік усё выгаворваў яму, усё навучаў, быццам Ваня быў малым дзіцем. Яму было нясцерпна горача, бо думаў ён увесь час пра Соню Рыгораўну, якой ужо няма, але якая, здавалася, з-пад зямлі глядзіць на яго і ківае галавой. І ён быццам чуе даўнейшыя словы: «Ты, Ваня, дакажаш, ты здолееш, толькі не плач...» Стала прыкра ад думкі, што настаўніца бачыла, як пасарамаціў яго Рабакляч за тое, што ён, Ваня, не мог сам стрэліць. «З маёй вінтоўкі, ён забіў з маёй вінтоўкі...» — ніяк не выходзіла з галавы. Быццам ёсць дзе вінтоўка, з якой яшчэ не забілі нікога...

... Ваня ціхенька, нібы баючыся, што ўбачаць ці падслухаюць, працягнуў руку ўніз, да пояса, дзе вісеў цясак, і гэтак жа паволі — па міліметры, па сантыметры — пачаў выцягваць нож. Пальцы ўсё мацней, да анямення, сціскалі рукаятку, а ён неадрыўна глядзеў у закінуты ўгару твар і вытырклую шыю, што бялелі ў прыцемках побач з ім... Цясак пайшоў лягчэй і ледзь чутна дзынкнуў кончыкам аб ножны па вынасе. Павекі ў Рабакляча амаль няўлоўна ўздрыгнулі, і Ваня кінуўся ўсім целам на яго.

Рабакляч, нібы спружына, падскочыў, нема зароў. Ён схапіў Ваню загрудкі і з усяе сілы шпурнуў ад сябе на сцяну. Ваня не мог, ды і не было яму калі разабрацца, чаму нечакана ўсё павярнулася. Зараз ён мог бы паклясціся, што толькі хацеў пажартаваць, але перад ім быў раз'юшаны звер, узнятая трохлінейка і штык, які маланкай узляцеў і цэліў прама ў вочы. Сама большае, што ён мог зрабіць зараз, ужо баронячыся ад вернае смерці,— гэта выставіць перад сабою рукі...

«Юда, бач, як спраўна выслужваецца...»
— не раз расказвала маці...

●

На скрыжаванні, дзе ляжаў забіты партызан, валяліся рассыпаныя пачкі махоркі, уцёртыя абцасамі ў снег жоўтыя таблеткі лякарства, утаптаныя сувойчыкі бінту.

Хто-ніхто з цікаўных падыходзіў, глядзеў.

Рабакляч і Апанас, худы і высокі мужчына з белым шчаціннем на шчоках, падышлі да гурту людзей. Апанас схіліўся, зазірнуў у твар забітага.

— Пазнаў бандыта? — з'едліва спытаў Рабакляч.

— Так точна, панок! Бандыта здалёк пазнаць можна...— па-вайсковаму выпрастаўся перад старшым паліцаем Апанас.

— Што, служывы? — цікаўна ўтаропіўся рабы.

— Так точна, панок! Пры палацы яе светласці імператрыцы Анастасіі. Поўны георгіеўскі кавалер за баявыя заслугі.

— Вось яно што! Ну, добра, кавалер,— падышоў да яго Рабакляч.— Закапай сабаку тут, дзе ляжыць.

— Ёсць закапаць, дзе ляжыць!..— падбадзёрыўся Апанас.— Загадаеце ўзяць струмент?

— Валяй.

Апанас порстка пашыбаваў на свой панадворак. Адчыніў насцеж вароты адрыны і доўга, на віду ва ўсіх, калупаўся там. Выкінуў

кірку, рыдлёўку, вяроўку. Выйшаў сам, борздзенька падабраў «струмент» і патупаў назад.

«Юда, бач, як спраўна выслужваецца, нават хлева не было часу зачыніць...» — падумала тады мая маці.

Яна забрала Вальку ад дзядзькі Яна і прыйшла сюды. Стала ў гурце людзей, не вытыркаючыся наперад і стараючыся не аказацца з краю, каб не намуляць злому чалавеку вока. Глядзела на забітага партызана і думала. Думала і пра Андрэя: дзе ён і што, а можа, як гэты... і сэрца захлыналася ад боязі. Але больш думалася пра сваё, залескае. Валька глянула на забітага і ўсё патрапляла схавацца пад матчыну руку. Маці прыціснула яе да сябе. Самае страшнае,— пранясі божа! — калі пачуюцца стрэлы з канца вёскі, адтуль, дзе хата. Меншыя, усе трое, у дзядзькі Яна. Наташка і Зойка будуць гуляць. А таго — хіба ўтрымаеш дома... На ўсякі выпадак наказала, каб уцякаў куды вочы глядзяць, калі зойдуць на двор і будуць ламацца ў хату паліцманы... Каб толькі пранясло... Каб не стрэлілі ў тым баку...

Апанас тым часам стаў на грудку каля забітага, адмераў тронкам рыдлёўкі свой высокі рост, адзначыў яго на снезе.

Паліцаі рагаталі з дзівакаватага і паслухмянага старога. А ён папляваў на далоні і пачаў дзяўбсці зямлю. Раз-пораз разгінаўся, каб папраўць аблавушку ці шаргануць пад носам. Здаецца, і не заўважыў, як пад'ехала некалькі саняў, як паселі на іх паліцэйскія.

— Памагай бог! — крыкнуў Рабакляч з апошніх саняў і засмяяўся. Чорны абоз завіхурыўся снежным пылам. Весела, з рогатам і свістам ад'язджалі ў гарнізон паліцаі.

А вечарам прагрукатала па залескай вуліцы яшчэ адна фурманка...

— У нас паранены. Нам трэба каня. Добрага каня, цётка,— гаварыў Кулага, калі надвячоркам мы ўсе вярнуліся дамоў.

І маці сказала, дзе стаіць жарабец. «Калі і забяруць, то няхай свае...» — не раз нам гаварыла яна пасля.

Аднекуль прыйшлі яшчэ двое партызан і адправіліся за падводай. Павесялелы, Кулага спытаў:

— Можа б знайшлося што перакусіць, га? Як вы тут жывяцё?

Маці моўчкі пайшла ў камору, адчыніла куфар і нешта ўзяла навобмацак. На стале ў хаце яна разгарнула пакунак. З вузельчыка выпаў акраец хлеба. Кулага і яго таварыш, які выйшаў з другога пакоя, запытальна глянулі на маці, на ўсю нашу чацвярыцу.

— Гэта і ўсё, хазяйка? — спытаў Кулага.

— Усё, хлопчыкі. Ад дзяцей хавала. Я ім бульбы звару. Ешце...

— Ладна,— спахмурнеў партызан. Сагнутай далонню ён правёў па цёмнай цыраце, нібы зграбаючы крошкі, і яны з таварышам усталі з-за стала. А затым, нешта ўспомніўшы, Кулага весела гукнуў:

— А добрая ў цябе схованка за дзвярыма ў сенцах, яй-богу!

Маці, склаўшы рукі на грудзях, стаяла пасярод хаты. Яна не ведала: радавацца ці шкадаваць, што партызаны ад'язджаюць.

Тым часам яны адчынілі дзверы ў хаце і ў сенцах, пад рукі вывелі параненага на двор. Таварыш Кулагі вярнуўся ў той пакой, дзе ляжаў паранены, выйшаў назад («Усё ў парадку, хазяйка»), вынес і аддаў Кулагу яго вінтоўку. А маці назірала, як збіраюцца ў дарогу нечаканыя і такія небяспечныя начлежнікі. Рабілася лягчэй ад думкі, што адыходзіць цяжкі клопат за іх, а разам з тым і за дзяцей, і за хату, і за сябе. Што сталася б з дзецьмі, калі што-якое? — падумаць страшна. Яны ад'язджаюць... Прабеглі мурашкі ад думкі пра





Тэклю, зноў зрабілася страшна ад яе слоў. Моцна спалохалася ранiцай старой, увесь час баялася, каб не надумалася яна зазірнуць у другі пакой. І ў той жа час жыла недзе ў яе і ўпэўненасць, што на гэты раз усё абыдзецца, ліха пройдзе міма, бо за сваёй спіной адчувала не тое каб сілу, а абарону. І вось яна ад'язджае, гэта абарона.

Ужо выходзячы з хаты, Кулага прыпыніўся на хвілю, нібы разгадаў думкі.

— Дзе яна жыве... гэтая, што прасеяць збіралася?

— Не трэба, хлопчыкі, свая ж кроў... Што пасля зробяць з намі?

Кулага кідае позірк на печ, ківае галавой і шчоўкае пальцамі. «Вунь яно што, а я і не падумаў»,— нібы гаворыць ён. Вешае вінтоўку на плячо, ляпае па кішэнях паддзёўкі, аглядвае сябе: «Ну, вось і ўсё». Дакорліва гаворыць:

— Свая кроў... пашкадавала. Ладна, пакуль пачакаем. Калі што — будзем ведаць...

Здалёку лескацяць калёсы. Мабыць, не знайшлі партызаны сані, а мо і не захацелі шукаць: на двары пачыналася завіруха. Яна пазрывае снег і пагоніць перад сабой. Дарога ж будзе голая, пэўна, у санях не праедзеш...

Каля нашага двара жарабец становіцца на дыбкі ад моцна нацягнутых лейцаў. Можна здагадацца пра гэта па раптоўнай цішыні і залівістым конскім іржанні. Здаецца, вецер падхапіў яго і панёс над зямлёй, не палохаючыся зацятай стоенасці ночы. А ўслед за ветрам — вясёлы і часты галоп.

Мінула толькі зіма, нібы баючыся, адыходзіла нияркая вясна,— на парозе стаяла лета.

●

— Колькі ж яшчэ і зімаў, і вёснаў, і летаў чакаць мне цябе, Андрэйка?! Дзе ж ты ходзіш так доўга, што забыўся дарогу на свой парог? Кажуць, і там цябе бачылі, і там — і ў лагеры, і ў партызанах. Усё пытаюць, ці праўда? А я пытаю ў цябе. Дык чаго ж ты маўчыш? Чаму табе цяжка прысніцца мне хоць раз на паўгода? А можа і няма ўжо цябе? Можа салавейка гэты — ты? Можа свішчаш-пытаеш, як мы жывём? Ой, цяжка адной, Андрэйка! Ой, цяжка! Каб не добрыя людзі, пайшлі б мы па белым свеце. А так і бульбы далі, і жыта, і памаглі засеяцца. І малачко ў нас зараз ёсць — і сабе, і плаціць за каня і работу. Большыя носяць яго кожнай раніцы Міхалю. Ён засяваў *наш* агарод; а ў яго ж таксама дзеці... Прылятай жа хаця пад акно ды паслухай пра наша гора...

Акно ў агародчык было расчынена. Каля яго, паклаўшы на калені рукі, сядзела маці. Вялікае чырвонае сонца ўставала насупраць. У пакоі быў яшчэ той перадсвітальны час, калі асабліва моцна і соладка спіцца. Знадворку цягнула дурманлівай прахалодай мокрай мяты. А недзе там, на бэзавым кусце ці на бярозе, спяваў салавей. То заходзіўся хутка і весела, як цымбаліст, то спакайнеў, журботнеў.

Большая, Валька, пачула ціхую размову маці з «бацькам» і шэптам разбудзіла ўсіх. Учацвярых, у адных толькі споднiх палатняных кашульках, мы стаялі ў дзвярах. Разгарачаныя сном, ціснуліся адно да другога ад золкай ранішняй свежасці. Глядзелі на маці, на акно. Але бацькі не было. Толькі салавей аж заходзіўся ад песень. Уражаныя незвычайным, мы пазіралі на маці. Пазіралі і не ведалі яшчэ, што тая раніца навечна ўрэжацца ў памяць, каб пасля, праз гады, вярнуцца назад непаўторным малюнкам. Каб пасля кожны з нас чацвярых мог прысягнуць, што плач Яраслаўны ўпершыню пачуў ад сваёй маці...

На агародах палілі бульбоўнік. Густы белы дым слаўся над зямлёй, саладкавата казытаў у носе, лез у вочы. На колькі хапала воку, зямля была ў сіняватай смузе. Мы выбіралі бульбу. Маці выкапала апошні куст і пайшла за намі падбіраць клубні. Мы, усе чацвёра, выбіраючы іх, паволі паўзлі на каленях да ўбітай у мураву рыдлёўкі, дзе канчаўся загон.

Гэта была апошняя баразна... Кожнае ночы прымаразкі серабрылі ўжо стрэхі і зямлю. І наша маці спяшалася. Знасіла ўсе кошыкі, ссыпала ў мяшкі і ўбачыла, што накапала многа і ёй адной бульбы не перацягваць ношкамі аж да поўначы.

Непадалёк, усяго цераз некалькі агародаў, Вінцэсь ссякаў капусту, кідаў качаны прама ў палукаш. Маці пастаяла, падумала і пайшла папытаць, ці не перавязе дзядзька Вінцэсь і нашы мяшкі да пограба.

Вінцэсь, нягледзячы на чорную бараду, якую адпусціў зараз аж да самай шыі, быў малады мужчына, амаль адных гадоў з нашым татам, як казала мама.

Ён моўчкі, не разгінаючыся і раз-пораз гакаючы сякерай пад храпку, слухаў, што казала яму маці. Скончыўшы ссякаць, папраўіў нагружаны з каптуром палукаш, павучальна сказаў:

— Памагчы, Мар'я, кожны паможа... калі ёсць чарка і скварка...

Задаволены сабой, зарагатаў, закідваючы ўверх бараду.

Гэта была пэўная згода, і маці хуценька загаварыла, каб не ўпусціць яе:

— Скваркі няма, Вінцэська, а чарку, калі пашукаць, то можна і знайсці.

— Што ж, хай будзе так. Нічога не зробіш з тваім удовіным палажэннем... Трэба памагчы.

Падвода прыехала, калі ўжо змеркла. Пасярод раллі бялелі мяшкі. І Вінцэсь з маці, падхопліваючы кожны з іх пад сярэдзіну, кулялі на воз. Дайшлі да муравы і павярнулі назад. Калёсы кракталі і рыпелі пад цяжарам, грузлі на мяккім. Зямля насыпалася на вобад, на спіцы і цурчэла з кола ўніз, як вада.

Бульбу перанеслі ў сенцы, саставілі мяшкі наўкруг каля варонкі над пограбам. Маці запаліла газоўку. Вінцэсь палез уніз папраўіць запоры ў засеках.

— Мар'я, ідзі бо сюды! — гукнуў ён адтуль.

Падваліны пад падлогай, дзе быў пограб, прагнілі. Іх трымалі падпоры. Мабыць, яны падаліся ад сырасці і іх трэба мяняць. А ці ж хочацца хадзіць па хатах ды выпрошваць у каго бервяно?.. І так нахадзілася...

Дзве мае меншыя сястрычкі пайшлі ў хату, а мы з Валькай насыпалі бульбу з развязанага мяшка ў кошык і ўдваіх падносілі да варонкі. Маці тым часам падалася ўніз, у пограб, на голас дзядзькі Вінцэся. І раптам,— аж мы жахнуліся! — выскачыла назад:

— Хай ты згары, Вінцэсь! Напалохаў да смерці...

А знізу чуўся задаволены, сыты рогат.

У хаце, калі ўся бульба была ўжо ссыпана ў пограб, Вінцэсь таксама пасмейваўся. Хрумстаў здаровымі зубамі храбусткі агурок.



Наліваў у гранёную шклянку мутнаватую самагонку, задзіраў угару бараду, куляў чарку і ахаў ад задавальнення.

— А ты гэта, Мар'я, дарма... Не ўбавілася б. У тваё трыццаць — вытрымаць такі пост...— падвыпіўшы, круціў ён галавой.

— Пабойся бога, Вінцэсь, дзеці ж слухаюць,— дакарала маці.

— Што дзеці, яны не панімаюць нічога... Малыя...

І нам адразу здаўся брыдкім дзядзька Вінцэсь.

— Мае дзеці разумеюць усё,— з гонарам адказала маці.

— Эх, дзеўка, дзеўка! Тады я цябе не панімаю,— пагойдвалася барада.— Дзе нашы, дзе вашы — разбяры паспрабуй. А вайна ўсё спіша,— зарагатаў ён, задаволены, што ўставіў да месца недзе пачутую фразу.

— Вайна можа і спіша, толькі я не спішу... І Андрэй не спіша...— задумліва адказала маці.

... Чатырохгадовая Зойка, натупаўшыся па бульбянішчы і натаміўшыся за дзень, спала побач з мамай. Мама, пакуль нас, большых, не агарнуў сон, цяжка ўздыхала. Мне мроіўся бацька то партызанам з кулямётам, то фурманам побач з рыпучым возам бульбы.

— Які наш тата? — спытала Наташка ў мамы.

— Не варушыся! — таўханула яе пад бок Валька.

— Які наш тата? — перапытала маці і доўга нічога не адказвала. Затым зноў цяжка ўздыхнула і прамовіла: — Спіце...

Але нам не спалася.

●

*Добрае слова, як рэха, скажаш — назад вернецца.*

*Народная прыказка.*

Навіна ў нашу хату прыходзіць з цёткай Ганнай, рухавай, трохі прыгорбленай жанчынай: таргане два-тры разы дзвярыма, паляпае клямкай. З хаты чутно нават, як яна нецярпліва пераступае з нагі на нагу на нашым гулкім памастку. Калі надта пільная справа, крыкне з парога ў акно, прама ў нашы дзіцячыя, прыплюснутыя да



шкла насы: «Мар'я!» або: «Яжэліха!» Калі «Мар'я!» — трэба спяшацца: нешта пільнае. Калі «Яжэліха!» — можна і спакваля. Маці выме гаршчок з печы, паставіць вілкі ў качарэжнік, скажа ласкава Вальцы: «Ідзі, донька, адамкні».

Валька заўсёды круціцца каля мамы, усё пераймае ад яе, а калі мы застаемся ў хаце адны, нават і ўшчуваць спрабуе. Толькі мы з Наташкай так ёй і паддадзімся! Уга! Зойка яшчэ зусім малая, ёй бы толькі зацекацца ад смеху, гледзячы на нашы выбрыкі,— на яе можна і не зважаць. А я гуляю больш з Наташкай, і Валька да нас чэпіцца за гэта: «Сціхніце!» Ды дзе ты сціхнеш, калі на ўсю сям'ю я — адзіны мужчына! А ў хаце трэба каб хаця голас мужчынскі быў. Так гаворыць мама. Калі ж Валька другі раз скажа: «Сціхніце!», трэба сціхаць. Хопіць, і так паказалі, што мы яе не баімося. Важна выбраць момант, каб супакоіцца, бо трэці раз Валька дадасць: «Я маме скажу». Пасля гэтага рабі што хочаш: ці зашыйся ў запечак і ні чхні, ці на галаве хадзі — адказ будзе адзін. Валька ўсё роўна скажа маме, што мы не слухалі.

І так заўсёды. «Валька большая, Валька большая...» Хутчэй бы вырасці! Нават калі хто пастукае, першая адчыніць дзверы Валька. Не паспееш адскочыць ад акна, гарцануць з лавы, а яна ўжо шкрабе замком-засаўкай у сенцах: «Заходзьце, цётка Ганна», і зноў замыкае дзверы.

Потым Валька прымосціцца на ўслончыку каля стала, склаўшы ў прыпол рукі — «як мама!» Маці і цётка Ганна, адна насупраць другой,— на лаве, каля акна, адкуль толькі што шыбанулі мы, меншыя.

«Дык я і пытаю: «Чаго ты глядзіш на мяне так, сынок? Што ты падумаў?»

Гэта пра мяне, пра той выпадак. Праўда, і не было ніякага выпадку. Што толькі ў ім знайшла мама?..

Што я падумаў тады? Нічога.

Маці прынесла ношку ламачча з лесу, прыпынілася каля сукаватай калодкі. Калодка стаіць у нас пасярод двара, насупраць парога. Пасечаная і шурпатая ўся. Маці кінула ношку, цяжка разагнулася, развязала хустку. Падышла, села на пароге. Я і загледзеўся на маму: на яе пачырванелыя пальцы, на мокрыя чорныя валасы, што прыліплі да скроняў. Яна сядзела сагнуўшыся, нахіліўшы галаву ўперад, як цётка Ганна. Проста так здалося мне. І нічога я не падумаў, толькі глядзеў на маму. Тады яна ўзняла галаву, глянула на мяне і спытала, пра што я думаў...

Маці і цётка Ганна гавораць.

«Рана, Мар'я, ты іх па дровы пачала выпраўляць. Нічога, што з каляскай...»

Гэта цётка Ганна. І тут жа ў адказ маці:

«Ой, не, Ганначка. Я ў сем год за плугам хадзіла, калі сіратой гадавалася. А Вальцы ўжо дзесяць, а яму — гэта пра мяне! — восьмы пайшоў. Хай прывыкаюць. Чалавек з работы жыве. А мы не ведаем, як ім прыйдзецца. Яшчэ і нагуляцца паспеюць...»

Доўгай была размова. Толькі гэта і запомнілася. Ды тое, што цётка Ганна, сцішыўшы голас, сказала пад канец: «Нашы блізка. Фронтам ідуць. І самалёт наш над лесам лётаў анагдове...»

Сказала цётка Ганна і адразу дамоў пачала збірацца. І пайшла на той раз, не паслухаўшы нашага, сказанага хорам: «Пагуляйце, цётка Ганна!» Пасля Юльку прысылала папрасіць таркі, бо сама забылася, чаго прыходзіла.

Але быў той выпадак з таркай восенню, а зараз зноў убіраецца ў сілу лета...

Цётка Ганна торгае дзвярыма, ляпае клямкай і крычыць знадворку:

— Яжэ-э-лі-ха!

— Ідзі адамкні, донька,— загадвае маці Вальцы.

Цётка Ганна адчыняе дзверы ў хату, дае «добры дзень», праходзіць на сваё заўсёдышняе месца на лаве. Гаворыць з маці: як ды што. Гэта не так цікава, можна і прапусціць.

— А вось жа пашанцавала Залессю,— раптам ні з таго ні з сяго гаворыць госця.— Глядзі, як Пасекі выкаціла: тры хаты і засталіся толькі...

— Ну, але,— пагаджаецца маці.— У Залессі і спалілі ўсяго тры. А так цэла ўсё...— І тут жа пярэчыць: — Чаму ж пашанцавала, Ганна? Глядзі, хлопцаў колькі немцы пастралялі; і Данілу з Ігнатам у мястэчка забралі і таксама забілі, і старую Вадалеіху, і Якава забілі б, каб не ўцёк.

— То ж яго Іван з нейкага Дзегцярова па самалётах страляў на аэрадроме... Падказаў нехта.

— А хто на Соню Рыгораўну падказаў? Яе жыцця за што рашылі?..

— Праўду кажаш. І дзяўчат у Германь пагналі,— ужо сама дадае цётка Ганна,— і фурманка з Пасекаў на міне парвалася на мосце, і хлапчук Домнін таксама ад міны загінуў, думаў патэльня і стукнуў сякерай...

— А глядзі ты, аборы якія папалілі!..

— Што аборы! Іх няма, дык будуць. А вось Мішу Канёвых шкада. Ціхі і паслухмяны быў хлопец. За нейкія лістоўкі арыштавалі,— і не вярнуўся... І ўсё ж пашанцавала Залессю. Людзям вунь ні кала, ні двара не пакінулі,— стаіць на сваім цётка.

— Ой, Ганначка, то яшчэ ж не ўсё мінулася...

— Скора, скора, Мар'я,— і цётка Ганна пачынае шэптам: — Адзін чалавек гаварыў... Толькі ты нікому, што я казала...

І цётка Ганна расказвае паўшэптам...

Пра гэта я чуў, калі маці ціхенька перадавала тое ж самае дзеду Васілю, нашаму далёкаму родзічу, якога некалі вельмі пакрыўдзіў наш тата, калі быў старшынёй калгаса. Тады раскулачылі дзеда. Што гэта азначала, мы не ведалі. Толькі дзед быў задужа добры. А заўчора вечарам, калі маці расказвала яму пра таямнічую сустрэчу, прынёс усім нам па перніку, а Зойцы аж цэлых два.

Заўчора мы з Валькай паехалі на калясцы ў лес назбіраць дроў. Ламачча было хоць заваліся, бо невялікі лясок выразалі сабе людзі хто на хату, а хто на зямлянку. Штоpазу на паўдарогі да нас падыходзіла маці — дапамагчы везці. Сустракала яна нас і заўчора.

«Ужо каля саменькага лесу з кустоў мяне паціху аклікнулі,— расказвала дзеду Васілю мама.— У пярэстых плашч-палатачных штанах і накідках. Я іх і не ўбачыла адразу. І толькі, калі другі раз аклікнулі і махнулі рукой, падышла бліжэй. З-пад башлыкоў на пілотках паблісквалі зорачкі... Спыталі, па якой дарозе ісці на Загалле. «З вёскі ў вёску: бачыце, як яны чапляюць адна за адну. А можна і прама па бальшаку»,— адказала я. «Нам бы карацейшую дарогу!» «Калі карацейшую, то да вайны вось па той грэбельцы ездзілі»,— паказала я рукой на нізкае кустоўе на лузе. Па ёй некалі вазілі з загальскіх балот сена. Паказала дарогу і пайшла насустрач дзецям. А сэрца тахкае: «Свае гэта, нашы, савецкія...» Ногі подбегам пры-



сяцца, а я не магу. Можа пазіраюць услед, падумаюць, што зманіла, уцякаю...»

Цётка Ганна расказала пра «нашых» разведчыкаў, якіх бачыў адзін чалавек і зноў наказвае: «Ты ж толькі, Мар'я, нікому, што я казала...»

Маці ківае галавой, а ў самой на вуснах бегае задуменная, радасная ўсмешка. Якое ж ты лёгкае, жаданае слова! Бач, усю вёску абляцела і назад вярнулася...

●

Больш як тры гады чакалі мы бацькавых пісем. І яны прыйшлі. Адразу два! Самыя першыя ў Залессі. Адно з іх па штэмпелю было адпраўлена раней, а другое ў той дзень, калі Савінфармбюро паведаміла пра наша вызваленне. Да вайны пошта была ў Пасеках. Туды і прыйшлі нашы пісьмы. Дачуліся пра іх мы раней, чым знайшоўся ў Залессі паштальён. І маці нас з Валькай адправіла забраць пісьмы.

Смаліць гарачае ліпеньскае сонца. Валька разгарнула трохкутнічак і чытае. Паволі, па складах, прапускаючы неразборлівыя словы. Перад вайной яна перайшла ў другі клас. І зараз я ганаруся сястрой і, не міргаючы, гляджу ёй проста ў рот.

«Добры дзень, мая мілая жонка Мар'я і мае дарагія дзеткі»... Валька называе ўсіх, і мне робіцца радасна, што тата не забыў і мяне. «Спадзяюся, што, пакуль дойдзе пісьмо, вас ужо вызваляць. Зараз я далёка, нават не ў Беларусі»... Валька чытае далей, а я спрабую ўявіць, што будзе, калі вернецца бацька. Ён прынясе мне наган або ліхтарык. А то ўяўляюцца мне танкі. Іх многа, больш, чым ішло цераз Залессе, калі прыйшлі нашы. У расчыненым люку пярэдняга танка зусім не малады салдат у чорным шлеме, а — мой тата...

Валька прачытала і згарнула трохкутнічак. Цягне з маіх рук другое пісьмо.

— Давай пачытаем і гэта.

Другое — у канверце. Сухой сцяблінкай сястра асцярожна адрывае верхні фартушок канверта. І адразу ў прыпол падае фотакартка. Схіляемся над ёй. Двое вайскоўцаў стаяць і пазіраюць на нас. Адзін, вышэйшы, з зорачкамі на пагонах.

— Камандзір...— зазначаю я.

Другі, ніжэйшы, у скураной тужурцы. Пагонаў яго не бачна. Валька пільна ўглядаецца ў фотакартку, водзіць пальцам, бы нечага шукае. Тры гады прайшло, як мы з мамай адвозілі тату на вайну. Кропкі-самалёты, чорны дым з нафтабазы, маці ў канаве нада мной — усё нібы толькі сёння ўбачыў. А тату я не памятаю зусім. Хачу, каб быў ён камандзірам, тым, што з зорачкамі на пагонах. Чакаю, каго выбера Валька. Сястра ўсё яшчэ глядзіць на здымак, затым палец яе спыняецца.

— Во наш тата! — гаворыць яна, радуючыся, што пазнала бацьку.— Во ён,— паказвае Валька на ніжэйшага, і я ўглядаюся ў яго твар. Суровы і мужны, губы сцяты, над левай скроняй — шрам. Тужурка перацягнута шырокім рамянём з вытачанай зоркай на спражцы. На баку з кабуры вытыркае ручка нагана. І чамусьці зараз мне больш падабаецца бацька і ніколькі не шкада, што ён не камандзір. А можа і камандзір, калі з наганам! А можа яшчэ галоўнейшы за гэтага, з зорачкамі...

Хутка мы атрымалі і перавод. Адразу аж на тры тысячы. Унізе на пераводзе — прыпіска: «Калі няма ў жывых адрасата, грошы аддаць калгасу». Мужчыны ківалі галовамі, жанкі спачувальна гля-

дзелі на маці: «Думае, што і жывых вас няма. Адкуль яму ведаць, столькі не бачыўшы».
Грошы атрымалі мы, але ўсе да капейкі маці пазычыла калгасу.
— Каня нам, Мар'я, трэба купіць,— гаварыў дзядзька Апанас, першы пасля вызвалення старшыня.— То ты ўжо трохі пачакай. Нам дзяржава абяцае дапамогу. Вернем. Зойдзе Вінцэсь, ты аддай яму.
Ужо недзе ў жніво, ідучы з поля, маці сустрэла старшыню.
— Што ж гэта, дзядзька Апанас, робіцца! Чаму мне грошай не аддаеце?
Той сумеўся.
— Як, а хіба Вінцэсь не прыносіў? — здзівіўся старшыня.— Яму ж даўно сказана аддаць. І грошы ў яго... Добра, я напомню яму.
У той жа вечар, калі мы ўжо клаліся спаць, завітаў і Вінцэсь.
— На́ твае грошы, Мар'я. Ды не плач...— гаварыў ён, пералічваючы паперкі.
— Як гэта не плач? — ускіпела маці.— У мяне дзяцей няма ў чым у школу выправіць, ні на плечы, ні на ногі. Хоць чаравікі якія агораю...
— Андрэй бы яшчэ прыслаў: у яго на атэстаце за вайну назбіралася не тры тысячы... А гэтыя, ён пісаў, можна аддаць і калгасу...
— А ты аддаў калгасу са свайго двара хоць саломіну? Андрэю там крывёю абягала. А ты... ты каля жончынай спадніцы ўсю вайну аціраўся.
Вінцэсь неяк абмяк, унурыўся, зразумеў, што сказаў не тое.
— От, Яжэліха! І пайшла і паехала, не падсяваючы. Ды сціхні ты! Ніколі з табой пажартаваць нельга,— падміргнуў ён і засмяяўся.
Не паспелі за ім зачыніцца дзверы, як на парог ступіў Апанас.
— Добры вечар у хату,— сказаў ён, зняў шапку, стукнуў ёю аб далонь, нібы выбіваючы пыл, прысеў на ўслончык.
— Добры вечар,— усё яшчэ з хваляваннем у голасе адказала маці.
— Чаго гэта ты, маладзіца, майго намесніка пакрыўдзіла? — пачаў гаворку дзядзька Апанас.
— Зарабіў.
— Няварта было псаваць апошні вечар яму,— памяркоўна зазначыў старшыня.
— Чаму апошні? — перапытала маці.
— У армію бяруць яго. Заўтра ідзе.
— У армію? — паўтарыла яна і змоўкла. «Вось яшчэ і гэтага не стане, лічы апошняга здараўчанага мужчыны ў Залессі. Туды пойдзе, а назад ці вернецца?» Усе крыўды і балючыя словы Вінцэся адхлынулі, здаліся дробязнымі і мізэрнымі. У сэрцы варухнуўся жаль. «І трывога, ужо за бацьку вашага, за Андрэя, праняла наскрозь»,— так ты ўспамінаеш, мама...
— Ты нібы спалохалася? Не бойся, у працоўную армію забіраюць яго. Для дзеючай Вінцэсь не падыходзіць. Кажа, нейкую кулябу знайшлі на галёнцы. Можа і праўда,— супакойвае Апанас.
Маці ціха штосьці адказала, і з печы мы не пачулі яе слоў.
— Цяжка, вельмі цяжка...— ні да кога не звяртаючыся, гаварыў старшыня.— Хоць бы твой Андрэй хутчэй вярнуўся.
— А думаеце, дзядзька Апанас, ім там лёгка?
— Не, нялёгка. Тут і гаворкі няма. Ім яшчэ цяжэй,— і змаўкае. Стукае пальцамі сабе па калене: — Ты ж, мабыць, чула. Паведамленне атрымаў я на сына свайго, на Васю... Яшчэ ў сорак першым пад Магілёвам... А я думаў...— гэтак жа не звяртаючыся ні да кога, сам сабе гаворыць ён.
Маці толькі ўздыхнула:
— Ой, дзядзька! Як жа так?
— Прасіўся на фронт у ваенкома, не ўзялі. Стары, кажуць. Яно, калі прымерацца, то я і маладому не кожнаму саступлю, але ж...— разводзіць ён рукамі.
— От, не выдумляйце абы-чаго, дзядзька! Некаму ж трэба і тут. А вайна на сухі лес няхай ды на шалёных сабак... Як падумаю, што і мой Андрэй недзе... а іх вунь на печы чацвёра — хоць тапіся... А жывым жа ў зямлю не ляжаш. Неяк жыць трэба...
— А ты выкінь з галавы ўсё дурное,— гаворыць старшыня.— Зараз лягчэй вунь як стала. А ты ў слёзы... Андрэй твой усю вайну прайшоў, не можа быць, каб зараз... Ваяваць ён, трэба думаць, навучыўся, не тое, што мы з табою. Ці я некалі... Сіла, выпраўка, грудзі гарбузом і вінтоўка, як грамаадвод,— пасміхаецца ўжо дзядзька Апанас і ляпае шапкай па выцягнутай далоні.— Праўда, і ў наш час адважныя хлопцы былі. Георгія за абы-што не чаплялі...— пакашлівае ён.
— Вядома, не чаплялі,— паўтарае маці.
— А ты помніш, Мар'я,— раптам звяртаецца ён,— таго, у кубанцы?
— Каго, дзядзька?
— Ну, партызана таго, што ў цябе ў сенцах стаяў, калі раненага прывялі? — удакладняе ён.
— Адкуль вы ведаеце?
— Ведаю... Загінуў, небарака, таксама. Міну на шашы ставіў. У руках разарвалася... Бывала, гаворыць: «Ты, дзядзька Апанас, перадай, калі хто хазяйку з дзецьмі пакрыўдзіць». Ён інакш і не называў цябе, як «хазяйка». «І за гэтай старой наглядвай, каб шкоды не нарабіла». Прыціхла Тэкля, партызан, мабыць, збаялася. Так са сваімі помстамі і памёрла...
— То раскажыце, адкуль вы ведаеце? — падсоўваецца бліжэй да старшыні маці.
— Лякарствы яны сваім везлі з горада. І тытунь. Папярэдзіць нельга было — у мяне ў вішняку з кулямётам засада сядзела. Калі застрачылі і ўпаў адзін з воза, паліцаі туды кінуліся. Я ўсё бачыў. Выслізнуў на двор, знайшоў двух партызан у закінутай пуні. Яны туды, на калгасны двор, адскочылі. Іх бы знайшлі, бо днём усю салому штыкамі перапаролі. А ў гэты час хлопцы ў мяне ў адрыне сядзелі. А Кулага падарваўся...— нечакана заканчвае старшыня.
— Шкада. Я помню яго,— адказвае маці,— добры быў чалавек, і смелы, і чэсны. І ад нашага апошняга хлеба адмовіўся тады... Спіце, дзеці, спіце. Не вам пра гэта слухаць. Бач, галовы павыднімалі,— сварыцца яна на нас.
У хаце ціха. Толькі за вокнамі свішча вецер ды глуха шумяць дрэвы. Мабыць, нагоніць дажджу, а мо і снегу. Страшна, што забіла партызана Кулагу. Яшчэ страшней ляжаць на чарэні каля коміна і слухаць, як у ім трубіць вецер. Лепш расказала б ты нам, мама, страшную-страшную казку, у якой добры волат перамагае змея.
...— Вось і пагаварылі,— чутно, як рыпнула масніцына пад нагамі ў дзядзькі Апанаса.
— Дзякуй вам, што расказалі, што хаты нашай не абышлі.
Старшыня зноў стукае шапкай па выцягнутай руцэ і гаворыць:
— А я да цябе, Мар'я, па справе заходзіў... Птушкаферму мы

збіраем, то можа б і ты якога пеўня дала, хоць і без голасу будзе, халера яго бяры...

— Нашто пеўня? На развод — куры трэба... Вунь у мяне рабая ёсць, самая нясушчая. І зімой яйкі будзе сыпаць... Заўтра сама і аднясу яе.

Дзядзька Апанас усміхаецца. Насоўвае на белую, як снег, галаву шапку-аблавушку.

І здаецца, што ў хаце адразу стала цямней.

●

Пакуль датупаў дзед Васіль да нас, усё Залессе ведала, што прыйшоў наш бацька. Мне ён прынёс сапраўдны зялёны ліхтарык. З двума застаўкамі, чырвонай і сіняй, з выгінастай накрыўкай над круглым шкельцам.

З Ганніным Кастусём залезлі мы ў хлеў, дзе цёмна, і там уключылі ліхтарык. Кастусь абмацваў слупком промня сцены, бэлькі, запавуціненую страху, пстрыкаў чырвоным і сінім шкельцамі. А я расказваў, расказваў яму, наслухаўшыся ад таты пра франтавую разведку, пра акружэнне, пра баі ў халодных снягах пад дзіўным і, здавалася б, цёплым горадам Сонцавым, пра таямнічы мост у тыле немцаў пад Ясамі, з-пад якога выпільноўваў бацька з таварышамі «языка» перад наступленнем, пра тое, што за гэтага «языка» далі яму ордэн.

— А мой тата служыў у пяхоце,— сказаў Кастусь.— І ў яго таксама мядалі былі. Нават прыслалі адну. За апошні бой.

Зарыпелі дзверы, і ў хлеў прасунулася галава дзеда Васіля.

— А я думаў, ці не пажар тут... Агонь праз шчыліны відаць,— гаворыць ён.

Мы абодва скочваемся з сена і жмурымся ад сонца ў праёме дзвярэй. Хвалюся дзеду ліхтарыкам. За дзедавай спіной стаіць маці. Не паспеў я забраць у Кастуся ліхтарык, як яна пытае:

— Ты падарыў яго Кастусю, сынок? Малайчына!

Шкада ліхтарыка. А маці вядзе ўжо нас з Кастусём у хату. Тупае і дзед Васіль.

У хаце накурана. Не памагаюць і расчыненыя насцеж вокны. За сталом сядзяць мужчыны, большасць у гімнасцёрках без пагонаў. Толькі адзін бацька ў пагонах.

Ён устае насустрач дзеду. Абое раскідваюць рукі,— бацька шырока і прама, як крылы, дзед — больш уніз і выцягнута наперад,— цалуюцца.

— Вярнуліся, дзеткі,— не то пытае, не то проста сам сабе зазначае дзед.

— Вярнуўся, дзеду, вярнуўся,— адказвае бацька і ўсаджвае старога каля сябе, налівае чарку. Дзед праводзіць па вусах і барадзе, прыграбае даланёй, падобнай на коўш, ускудлачаныя валасы, кажа «дай божа здароўя» і выпівае свой кілішак.

— То, мабыць, вы вялікі начальнік, дзеткі, калі так многа на вайне былі? — кракtануўшы, пытаецца ён.

Бацька смяецца, і ўсе вакол яго смяюцца.

— Старшына ён, дзеду. Старшына,— адказвае Апанас.

— Га? Старшына? — перапытвае дзед Васіль.— Дома старшына і на вайне — старшына... То вы, дзеткі, і не скідайце пагонаў,— падміргвае ён мужчынам, і тыя зноў смяюцца...

Дзед Васіль нібы ў ваду глядзеў. На справаздачна-выбарчым дзядзька Апанас здаў, а бацька прыняў старшынёўства.



Дні і ночы ён не прытыкаецца дадому. Вясна ў вясну і зіма ў зіму ходзіць у абшарпанай, прывезенай яшчэ з вайны скуранцы. Перады і заднікі ботаў выцерліся — белыя.

Амаль кожны дзень трэба ездзіць у раён на нарады. Штодня прыходзіць ладны стосік указанняў, дырэктыў, тэлефанаграм і іншых паперак па пошце.

— Што мне адказваць на іх кожны дзень, кожны тыдзень і кожны месяц? Што?! На фронце горад возьмеш — бачна. А тут дзе яно? — звяртаецца ён да маці.

Тая паціскае плячыма.

— Думаў, у гэтым годзе дам людзям хлеба... Адкуль? Нарыхтоўку здай, эмтээсу дай, звышпланавы вязі, фураж пакінь. Насенне трэба. А сабе? А сабе што есці, я пытаюся?!

Тут звычайна ў наступ пераходзіць маці:

— Добра, от добра! Трэба было табе гэта старшынёўства, як дзірка ў мосце. Хай патузаюць, хай паскубуць, можа адмовішся... Хату б паставіў, як людзі робяць. Столь хутка абваліцца. Табе больш за ўсіх трэба...

— А каму ж, калі не мне? Каму? — гарачыцца бацька.— Можа, Вінцэсю?

— На д'ябла яно яму! Быць фуражырам — ці ж лепшага яшчэ шукаць? Які дурань паставіў бы яго туды, каб не ты. «Я з яго дурыкі выб'ю»,— перадражнівае маці.— Выб'еш, глядзі, каб не выбіў... Ты ведаеш, што Вінцэсь любіць гаварыць? Ведаеш?

Бацька, канечне, ведае.

... У нашу хату збіраюцца вечарам мужчыны. Кураць, успамінаюць, хто фронт, хто партызанства. Не маўчыць і Вінцэсь.

— Нам, брат Андрэй, таксама тут нялёгка было. Хай Мар'я скажа. Як наляцяць, бывала, дзецца няма дзе... Гэтыя — адсюль, а тыя — адтуль. Нічога, выкідаліся. Разумны чалавек заўсёды выкідаецца,— шкроб патыліцу Вінцэсь.— Раскажу я вам цікавы выпадак,— пераскокваў ён раптам на іншую тэму.— У Карэліі са мной было. Неяк паслалі з дзялянкі ў горад адзежу палучаць. Палучыў. Вязу. Маракую. І што ты думаеш?! На ўсіх ватных штанах і фуфайках гузікі зрэзаў і ніткі павыцягваў. А хіба штаны без гузіка адзенеш, га? Вось тут і яно! Назаўтра нясуць мне і пайкі хлеба, і грошы. І выкідаўся, бач. А многія пухлі ад голаду, мёрзлі ад холаду. Хто дурны, брат, той і бедны,— падводзіў ён.

У хаце ўсталявалася няёмкае маўчанне. Бацька апусціў галаву, глыбока зацягнуўся моцным тытунём, кашлянуў. Маці злосна зірнула на Вінцэся. Нават мы з Валькай кінулі рыхтаваць урокі. Так цікава слухаць старэйшых...

— А як жа, Вінцэсь, Адася Кірэевых лічыць, разумным ці дурным? — пытае бацька.

Кірэевых Адась меў дзесяцера дзяцей. Ды самі ўдваіх. Ды цешча. Большыя дзеці ўжо на штаце стаялі — хто цялятніцай, а хто даяркай. Толькі есці ўсім трэба — малым і вялікім. І Адась жыў сама бедна ў Залессі.

— Дурны,— не задумваючыся, адказаў Вінцэсь.— Нашто столькі дзяцей...

І тады маці, пасадзіўшы Зойку на ложак, выганяе нас з Валькай з-за стала:

— Марш спаць! Наташка вунь толькі чытаць навучылася, а ўсё зробіла. А вы і заўтра паспееце. Усё роўна ў школу вам пасля абеду. Ідзіце!

Мы з Валькай вылазім з-за стала. А дзядзька Вінцэсь яшчэ штосьці хацеў, відаць, дадаць, але перадумаў, змоўк.

У той вечар, калі разышліся ўсе мужчыны, а мы яшчэ не паспелі заснуць, і сказаў бацька пра Вінцэся: «Я з яго дурыкі выб'ю...»

...— Выб'еш! Глядзі, каб не выбіў...— паўтарыла маці.

Бацька выслухаў яе моўчкі. Пабарабаніў пальцамі па стале, загаварыў спакойна:

— Здалі мы сёння, Мар'я, пяць тон пшаніцы. І што ты думаеш: на бочку каламазі не хапіла, далажыў сваімі... Як жа будзе далей?

— Я, Андрэйка, не ведаю, не пытай у мяне...

Заравы ўсчыналіся найчасцей пад раніцу, калі і зямля і людзі забываюцца моцным сном. Калі збягаліся на пажар людзі — тушыць не было чаго. Вецер круціў ім у твар попел ды шпурляў прыгаршчамі іскры.

Прыязджаў у Залессе ўчастковы міліцыянер і з вока на вока гаварыў з бацькам. Участковы сказаў тое, пра што і сам бацька, пэўна, здагадваўся. Пажары ўсчыналіся больш у завірушнае надвор'е, гарэць займалася з падветранага боку. Ці была тут вінаватая чалавечая нядбайнасць? А можа — наўмысная і спрактыкаваная рука?! Участковы сказаў яшчэ, што ў лесе каля Пасекаў нядаўна спыніў нейкі невядомы аднаго чалавека і абабраў яго. Але трэба пакуль трымаць язык за зубамі, як наказана і таму чалавеку. Хай не палохаюцца людзі.

Міліцыянер паехаў. А ў нашай хаце пасяліліся неспакой і трывога. Бацька абыходзіў кожнай ночы ўсіх вартаўнікоў, усе будынкі. Залессе заставалася адзіным астраўком, неба над якім яшчэ не шугала пажарам.

А вясна была напорнай і дружнай. Талая вада прыкметна спадала, збягала ў рэкі. На месцы нядаўніх балацявін з халоднай яшчэ зямлі лезлі тоненькія ножыкі ярка-зялёнай травы. Хутка распусціцца лотаць, а там шыбане такі травастой, што толькі трымайся!

З думкамі хутчэй узяцца за работу і ўтыркнуць сякеры на апошнім вянку кароўніка яшчэ да сенакосу і пад'ехалі мужчыны да Патапавай адрыны.

Пакуль распускалі вазы і выкідвалі вяроўкі, бацька схадзіў да гаспадара і гаспадыні. Утраіх яны выйшлі з хаты і накіраваліся да будыніны.

— Зразумей, Патап, указанне ёсць ды і праўленне рашыла. Хто пабудаваў адрыны ў вайну — абагульняць. Не сам я выдумаў.

Патап тупаў каля вазоў, уздыхаў і мерыўся нешта сказаць.

А ў душы бацька і тут, каля адрыны, як і дома раніцай, вагаўся. Разумеў, што чалавек ставіў гэту будыніну на ўсякі выпадак. Калі б спалілі хату, то можа яна ўцалела б і дала прытулак.

— То як жа так адразу, не сказаўшы, не папярэдзіўшы? — спрабаваў хоць за што зачапіцца Патап. І адчуваў — словы яго дарэмныя: адрыну забяруць.

— Мы не так. Не задарам. Пяцьдзесят працадзён налічым табе. Усё ж такі, калі б ты яе ні ставіў, а праца твая,— гаварыў бацька.

— А пяцьдзесят працадзён — гэта што? — падступала Патапіха.— Пяцьдзесят палачак! Што ты даеш на іх, на працадні? Бач, знайшоўся на гатовенькае! На гэтым вугле твой пуп не трашчаў і мазалі не смылелі. Чужога поту табе не шкода!

— Ды не сабе я, Алена. Не сабе... Кароўнік няма з чаго ставіць.





— «Кароўнік»! — перадражніла яна.— Згарыць твой кароўнік, дымам пойдзе, вось пабачыш.

— Ды сціхні, скула табе на язык! — узлаваўся на жонку Патап.— Што ты гародзіш, галава твая садовая!

— А тое, што ён пра кароў больш думае, чым пра людзей. Ты папытай во ў Адася, ці была хоць расінка ў яго ў роце з учарашняга вечара? А, маўчыш? — зноў крычыць жанчына.

— Алена,— тупнуў нагою Патап.— Ідзі ў хату.

Ён сам узяў сякеру з рук Адася, абышоў, прастукаў сцены, параіў, як разбіраць вугал, дзе стрыжань, а дзе маркавіна, як знімаць і класці бярвенні.

Патапіха, убачыўшы, што і мужык улёг у работу, выцерла фартухом нос і пайшла ў хату...

— Што гэта пра цябе Патапіха гаварыла? Праўда, га?

Адась памуляўся, пашкроб пугаўём запэцканы бахіл і адказаў, прама глянуўшы ў вочы:

— Праўда. Есці сёння то я еў, але назаўтра на стол не будзе чаго паставіць. Што рабіць — не ведаю...

— Дурань! — узлаваўся бацька.

А сам прагна смактаў папяросу, давячыся дымам. Глядзеў то на Адася ў старым шынялі, падпяразаным выцвілай брызентавай, прывезенай яшчэ з фронту папругай, то на свае абшарпаныя боты, якія ніколі не ведалі ваксы. Дакурыў, расцёр абцасам недакурак, выдыхнуў прама з дымам у твар Адасю:

— З'ездзіш пасля гэтага разу ў свіран. Возьмеш два пуды жыта. Змелеш. Хоць на зацірку будзе... Разгрузіся і заедзь сюды, я запіску дам.

Калі ад'ехаў Адась, бацька падышоў да Патапа.

— Вось што, Патап Кузьміч, заставайся тут за старшога. А я ў раён скакану, яшчэ паспею. Выклікалі, ледзь не забыўся...— зманіў бацька, бо сёння ніякай нарады ў яго не было і ў раён ніхто не выклікаў.

Справа была ў яго нескладаная, але клопатная. Пакуль заехаў, трапіў у райком, пакуль адтуль пазванілі на млынакамбінат, пакуль насыпалі ды ўзважвалі тры мяхі вотрубяў — часу прайшло нямала. З горада выехаў у прыцемках. Заўважыў, што першамайцы, прыгарадны калгас, пачалі ворыва: недалёка ад дарогі вурчаў трактар. Вясновая зямля жыла і ноччу, біла ў вушы нейкім незыказным свістам і звонам, пахла першым клейкім лісцем і лазовымі коцікамі.

Добра было ехаць па абсохлай веснавой дарозе аднаму сярод ночы, забыўшыся на ўсе клопаты і турботы. Конь бег трушком. Мякка вішчаў вільготны гравій пад шынамі, быццам сухі вугаль пад нагою.

Уперадзе, у балацявіне, адкуль туман перапоўзваў дарогу, пачуўся ўстрывожаны крык жураўлінага важака. Нібы хто спудзіў яго. Увесь клін загаманіў незадаволена, быццам дакараючы: «Куды спяшацца? Адпачнем. Намахаліся, ажно кулябы пад крыламі». Але важак ведаў: ноччу прасторна і весела ў небе!

А на зямлі добра днём. Соладка спіцца. Прыгні да шыі дзюбу, заплюшчы чорныя павекі і стой на адной назе на грудку, сярод зялёнай руні, адкрытай з усіх бакоў. А на самым высокім месцы будзе круціць галавой вартавы, выглядваць, каб хто не падышоў, будзе курлыкаць — пастукваць дзюбай, падбадзёрваючы сябе, пакуль не зменяць. Добра адпачываць днём!



Конь спуджана рвануўся, зазвінеў цуглямі. Нейчая рука крутанула яго, і аглоблі сталі амаль упоперак воза.

Бацька не паспеў апамятацца, як убачыў наведзены ў грудзі пісталет і пачуў хрыпаты ад прастуды голас:

— Злазь!..

Каля воза стаяў здаравенны дзяцюк у расшпіленай ватоўцы. Твар густа зарос шчаціннем. Але і ў цемры, кінуўшы вокам, можна было заўважыць на ўсю шчаку голую баразёнку. На рубцы шчацінне не расло.

... «Што будзе далей? — мільганула трывожная думка, і я сабраўся ўвесь у камяк, адчуваючы, як напружваюцца вены на руках і нагах, як часта малоціць сэрца. Нібы перад тым, як браць «языка»,— ужо ў бальніцы расказваў бацька.— Я ведаў, хто перада мною і што яму трэба».

Але шчацініст са шрамам быў стрэляны верабей.

— Паднімі рукі і адступі два крокі назад! — загадаў ён бацьку.

«За ўсю вайну ні разу не паднімаў, а тут...» — непрыемна кальнула зноў.

Шчацініст толькі злёгку піхнуў падвернутыя калёсы, і яны самі абярнуліся. Не адводзячы пісталета, адступіў задам да каня, тузануў яго на дарогу і нечакана ўдарыў нагой пад чэрава. Ці ён баяўся, што возчык скочыць за фурманку і сігане ў туман, ці, можа, замінала яна на дарозе, а сваю ахвяру ён хацеў бачыць адну. Так было спакайней.

— Знімай скуру! — загадаў бандыт.

Бацька павольі расшпіліў гузікі, распрануў абшарпаную тужурку, кінуў пад ногі. Гэтак жа сама ён вывернуў кішэні, высыпаў, што было, на адзежыну.

Бандыт адступіў, не гледзячы ўніз, адгроб нагой адзенне ўбок і прасіпеў:

— І боты знімай!

Бацька нагнуўся, паставіў заднік на насок, каб сцягнуць бот. Чорная воранёная сталь глядзела ў патыліцу і чакала. Вось пісталет варухнуўся. Бандыт павярнуў галаву на нейкі шорах. І ў гэты момант удар галавой з усёй сілы под локаць... Рука матлянулася ўгору. Шчацініст адхіснуўся постаццю назад. Ён не чакаў такога. Удар яшчэ раз, ніжэй падбародка. Бандыт кульнуўся, як сноп. Ён зяпаў адкрытым ротам, хапаў паветра. Цяпер заламаць рукі, звязаць папружкай... А вось і пісталет! Абернутая фурманка далёка не ад'ехала. Вывернуць каня на дарогу, завярнуць назад у райцэнтр. Аддыхваючыся, бацька сабраў дакументы, рассаваў па кішэнях, апрануў тужурку.

— Садзіся!

Бандыт згорбіўся ад болю ў заламаных руках. Хісткім крокам, нібы п'яны, падышоў да фурманкі. Яму ўсё яшчэ распірала грудзі — не хапала паветра.

Бацька прываліў бандыту ногі мяшкамі і крануў каня. Шчацініст апрытомнеў не хутка...

... Раніцай непадалёк ад горада знайшлі фурманку. Конь цягнуў воз па канаве, віхлястая сцежка скрозь была высыпана вотрубямі. Мяшкі хтосьці распаласаваў нажом. А на дарозе — добра натаптаныя сляды ад чатырох мужчынскіх ног.

Конь ішоў і ішоў, скуб кволую першую траву, ускідаў галаву і трос цуглямі. Чалавек у палукашы не варушыўся. Не адкрыў ён павек і калі пераносілі яго ў хуткую дапамогу, не апрытомнеў адразу і пасля аперацыі, калі выnялі з лёгкіх кулю.

Мы не ад куль памрэм,
Ад старых ран памрэм.
*Сямён ГУДЗЕНКА.*

Я вучыўся ў тым горадзе, дзе ляжаў у бальніцы бацька. Цэлымі днямі глядзеў ён у акно. Кожнае раніцы на голым кусце бэзу таўкліся і гарлапанілі вераб'і. Вясна! Неба ўвачавідкі ачышчалася і сінела. Усё больш і больш гасцявала сонца на бацькавым ложку, склеткаваўшы белую прасціну ценем ад рамаў. Хутка адну раму выкнялі, пачалі часта адчыняць акно. Тады бацька паварочваўся і падстаўляў сонцу шырокія плечы, дзе не ўціхаў боль.

Адной раніцы ўбачыў ён, як на алеі падстрыгалі дрэвы. Зайшлося, зашчымела сэрца. Дзесьці гнала ў трубку жыта, звінеў высока ў небе жаўранак, на дасвецці мужчыны кляпалі косы. І адразу занылі па рабоце рукі, і пасцель здалася мулкай, і пацямнела ў палаце.

— Калі жыць ды не працаваць, то і жыць не трэба,— казаў мне бацька ў бальнічным скверыку.— Сама за парадкі брацца, а я ляжу... Дай сваю руку.

Ён браў маю руку ў сваю шырокую далонь, з якой даўно злезлі мазалі, цісну ў.

— Во, бачыш! А раней не мог. Сілы вяртаюцца. Цяпер ужо не залежуся.

Сілы вярталіся паволі.

«За вайну два разы пад наркозам ляжаў, не страшна,— гаварыў ён мне, і сам хацеў верыць у лепшае.— А што тут, у бальніцы, не рабілі такіх аперацый, толькі той і бяды! З некага ж пачынаць трэба... Едзь, памажы дома. Вернешся — параімся».

Вёска з пагорка збягае ўніз, хаваецца за павароткай, за могілкамі. На могілках буяе малады бярэзнік, шумяць старыя дубы і ліпы. На адной ліпе вісіць чорная калода ад пчол. Мёду яна даўно не дае. Яшчэ ў час партызанства выбраў хтосьці вашчыны. Дзе ліпы і дубы — там старыя могілкі. Дрэвы кожную зіму і лета ўсыхаюць, доміць дупластыя ствалы бурай, і з кожным годам старых прысад меншае. Затое знізу паднімаецца ядловец і ельнік. Пад зялёнымі лапкамі паўрасталі ў зямлю пляскатыя надмагільныя камяні. Маці вадзіла нас, малых яшчэ, у вайну да гэтых камянёў. Аброслыя сухім, шурпатым мохам, яны падобны адзін на аднаго.

... Маці стаіць на агародзе цераз вуліцу ў маладым агурочніку. За плотам выполвае грады цётка Ганна. Вось абое кінулі работу, падышлі да частаколу. Яшчэ здалёк я пазнаю іх галасы.

— Пасадзіла я летась тут гарбузы. Дык бацвінне, як лаза, паплялося, на плот вешала. Цвіло да самае восені. Баюся я, Ганна, гэтага цвету. Вунь і вішанька пад акном... Зімой з яе кветкі зрывала.

Гэта маці.

— Ды кінь ты, Мар'я, абы-што гаварыць... І не думай нічога. Зямля стаіпчала. Ад гэтага цвет і не можа завязацца. Трэба кожны год мяняць агарод. Парастуць твае агуркі, нідзе не дзенуцца,— супакойвае цётка Ганна.

— Парастуць, калі не вымачыць,— пагаджаецца маці.

— А во, і сын твой прыехаў! — першай заўважае мяне цётка Ганна.

Пасля прывітанняў і роспытаў пра здароўе бацькі, Ганна ідзе з агародчыка да сябе ў хату, пакідае нас з маці ўдваіх.

Мы таксама пераходзім вуліцу. У двары маці высыпае з прыполу зелле, палошча ў вядры рукі.



— Ну, то расказвай, як там бацька?

Яна лёгенька кранаецца майго пляча, вядзе ў хату, і мы садзімся каля акна адзін насупраць другога, так, як любіла яна ў вайну сядзець з цёткай Ганнай. Маці чакае, што я скажу.

... Я расказваю, маці ўздыхае і пільна глядзіць мне ў вочы. Баіцца, каб не ўтаіў ніводнага слова, казаў пра ўсё, бо я ж быў там, сама бліжэй да яго, нашага бацькі.

На вуліцы весела смяяліся дзеці. У небе, падсвечаныя знізу, імкліва насіліся ластаўкі. На захадзе сонца накалолася на вострыя стрэмкі лесу і выцякала на зямлю зыркай чырванню. Аж балела ў вачах.

Хораша глядзець і ніяк не наглядзецца на апошняе сонца.

Хавалі бацьку летнім пагодлівым днём. На новым могільніку, пад маладымі бярозамі. На пагорку выкапалі дол. Адсюль была відаць уся вёска.

Неслі яго мужчыны паволі, спыняючыся амаль ля кожнай хаты. Часта мяняліся, падстаўлялі крутыя плечы.

Уперадзе, як робяць гэта ў гарадах, неслі бацькавы ўзнагароды. Толькі не на аксамітавых падушачках, а на шырокіх спрацаваных далонях.

Апошні паклон ад землякоў перадаў Адась. Гаварыў простыя словы паволі, запамінальна і не мог схаваць горнасці.

Жмені пяску ўпалі ў яму. Загрукалі камякі жвіру. Увачавідкі сярод кругу людзей вырас пад нагамі свежы капец. Аднекуль прыйшоў п'яны Вінцэсь, расштурхаў людзей вакол сябе, паваліўся на пясок.

— На каго ты нас пакінуў?..— загаласіў ён, як жанчына.

Аднойчы, выпаліўшы ў печы і ўпыніўшы гаспадарку, маці злягла. Цяжка і надоўга. Забываючы на свае справы і клопаты, заходзіла Ганна. «Не таптаць табе, сястрыца, больш муравы,— яна аднаго разу ўпала на грудзі маці.— Давай дзецям напішам і тэлеграму дадзім, га?»

«Не трэба, не палохай іх. Хай жывуць і вучацца спакойна. Не рабі нічога без майго ведама, Ганначка»,— аднеквалася маці.

Стаяла восень. Вецер сыпаў прыгаршчамі халодныя кроплі ў шыбы, зганяў апошняе ярка-жоўтае лісце з бярозы. Бяроза расла ў двары. Стройная, высокая. Самае большае дрэва ў вёсцы, калі глянуць зводдаль. Была маладой — ніводнай галінкі сухой, ніводнай маршчыны на кары. А соку колькі было! Да самага жніва пілі смачны халодны, з пограба, бярозавік. Помніцца маці, як садзіў дрэўца яе дзед Ежальчук. «Ежалі прымецца — будзем жыць тут».

У дзеда, а ў майго прадзеда, была няхітрая, дзівакаватая філасофія. Раней хата стаяла па той бок вуліцы. А яшчэ раней на месцы іх котлішча вуліца зварочвала ў лес. Вялікі лес быў, дрымучы. Ласёў і мядзведзяў не пераводзілася. Ад лесу — і Залессе пайшло. Сяляне з атрадаў Каліноўскага, а можа і самога Вашчылы, знайшлі тут прытулак і схованку. Бралі круглую перапечку, такія яшчэ нядаўна і ў Залессі пяклі на кляновым лісці, ставілі на бок і каціллі, як дзеці абруч: у які бок заверне, падаючы,— у той і вуліца пойдзе. Так расказваў мацеры дзед. У жыцці яму не шанцавала, асабліва на дзяцей. Народзіцца і памрэ. І ўсё таму, гаварыў дзед, што хата стаяла на былой дарозе. Таму і бегла, плыло ўсё, як веснавая вада. «Не куецца, а плешчацца». Прынёс ён аднойчы з лесу бярозку: «Ежалі бу-

дзе расці — пераселімся на той бок». Прынялася бяроза. Пасля перацягнулі і хату, хоць дзеда ўжо не было. Памёр. А вось любімае слова яго засталося. Надоўга прысохла. Аж да гэтага часу і дачок і ўнучак Яжэліхамі завуць. І бяроза Яжэліхай пасля дзеда засталася. Моцна каранямі ўхапілася за зямлю, вынесла зялёную крону. Толькі менш соку цяпер набягае, як раней. І бяроста знізу даўно сышла. Вышэй чалавечага росту — патрэсканая, тоўстая кара. Ды нічога, стаіць бяроза, кожнай вясны лісце мяняе. Колькі хатаў пераж ыла, пачынаючы ад той, дзедавай. І вось зноў пад ёй — чорная, у зялёных барадаўках моху, страха.

«Ляжу і думаю, дзеці, пра ўсё. І столькі цяпер у мяне часу для думак! Усё жыццё, здаецца, Андрэю толькі і казала пра новую хату. Не слухаў. Часу не было. То турма, то вайна, то спалена кругом. «Мы паспеем, Мар'я. За шыю не цячэ — і добра. У людзей горш». Хіба ж я маленькая, не разумела? А новай хаты хацелася! Усё жыццё. Зараз і са свету сатупаць страшна, як падумаеш, што так і не зрабіла нічога. Хоць бы прыбудову ладную. З таго бярвення, што бацька пачаў вывозіць патроху.

Гэта ж як загадаеш наперад, калі ў новай палове збяруцца дзеці і ўнукі,— слёзы набягаюць. Няхай прыбудова не такая прасторная выйдзе, і з меншымі вокнамі, як цяпер людзі ўстаўляюць. Толькі і клопату! Але будзе мая хата, і вашага бацькі — таксама!» — пісала мне маці.

Нечаканыя адведзіны, і радасныя і трывожныя. Ужо нейк у прымаразкі зайшлі да яе Адась з Патапам. Пасядзелі, пагаварылі. Думала-гадала: чаго б ім? Спытала слабым голасам з-за коміна:

— То вы, мабыць, мужчынкі, прыходзілі нечага?

Адась памуляўся, нібы сорамна яму было гаварыць. Усё ж сказаў:

— Чулі, што ты хворая. Давай, думаем, зойдзем...

А памаўчаўшы, сказаў тое галоўнае, з-за чаго і зайшлі:

— Не магу, Мар'я, забыць я тых мяхоў вотрубяў, што Андрэй мне вёз. Ты што хочаш сабе думай, а я не магу забыць...

— Дзякуй табе, Адаська, на добрым слове.

І невыказнае пачуццё радасці падступіла да горла.

— Я табе дзяўчат сваіх прышлю, каб памагалі,— гаварыў далей Адась.— А ты, можа, усцягнешся паказаць, параіць што Патапу...

Патап сядзеў увесь час моўчкі, слухаў. На гаворку, як і Адась, ён быў не мастак. А таму і пачаў адразу:

— Аглядаў я тваё бярвенне, Мар'я. Шмат дзе падгніло. Асабліва хвасты. Але хвасты і падрэзаць можна. Будзе стаяць! На наш век хопіць. Так што ўставай, хату рубіць будзем.

— Хату? — баючыся ачуцца, перапытала маці.— Хату ставіць устану. Дальбог, устану.

І калі за імі зачыніліся дзверы, здалося, што і боль раптам адступіў. Злезла з печы і, трымаючыся за сцены, упершыню за колькі часу абышла пакой.

... Хочаш клопат мець — жаніся, хочаш з дровамі быць — будуйся.

Невялікая была тая прыбудова, а пра дровы ўдаве і не дбай... То бервяно счэшуць ці паз выдзяўбуць, то адпілуюць даўжэйшы канец, каб з вугла не вытыркаў,— усё дровы. А колькі іх трэба, каб згатаваць на адну? Кош трэсак — і даволі. Гатаваць на цесляроў даводзілася рэдка. Прыходзілі яны звычайна пасля работы і да заходу сонца калі паспявалі пакласці вянок, а калі і не. А навошта падганяць? Паспеецца! Быў бы падмурак, а дах будзе. Ды і самой часу не было пыніць увесь дзень ля хаты. Пакуль перабралі бульбу ў капцах ды адсеяліся,— глядзі і сенакос настае... Зараз са́ма і з'ездзіць па кроквы. Пасля позна будзе.

Маці заранёй выпаліла ў печы, збегала на канюшню. Вінцэсь быў недзе ў адлучцы, і каня даў конюх. Запрэгла, пад'ехала да двара, каб узяць што ў дарогу. Забегла ў хату, глянула, ці выграбла вугалле, і падалася на вуліцу. Там яе чакаў Вінцэсь. Здалёк убачыў ён падводу каля двара і ўспудзіўся: чаму гэта Яжэліха не папыталася ў яго, брыгадзіра? Мала што, дзе ён быў, а папрасіць наперад трэба было.

Вінцэсь сядзеў на возе.

— Нікуды ты не паедзеш. Каня на поплаў выганю, каб ведала другі раз, як самаўпраўствам займацца,— гледзячы ў бок, сказаў ён.

— Я ж не сама, Вінцэська. Мне конюх дазволіў. І хамут сам надзеў, і на двор вывеў.

— Конюх кажа, ты сама ўзяла,— схлусіў Вінцэсь.

— Ты гэта не нагаворвай на чалавека. Я ўсё жыццё праўдай пражыла. І няма патрэбы ад цябе хавацца.

— Ну, вось што, Яжэліха. Твая ўлада скончылася,— і крануўся.

— А зараз чыя ўлада? Мо твая? — закалацілася сэрца.

— Мая! — кінуў ён і пагнаў каня.

Маці стаяла з пугаўём і хатулькам у руках. Бач ты, уладар знайшоўся! Сілу адчуў... Нічога, знойдзецца сіла, што тваю, як саломінку, пераломіць і выкіне!

●

Кожны з нас прыпасае Радзімы куток.
Каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны...

*Пімен ПАНЧАНКА.*

Я ляжу на ложку ў новай прыбудове хаты, падставіўшы табурэтку пад ногі, каб не млелі. Святла не ўключаю. Так утульней, і думкам цяплей сам-насам.

Валя прыслала нам пісьмы — мне і Зоі. Зойка канчае зараз той інстытут, у якім вучыўся і я. Валя пісала: «Ці так вы заняты, што не маеце часу ступіць на бацькаў парог? Ці мо адцураліся дому? Мама вочы прагледзела. Хоць бы прыехалі разабрацца, дапамагчы ёй...»

І вось я з сынам прыехаў. Зойка не змагла. У яе дзяржаўныя экзамены. Хутка прыедзе назусім дамоў, будзе настаўнічаць у новай залескай школе. Туды ёй накіраванне далі, сама папрасілася. У горад да мяне маці ехаць не хоча: «Не прывыкла я да шуму і мітусні». Наташка працуе заатэхнікам у аддаленым калгасе, там яна і замужам. Мама зусім адна. А тут гэты суд. Абрэзалі соткі. А маці ўзяла ды і пасадзіла бульбу на тым абрэзку. У гэтым і абвінавацілі, за гэта і судзілі. І штрафу далі б, каб не Зойчына студэнцкая даведка. З Наташай маці ледзь не пасварылася. «Што гэта вы вытвараеце, га?» «Такі закон, мама». «Закон, каб мяне ад зямлі адлучыць? Няма такога закону!..»

На судзе маці гаварыла: «Не такая я парушацелька, як вы гаво-

рыце. Дзеці мае ўсе чэсныя...» «Дзеці не адказваюць за ўчынкі бацькоў». «Як гэта не адказваюць? Хіба мы не адна сям'я? Хіба я іх не з гэтай зямлі выкарміла, за якую вы мяне судзіце?..»

Днём я доўга гаварыў з маці. Угаворваў, што трэба ўступіць соткі на наступны год, калі Зойка скончыць вучобу і не будзе яе студэнцкай даведкі. Аддаць самой, пайсці ў праўленне і сказаць: «Бярыце, я адмаўляюся».

— Ад чаго, сынок, мне адмовіцца? Ад той сцежкі, па якой твой бацька хадзіў, дзе я нарадзіла цябе, на якую ты сёння ступіў? Ад гэтага? Не-е! Як жа я адмоўлюся?!

— Дык закон жа, мама...— спрабаваў даводзіць я.

— Закон. Вы і ёсць закон. Вы пайшлі ў жыццё, дык рабіце законы справядлівыя.

— Адмоўся, мама. І так добра будзе.

— Чаго ты супакойваеш мяне, сынок? Ведаю, што добра. Толькі пра заўтрашні дзень я хачу думаць сёння, загадзя. Бо які высееў, такое і жніва...

Больш я не пярэчыў. Хай робіць як хоча...

За акном цяжка пагойдваюцца галінкі маладога саду, плыве парная духата жнівеньскай ранняй ночы. І, здаецца, зямля стамілася, па-добраму раскінула рукі. Нібы жанчына, адпачывае пасля шчаслівай і прыемнай работы. Недзе на сяле глуха бухае бубен і час ад часу залятаюць у пакой тужлівыя парыпванні баяна, прыглушаныя адлегласцю і сценамі. Вось у той бок таропка прайшлі па вуліцы. І я ўгадваю прыспешаную думкай «каб не спазніцца» чародку дзяўчат. Трохі ззаду ад іх шчабятлівых і гарэзных галасоў — маладыя баскі. Спачатку нясмела, затым больш упэўнена і ўрачыста ўзнімаецца песня: «Из-за острова на стрежень». Слухаю і ўсміхаюся. Не з песні, а з іх яшчэ не ўсвядомленай мужчынскай сілы і з іх жадання быць смялейшымі. Гэту песню спявалі ў Залессі кожны раз, ідучы на танцы пасля няхітрай, на скорую руку, хлапечай застоліцы.

Прайшлі. На нейкі момант робіцца ціха, чутно, як за тонкай шыбай з шастаннем скочваюцца з лісцяў на мокрую зямлю буйныя дажджавыя гарошыны і зверху, з самага шчытка яблыні, б'е па галінах пераспелы яблык, мякка чмякае аб зямлю і застаецца ляжаць у выбітай лунцы, бо не коціцца па схіле да плоту і не стукае ў дошку.

А вось зноў наплывае песня. Ды не адна, а некалькі мелодый адразу, трошачкі запаволеных, нібы з роздумам, трошачкі расхістаных хадою, але аднолькава працяглых, з імклівым, па-жаночаму звонкім заканчэннем. Нібы некалькі ластавак адна за другой кідаюцца з неба на зямлю і толькі над самай зямлёй распроствваюць крылы і з чырыканнем пырхаюць у розныя бакі.

Сёння ў Міколы Куцавых радзіны. Маці таксама пайшла туды, а я вось застаўся дома, бо прыехаў з горада толькі з сынам, без жонкі. А мужчыны адны на радзіны ў нас не ходзяць.

У Міколы новая радасць, чацвёртае ў доме дзіця. І прысаромленая добрая ўсмешка просіцца на губы, цяплом разліваецца харошая радасная зайздрасць да яго і нязлосная мужчынская туга...

Слухаю і спрабую пазнаць галасы. Спачатку спявалі пра хмель і пра вярбу, што ў агародзе расла, затым, пабіўшыся на купкі, зацягнулі кожная сваю. Далёкі, звонкі і надрыўны ад празмернага старання голас выводзіць новую песню. Яе падхопліваюць дружна, выпінаючыся галасамі, і ад гэтага песня траціць словы, і, акрамя няstройнай мелодыі, нічога разабраць нельга. Па кожнай песні можна ўявіць, дзе ідуць маладыя мужчыны і кабеты, а дзе — толькі дзяды



і бабы. Кожны з хораў нясе сваю песню... Толькі вось гэтая заставалася аднолькавай ва ўсе часы:

Там за лугам зеляненькім
Брала ўдава лён драбненькі...

Я ведаю: у гэтым гурце і мая маці. Вось песня скончылася, і амаль без перадыху некалькі тых жа грудных галасоў пачалі спяваць пра сцяжынку, якая вядзе нямаведама куды, якая забрала каханага і не верне яго назад. Для кожнай — сцяжынка свая, а калі прыкінуць, то для большасці помніцца яна пыльным бальшаком, хісткімі мужчынскімі постацямі ў далечыні з белымі, яшчэ не казёнымі, рэчавымі мяшкамі за спінамі.

Паволі, трохі замаруджана ступаюць у такт некалькі пар ног. Вуліца яшчэ не спіць. І, нібы пераклікаючыся са спевамі, весялей і часцей, у рытме полькі-завірухі, бухае бубен. Песня і крокі далятаюць выразней. Жанчыны, чутно, прыпыніліся каля нашай брамкі, весела перагаворваюцца, смяюцца, і на нейкі момант робіцца добра ад гэтай іх раскаванай, выслабаненай гасцінамі, але стоенай да часу радасці. Дамаўляюцца, калі даіць і выганяць на пашу кароў, калі пайсці разам на работу. Затым рыпіць нязмазанымі крукамі брамка і шчоўкае засаўка.

— То бывай здарова, Мар'ечка....— развітваюцца жанчыны.

Ногі іх зноў зашоргалі па сырым пяску. Толькі адзін голас, калі ўжо крыху адышліся, нібы спахапіўся пра нешта важнае і недагаворанае. Ён звініць весела, па-змоўніцку:

— Яжэ-э-лі-ха! Пусці сына пагуляць!..

Гэта голас Юлі. Мабыць, на яе зашыкалі, тауханулі локцямі, бо Юля асеклася. Пачуўся смяшок, неразборлівая і, відаць, смяшлівая скарагаворка, і ўсё змоўкла. Толькі адышоўшыся далей, зноў страпянулася песня:

Не дазво-о-лю ўда-а-вы бра-а-ці...

А маці ўжо шкрабае доўгім ключом-адмычкай, прасунутай праз дзірку ў вушаку. Бразнула засаўка, дзверы асцярожна рыпнулі, зноў прашаргацела засаўка. Маці прайшла ў хату. Асцярожна рыпнула карзіна на цвічку каля качаэржніка. Некалі для нас была гэтая карзіна цэлым шчасцем. Паводле завядзёнкі, перш чым пакласці посуд, гаспадыня бяседы клала і яшчэ што-кольвечы, каб адпусціць госцю не з пустымі рукамі.

Ціха, ціха рыпнула маснічына над прагнілай падвалінай. Гэта каля палка, дзе спіць мой Сярожа паміж сваіх стрыечных братоў, Валіных сыноў. А я нібы бачу: маці асцярожна нахіляецца над імі, папраўляе падушкі пад галовамі, накрывае коўдрай.

Прайшлі, адспявалі Міколавы госці, цішэй далятаюць уздыхі бубна. Гэта, мабыць, ад таго, што яшчэ цясней прывальваецца грудзьмі да зямлі душная летняя ноч. А перад вачыма ўсё гойдаецца, парыпвае карзіна з перавязанай дужкай, і перакочваецца ў ёй рыжы, падпалены спадыспаду акраец. Нібы трымаю гэты акраец у руках, нібы бачу яго, нібы чую роўнае пагойдванне карзіны, і цяжка ўявіць, ці на яве гэта ці ў сне. А ў цёплай цемры далёкія грымоты перакочваюцца разам з ударамі бубна над росным лугам, і лесам, і даляглядам.

Гады — як веснавая вада, як летняя дарога, залітая сонцам. Ні канца ім, ні краю. І чым хутчэй ляцяць дні, тым цікавей. Што прынясе заўтрашні ранак?

— О, колькі перавярнулася на маім вяку!.. Памяці цяжка,— гаворыць дзед Васіль.— Помню Залессе во якое,— расцягвае ён рукі,— у адзін канец выйшаў — другі бачна. А цяпер разбудаваліся. Тры вярсты вуліца. Дзіва што! Трактары цэлую ноч у полі равуць. Машын колькі! Некалі я пошту на перакладных вазіў. Ад станцыі да станцыі. Па Екацярынінскім шляху. А цяпер і не верыцца. Усталі б тыя людзі...

Дзед круціць галавой, так і не дагаварыўшы, што б тады было. Збоку да лаўкі, на якой мы сядзім, мякка, нібы кот, падыходзіць Мікола Куцавы, унук дзеда Васіля.

— Дзед усё казкі баіць? Не слухай ты яго,— не вельмі клапоцячыся пра ветлівасць, умешваецца ў гаворку ўнук. Толькі пасля гэтага вітаецца: — Дзень добры вам!

— Ты зноў прыйшоў зубы скаліць? — з-пад белых касматых броваў позіркам страляе ў яго дзед.

Мікола па слова ў кішэню не лезе.

— Ці скаль, ці не скаль, усё роўна павыпадваюць...

Ён яшчэ хацеў нешта дадаць, зірнуў на дзеда і задаволена засмяяўся: падкалоў-такі старога.

Дзед злуецца.

— Добра, не буду больш,— пайшоў на замірэнне Мікола.

А дзед ні з сяго ні з таго пачынае гаварыць:

— Адбіліся вы ад зямлі, дзеткі. З'ехалі. Хто ў горад, а хто, як Ганнін Косцік, у караблі гэтыя...

Загадкавую прафесію абраў сабе Кастусь. Вучыў, вучыў сваю фізіку, а прафесіі яго ніхто так і не ведае. Дадому таксама нічога не піша. Аднойчы Мікола прынёс у Залессе навіну, якая ўскалыхнула ўсіх. На шахце, дзе ён працуе, паказвалі фільм пра космас. У ім Мікола і ўбачыў Кастуся. На адну хвілю мільгануў кадр. А Мікола б'е сябе ў грудзі, што «пазнаў Ганнінага хлопца».

— Дзед, ты любіў зямлю араць. То ідзі, займай загон і гані, колькі ўлезе,— зноў бярэцца за сваё ўнук.

Такая гаворка паміж імі, відаць, усчынаецца не ўпершыню, і таму дзеда нялёгка ўзлаваць.

— На што мне? Трактары пааруць,— спакойна адказвае ён.

— Во-во,— падхопліваецца Мікола,— то лаяў трактары, што жаўтапесак павыварочвалі, то хваліш...

— Я не трактары лаяў, а трактарыстаў... У каго розуму столькі, колькі ў цябе, нібы ў малога дзіцяці,— узлаваўся дзед Васіль.— Я тых лаяў, што зямлю запусцілі, і трактарыстаў і старшынь. Хто хацеў мець тысячы з пустой зямлі.

— Дык добры ж старшыня зараз,— супакойвае дзеда Мікола.— Малады, і ўсё такое... І Адася намеснікам выбралі.

— Добры. Але пакуль «усё такое», як ты гаворыш, пасёрбаў ён солана. Звядуць са свету.

— Звядуць,— каб падліць масла ў агонь, запэўняе Мікола.— Вінцэсь знойдзецца...

— Турнулі Вінцэся. Хопіць яму ў брыгадзірах ды фуражырах аціраца. Касы трымаць не ўмее... Раскусілі. Раскусяць і такіх, як ты, вярціхвостаў.

— Гэй, маладзіца, калі не захварсела, падыдзі сюды! — гукае тым часам Мікола Юлю, якая ідзе па той бок вуліцы.

— Кожнага зачэпіць. От урода...— бурчыць на Міколу дзед Васіль.

Юля такая ж стройная і прывабная, як і раней. Круглы твар, тоўстая, закручаная па-жаночы каса. Хіба толькі вочы сталі больш



праніклівыя і строгія. Яна амаль не змянілася з таго часу, калі апошні раз мы бачыліся. Колькі ж мінула з таго часу? Юля ішла тады замуж. А зараз яна адна.

— Ну, дзе ж твой муж, Юля? Што піша? — пытаюся я і чырванею. Прыкусіў язык. Успомніў, што ў такіх, як Юля, пра гэта не пытаюцца.

Але яна не бянтэжыцца. Мабыць, адказваць ей не ўпершыню.

— Круціцца недзе. Сабакам сена косіць. Доўгі рубель збіў з панталыку.

— Нічога, прыедзе,— каб хоць чым усцешыць, гавару я.

— Не прыму,— гарачыцца Юля.

— Калі пісьмы пішаш, то прымеш,— зазначае Мікола.

— А твая якая справа? — асякае яго Юля.

Мікола задаволены. Як гаворыць дзед,— скаліць зубы.

— Ну вось, я ж гаварыў, што прыме,— смяецца ён.

Да прыпынку падкаціў аўтобус. Падыходзіць маці з усімі сваімі ўнукамі. Дзед Васіль, прысланіўшы даланёю вочы, углядаецца ў шкло. Позірк яго просіць: «Прыязджайце, дзеткі». Неяк сарамліва стаіць Юля. Яна здагадваецца, мабыць, што чуў я ўчарашнія яе словы. І толькі адзін Мікола весела падміргвае.

Ад'язджаем. Пабеглі жэрдкі плоту, хутчэй, хутчэй і — скончыліся. Абапал шляху — устаўлены стагамі луг.

Азіраюся. Маці з унукамі стаіць пасярод дарогі і глядзіць услед аўтобусу. Махаю ім з задняга сядзення. Вядома, яны не бачаць. Шукаю вачыма самае вышэйшае дрэва ў вёсцы. Знаходжу. Не, гэта не наша бяроза. А вунь і яна! Магутная, разгалістая. Толькі самая верхавіна зламана. Зноў пераводжу позірк на маці з нашымі дзецьмі, з яе ўнукамі, і зноў — на бярозу. Ападаюць першыя жоўтыя лісцікі. Хутка застогне яна пад сівернымі вятрамі, заплача ў асен-



нюю слоту, уся ў белым інеі перастаіць маразы. А вясной пабяжыць сок. Яна першая адчуе і пагоніць яго па ствале. Пагоніць уверх, па галінах і галінках, да кожнай пупышкі, да кожнага лісціка. Папрыгажэе бяроза, стануць дужэйшыя галіны-рукі, заценіцца каля хаты. Адно ўгару яна больш не вырасце — усохла яе верхавіна.

Аглядваю, хто едзе ў аўтобусе. Спераду сядзіць дзядзька Патап. На ім — трохі паношанае паўпаліто гарадскога крою. З-пад сядзення вытыркаюць новыя кірзовікі. Дзядзька вязе сыну ў горад мех яблыкаў. Перад ім — дзве васьмікласніцы. Яны едуць атрымліваць камсамольскія білеты. Усхваляваны. Сядзяць маўкліва і прама. Затым трохі асвойталіся і пачынаюць штосьці гартаць на каленях. Яшчэ далей уперадзе — дзве дзяўчыны. Тыя, пра якіх гавораць: «на выданні». Побач стаіць хлопец. Не садзіцца, хоць і ёсць вольныя месцы. Так яму лацвей. Час ад часу нахіляецца да дзяўчат, нешта расказвае. Смяюцца дзяўчаты больш з далікатнасці. Што з ім жартаваць: хлопец жа едзе на прызыўную камісію!

Міма нас пралятае грузавая машына. У кузаве стаіць салдат. Раменьчык апушчаны пад бараду, каб не збіла ветрам фуражку.

— Федзя! Федзя Ганнін з арміі паехаў!— радуюцца дзяўчаты і прыпадаюць да шыбы. Затым гавораць нешта хлопцу і паказваюць назад, на васьмікласніц. А тыя яшчэ ніжэй угінаюць галовы. Бачна, як таропка пачалі перагортваць тое цікавае, у што глядзелі, не адрываючыся, увесь час. Каля белых банцікаў увачавідкі пунсавеюць вушы. Хлопец ніякавата пацепваецца і зноў нахіляецца да тых, што адсылалі яго да васьмікласніц. Ён і не думаў здавацца.

На выбоінах падтрэсвае. Крамяна рыпяць яблыкі ў мяшку.

У сінюю смугу адбягае вёска. Шукаю вачыма бярозу з адламанай верхавінай. Недзе там з унукамі мая маці. Хлапчукі каля яе, быццам тыя пасынкі ля бярозы.

Зноў паваротка, і Залессе хаваецца за пагоркам. А я гляджу і гляджу туды і, як бінт ад засохлай раны, не магу адарваць без болю позірк.

◆ ◆ ◆

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**



# БРАСЛАЎСКІЯ РЫБАЧКІ

**Неба чорнае ў возера ўпала.**
**Зноў рыбачкі глядзяць насцярожана**
**І бягуць да скрыпучых прычалаў**
**Паглядзець — ці плывуць іх родныя.**

**Яны ведаюць: шчасце з горам**
**Напалам у кіпучай бездані.**
**Чайкі ціха, трывожна скуголяць**
**І чарнеюць, заўсёды белыя.**

**А жанчыны ступаюць у хвалі,**
**Іх ватоўкі і твары ў кроплях.**
**Хваляванне сваё хаваюць,**
**Калі ўбачаць у далечы кропку.**

**Бо яны ж рыбачкі.**
**Няможна**
**Са слязьмі на вачах сустракацца.**

Адганяючы думкі трывожныя,
Усмешкай цёплай вітаюць баркасы.

З імі хвалі смяюцца.
І неба
Пасвятлела, заціхла надоўга.
Гэта сонца зпавілі ў невад
І вязуць рыбакі дадому.

## НАВІЧОК

Па штрэках, нібы па цікавай казцы,
З ліхтарыкам сонным крочу.
Так муліць нязвыкла шахцёрская каска,
Скляпенняў бляск слепіць вочы.

А хлопцы-шахцёры, як добрыя гномы,
Вядуць да ружовых скарбаў.
Ім шахта, нібыта кватэра, вядома —
Не трэба ніякай карты.

Я з імі ў забоі калійным стараўся,
Хоць нылі і плечы, і рукі.
Ды мне не цурацца ніякай працы,
Шахцёрскай цяжкой навукі.

І мазалі, і за справу клопат
Наверх я вынашу горда.
Мне словы: «Ты нашага роду, хлопец!»
Гучаць дарагой узнагародай.

## НАД БУГАМ

Дзяўчынка ў ладкі над сабою пляскае,
Нібыта сонца хоча патрымаць.
Хлапчук на пляцы супыніў каляску,
Каб бэзу для сястрычкі наламаць.



Малую песціць цёплым сонцам лета,
І дорыць пер'е белых галубоў.
А ў Мухаўцы пахучыя лілеі
Ў агні не задыхаюцца ўжо зноў.

Вясёлка неба сінявою поіць.
Зямлі натруджанай, спацелай чуцен пульс.
Ля Буга зноўку зацвілі таполі:
Плыве над цытадэллю белы пух.

## КОЛАС

На жыце павуцінак кросны,
А журавы да сонца паплылі.
Чатырохгранны, доўгі, рослы
Падняўся колас ад зямлі.

Зялёных верб уецца ветразь
Там, дзе азёраў берагі.
А ён трымціць над цёплым ветрам,
Пяе вясне і працы гімн.

І голаў цягне аж да неба,
П'е водар, кветкавы настой.
І хочацца яму, каб бохан хлеба
Хутчэй лёг на кляновы стол.



Міхась КАЛАЧЫНСКІ

●

# ВЕРШ ЛЮБВІ І ГНЕВУ

Любоў і гнеў...
Я побач іх
У верш гартанны стаўлю,
Гартую, ў наступ ідучы,
Агнём душы і сталлю.

Тым аддаю любві агонь,
Хто на нягоды ў гневе,
Хто славіць час, размах яго
І на зямлі, і ў небе.

Тым аб'яўляю свой прысуд,
Хто пачуцця цяпельца
Расклаў на радасць для паскуд
І дробных адшчапенцаў.

На тых іду, хто ўспрыт маной
Па нас пад рыфму лупіць.
За тых стаю, хто век са мной
Аддана праўду любіць.

Даецца праўда не за так.
Яе ў радкі прыносяць
З гарняцкіх штольняў ці з атак,
Дзе смерць адважных косіць.



Яе бяруць на працу, у бой,
Як песню ды біклагу,
З якое холад п'юць нагбом,
Каб збыць пад спёкай смагу.

Так я узяў.
Мае радкі
Не на пуху ляжалі —
Ішла паэзія ў штыкі
На дроту свет іржавы.

Яе ў зямлянках цішыня
Чытала ўслых з пяхотай,
Адвага, ўстаўшы з-пад агня,
Шпурляла ў зяпы дотаў.

Аб ёй не комкала якісь,
А крытык сказа строгі,
Як адмятала дрэнь і слізь
Яна з жыцця дарогі.

Хаця ў жыцці ўжо дрэні менш,—
Смаўжоў на нашым карку,—
Не супакоіўся мой верш,
Не выйшаў у адстаўку.

Дасюль гудуць там-сям шаршні
На лад і густ заморскі,
Крыўлякі з вуліц не сышлі,
Джазбанды — на падмостках.

Дасюль, штурхаючы бачком
Сівых на тратуары,
Хлыст жаўтароты пра бацькоў
Разводзіць тары-бары.

Бацькі з сынамі кіпень рэк
Штурмуюць у праранах,
А ён з хаўрусам недарэк —
Прыступкі рэстаранаў.

Ёсць і такія, з кім ільвы
Раўня-раўнёй па сіле,
Ядуць жа хлеб не свой — ім вы
Яго ў сухмень расцілі.

Люблю я юных працаўніц
І ў верш бяру навекі
З маладзікамі завушніц,
З пылком палёў на вейках.

Але ад іншых на хаду
Адвернеш вочы часам —
Як багародзіцы, ідуць,
Нагвэганыя маслам.

Ці варта гневацца? —
Такіх

Зжыве сам час са свету.
Ды дзіўна: моліцца на іх
Яшчэ той-сёй з паэтаў.

Абцасы-шпількі, чым сякуць
Падлогі тыя німфы,
У вершы лезуць і пакуль
Яшчэ ім зычаць рыфмы.

Мо хто змаўчыць, а я скажу:
Паэзія абцасаў
Гадуе цвіль, што есць душу,
І песціць розных цацаў.

Я ад сябе
І ад імя
Тых, што ішлі пад кулі,
Каго ў жывых цяпер няма,—
Дзесь ля дарог паснулі,—

Ад іх бязмернае любві,
Якая сэрцы грэла,
Ад іх сумлення, што ў крыві
Адвагаю гарэла,

Выношу ганьбу цацам тым —
Нахабнікам бязвусым,
Клікушам, моднікам пустым,
Крыўлякам і іх блюзам.

Хачу душой, каб музы ўсе,
З сівых прыйшоўшы міфаў,
Служылі ў нас людской красе —
Не фальшы слоў і рыфмаў.

Хачу, каб стала людзям лепш,
Больш хараства на свеце.
За гэта ў бой ідзі, мой верш,
І мужным будзь да смерці!

□ □ □

**Клара ПІШЧЫКАВА**



# СЫН

Апавяданне

Мал. В. Шрамякова.

Выхожу один я на дорогу;
Сквозь туман кремнистый путь блестит, —

гэта на кухні спявае наша маці.

— І чаму яна ўсё сумныя песні выбірае? — моршчыцца Генка.

Няўжо ён не разумее гэты матчын сум?

Генка падышоў да прыёмніка, злавіў нейкую вясёлую мелодыю. Усміхаецца. Бывае, што я зайздрошчу Генку, зайздрошчу лёгкасці, з якой ён ставіцца да ўсяго на свеце. Я так не магу. І мне часта бывае цяжка.

●

Упершыню я пачула гэтую песню больш за дваццаць гадоў назад у невялікай уральскай вёсачцы, дзе мы былі ў эвакуацыі. Да гэтага маці не спявала. Твар яе нібы скамянеў. Ён стаў такі ў тую веснавую раніцу, калі з усіх двароў пачалі выходзіць людзі з рыдлёўкамі і віламі. Усе спяшаліся ў поле. Маці стаяла, прысланіўшыся да паркана. Рыдлёўка ўпала пад ногі. Вусны яе збялелі і дрыжалі. Побач стаяла паштальёнка Каця, угаворвала маці:

— А ты, Марына, паплач! Лягчэй будзе...

Я не ведала, што было ў тым лісце, які трымала маці. Толькі адчула: да нас прыйшло гора...

Нам з Генкам маці нічога не сказала. Можа таму, што мы яшчэ малыя. Мне ішоў сёмы год, а Генку — пяты. Кожнай раніцы маці кудысьці знікала. Вярталася з пачырванелымі вачыма. Цётка Фёкла, гаспадыня наша, гаварыла:

— Згубіш сябе гэтак! Дзяцей бы хоць пашкадавала...

Аднойчы я прачнулася ад Генкавых стогнаў. На твары ў яго блішчалі кроплі поту, і вусны запякліся. Ён клікаў маці. Яе ў пакоі не было.

— На рэчцы ля вярбы твая маці,— сказала цётка Фёкла.

Я ўбачыла яе здалёк. Маці сапраўды сядзела пад старой вярбой ля самай вады. Сядзела нерухома і была падобна на каменную постаць, якую я калісьці бачыла на могілках. Я падышла зусім блізка, але маці не заўважыла мяне. Мне зрабілася страшна. Я закрычала:

— Мамка! Генка памірае!..

Маці ўздрыгнула, потым хуценька паднялася на ногі. Спытала ўголас: «Што з

ім?», але на твары ўжо не было таго выразу, які палохаў мяне.
Праз паўгадзіны мы з маці пад'язджалі ўжо да дому цёткі Фёклы: старшыня даў каня, каб адвезці Генку ў бальніцу. Маці паклала на воз крыху сена, захутала Генку ў цёплую хустку і на руках вынесла з хаты. Я заплакала: «А што, калі ў бальніцы Генка памрэ...»
Маці кожны дзень пасля работы наведвала Генку — пешшу сем кіламетраў. Вярталася зацемна. Радавалася: Генку лепш, але няхай паляжыць — там добра кормяць...
У нядзелю маці пабудзіла мяне рана:
— Хадзем, дачушка, бульбу садзіць!
Маці ўзяла клуначак з бульбай і рыдлёўку. Мы пайшлі. Па дарозе маці расказвала:
— Ведаеш, дачушка, як нам пашчасціла... Пайшла я ўчора, як ты спаць лягла, на наш гарод. Думала, пагляджу, як гэта ўскапаць яго. А тут чую здалёк: «Пачакай!» Пад'язджае Паша Кандаурава на быках і кажа: «Я сабе ўжо ўзарала. Давай і табе памагу». І ўвесь гародчык узарала. Каб у мяне была бульба, дык і пасадзілі б. Я ёй кажу: «Атрымаю грошы — заплачу». А Паша раззлавалася: «Не трэба мне грошай. Ты лепш дзецям малака купі!..»
Непрыкметна прыйшлі мы на гарод. Маці пачала капаць ямкі, а мне загадала кідаць у кожную кавалачак бульбы з вочкам. Мы гэтыя кавалачкі ўсю зіму збіралі. Працавалі мы некалькі гадзін, мусіць, бо мне есці захацелася. Я параіла маці:
— Давай крыху радзей садзіць, тады застанецца што-небудзь паесці.
Маці не згадзілася:
— Калі мы гэтую насенную бульбу паядзімо, дык што зімой рабіць будзем?
Яна кінула сваю ватоўку на зямлю і сказала:
— Ты лепш адпачні, тады і есці не так будзе хацецца...
Я лягла. Сонейка было ўжо высока. Па небе плылі воблакі. Яны белыя, як крэм ад даваеннага піражнага. Не ведаю, ці доўга я спала? Сніўся мне вельмі смачны сон. Быццам плывуць тыя аблокі нізка-нізка, і я бяру іх у прыгаршчы і ем...
Разбудзілі мяне сумныя і прыгожыя словы матчынай песні:

В небесах торжественно и чудно!
Спит земля в сияньи голубом...

Голас маці ўзняўся высока, і была ў ім такая журба, што мне зноў стала страшна.

Что же мне так больно и так трудно?
Жду ль чего? Жалею ли о чём?

Я раптам зразумела: няма больш у нас бацькі, і гэта аб ім сумуе маці. Яна стаяла, абапёршыся на рыдлёўку і глядзела кудысьці ў далечыню. На суседніх гародах ужо нікога не было. Маці мяне не заўважала. Я зноў лягла на ватоўку.
Няма больш нашага бацькі? Як гэта — няма?!. Варта мне заплюшчыць вочы, як я бачу яго. Ён усміхаецца. Наш бацька заўсёды ўсміхаўся. Я не памятаю, каб у яго быў дрэнны настрой ці каб ён на нас злаваўся. Калі ён вяртаўся з работы раней за маму, ён казаў мне:
— Давай пакажам маме, як мы вячэру ўмеем гатаваць!
І хоць бацька ўмеў варыць толькі боршч па-флоцку ды смажыць яешню, маці заўсёды хваліла нас: малайцы!



Здаралася, у нядзелю бацька казаў:
— Дадзім маці выхадны дзень!
Мы з бацькам мылі посуд, прыбіралі ў пакоях, а маці ішла ў парыкмахерскую ці да швачкі. Вярталася яна самай прыгожай жанчынай у свеце. Так казаў наш бацька. І мы ішлі гуляць...
Колькі год было нашай маці ў тую ваенную вясну? Мусіць, крыху больш, чым зараз Генку...
Да Генкі маці ставілася з нейкім асаблівым пачуццём. Усё, што было ў нас лепшае, прызначалася Генку. Мне маці гаварыла:
— Ты ж старэйшая за яго...
Я разумела маці: Генка падобны на бацьку, і ўсе свае надзеі яна цяпер звязвае з ім. Нават спецыяльнасць Генка абраў, як у бацькі,— скончыў будаўнічы тэхнікум. Потым Генка пайшоў у армію. Маці сумавала. Неяк сярод ночы спыталася:
— Як ты думаеш, калі я папрашу, каб Генку раней тэрміну адпусцілі?..
— Мама, як табе не сорамна!..
— Мне цяжка стала з вучнямі... Нервы! Каб ён прыехаў, я заспакоілася б...
Маці пісала Генку доўгія пісьмы і ў кожнае клала трохі грошай. Усміхалася:
— Служба — не родная маці... На ласунак не дадуць!
Як чакала маці канца Генкавай службы! Гаварыла мне: «Адслужыць, няхай у інстытут ідзе. Я яшчэ папрацую, а ён — няхай вучыцца».
Потым Генка паведаміў: «Застаюся тут, на поўначы. Буду працаваць на будоўлі. Плацяць добрыя грошы!»
— Там у будаўніках патрэбу маюць,— казала маці знаёмым.— А ён жа, як бацька, усё аб іншых клапоціцца...
На поўначы Генка працаваў з паўгода. Потым прыехаў. Калі на вакзале маці ўбачыла Генку, заплакала... Відаць, ад шчасця. Генка памужнеў, раздаўся ў плячах. Выліты бацька!
За Генкам з вагона выйшла дзяўчына з тоўстай касой, якіх у горадзе ўжо не носяць. Яна шырока і быццам спалохана глядзела вакол сябе. Генка забыўся пра яе, ці што? Не звяртае ўвагі... Яна стала побач з ім, няёмка ўзяла за рукаў гімнасцёркі. Нарэшце, успомніў:
— Гэта Насця. Жонка! — ён паклаў руку на яе плячо.
Насця сарамліва адвярнулася.
— Другія кідалі, а мне шкада было... Вось і прывёз,— паспеў растлумачыць мне Генка, пакуль маці распытвала сваю нявестку пра бацькоў, дом. Непрыемна ўразіла гэтае «кідалі». І да арміі Генка гаварыў пра дзяўчыну: «Вось прычапілася да мяне!..»
Я сказала:
— Ты — які быў, такім і застаўся...
Ён не зразумеў:
— Я ж не кінуў...
Маці сказала:
— Няхай маладыя ў вялікім пакоі жывуць, нам з табой хопіць бакоўкі...
Потым мяне папрасіла:
— Ты пакуль не шый сукенкі... Збярэм усе грошы, купім для іх якую мэблю...
Жыццё ў маладых ішло не гладка.
— Насця, перадай Генку, як прыйдзе, каб адразу ішоў на будоўлю! Званілі.



Насця са злосцю паглядзела на мяне:

— Самі перадайце! Я з ім не размаўляю!

Суседка бачыла Генку ў кіно з нейкай дзяўчынай. Маці спыталася:

— Гэта праўда, сынок?

Ён толькі рукой махнуў:

— Бабскія плёткі збіраеце...

Насця скардзілася:

— Усё з-за іх. Каб мы самі жылі, было б усё добра...

Чамусьці ў сваім няўдалым сямейным жыцці Насця абвінавачвала мяне з маці.

Мы атрымалі ордэр на новую кватэру. Маці сказала:

— Няхай яны пераязджаюць. Можа, у новай кватэры не будуць сварыцца...

Насця чакала дзіця. Маці радавалася:

— Стане бацькам — паразумнее...

Нарадзілася ружавашчокая, прыгожанькая дзяўчынка. Быццам на агеньчык, цягнула нас з маці ў прасторную кватэру: панянчыць дзіця. Генка дома бываў рэдка. На матчыны папрокі адказваў:

— Не цікава мне з ёй...

— Але жонку ты сам сабе выбраў!

— Калі браў, яна прыгожая была...

— Яна і зараз прыгожая. Толькі стомленая вельмі і — нешчаслівая...

Маці доўга маўчала. Аб чым яна думае? Можа, сябе вінаваціць, што так выхавала сына?

— У яе дзіця маленькае. Ты ёй памагаеш?

— Буду яшчэ ў чыгуны лазіць! — Генка зморшчыўся.

Маці ўздыхала:

— Мая віна. Гэта я цябе так выхавала...

Я ўспомніла, як застала Насцю ля пограба: пасінелымі рукамі яна спрабавала зняць замок.

— Ты што гэта ў пограб лезці задумала? — Насця была на апошнім месяцы цяжарнасці.

Тая нічога не адказала. Толькі ціха, бязгучна заплакала.

У доме былі госці, Генкавы сябры. Пад сталом стаяла некалькі пустых бутэлек...



●

На кухні стала ціха. Маці перастала спяваць. Чутно было, як цяжка яна ступае. Генку, відаць, непрыемна гэта маўчанне.

— Сёння нядрэннае надвор'е. Шкада, што мой матацыкл у рамонце...

Мы, як чужыя. Нават размаўляць не ведаем аб чым.

●

Калі гэта пачалося з Генкам? Можа тады, калі маці адмовілася ад яго дапамогі:

— Ідзі, сынок, гуляй! Мы самі зробім!

Ці тады, калі маці, стомленая, вярнулася з завода:

— Званілі з міліцыі. Генка ў дзіцячым пакоі...

— Што ён нарабіў? — спалохалася я.

Маці, відаць, адразу не пачула майго пытання.

— Ты нешта сказала? А-а... чапляўся за машыны і — гэтак ехаў у школу... У міліцыі сказаў, што не даюць яму грошай на аўтобус.

— А гэтыя тры рублі куды ён дзяе?

Маці горка ўсміхнулася:

— На раскошнае жыццё траціць... Кажуць, курыць пачаў...

Маці доўга і нерухома сядзела ў крэсле, потым папрасіла:

— Прынясі, дачушка, тыя грошы...

«Тыя грошы» — гэта матчына прэмія. Маці збіралася новы касцюм купляць. Гаварыла:

— Ужо сорамна перад вучнямі...

Я сказала:

— Табе ж самой няма ў чым у школу ісці!

— Нічога, абыдуся...

Маці паклала грошы ў старэнькую сумачку. Пастаяла пасярэдзіне пакоя, потым адчыніла шафу. Выцягнула скрыначку, у якой ляжаў бацькаў гадзіннік. Завяла яго і доўга трымала ля вуха. Твар зрабіўся строгі, урачысты. Нібы да стуку сэрца прыслухоўваецца... Аб чым яна думае? І навошта ўзяла гадзіннік? Гэты залаты гадзіннік — адзіная каштоўнасць у нашым доме. У самыя галодныя часы маці не рашалася яго прадаць...



Маці паклала гадзіннік у сумачку разам з грашыма. Вечарам Генку дома чакаў новенькі веласіпед.

Генка ўзрадаваўся:

— Вось добра! У мяне цяпер уласны транспарт!

Але калі даведаўся пра гадзіннік, упікнуў маці:

— Гадзіннік трэба было аддаць мне!

Я бачыла, як спахмурнеў матчын твар. Генка гэтага не заўважыў. Ён ніколі не заўважаў чужы боль...

●

... З поўнай талеркай дранікаў вярнулася з кухні маці. Генка весела сказаў:

— Мама, цяпер такія песні не спяваюць. Лепш вось гэта: «Жыў ды быў чорны кот...»

Маці паставіла дранікі перад Генкам, ніякавата ўсміхнулася:

— А я і не заўважыла, што спяваю... А гэты твой чорны кот — што, супраць забабонаў?

— Мама, табе час на пенсію! Ну, чаму ты можаш навучыць сучасных дзяцей?

Маці пакрыўдзілася:

— Еш! Вось цябе сапраўды нічому не навучыла...

Калі Генка з'еў апошні дранік, маці заклапочана спыталася:

— Як Насця сябе адчувае? Як Светачка?

— А нічога! Злуецца ўсё на мяне. Учора ў хату не хацела пусціць. Ледзь не замёрз...

— А калі ты вярнуўся дадому?

Генка ўсміхнуўся:

— А што: ажаніўся — быццам у другі свет трапіў? Паспею яшчэ быць верным у трыццаць пяць...

— І ў каго ты такі? — ціха, хутчэй у самой сабе, чым у Генкі, спытала маці.

— Ты ж сама казала — у бацьку!

Раптам маці ўстала, падышла да Генкі. Рука яе мільганула ў паветры і — бязвольна апусцілася. Хацела ўдарыць! Не дацягнулася ці — перадумала?

Маленькая ля высокага Генкі, маці здалася мне ў гэты момант бездапаможнай... Яна павярнулася і цяжкімі, старэчымі крокамі пайшла зноў на кухню. Раней маці ніколі не ўзнімала на нас рукі...

— І чаго гэта наша старэнькая сёння разышлася?

Я разумею, што Генка шукае ў мяне падтрымкі, але маўчу.

— Ды ну вас усіх! — Генка схапіў шапку і выбег з пакоя. Я пайшла на кухню да маці. Яна сядзела нерухома, абодвума рукамі абхапіўшы галаву. Сказала:

— Калі ён зрабіўся нягоднікам — не заўважыла...

Галава амаль белая, і твар увесь у зморшчынках. Колькі яна перажыла за апошні час...

Маці глядзела неяк паверх мяне. І твар у яе скамянелы, як тады, на рэчцы, пад старой вярбой...

□ □ □

Анатоль МАЛЮК



●

# МАТЧЫНЫ ВОЧЫ

Вочы маці, як два аб'ектывы,
Жахі вайны знялі аб'ектыўна.
Паляць душу шчэ й цяпер тыя кадры:
З сэрцам халодным у касках карнікі
(Не, не забудзеш ніколі пра гэта),
Тройчы праклятае, страшнае гета,
Людзі як цені, людзі — шкілеты...
Вочы маці, як два аб'ектывы,
Суровыя, добрыя вочы на дзіва.
Вочы, якія і камень параняць,
Вочы, якія ніколі не зманяць —
Вочы маці.

# ПАЭТ

Як у дрэў, у паэта
Ёсць свая вышыня,
Як у мора, ў паэта
Ёсць свая глыбіня.

Бы ў крыніц, у паэта
Ёсць свая чысціня;
Ёсць і свой ураджай,
Ёсць і свой умалот;
Ёсць радня ў яго —
Свой народ.
І ад гэтай радні
Свой пачатак бяруць
Яго карані.
Свой пачатак бярэ
вышыня,
Свой пачатак бярэ
глыбіня,
Свой пачатак бярэ
чысціня.

# ІЛОНКА

Рачулка мілая — Ілонка,
Цячэш ты ў роздуме сваім...
На белым камені Алёнка
Сядзіць на беразе тваім.

У час вячэрні з асалодай
П'юць чысціню тваю ласі,
Якая пахне дзікім мёдам
І прахалодаю расы.

І ноччу зоркі пакупацца
Штораз спускаюцца сюды,
Прыходзіць месяц прычашчацца,
Як да святыні, да вады.

Рачулка мілая — Ілонка,
Ты ўдаль, прыціхлая, цячэш...
Сваім ты голасам нязвонкім
Пра хараство зямлі пяеш.

●

Мне аднойчы бачыць давялося,
Як, аддаўшы ўсе свае дары,
Дагарала, памірала восень,
Памірала восень у бары.

Ліст апошні адарваўся звонка,
Паляцеў уніз, у нябыццё.
Доўга-доўга павуцінкай тонкай
Білася шчэ восені жыццё...



Аляксандр КАЗАНЦАЎ

# ВІЛЕНА

Навукова-фантастычны раман

(Пачатак гл. № 5.)

Мал. Г. Скамарохава.

## ТЭЛЕСПАТКАННЕ

З акна вагона, які ляцеў над зямлёй, былі відны лясы, палі, дарогі з імклівымі турбабілямі.

Сэрца ў Вілены сціскалася. Было маркотна. Вагон спыняўся ля высокіх платформ. Уваходзілі і выходзілі людзі, але Вілена нікога не заўважала.

Яна абудзілася толькі, калі ўбачыла расстаўленыя па полі ў строгім парадку мачты. Паміж мачтаў віселі правады, зусім як некалі, калі электраэнергію перадавалі без дапамогі лазераў. Вілена ведала, што гэта і ёсць той самы вялізны радыётэлескоп, пра які з такім захапленнем расказваў калісьці Уладлен.

Зноў Уладлен. Яна думала пра яго, калі выходзіла з вагона. Нават уявіла, як ён бег вось па гэтых ступеньках лесвіцы, ішоў той самай дарожкай, па якой і яна цяпер ішла.

А вось і «Белы дом», як жартам называў Уладлен будынак, дзе чутны галасы Сусвету.

Зноў Уладлен. І яна падумала, што з усіх гукаў, якія можа прыняць гэты радыёволат, ёй патрэбен толькі адзін голас. Адзіны!

Прафесар Шылаў вельмі здзівіўся і ў той жа час узрадаваўся, калі даведаўся, што да яго прыехала Вілена Ланская.

«Што б гэта значыла?»

Ветліва-пачцівы прафесар выйшаў з кабінета Вілене насустрач. Яна ўзнімалася па лесвіцы, глядзела сабе пад ногі і таму не адразу заўважыла яго.

«Ці перамянілася яна? — разглядаў Вілену прафесар.— Яна перажыла так многа. Але, між іншым, галоўнае — гэта яе трыумф як музыканта...»

— Я вельмі, вельмі рады бачыць вас у сябе,— прыгожым барытонам вітаў ён яе.

Вілена збянтэжылася і моўчкі падала руку. Ён пацалаваў яе пальцы. Потым, прапусціўшы наперад, паказаў на дзверы з прыгожай шыльдачкай, дзе быў пералік усіх яго вучоных званняў і пасад.

У кабінеце прафесара ўсё было рацыянальна. Мэбля стаяла рэспектабельная, прыгожая, хоць з выгляду і сціплая.

Канапа для наведвальнікаў была жорсткая, нібы напамінала, што тут не трэба засяджвацца, адбіраючы неацэнны час вучонага. Іменна гэта адчула Вілена, калі прысела.

Шылаў заняў зручнае крэсла насупраць, злёгку нахіліўшыся наперад.

— І так,— спытаў ён,— як вам спадабалася тут?
Пытанне было пустое і недарэчнае. Гэта адчуў і сам Шылаў, шматзначна дадаўшы:
— Мне хацелася пачуць ад вас, што вы вяртаецеся да музыкі... і да гімнастыкі...
Вілена добра зразумела яго. Збянтэжылася і сказала:
— Я ведаю незвычайную чуласць...
— Вы не памыліліся,— паспяшыў пацвердзіць Шылаў.
— ...чуласць вашых прыбораў,— закончыла Вілена.
Твар Шылава на якое імгненне выцягнуўся, але адразу ж на ім можна было чытаць усё тую самую дзяжурную пачцівасць.
— Я ведаю, што толькі пры дапамозе вашага незвычайнага радыётэлескопа падтрымліваецца двухбаковая сувязь з заралётам «Розум».
— Вы цудоўна інфармаваны,— сказаў Шылаў і адкінуўся на спінку крэсла.
— Я прыйшла прасіць вас,— Вілена ўзняла вочы і ўбачыла, як густыя бровы прафесара папаўзлі ўгару. І ўсё ж закончыла:— Мне трэба ўбачыць Уладлена.
Шылаў пракашляўся, каб не выдаваць сваё расчараванне.
Радыёабсерваторыя Шылава была тым адзіным месцам на Зямлі, дзе яшчэ падтрымлівалася двухбаковая сувязь з адляцеўшымі заранаўтамі. Сеансы наладжваліся штодзень. Віеў прыязджаў сюды, каб пабачыць сваіх выхаванцаў. Шылаў не аднойчы бачыў Ратава, і яму было прыемна ўсведамляць, што з кожным сеансам ён адлятаў усё далей і далей...
Шылаў раздумваў: адаслаць Вілену да Віева, які хутчэй за ўсё адмовіць ёй, або прадоўжыць гутарку тут?
— Я разумею ваша жаданне,— сказаў ён,— паважаю вашы адносіны да супруга і нават захапляюся вашым усведамленнем абавязку перад ім, але...
Вілена ўстрывожана глянула на яго.
— Можа быць у імя спакою заранаўтаў,— даверліва прадаўжаў Шылаў,— больш мэтазгодна перадаць што-небудзь Уладлену Раманавічу праз нас?
— Не! Я павінна сказаць яму сама. Гэта важна. Я абяцала. Ён не здолее быць спакойны і шчаслівы ў палёце, калі не будзе ведаць.
— Пра што? Калі гэта, вядома, не сакрэт.
— Не. Я павінна была б гаварыць пры ўсіх. Я хацела сказаць Уладлену ці будзе ў нас дзіця.
Шылаў скрывіўся, але тут жа ўзяў сябе ў рукі.
— Дарагая Вілена Юльеўна! Спадзяюся, вы разумееце, што для чалавека, які мае да вас сапраўды глыбокія пачуцці, не надта важна — чакаеце вы дзіця або не.
— Не, не! — запратэставала Вілена.— Яму гэта вельмі важна. Яго магла б сустрэць наша ўнучка... мая аднагодка...
— Магла б? — спытаў Шылаў, узнімаючы бровы.
Вілена замаркоцілася.
— Так, магла б, але... ніколі не сустрэне. У мяне не будзе дзіцяці.
Прафесар быў збянтэжаны такім шчырым прызнаннем. Можа ўсё-такі памагчы гэтай шалёнай, але чароўнай жанчыне? Час вылечвае і ад шалу. Дапамога заўсёды потым прыгадаецца. Шлюб жа з чалавекам, які, практычна, паляцеў назаўсёды, не можа быць сур'ёзнай перашкодай. Але і ўступкі павінны быць узаемныя.
— Я павінен спытаць дазволу ў Галоўнага канструктара, які адказвае за зоркавы рэйс. Я вельмі баюся, што ён палічыць непажаданым трывожыць заранаўтаў зямнымі турботамі.
— Ігнат Сямёнавіч! Хіба ў вас няма сэрца?
— Ці вам пра гэта пытацца? Я так хацеў бы пайсці на ваш канцэрт... і ў вашу гімнастычную залу.
— Я абяцаю вам. Вы прыйдзеце, калі толькі...
Вілена не сказала, аднак, калі здолее выканаць абяцанне.
Шылаў згадзіўся памагчы ёй.
— Па-чалавечы, сэрцам сваім, я разумею вас,— сказаў ён.— Я зраблю ўсё для вас, наладжу вам тэлеспатканне з Уладленам Раманавічам.
— Я буду так удзячна вам, Ігнат Сямёнавіч! Я і не думала ніколі, што вы такі харошы.
— Для вас, Вілена, я здольны і на большае, шмат на што большае,— важна сказаў Шылаў і глянуў на гадзіннік.— Сеанс двухбаковай сувязі з заралётам праз паўтары гадзіны. Мне не хацелася б, каб вы сумавалі, і таму аддаю сябе ў ваша распараджэнне.
— Не, не! — запратэставала Вілена.— Вы так занятыя. Я не маю права.
— Права? — падняў руку Шылаў.— Дзеля вас... Вы пакуль пагуляйце.
— Вунь там, за полем канюшыны, Уладлену прыйшла думка пра музыку нябесных сфер. Я схаджу туды.
— Як хочаце,— суха прамовіў Шылаў.
Вілена выйшла з дому і накіравалася па канюшыне пад лес.
Шылаў падаўся ў былую лабараторыю Ратава.
Косця Званцаў, які насіўся па пакоі, нібы галачка жывога срэбра, здзіўлены, спыніўся. Ён зусім не чакаў у такі час шэфа.
— Сігналы з «Антывілены» запаволеныя! — далажыў Косця.— Хочаце паслухаць? Наогул жа, з пункту гледжання Іагана Себасцяна Баха — бязглуздзіца. Можа, нават, дэкакафонія.
— Потым,— сказаў Шылаў.— Зараз вам трэба будзе наладзіць тэлевізійную сувязь з заралётам.
— Сёння надта цяжка гэта зрабіць.
— Трэба пайсці насустрач жаночай просьбе,— апошняе прагучала, як «жаночаму капрызу».— Жонка Уладлена Раманавіча просіць наладзіць ёй тэлеспатканне.
— Тады можна будзе! — ажывіўся Косця.— Яна цудоўная!
Увайшоў кібернетык Болеў. Сумны і заклапочаны. Новыя сігналы, прынятыя Косцем Званцавым па метаду Ратава, паставілі яго перад вельмі складанай задачай. З расшыфроўкай пакуль нічога не выходзіла.
Шылаў стомлена сеў на крэсла, якое яму падаў Косця.
— Цудоўная? — перапытаў Шылаў.
Косця і Болеў насцярожыліся.
— Вельмі цяжка зразумець жанчыну,— гаварыў далей Шылаў.— Калі, развітваючыся на Зямлі, яны звязалі сваё шчасце з чаканнем дзіцяці, дык...
— Ну і што ж? — не стрываў Болеў.
— Неяк дзіўна, што героя, які паляцеў у чужы свет, якому патрэбна так шмат сіл, увесь яго спакой, трэба ў дарозе параніць...
— Як параніць? — не вытрымаў цяпер і Косця.
— Навошта паведамляць, што дзіцяці не будзе, што яна застанецца няшчасная, пакінутая ім...
— Якая жорсткасць! — ускрыкнуў Болеў.

— Навошта ж тады тэлеспатканне! У нас проста нічога не выйдзе, і ўсё! — аб'явіў Косця, па-свойму зразумеўшы Шылава. Косцю, відаць, было няёмка адмовіць Вілене, і ён вырашыў ускласці ўсё на іх з Болевым.

— Не,— рашуча сказаў Шылаў.— Тэлеспатканне павінна адбыцца. Я даў слова.

Ён устаў і выйшаў, высока трымаючы сівую галаву.

— Ну? — пытаючыся, глянуў Косця на Ваню Болева.— Можа ты хоць гэта здолееш расшыфраваць? Сказана звычайнымі чалавечымі словамі. А што яны значаць?

— Здаецца, я адмоўлюся ад усяго! — ціха так, паныла адказаў Болеў.— Я перастаў разумець нават людзей, не тое што невядомых разумян.

У прызначаны час Вілена вярнулася з прагулкі. На твары — журба, але і выраз урачыстай рашучасці.

Шылаў павёў Вілену да Косці ў лабараторыю. Павітаўшыся з Косцем і Болевым, яна адразу адчула халадок, з якім сустрэлі яе. Насцеражылася, унутрана сабралася. Рашучая складка між броваў стала яшчэ больш прыкметная.

Шылаў быў ветлівы і паслужлівы. Ён падсунуў самае зручнае крэсла да экрана, на якім павінен быў узнікнуць адлюстровак кабіны заралёта.

— Сеанс будзе крыху незвычайны,— пачціва папярэдзіў прафесар Вілену, нахіліўшыся да яе.— Карабель адляцеў больш чым за мільярд кіламетраў, дасягнуў хуткасці вышэй за сем тысяч кіламетраў у секунду, якую нават не параўнаеш з адзінаццаццю кіламетрамі, што развівалі першыя касмічныя апараты. Электрамагнітныя хвалі ідуць да заралёта і вяртаюцца назад на працягу вельмі прыкметнага часу, і вам прыйдзецца даволі доўга чакаць рэакцыю на ваша з'яўленне і адказ на вашы словы.

— Як усё гэта дзіўна...— прашаптала Вілена.

Косця націскаў адну кнопку за другой.

— Яны пачалі ўжо сваю перадачу,— сказаў ён.

На экране задрыжалі палосы, пранесліся нейкія няўлоўныя адлюстроўкі, нарэшце мільганне спынілася, і Вілена ўбачыла, не асабліва выразна, кабіну кіравання заралёта, куды яна заходзіла з Уладленам. Сэрца зашчымела, калі Вілена ўбачыла не толькі пульты і цыферблаты, але і суровы, задумлівы твар камандзіра карабля Тучы.

Вілена радасна ўсміхнулася яму, але ён нават брывом не паварушыў. Глядзеў на Вілену, нібы ў пустэчу. Ёй стала няёмка.

Ваня Болеў заўважыў гэта і, нахіліўшыся, сказаў:

— Ён яшчэ не бачыць вас. Толькі праз сем мінут...

— Ага, разумею,— кіўнула Вілена, усмешкай дзякуючы Болеву. Потым весела гэтак, непасрэдна звярнулася да экрана: — Дзень добры, Пятро Іванавіч! Ці добра ляціць ваш корак, выскачыўшы з магнітнай бутэлькі? Але што гэта я!.. Вы ж даўно перасялі з піраміды на заралёт. Бачыце, я крыху памятаю з вашых тлумачэнняў. Як там у вас усе, мае сябры? Як мой Уладлен? Вы не паклічаце яго да экрана? Тут такія добрыя людзі, што яны дазволілі мне ўбачыцца з вамі ўсімі.

Косця і Шылаў, чакаючы адказу на словы Вілены, пачалі перадаваць службовую інфармацыю адносна курсу карабля, за якім сачыла Зямля.

Сем мінут Вілена бачыла на экране заклапочана абыякавы твар камандзіра карабля. І гэтыя мінуты здаліся ёй суткамі.

Але раптам Туча павесялеў, заўсміхаўся, нібы нават памаладзеў.



— Вось гэта сюрпрыз! — пачула Вілена хрыплаваты голас.— Даю сігнал «свістаць усіх наверх». Хлопцы зараз прымчацца. Сёння на «Розуме» сапраўднае свята.

Потым камандзір карабля павітаўся з Шылавым, з Косцем і разгарнуў перад сабой сшытак. Слухаючы лічбы, якія далятал да яго са спазненнем, Туча ківаў галавой.

А ў кабіне кіравання збіраліся заралётчыкі. Вілена пазнавала кожнага, кожнаму ківала, хоць ніхто з іх адразу не мог заўважыць яе знакаў.

Яна ўсміхалася ўсім.

Вось і Уладлен. Вілена схапілася мацней за крэсла.

— Уладлен! — ускрыкнула і замоўкла. Трэба было чакаць бясконца доўга, каб пачуць яе. Ён бачыў яе такой, якая была чатырыста дваццаць секунд назад. І зоркі ж мы бачым такімі, якімі былі яны тысячы, нават мільёны гадоў назад. Толькі цяпер з асаблівай сілай Вілена адчула ўладу Часу над усім, што вакол.

— Уладлен, любы! — загаварыла Вілена.— Даруйце вы, яго таварышы па палёту і мае сябры, даруйце, што я гавару не з усімі вамі. Але слухайце і вы. Вам здасца смешна, але я падлічыла... калі вы адлеціцё яшчэ далей і разгоніцеся да яшчэ большай хуткасці... тады кожны ўдар твайго, Уладлен, сэрца прыпадзе на адзін мой тыдзень... А вось маё сэрца будзе біцца некалькі тысяч разоў за адну тваю секунду. Я некалі баялася нават арыфметыкі, а цяпер раблю вылічэнні па формулах Эйнштэйна. Але як бы розна па часе не біліся нашы сэрцы, яны ўсё роўна будуць біцца суладна. Вось галоўнае, што я хацела табе сказаць... Але гэта не ўсё,— і яна заспяшалася, нібы магла гэтым пaскорыць палёт электрамагнітных хваль, пераадолець шалёную хуткасць святла.— Ведай, мой родны,— ты вернешся і цябе сустрэнуць... Ты ўбачыш мяне, якой бачыш цяпер... Але калі ты абнімеш сваю Вілену,— яе будуць зваць Віленай, і яна будзе твая... твая ўнучка... Ты будзеш абнімаць дачку нашага сына. А ён сам, наш сын, з сівізной на скронях, будзе стаяць сярод самых пажылых... Я ўсё гэта кажу, каб ты мог ляцець спакойна. Не трывожся за мяне. Я буду шчаслівая, выхоўваючы нашага сына. Усё будзе так, як мы хацелі. Ляці, родны, ляці!..

Косця і Болеў здзіўлена пераглянуліся. Шылаў сядзеў, апусціўшы галаву, нібы не хацеў ні з кім сустракацца позіркам.

— Можа я гавару надта доўга? — спахапілася Вілена і глянула на вучоных.

Шылаў падняў галаву і суха сказаў:

— Чакайце сем мінут. Будзе адказ. А цяпер развітайцеся. Сеанс канчаецца.

Вілена ўстала і падышла да самага экрана. Яна моўчкі глядзела перад сабой. Яе позірк павінен быў з хуткасцю святла прабіць прастору, дагнаць заралёт і сказаць Уладлену ўсё, што не перадасі ніякімі словамі.

Косця сказаў некалькі службовых фраз пра заканчэнне сеанса і выключыў перадатчык.

Цяпер трэба было чакаць. Сем бясконца доўгіх мінут! Але ўсе гэтыя сем мінут Вілена бачыла Уладлена. Ён стаяў, абняўшыся з Жэнем Умновым і Толем Кузняцовым. Туча адышоў ад экрана і схаваўся за спіны касманаўтаў. Потым раптам усе насцеражыліся. Відаць, слухалі Вілену. Нарэшце загаварыў Уладлен, але бязгучна.

І толькі праз нясцерпна доўгі час данёсся яго голас:

— Дзякуй табе, родная, за тое, што ты такая, як ты ёсць. Дзякуй

табе за тое, што ты зрабіла сёння маю любімую прычоску, і дзякуй табе за ўсё, што ты сказала. Можа і лягчэй ісці ў далёкую дарогу, не азіраючыся, але я шчаслівы, што табе не будзе самотна на Зямлі. Я трохі трывожуся за ўсіх нас, як нам будзе сярод новага пакалення. Можа пасмейвацца пачнуць з нас, старамодных продкаў. Але не пра гэта мая галоўная трывога. Гадуй нашага маленькага і расказвай яму казкі пра яго бацьку. Потым ён перакажа іх мне, старому. Бывай, родная.

Вілена плакала. Яна ведала, што яе слёз Уладлен не ўбачыць.

Ваня Болеў праводзіў Вілену да чыгункі і пасадзіў у вагон.

— Я ніколі не думаў, што і на адлегласці можна аставацца такой шчырай, высакароднай, прыгожай,— сказаў ён на развітанне.

— Вы — паэт, Ваня. Бывайце,— проста адказала Вілена і паехала.

Ваня Болеў ішоў да лабараторыі і па дарозе складаў ціхенька вершы.

## ГОРШ ЗА СМЕРЦЬ

У апошні час Шылаў зноў стаў бываць у Ланскіх. Сям'я Вілены ветліва сустракала яго, спадзеючыся, што прафесар разварушыць яе скамянеласць. Калі б ні прыходзіў Шылаў, ён цярпліва чакаў Вілену. А яна ўсё марудзіла, не выходзіла з свайго пакоя. Прафесар пускаўся ў размовы з Ганнай Андрэеўнай і Авеноль.

Авеноль кожную раніцу даставала з кантэйнера электрамагнітнай пошты букет чырвоных руж. Гэта — для Вілены. Але не ад Шылава, а ад кагосьці невядомага. Вілена потым даведалася, што прафесар не любіць чырвоныя ружы.

Вілену не цікавілі ніякія кветкі. Яна іх совала ў першую, што трапляла пад рукі, вазу. Да раяля не падыходзіла, спортам не займалася, ні з кім не сустракалася.

Ганна Андрэеўна не ведала, што і рабіць. Юлі Сяргеевіч разводзіў бездапаможна рукамі. Авеноль плакала, а бабуля хадзіла па кватэры з падцятымі губамі.

І раптам Вілена згадзілася з Шылавым пайсці... у тэатр!

Шылаў, вядома, меў сур'ёзныя намеры. Ён кахаў Вілену, як толькі можна кахаць у яго гады: спакойна, глыбока, свядома. Яго не бянтэжылі пачуцці да Уладлена, якімі раптам узгарэлася Вілена. Шылаў быў упэўнены, што гэта з часам пройдзе.

Вілена сама выбрала п'есу, але не сучасны спектакль, дзе з дапамогай стэрэаэкранаў дзеянне імкліва пераносілася з месца на месца, ствараючы спалучэнне ранейшага тэатра і самага новага кіно. Вілена пажадала глядзець Шэкспіра, яго неўміручую «Рамеа і Джульету».

Ганна Андрэеўна, шчаслівая, глядзела, як Вілена прыбіраецца ў тэатр. Авеноль завіхалася каля сястры, імкнучыся зрабіць яе небывала прыгожай.

З тэатра Вілена вярнулася адна. Ганна Андрэеўна мякка ўпікнула яе за тое, што не запрасіла Ігната Сямёнавіча зайсці павячэраць.

Бабуля ўлажыла Вілену спаць, як маленькую. Але тая ніяк не магла заснуць, усё думала пра Уладлена. Нікога на свеце ёй не трэба было, акрамя яго. Нібы ўвачавідкі бачыла яна дзве бярозкі ў срэбраным святле месяца...

Раніцай да яе ўбегла Авеноль і зноў прынесла букет, на гэты раз буйных чырвоных гваздзік. Да букета быў прыкладзен ліст з вершамі.

Вілена пакрывілася:

— Ідзі, Ноля. Я прачытаю сама.

Прабегла спачатку вачамі роўныя, размераныя радкі і ўздрыгнула.



Перачытала больш уважліва і адчула, як моцна затахкала сэрца:

Там вечен сон. Но смерть отступит
Пред тем, кого ведёт любовь.

Раптам нечакана смелая думка працяла Вілену: «Смерць адступіць... А час?»

Яна хуценька адзелася і здзівіла ўсіх, бо села за раяль. Зайграла.

Дзверы адчыніліся, зазірнула Ганна Андрэеўна і ціха, каб не перашкодзіць, села на першае, што было па дарозе, крэсла. Потым на пальчыках увайшла бабуля, за ёй Юлі Сяргеевіч. Авеноль стаяла ў дзвярах і трымала ў руках прысланыя Вілене вершы. Яе губы варушыліся, відаць было, што яна чытае ўголас.

Тое, што іграла Вілена, надрывала душу.

Па маршчакаватым твары бабулі цяклі слёзы. Ганне Андрэеўне гэта не падабалася, і яна глянула на бабулю асуджальным позіркам.

Скончыўшы іграць, Вілена ўстала з адчуваннем рашучасці. Яна прайшла ў свой пакой, каб апрануцца. Выйшла адтуль, як і раней, з выразам бясконцай тугі на твары.

Калі ішла да мастка, перакінутага праз праспект, усе азіраліся на яе. Вілена не магла ды і не хацела ўтойваць сваё гора.

Яна ступіла на рухомыя ступенькі мастка, і яны вынеслі яе наверх. Калі ішла па выгнутым дугой насціле, на якое імгненне спынілася ля парэнчаў, глянула ўніз на стракаты паток машын, што несліся па блакіце асфальту. Ураз падумала: ці магла б зрабіць так, як Джульета? Не!.. У яе свая дарога...

У Інстытуце жыцця, куды Вілена неўзабаве прыйшла, стары вучоны ўважліва выслухаў яе і задумаўся. Праз якую секунду сказаў:

— Ці хачу я такі, які ёсць, сустрэцца з маёй Мэры, якой яна была ў Сан-Францыска паўстагоддзя назад?

— Я ведала, што вы зразумееце мяне,— горача загаварыла Вілена.— Вы разумны, спагадлівы. І вы самі перажылі так шмат. Я не магу жыць без яго. Але я не хачу адысці з жыцця зусім. Хачу дачакацца яго, заснуць летаргічным сном.

— Летаргічным? — насцярожыўся вучоны.— А ці вядомы вам сумныя выпадкі летаргічнага сну?

І вучоны расказаў пра некаторыя з іх, не палохаючы Вілену, але шчыра.

— Тады...— Вілена гэтак жа рашуча настойвала на сваім.— Тады замарозьце мяне, каб я засталася такой, якая ёсць. Праз пяцьдзесят гадоў, калі заралёт вернецца, мяне ажывяць.

— Рызыкоўная, небяспечная думка,— сказаў вучоны.— Як мне вам адказаць?

Акадэмік устаў, як і тады, калі ўпершыню пачуў ад Вілены пра яе жаданне аддаць сябе інстытуту для доследаў. Ён прыгнуўся, твар адразу стаў змрачнейшы.

— Пяройдзем да навуковага абгрунтавання,— сказаў вучоны.— Жыццё— не казка. Пытанне пра пагружэнне чалавека ў анабіёз навукай яшчэ не вырашана.

— Але ж вы працуеце над ім. І вам патрэбен эксперымент,— не здавалася Вілена.— Рабіце са мной усё, што хочаце.

— Каханне заўсёды рабіла цуды, але цяпер... Цуд залежыць не толькі ад вашых пачуццяў.

— Ён залежыць ад вас,— з запалам пачала гаварыць Вілена.— Ад вашых ведаў, ад вашай апаратуры. Ад усяго, што там,— і яна паказала на дзверы, якія, думалася ёй, вядуць у лабараторыю.

Акадэмік усміхнуўся:

— Вы ў пэўнай ступені гаворыце слушна, але...

— Калі б я танула, вы падалі б мне руку?

Акадэмік не адказаў. Ён прайшоў да старога, нязграбнага пісьмовага стала і сеў за яго.

— Вось што...— сказаў ён, нібы на нешта адважыўся.— Зараз я вам штосьці пакажу.— І ён рашуча ўстаў.

Ён адчыніў унутраныя дзверы і прапусціў госцю наперад.

Яны ўвайшлі ў пакой, дзе сцены былі пафарбаваны ў чорны колер. Вілене стала крыху млосна.

Рудэнка правёў госцю ў наступны пакой, пафарбаваны пад колер сланавай косці. Уздоўж сцен цягнуліся срабрыстыя змеевікі. На нікеляваных падстаўках стаялі складаныя апараты з празрыстымі цыліндрамі. Можа гэта былі штучныя органы чалавека: сэрца, лёгкія, ныркі, печань?.. Але ўсё нагадвала больш хімічны цэх: кубы, празрыстыя трубкі, цыферблаты прыбораў. І ўсё гэта было падобна і на рубку зоралёта...

— Я пакажу вам крышталёвы куб,— паабяцаў акадэмік.

Яны выйшлі праз непрыкметныя бакавыя дзверы і пачалі, як у вежы замка, спускацца па вітой лесвіцы.

Вілена падумала, што Уладзімір Лаўрэнцевіч яшчэ даволі бадзёры. Але стары вучоны стаяў унізе і сутаргава глытаў паветра.

Убачыўшы, што Вілена ўстрывожылася, ён усміхнуўся:

— Матор здае... Раней казалі: нічога не парадзіш. А мне абяцаюць замяніць... Выходзіць, што і ў чалавека могуць быць, як у машыны, запасныя часткі...

Рудэнка цяжка дыхаў.

— Ліфт не рабілі сюды... рэдка калі апускаемся... Раз у год, а мо і два... Сем гадоў назад яе замарозілі.

— Каго? — здзівілася Вілена.

— Ладу.

— Значыць, я не першая?

— Лада — гэта мой любімы сабака.

— Ах, вось яно што!

— Гляньце, калі ласка!

Пад нізкім скляпеннем стаяў вялізны куб. Ён сапраўды здаваўся крышталёвым. Але гэта была празрыстая камера, запоўненая трубамі і прыборамі. Пасярод на срабрыстым пастаменце штосьці бялела. Угледзеўшыся, Вілена пераканалася, што гэта было цела сабакі. Лапы былі выцягнуты, вострая морда ўткнулася ў нейкі прыбор. Белая доўгая поўсць здавалася толькі што расчэсанай.

— Шатландская аўчарка,— прашаптала Вілена.— Якая прыгажуня! І не дыхае...

— Ладай усе захапляліся. Прыгожая, разумная...— з гонарам сказаў акадэмік,— адданая была нам з Марыяй Робертаўнай. Словамі не перакажаш... Сем гадоў два месяцы дзевяць дзён... Хацелі пачакаць яшчэ гады тры, але Віеў падганяе...

— Віеў? — здзівілася Вілена.— Чаму Віеў?

— А як жа!.. Галоўны канструктар зоралётаў... Не выключана, што пры далёкіх зоркавых рэйсах... да іншых галактык... касманаўтаў давядзецца пераводзіць у стан анабіёзу. Вось і пачынаем доследы...

— На сабаках? А калі на людзях? — неадступна пыталася Вілена.

— Думаем і на людзях.

— І першым паддоследным чалавекам хай буду я,— настойвала Вілена.



— Трэба падумаць, параіцца. Да заўтра!

Назаўтра Вілена, баючыся і хвалюючыся, спяшалася ў прызначаны час быць у Інстытуце жыцця.

— Як хораша, што вы прыйшлі,— сустрэла яе ў вестыбюлі лабарантка Наташа.

— Хай нават смерць адступіцца... — незразумела сказала Вілена.

Наташа пільна паглядзела на яе.

Акадэмік чакаў Вілену ў дзвярах зашклёнай веранды, што выходзіла ў сад.

— З Наташай вы ўжо знаёмы,— сказаў Уладзімір Лаўрэнцевіч.— Дадам толькі, што яна наша «мэдхен фюр алес», нашы вочы, вушы, рукі, наша маладосць...

Наташа збянтэжана апусціла вочы долу.

— А гэта — прашу любіць і шанаваць...— пачаў быў Уладзімір Лаўрэнцевіч, але ружавашчокі добры такі таўстун выйшаў з кабінета і апярэдзіў яго.

— Зноў сустрэліся! Не думаў я, што Уладзімір Лаўрэнцевіч мяне сёння выкліча. Даўно мы ў Інстытуце мозгу чакалі гэтага дня. Я вам усё пра аўтамабільнае паліва расказваў, а трэба было б, выходзіць, пра анабіёз... хоць бы прасцейшых арганізмаў. Дзвесце мільёнаў гадоў прасцейшыя ляжалі ў вечнай мерзлаце, а потым ажывалі.

— Дзвесце мільёнаў гадоў? Мне столькі не трэба,— сказала Вілена.

— Вам? А навошта гэта вам? — здзівіўся таўстун.

— Сяргей Фёдаравіч,— умяшаўся акадэмік.— Я не паспеў... Доследа будзе прадоўжан. Вілена Юльеўна мужна прапанавала свае паслугі. І калі доследа з Ладай удасца, дык... усыпім Вілену Юльеўну. На пяцьдзесят гадоў...

Добры твар таўстуна раптам пасуровеў, потым стаў маркотны. Праўда, ён ведаў пра Віленіна гора і разумеў гэты яе крок. Але...

Наташа глядзела на Вілену шырока расплюшчанымі вачамі:

— Усыпляць... такую? Як гэта?

Акадэмік правёў усіх праз чорны аперацыйны пакой у лабараторыю «з сланавай косці», як у думках называла яе Вілена.

Пасярод пакоя стаяў крышталёвы куб з белай Ладай на пастаменце. Уночы яго перанеслі сюды.

Рудэнка ўсадзіў усіх ля празрыстага куба.

— Рэжым падагрэву быў зададзены аўтаматам яшчэ ўвечары,— сказаў ён.

Лебедзеў (так звалі таўстуна) глянуў на адзін з аўтаматаў і заўважыў:

— Бадай што наша Лада са шкляной ператварылася ў каменную...

— Хіба і я буду шкляная?

— Хрупасткімі, як шкло, становяцца мышцы пры глыбокім замарожванні,— растлумачыў Лебедзеў.— За ноч яны ўжо адышлі. Самая небяспека тоіцца ў пратаплазме клетак. У пратаплазме шмат вады. А вада, як вядома, мае непрыемную ўласцівасць расшырацца пры замярзанні. Вось і небяспечна, каб ўнутрыклетачны лёд не разбурыў нейроны мозгу.

— У нас ужо былі ўдачныя доследы,— перапыніў акадэмік.— Мы ўсыплялі шмат дробных жывёл. А пасля — Ладу...

— Па тых папярэдніх доследах,— запярэчыў Лебедзеў,— нельга было меркаваць пра захаванне свядомасці ў паддоследных жывёл. Шкада, што вы замарозілі не малпу...

— Думаеце, малпа, на самой справе, бліжэй да чалавека, чым са-

бака? — крыху з жартам спытаў акадэмік.— А я вось часам сумняваюся. Ці не надта эгаістычны чалавек, абвясціўшы толькі сябе аднаго разумным на Зямлі? А ўсе праявы разумнага ў жывёл фанабэрліва аднёс за кошт інстынкту. Перш чым усыпіць Ладу, я ставіў на ёй шмат доследаў. Цяжка знайсці больш разумную істоту. Малпа пераймае чалавека, дражніць яго. Сабака ж, нават звычайны, зусім разумна выконвае свае абавязкі. Не кажучы ўжо аб адданасці, любві да гаспадара, самаадданасці, калі сабака лёгка ахвяруе сабой. Лада навяла мяне на шмат якія думкі. У мяне быў створан прыбор, з дапамогай якога Лада гаварыла...

— Гаварыла? — здзівілася Вілена.

— Сабакі не размаўляюць не таму, што ў іх не стае на гэта розуму, а толькі таму, што язык у іх не прыстасаваны для гэтага. Мне заўсёды хацелася зрабіць нейкую пластычную аперацыю языка ў сабакі. Ды рукі сталі дрыжаць.

— Няўжо Лада размаўляла? Што ж яна... сказала вам? — спытала Вілена, гледзячы на Рудэнку, як на чараўніка.

— Ці даводзілася вам зазіраць у вочы сабаку, калі ён пільна глядзіць на вас? Хіба патрэбны словы, каб перадаць яго пачуцці? Я ўсё яшчэ баюся сказаць «думкі», але калі-небудзь мы перастанем баяцца і гэтага. Абвясцілі ж дэльфінаў другой расай, якая думае.

Кажучы гэта, стары вучоны ўстаў, падышоў да адной з празрыстых шафаў і вярнуўся з невялікім шлемам, ад якога цягнуліся завітушкі провада ў вялізную скрынку.

— Вось,— сказаў ён.— Біятокі мозгу суправаджаюць загад мышцам языка. Яны і ўздзейнічаюць у гэтым апараце на крыніцы гукаў, якія вымаўляе нармальны язык чалавека. На жаль, шлем разлічаны на чэрап Лады і я не здолею надзець яго, каб пагаварыць з вамі, не разяўляючы рот.

— Я заўсёды захапляўся гэтымі вашымі доследамі,— сказаў прафесар Лебедзеў.

— Хто захапляўся, а хто абураўся, нападаў на вашага пакорлівага служку, які замахнуўся на догмы. Няма нічога больш небяспечнага, чым догмы ў навуцы. Яны вядуць да застою думкі, шаблону, кансерватызму...

— Што ж вам гаварыла Лада? — зноў спытала Вілена.

— Лада не гаварыла больш, што магла перадаць сваім позіркам. Я проста навучыў яе карыстацца прыборам, як языком. Раней сказалі б, што я выдрэсіраваў яе. Але я слухаў вымаўленыя прыборам словы, што выказвалі сабачыя пачуцці. Сабака пытаў у мяне, прасіў, як гэта ўмеў рабіць сабака, але... з дапамогай слоў, а не позірку ці гаўкання.

— Як вы павінны былі любіць Ладу! — усклікнула Вілена.

— А мы і любілі. Мэры асабліва падабалася размаўляць з ёй. Ды і Лада. Яна сама падбягала да прыбора, які стаяў у маім кабінеце, і, гаўкаючы, патрабавала, каб на яе надзелі шлем.

— Калі гэтая яе здольнасць захавалася, то для мяне будзе вялікая цікавасць,— заўважыў прафесар Лебедзеў.

— Усё роўна страшна,— сказала Наташа.

— А мне вельмі хочацца пагаварыць з ёй, калі яна прачнецца,— выказала сваё жаданне Вілена.

— Гэта будзе часткай нашага эксперыменту,— заўважыў Уладзімір Лаўрэнцевіч.

— Тэмпература паднялася,— заявіла Наташа.— Трэба мяняць атмасферу ў камеры.



— Вось яны, нашыя вочы! Наша памяць! — засмяяўся акадэмік і дадаў.— У крышталёвым кубе быў нейтральны газ — аргон.

— Даю азот...

— Рабіце, Наташачка, усё па інструкцыі. Кісларод дабаўляйце вельмі асцярожна.

— Дзвесце семдзесят дзевяць градусаў! — аб'явіла Наташа.

— Гэта па Кальвіну, ад абсалютнага нуля,— растлумачыў Рудэнка.

— Як холадна! — зжахнулася Вілена.

— Я б не здолела,— прызналася Наташа.

— Вы проста не ведаеце, дзеля чаго гэта,— шапнула ёй Вілена.— І вы адважыліся б, калі б кахалі.

Наташа спалохана глянула на яе.

Цяпер усе маўчалі, сочачы за стрэлкамі прыбораў. Пакутліва, марудна ішоў час.

— Тэмпература набліжаецца да нормы,— з палёгкай сказаў Лебедзеў і выцер хустачкай твар і падбародак.

— Атмасфера нармальная,— далажыла Наташа.

— Ну што ж... прыступім,— уздыхнуў Рудэнка.— Прыйдзецца мне пад старасць быць барадатым прынцам. Зараз мы разбудзім нашу белую прыгажуню электрычным пацалункам у сэрца. Дадзім імпульс, каб яно пачало працаваць. Электрод уведзен яшчэ да ўсыплення.

Рудэнка падышоў да пульта.

Вілена адчула, што і ёй кальнула ў грудзі, нібы электрод быў уведзен у яе сэрца. Яна ўбачыла, як уздрыганулася Лада, як затузаліся лапы, як расплюшчыліся вочы.

— Глядзіце, глядзіце! Яна расплюшчыла вочы! Яна бачыць!

— Вось так і вы ўбачыце...— упэўнена заявіў Рудэнка.

— Позірк мужны,— заўважае Лебедзеў.

— Пульс пачашчаецца,— дакладвае Наташа.— Дыханне дваццаць.

— Жыве, жыве! — сама не свая ад шчасця ўсклікае Вілена.— Я нібы сама прачынаюся...

— Але, Лада жывая, жывая! — радавалася цяпер і Наташа.— Як я радая за вас, Уладзімір Лаўрэнцевіч! І за вас, Вілена Юльеўна. Толькі...— і яна запынілася.

— Жывая! Цяпер трэба вызваліць яе зусім ад рамянёў,— гаворыць Рудэнка, ідучы да празрыстых дзвярэй камеры.— Прызнацца вам, баюся я першага пытання сабакі,— ён глянуў на шлем, які трымаў у руках.— Спытае ж Лада ў мяне перш за ўсё пра Мэры...

Наташа адчыніла дзверы ў крышталёвы куб, і Рудэнка ўвайшоў туды. Было добра відаць, як стары падышоў да пастамента, як пачаў адшпільваць рамяні, адключаць правады вымяральных прыбораў, рыхтуючыся надзець шлем на галаву сабакі.

Прафесар Лебедзеў здымаў усё, што адбывалася ў крышталёвым кубе, кінакамерай.

Вызвалены ад рамянёў, сабака ўзняўся на пастаменце і пацягнуўся на лапах, як пасля доўгага сну, пазяхнуў.

Вілена пільна і спачувальна глядзела на кожны рух Лады. Сабака азірнуўся на акадэміка, што цягнуўся да яго з шлемам у руках, і зарычаў. Уладзімір Лаўрэнцевіч хацеў пагладзіць яго, але сабака саскочыў з пастамента і адбегся. Стары пайшоў следам, ласкава прыгаворваючы:

— Лада, што ты, Ладачка мая! Ідзі сюды, харошая! Ідзі!

Сабака ашчэрыўся.



Акадэмік храбра падышоў да яго, і тут сабака рвануў Рудэнку за руку. Ён нават выпусціў шлем, каб схапіцца за ўкушанае месца.

— Назад! — крыкнуў прафесар Лебедзеў, кідаючыся ў празрыстую камеру.— Тубо!.. Уладзімір Лаўрэнцевіч, дарагі, хутчэй выходзьце... Вельмі блага, што Лада вас не пазнала.

— Як гэта не пазнала? — прамармытаў акадэмік, прадаўжаючы трымацца за руку.— Лада, што ты! Ладачка мая!..

Сабака рычаў.

— У вас на руцэ кроў! — сказаў Лебедзеў, загароджваючы акадэміка сваім целам.

— Які жах,— прастагнала Вілена.

— Зараз жа аптэчку! — камандаваў Лебедзеў.— Наташа, рыхтуйце перавязку! Выходзьце, Уладзімір Лаўрэнцевіч!

Рудэнка выйшаў, а Лебедзеў, штурхаючы нагой ашалелага сабаку, спрабаваў выбрацца з камеры.

Сабака лютаваў і тузаў Лебедзева за чаравік.

Нарэшце Лебедзеў вываліўся з камеры, і дзверы захлопнуліся за ім. Ён цяжка дыхаў.

Наташа перавязвала акадэміку пакусаную руку.

— Уколаў супраць шаленства можна не рабіць,— збянтэжана гаварыў Рудэнка.— Аналізы яе арганізма нам вядомы да драбніц. Вірусаў шаленства, безумоўна, няма. Лада проста не пазнала мяне...

— Не пазнала! — з жахам крыкнула Вілена.— Як гэта можна? Не пазнаць самага блізкага, самага любімага чалавека?

— На жаль, гэта сімптомы неабарачальных працэсаў, якія адбыліся ў мозгу. Ажыла ўжо іншая істота, чым заснула...— сказаў прафесар Лебедзеў.

— Але гэта.. гэта,— сама не свая ад хвалявання, гаварыла Вілена.— Ажыць і не пазнаць... гэта — горш за смерць...

— Горш за смерць,— пацвердзіў акадэмік.

На падлозе крышталёвага куба ляжаў шлем, да якога цягнуліся правады. Побач сядзеў сабака і, шчэрачы зубы, рычаў.

## МАЦНЕЙ ЗА ЧАС

Акадэмік Рудэнка з забінтаванай рукой сумна звесіў галаву над пісьмовым сталом. Прафесар Лебедзеў мерыў важкімі крокамі пакой. Наташа і Вілена, баязліва сцішыўшыся, сядзелі побач.

— Уладзімір Лаўрэнцевіч, я вымушан настойваць...— пачаў быў Лебедзеў выкладаць свой пункт гледжання.— Я разумею вашу прыхільнасць да сабакі, але... Трэба быць да яго добрым і цяпер. Ён перастаў быць сам сабой. Параліч цэнтральнай нервовай сістэмы прагрэсіруе... Яго жыццё — гэта суцэльныя пакуты.

— Усё разумею, усё,— уздыхнуў стары.— Проста шкадую Марыю Робертаўну. Яна стаіць, як жывая, побач з Ладай. Вы ўжо даруйце, не звяртайце на мяне ўвагі...

— Бедная Лада...— прашаптала Наташа так, што толькі Вілена магла яе чуць.— Такая прыгажуня! Я ж думала, што будзе жыць...

— А я...— пачала была Вілена, але адразу змоўкла, апусціўшы галаў.

— Што ж рабіць...— зноў уздыхнуў акадэмік.— Абавязак урача аблегчыць пакуты, абавязак эксперыментатара не выклікаць іх... Прысуд вынесен. Што будзем рабіць? Укол?

— Не, што вы!—замахаў рукамі Лебедзеў.— Сабака пакусае кожнага, хто наблізіцца да яго. У вас жа ёсць выпраменьванне, якое пагружае ў сон...

— Ужо непрабудны...— закончыў Рудэнка.
— Што ж рабіць? — развёў рукамі Лебедзеў.
— Значыць, дослед не завершан, не ўдаўся,— сцвердзіла ці спытала Вілена.
Таўстун спыніўся перад ёю. Яго добры твар быў сумны.
— Вы самі прысутнічалі пры ўсім... і, здаецца, нават сказалі, што гэта горш за смерць...
— Так,— згадзілася Вілена і яшчэ ніжэй апусціла галаў.
— Вядома,— узяла яе за руку Наташа.— Заснуць дзеля яго, каб, прачнуўшыся, не пазнаць... Вядома, гэта горш за смерць.
Вілена ў адказ паціснула дзяўчыне руку.
— Наташачка, родная,— звярнуўся да лабаранткі акадэмік.— Як ні шкада, але прыйдзецца вам паставіць у нашым доследзе апошнюю кропку.
— Я... я не здолею...— пралепятала дзяўчына.
— І я б не здолела,— сказала Вілена.
— Ад вучонага патрабуюць быць мужным,— строга сказаў Рудэнка.— А вы ж хочаце стаць вучоным.
— Добра. Я ўсё зраблю,— сказала Наташа і ўстала.
— І панізьце тэмпературу ў крышталёвым кубе,— распарадзіўся стары.
Наташа выйшла.
— Ну, а заўтра...— сказаў акадэмік.— Заўтра гадавіна смерці Марыі Робертаўны. Заўтра я папрашу, хто пажадае, памагчы мне закапаць нашу бедную Ладу вось тут, перад вокнамі майго кабінета. Лічыце гэта дзівацтвам старога...
— Калі вы дазволіце...— адгукнуўся прафесар Лебедзеў.
— А мне? — спытала Вілена.
— Я буду толькі ўдзячны без меры,— адказаў Рудэнка.
...І назаўтра ішла Вілена ў Інстытут жыцця, ішла цяпер ужо без аніякіх надзей, ішла, каб падтрымаць старога вучонага ў яго горы. Вілена разумела, што азначае для яго страта Лады і правал эксперыменту.
На гэты раз акадэмік сустрэў яе ў садзе.
— Вось сюды пройдзем. Гэта мае вокны. А вось і бярозка, якую мы з Марыяй Робертаўнай любілі...
Каля бярозы стаялі дзве рыдлёўкі.
Вілена пільна паглядзела на старога і адчула да яго спагаду, удзячнасць і спачуванне.
Стары пачаў капаць. Вілена ўзялася памагаць яму і ўсё думала пра сябе.
Падышоў прафесар Лебедзеў, выхапіў з рук Уладзіміра Лаўрэнцевіча рыдлёўку.
— Ды што вы, дружа мой — пратэставаў стары.— Я таму і бадзёры яшчэ, што заўсёды ў зямлі корпаюся. Кветкі — мая слабасць... А «ігрушу-рудэнку» сам вывеў..
— Але ж у вас задышка,— не сунімаўся Лебедзеў
— Не большая, чым у вас,— адказаў акадэмік і ўсім сваім кволым целам наваліўся на рыдлёўку, якую адабраў у прафесара.
Яму неўзабаве выкапалі. Акадэмік цяжка дыхаў. Прафесар Лебедзеў выціраў з твару пот хустачкай. А Вілена, сумная і старанная, капала, каб заглушыць свае не надта вясёлыя думкі. Але яны ўсё ж не адступаліся.
— Цяпер прашу вас, голубе, прынесці яе. Наташа чакае вас там,— папрасіў акадэмік Лебедзева.



Вілена абаперлася на рыдлёўку і пачала чакаць. Якая злая іронія! Ёй прыйшлося самой быць магільшчыцай уласных надзей...
З-за вугла будынка паказаліся прафесар і Наташа. Яны неслі на маленькіх насілках загорнутую ў прасціну Ладу. Так здалося Вілене. Але так выглядала белая поўсць Лады. Скачанелая, як і тады, калі ўпершыню ўбачыла яе Вілена, Лада мела прыгожы выгляд.
Пахавалі. Засыпалі яму па чарзе.
— Шкада, бясконца шкада бедную Ладу...— гаварыў Рудэнка, перадаючы рыдлёўку Лебедзеву.— Я, прызнацца, спадзяваўся, што мы яшчэ з ёй пажывём... пагутарым ля каміна...
— А і праўда, яна ж гаварыла! — успомніла Вілена.
— І мне вельмі шкада,— сказала Наташа.— Сваімі рукамі...
— А я... я радая за яе,— нечакана сказала Вілена.— Хіба варта жыць, каб быць мёртвай... чужой гэтаму любаму свету.
Вілена, вядома, выказвала ўголас свае думкі, што гнялі яе апошні час.
— На жаль, мы яшчэ не ўладарым над прыродай,— сказаў акадэмік, кідаючы апошнюю рыдлёўку зямлі.
— Але ж вы не адступіцеся? Будзеце прадаўжаць доследы? — спытала яго Вілена.
— Будзем. Абавязкова.
— Значыць, я магу спадзявацца?..
Акадэмік адставіў рыдлёўку і сурова глянуў на Вілену.
— Галубка мая! У навуцы ёсць законы... Пасля няўдачы з Ладай я мог бы ўсыпіць хіба сябе. Але вас... Гэта ўсё роўна, што тут закапаць...
— Можа так было б і лепш...— ледзь чутна сказала Вілена,— чым закапаць усе надзеі...— дадала яна.
Стары пачуў. Сур'ёзным і лагодным тонам ён сказаў:
— Дарагая Вілена. Вы мне адразу спадабаліся. Хачу гаварыць з вамі, як з унучкай. Ніколі не ўзыдзе сонца з захаду, не паднімецца Лада з гэтай ямы... І мне не стаць юнаком, як доктару Фаусту... Няма ў свеце ні фаустаў, ні мефістофеляў... Трэба пагадзіцца з лёсам, быць шчаслівай, радаваць сваёй музыкай мільёны людзей... У гэтым — жыццё.
— Я ніколі не здолею больш іграць,— сказала Вілена і раптам пачула, што вецер даносіць гукі радыё. Яна пазнала запіс свайго выступлення на конкурсе. Уладлен назваў тады канцэрт, які яна выконвала, «Канцэртам жыцця». А хіба для яе цяпер ёсць жыццё?!
З-за веранды выйшаў каржакаваты Віеў.
— Прашу прабачэння. Не адразу знайшоў вас.
— Заслона ўжо апушчана,— тужліва аб'явіў Рудэнка.
— Я ведаю,— загаварыў Віеў.
— Знаёмцеся... Вілена Юльеўна...
— Ведаю, мы знаёмы...
— Гэта прафесар Лебедзеў з Інстытута мозгу і мая памочніца Наташа.
— Вельмі рады. Не ведаю, як вас, а мяне заўсёды вельмі цікавіць не тое, што ўжо зроблена, а тое, што трэба зрабіць. Вось пра гэта і хацелася мне пагутарыць з вамі, Уладзімір Лаўрэнцевіч.
— Што трэба зрабіць? — паўтарыў акадэмік словы Віева, каб сабрацца з думкамі.— Вось Вілена Юльеўна прапаноўвала прадоўжыць доследы на ёй.
— Вы?! — здзівіўся Віеў.
— Хацела дачакацца вашага заралёта,— адказала Вілена.

— Вось вы якая!..
— Ведаю, што і вас, як і яе, цікавіць адно — анабіёз, калі ж, нарэшце, у сон будзем пагружаць людзей...— гаварыў Рудэнка.
— Так, вельмі нават цікавіць...— пацвердзіў Віеў.— На чарзе — другія галактыкі.
— Пакуль што,— развёў рукамі акадэмік,— прыходзіцца пераконвацца у тым, што няма нічога мацнейшага за час!..
Вілена глядзела на старога вучонага і ўсё спрабавала прыгадаць апошнія радкі верша, які атрымала з чырвонай гваздзікай. Там неяк было сказана пра каханне і, здаецца, пра час...
— А шкада... Хто ж адмовіцца перамагчы час, каб убачыць будучыню? — заўважыў Віеў, сур'ёзна гледзячы на акадэміка.
«Перамагчы час? — у думках паўтарала Вілена.— Але як жа гэта канчаўся верш? Што можа быць за час мацней? Каханне? Вядома, так!..»
— Іван Сцяпанавіч,— раптам падышла яна да Віева.— Дазвольце запытаць? Я разумею, што вы тут па важнай справе.— Яны адышліся ў бок.— Вы добры, я гэта ведаю. Вы таму і прыйшлі сюды, каб падтрымаць Уладзіміра Лаўрэнцевіча.
— Які ж я добры?.. Хіба вы забыліся пра ваша вяселле ў заралёце і пра амерыканца Джэксана?
— Не, не спрачайцеся. Але я хацела ў вас запытаць... Разумееце, мне прыгадаліся вершы...
— Вершы?
— Так.

И даже время пусть отступит,<br>Когда на всё идёт Любовь!

— Добра.
— Вы разумееце, я гатова на ўсё, на ўсё!.. Але мне трэба спачатку ведаць. Скажыце, той, «мой» заралёт, ну, у якім я была... ён паляціць куды-небудзь?..
— Ужо рыхтуем чарговы палёт. Знойдзена яшчэ адна зоркавая цэль, праўда, у зусім процілеглым кірунку, чым першая.
— Значыць, паляціць зусім не туды, куды накіраваўся «Розум». Ну, а калі вернецца?.. Я надта хачу зразумець тэорыю адноснасці...
— Гэта ўжо зашмат...
— Але я хачу праверыць сябе. Заралётчыкі першага і другога рэйсаў, калі вернуцца на Зямлю, будуць аднагодкамі?
— Так, вы робіце поспехі. Рады за вас!
— Яны сустрэнуцца тут, на Зямлі?..
— Так, нібы рассталіся толькі на шэсць з палавінай гадоў. Новы заралёт мы адправім толькі праз паўтара года, а дальнасць рэйса прыкладна тая ж...
— Шэсць з палавінай гадоў!.. Але гэта вельмі доўга!.. Мне будзе за трыццаць...
— Вядома, і даволі шмат за трыццаць...— усміхнуўся Віеў.
— Не, каб я ляцела...
— Вы? Ляцелі? — здзівіўся Віеў.
— А калі б я добра папрасіла вас, Іван Сцяпанавіч? Няўжо так нельга ўзяць мяне ў палёт на заралёце, на «маім»?
— Родная мая... Вілена,— ласкава сказаў Віеў.— Мне так не хочацца быць жорсткім. Калісьці вам Туча тлумачыў пра кожны лішні кілаграм на міжзоркавым караблі. На жаль, пакуль у зоркавыя рэйсы пасажыраў мы не можам браць...



— А калі не пасажыркай?
— Але і музыканты не патрэбны!.. Вось калі б вы былі матэматыкам, як ваш бацька, астранавігатарам ці інжынерам па фатоніцы...
— Паўтара года... Хіба гэта мала, каб...
— Каб стаць карысный для палёту...
— Каб стаць неабходнай...
— Неабходнай? Вось як? Дарагая Вілена... бадай, лягчэй горы зрушыць, чым...
— Там сказана: «Когда на всё идёт Любовь». Вы проста не ведаеце, на што здольна жанчына...
Рудэнка ўжо даўно быў побач і слухаў гутарку Вілены і Віева:
— Эх, доктар, доктар Фауст!.. Што твой нікчэмны д'ябал, які вяртаў юнацтва, у параўнанні з жанчынай!
— Якая кахае...— дадала Вілена.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## КАХАННЕ

Ганна Андрэеўна моцна занядужала, калі даведалася пра рашэнне Вілены стаць астранаўтам, каб паляцець з чарговым заралётам. Урачы аглядалі хворую і, заклапочаныя, пакідалі дом. Прыязджалі лабаранты і медыцынскія сёстры з электракардыёграфамі, кровеаналізатарамі і рознымі іншымі прыборамі. Вілена разам з імі заходзіла да маці і глядзела, як скакалі на матавым экранчыку кардыёграфа зубцы, што адзначалі біццё матчынага сэрца. Яна павінна была б думаць пра гэтае хворае сэрца, а ўспамінала голас зорак, які вось гэтак некалі назіраў на асцылографе яе Уладлен... І ў яе не ставала сіл змяніць, што яна дзеля маці адмовіцца ад вар'яцкага, як тая называла, рашэння рыхтавацца да экзаменаў у зоркавы экіпаж. Вілена мела ў сваім распараджэнні толькі паўтара года, каб пазнаць усё, што касманаўты вывучаюць за пяцьшэсць гадоў. Але на гэта былі ўсе яе спадзяванні...
Юлі Сяргеевіч прывозіў і адвозіў урачоў. З Віленай пра яе намер ён не гаварыў. Бабуля хадзіла з падцятымі губамі і моўчкі рабіла ўсё, што трэба было ў доме. Авеноль з заплаканымі вачамі ўмольна глядзела на сястру, а тая не знаходзіла сабе месца.
З заняткаў у Вілены пакуль нічога не выходзіла. Яна не магла прымусіць сябе засяродзіцца, глядзела ў кнігі, нічога ў іх не разумеючы. Нават школьную матэматыку і тую ўяўляла як праз туман.
Ля ложка хворай па чарзе дзяжурылі бабуля і Авеноль, якую адпусцілі са школы. У Ганны Андрэеўны было толькі адно жаданне, каб Вілена нікуды не ляцела, каб заставалася з ёй...
Як толькі нарадзілася Вілена, маці ўся аддалася ёй. Яна выношвала мару, што гэта маленькая істота дасягне ўсяго таго, чаго не давялося дасягнуць ёй самой. А Ганна Андрэеўна калісьці марыла стаць артысткай, як і яе маці, Соф'я Мікалаеўна. Тэатр з дзіцячых гадоў стаў для Ані родным домам. Але, на жаль, у яе не выявіўся сцэнічны талент. Яна доўга не хацела гэта зразумець і не кідала тэатр. І толькі тое, што Соф'я Мікалаеўна пакінула сцэну ў росквіце сваёй славы, канчаткова вырашыла ўсё.

Аня зразумела, што ад мастацтва нельга браць — мастацтву трэба аддаваць, аддаваць усё, што ў цябе ёсць. Аня паступіла ў педагагічны інстытут. Яна неўзабаве пакахала чалавека, які ацаніў гэты яе крок. Гэта быў малады здольны матэматык Юлі Ланской. Яны пажаніліся, і ў іх нарадзілася дачка Вілена. А калі ў маленькай яшчэ дачушкі праявіліся музычныя здольнасці, маці зноў пачала марыць пра артыстычную славу, на гэты раз — дачкі.

Ганна Андрэеўна ганарылася, што ў яе дачкі расцвітаў сапраўдны талент. Вядома, што Вілена не дасягнула б сваіх перамог, каб не энергія і старанні маці. Гадзінамі праседжвала яна разам з дачкой ля раяля. Не блага сама іграючы, яна была яе педагогам, які ўмеў натхняць будучую артыстку.

І вось цяпер, калі прыйшла ўзнагарода за ўсе турботы, Вілена кідае ўсё: і музыку, і маці, і людзей, што яе прызналі...

Кардыяграмы станавіліся ўсё больш трывожныя...

Трывожны быў і выгляд Вілены. Яна схуднела, асунулася, вочы ўваліліся.

Бабуля глядзела на яе і ўздыхала. Яна разумела, як можна вярнуць Вілене сілы для жыцця. І парашыла ўмяшацца. Яна прыйшла да хворай дачкі.

Спачатку яны гаварылі пра рознае — сукенку для Авенолі, не школьныя адзнакі, прапушчаныя ўрокі...

— Яна яшчэ нагоніць,— сказала старая.— А Вілена...

— Не любіць яна мяне! — неяк надта жорстка вымавіла хворая.

— Не любіць? Затое ты яе любіш... І як бескарысліва! Сябе ты ў ёй любіш, вось каго! — раздражнёна сказала бабуля.

— Сябе?

— Так, так... Сябе, якой хацела стаць.

— Ды што ты, мама! — слаба запратэставала Ганна Андрэеўна.

— Не магу я глядзець на вас абедзвюх... Абедзве марнееце... І абедзве з-за любві... Любоў эгаістычная... І матчына, і жаночая. Але, ведай, саступае заўсёды маці. Такі закон жыцця. Дачка ідзе за абраннікам сэрца, ідзе ад маці... Заўсёды так было і пры бабулях і пры фараонах...

— Але ж не да зорак?..

— Іншы час — іншыя песні, іншыя слёзы... А ўрэшце, слёзы тыя ж. Мяняюцца прычыны. Не вайна, не чужая сям'я, дык зоркавы рэйс...

Хворая ўздыхнула, а бабуля гаварыла далей:

— А калі б у цябе была адна надзея дагнаць па часе Вілену? Хіба ты не адважылася б на ўсё тое, на што яна ідзе?

— Не ведаю... можа і...

— Дык зразумей яе, як маці... Яе жыццё — у каханні, а каханне— у надзеі... Яна б'ецца цяпер, што аб сцяну з бетону... А ты ж умела некалі ёй памагаць, калі гэта супадала з тваімі задумамі.

— Памагаць Вілене рыхтавацца да экзаменаў? Каб ёй усё-такі паляцець? Гэта жахліва!..

— Ты жанчына, ты маці, ты педагог. Задумайся над тым, што да экзаменаў засталося менш за паўтара года. Ты толькі памажы ёйжыць з яе надзеяй, а там...

Ганна Андрэеўна ажывілася. Відаць было, што словы старой глыбока кранулі яе.

Яна паклікала да сябе Вілену, расцалавала і сказала, што паможа ёй, чым толькі здолее. Вілена не верыла вушам сваім, не пазнавала маці. Яна ўкленчыла і зарыдала, уткнуўшыся тварам у коўдру.



Маці гладзіла дачку па валасах і таксама плакала. Гэтыя слёзы зблізілі іх, нарэшце, і кожную вярнулі да жыцця.

Ганна Андрэеўна адмовілася ад рэжыму, які быў прадпісаны ўрачамі, устала.

Цяпер Вілена магла засесці, як належыць, за кнігі. І маці атуліла яе такімі клопатамі, нібы яна рыхтавала канцэртную праграму.




Вілене ўсё цяпер здавалася магчымым. Але гэта толькі так здавалася. Яна праседжвала гадзіны над кнігамі, абшчаперыўшы рукамі галаву, і адчувала, што нічога пакуль не разумее... У галаве ўсё бянтэжылася, але яна прымушала сябе чытаць.

Увечары маці гатавала ёй чорную каву, моцную і духмяную, так патрэбную цяпер. А ўночы Ганна Андрэеўна, стараючыся, каб не чутны былі яе важкія крокі, падыходзіла да дзвярэй доччынага пакоя і слухала, як шапацяць старонкі кніг...

На вуліцы каторы ўжо дзень ліў дождж. Не сціхаючы. Восень, маркотная, поўная журбы, прыйшла на змену лету...

Вілена адрывалася ад кніг, глядзела ў акно. Па шыбах паўзлі кроплі, блакітны асфальт праспекта, заліты вадой, паходзіў на раку. І па ёй, узнімаючы фантаны пырскаў, як скутэры, ляцелі яркія машыны.

Вілена зноў сціскала скроні рукамі, прымушала сябе зноў нешта зразумець, запомніць... І так, без адпачынку, без перапынку.

А калі сілы, здавалася, зусім пакінулі яе, Вілена, трымаючыся аберуч за галаву, выйшла з пакоя.

— Не магу болей!.. Галава пухне. Пухне... Нават чую, што трашчыць.

— Хіба што! — уздыхнула бабуля, седзячы за шытвом.— Упакаваць туды столькі кніг... Ці паверыш!..

— Дачушка родная. Прысядзь за раяль. Ну, хоць крышачку развейся. Хочаш, адчыню?

— Што?.. Іграць, калі да старту зарлёта засталося так мала часу? Не, мамачка, не магу я...

— Чалавечыя сілы таксама маюць мяжу,— бурчала старая.— Ты ж не ясі нічога.

— Бабуля! А ты сама? Ты ж была апантаная Жана д'Арк. Так у рэцэнзіях пісалі. Я ўся па табе пайшла.

— Ох, ужо і не ведаю, па кім ты пайшла, дачушка,— уздыхнула Ганна Андрэеўна.

— Вось цябе іграць я не ўзялася б...— рашуча заявіла старая актрыса, звяртаючыся да Вілены.

— Я сама не ведаю, як сябе сыграць,— з горкай усмешкай адказала Вілена, пахаджваючы па пакоі.

— Доктару табе трэба было б паказацца,— сказала маці.

— Толькі... у касмічным гарадку ў Віева...

Бабуля пераглянулася з Ганнай Андрэеўнай. А Вілена гаварыла далей:

— Ах, каб можна было падвоіць час сутак... Так хочацца спаць. Здаецца нехта прыйшоў...

Вілена глянула ў пярэднюю і ўбачыла бацьку, які распранаўся.

— Ну, як справы? — весела запытаў ён.— Як наша матэматыка?

Вілена махнула рукой.

— Як фізіка?

Ланской увайшоў у пакой з пакункам у руках.

— Зноў?..— зжахнулася Ганна Андрэеўна, бо Авеноль яшчэ раніцай дастала з паштовага кантэйнера стосік кніг.

— Я падабраў... Тут ядзерная фізіка.

— Я гіну, гіну, татачка! Іду на дно. А часу... засталося мала.

— Вось пра гэта я і падумаў.

— Гэткі стос кніг,— перакладваючы пакунак на стол, гаварыла старая.— Глядзець страшна...

— А трэба прачытаць! — усклікнула Вілена.

— Не тое што вывучыць, прачытаць не паспееш,— стаяла на сваім бабуля.

— Не ведаю, як запомніць...

— Вось тут табе, бадай, можна памагчы,— сказаў Ланской.— Час можна павялічыць.

— Ну што ты яшчэ прыдумаў? — накінулася на мужа Ганна Андрэеўна.— Не бачыш, дзяўчынка і так ночы не спіць?

— А трэба спаць.

— Калі ж мне вучыць?

— Сплючы.

— Гіпнапедыя! — успляснула рукамі Вілена.— Дык чаму ж я не падумала пра гэта раней?

— Гэта зусім не так і проста,— сказаў Юлі Сяргеевіч.— Інакш у школах даўно б перайшлі на «сонныя класы». Іншаземныя словы запаміналі, вывучаючы мовы, яшчэ трыццаць гадоў назад. Але прыбор шаптаў тады на вуха не цішэй, і не грамчэй, чым трэба было для мозгу. Патрэбных жа Вілене дысцыплін ніхто ў сне не вывучаў. Трэба было надыктаваць вось гэтую стужку. Дзякуй, што ёсць яшчэ на свеце добрыя вучоныя.— Ланской паказаў на круглы металічны карабок.— Вось начны курс ядзернай фізікі, які начыталі знаёмыя табе сябры. Табе трэба слухаць уночы.

— Вось што б не магла, дык ніяк не магла б!..— прабурчала бабуля.

Ганна Андрэеўна гнеўна глядзела на мужа.

— Татачка, любы! — абняла бацьку Вілена.— Як я табе ўдзячна! Я так зненавідзела начную пару. Яна марна трацілася. Мамачка, а табе не трэба будзе варыць мне на ноч каву... Цяпер можа і паспею?

— Усё зробім, каб ты паспела,— суцяшаў бацька.

— Згодна на ўсё. Хоць зараз. Паміралa, спаць хацела... Баялася легчы, што не ўстану. А цяпер. Давай уключым апарат.

— Прыйдзецца табе легчы ў мяне ў кабінеце.

— Дзе мы слухалі голас зорак!.. І карабок — зусім такі самы!..

— Пойдзем, я табе там на канапе пасцялю,— устала бабуля.— Улажу і побач пасяджу.

Разам з Ганнай Андрэеўнай бабуля перанесла Віленіну пасцель у бацькаў кабінет.

Юлі Сяргеевіч з карабком падышоў да стэрэафанічнага апарата, падобнага на шафу. Зайшла Вілена і назірала, як ён устаўляе дыск магнітнай стужкі. У чорнай панелі апарата яна ўбачыла сябе. Паправіла валасы, каб потым распусціць іх, як для сну.

— Лажыся, унучачка. Я цябе пасцерагу. Паесці не хочаш? — паклікала яе да канапы бабуля.

— Не, бабуля, дзякуй. Ледзьве стаю... Так спаць хачу. Вочы зліпаюцца.

Вілена лягла на канапу. Бабуля накрыла яе коўдрай, папраўвіла прасціну і ўселася побач у глыбокае крэсла.

Неўзабаве яна глянула на Ланскога і кіўнула галавой: «Спіць».

Ланскі ўключыў апарат і на пальчыках выйшаў з кабінета.

З прыбора чуцен быў роўны, спакойны, крыху аднатонны голас, без інтанацый:

— Зараз вам трэба глыбока і спакойна заснуць. Вы засынаеце. Вы нічога, акрамя мяне, не чуеце. Вы ўжо спіцё. Дыхайце роўна, спакойна. Вы спіцё.

У дзверы зазірнула Авеноль, але бабуля замахала на яе рукамі. Вілена ўжо спала. Стома зрабіла сваё.

— Спіць, бедненькая... Ды і як тут не заснеш...— пазяхнула бабуля і зручней умасцілася ў крэсле.

А роўны голас, які, здавалася, гучаў з усіх бакоў, усё цягнуў:

— Тэрмаядзерныя рэакцыі ў заралёце могуць быць заснаваны на ператварэнні чатырох атамаў вадароду ў адзін атам гелію. Пры зліцці ядзер вадароду будзе назірацца дэфект масы, адпаведнай вылучэнню энергіі па формуле Эйнштэйна: $E=mc^2$, дзе $m$ у гэтым выпадку дэфект масы, а $c$ — хуткасць святла,

Ганна Андрэеўна не адзін раз ціха падыходзіла да дзвярэй кабінета і ўсё чула той самы аднатонны голас, зусім незразумелыя для яе выразы. Яна цешылася, што Вілена ўсё ж спіць...

## ПАМЯЦЬ ПРОДКАЎ

У гэтую раніцу Авеноль доўга хадзіла перад дзвярамі бацькавага кабінета з падцятымі, як робіць бабуля, губамі. Потым рашуча расчыніла дзверы і скамандавала:

— Вілена! На зарадку! Ста-на-віся!..

Убегшы ў кабінет, яна ўключыла відэафон. На экране з'явілася дыктарка, усім знаёмая, блізкая, нібы з гэтай сям'і.

— Добрай раніцы! Добрага яснага дня! — з усмешкай сказала яна, і кожны быў упэўнены, што гэта толькі да яго звернуты словы вітання.

Авеноль націснула кнопку, і шторы на акне рассунуліся. Праменні сонца залілі пакой.

Вілена прыўзнялася з канапы, праціраючы вочы:

— Што гэта? Чаму я не ў сваім пакоі? І ты, бабуля, чаму тут? Табе ж няёмка было спаць!

Соф'я Мікалаеўна пацягнулася:

— А хіба я заснула? Вось не падумала б ніколі!

— Хутчэй, хутчэй! — прыспешвала Авеноль.

На экране ўжо была гімнастка — стройная, прыгожая, увішная, у трэніровачным зграбным касцюме.

Авеноль скінула халацік і была таксама ў такім жа касцюме, але выглядала неяк нязграбна — цыбатая, з доўгімі рукамі і вельмі худзенная. Але калі Вілена надзела трэніровачны касцюм і ўскочыла з канапы, то мела выгляд куды страйнейшы і прыгажэйшы, чым тая гімнастка на экране.

Гімнастка пачала рабіць пад музыку практыкаванні, якія Вілена паўтарала ў цяжэйшым варыянце, Авеноль жа толькі капіравала.

— Ай ды бабуля! — раптам ускрыкнула Авеноль, азірнуўшыся і ўбачыўшы, што Соф'я Мікалаеўна не адстае ад унучак, робіць тыя самыя практыкаванні.

Старая ўсміхнулася. Усё сваё жыццё да глыбокай старасці былая актрыса сачыла, каб быць стройнай, рухавай.

Гімнастыка закончылася.

— Няхай жыве сонца! — усклікнула Авеноль, пасылаючы паветраны пацалунак дыктарцы на экране.

— А для мяне лепш, каб быў дождж,— сказала Вілена.— Лягчэй тады за кнігамі сядзець.

У дзверы зазірнула Ганна Андрэеўна.

— Дзяўчаткі! Снедаць!

— Бабуля, гэта і да цябе! — засмяялася Авеноль.

— Ідзі ўжо, стракатуха,— усміхнулася ў адказ старая.

Праз некалькі мінут, пакуль прынялі душ, усе сабраліся ў сталовым пакоі. Вілена мела свежы выгляд, лепшы, чым учора. Авеноль любавалася ёю. Бабуля вохкала. За ноч зацякла паясніца, што і гімнастыка не памагла.

— Я не думала, што ты заснеш там,— загаварыла Ганна Андрэеўна.— Пабаялася зайсці...

Жанчыны ўселіся за стол. Выйшаў Юлі Сяргеевіч, пагалены, свежы. Весела павітаўся з усімі і заняў сваё месца.

Ганна Андрэеўна наліла яму кубак кавы.

— Ну як? — запытаў Юлі Сяргеевіч, спыніўшы свой позірк на Вілене.— Што мы помнім з начнога ўрока?

— Якога начнога ўрока? — здзівілася была Вілена, але адразу спахапілася, бо ўспомніла, бы ў тумане, як збіралася ўчора спаць у бацькавым кабінеце.

— Яна, гаротніца, адразу заснула,— выручыла ўнучку бабуля.— Праўда, і я следам за ёй правалілася як у бяздонне.

— Няўжо, не ўдаўся першы вопыт? — засумняваўся Ланской, намазваючы сабе маслам кавалак хлеба.— А шкада. Зрэшты, праверым.

Авеноль не стрымалася, фыркнула і схавалася ад гнеўнага позірку маці, якая сядзела з краю стала.

— Ты нічога не ведаеш аб дэфекце масы? — лагодна спытаў бацька ў Вілены.

— Ён адпавядае вызваленай энергіі пры тэрмаядзернай рэакцыі,— раптам адказала бабуля.

— Бабуля! Ты вывучыла! — ускрыкнула здзіўленая Авеноль і ўспляснула рукамі.



— Нічога я не вучыла,— сур'ёзна адказала бабуля.— Цьфу ты, напасць!.. Сама не ведаю, адкуль ведаю...

— Чакайце, чакайце! — перапыніла Вілена.— Дык і я ж ведаю. Формула Эйнштэйна — $E$ роўна $m$, памножанаму на $c$ у квадраце...

— А каву вы будзеце піць, «цэ ў квадраце»? — спытала Ганна Андрэеўна, незадаволена гледзячы на мужа.

— ... дзе $m$ у гэтым выпадку — дэфект масы,— прадаўжала Вілена,— а $c$...

— Хуткасць святла,— падказала бабуля.

— Віншую! — весела ўсклікнуў Ланской.— У Вілены новы канкурэнт. У зоркавы рэйс астранавігатарам паляціць бабуля!..

— Ой як здорава! — не сунімалася радавацца Авеноль.

— Я цяпер не буду рыхтаваць урокі. Толькі ў сне! Толькі, сплючы!..

— Памаўчы, сакатуха,— спыніў бацька малодшую дачку і звярнуўся да старэйшай: — Ну як, Вілена? Калі ў цябе прыбавіцца столькі начэй, паспееш?

— Я гатова спаць хоць цэлыя суткі. Мне ж трэба так многа запомніць. Трэба ведаць зорнае неба, як штурманскую карту...

— Хіба ты адна збіраешся быць на тым заралёце? — заўважыла бабуля.

— Астранавігатар павінен ведаць усё, інакш не возьмуць...

— Калі не возьмуць, не твая будзе віна,— уздыхнуўшы, сказала Ганна Андрэеўна.— Ты зрабіла ўсё, што магчыма і немагчыма... І дні і ночы...

Прагучаў мелодычны сігнал. Хтосьці ля дзвярэй далікатна выклікаў гаспадароў.

Авеноль ускочыла, пабегла ў пярэднюю і неўзабаве вярнулася з мажным таўстуном.

— Добрай раніцы,— вітаўся той, лагодна ўсміхаючыся.— Даруйце за ранні візіт. Баяўся не заспець.

— Як я рада, што вы прыйшлі! — усклікнула Вілена, ускокнуўшы з-за стала.— Тата! Мама! Знаёмцеся! Гэта прафесар Сяргей Фёдаравіч Лебедзеў.

— Сядайце, Сяргей Фёдаравіч,— гаварыла Ганна Андрэеўна.— Вы не адмовіцеся выпіць з намі кавы?

— Кавы? О, гэта маё слабое месца. З вялікім задавальненнем,— прызнаўся таўстун, усаджваючыся.

— Акадэмік Рудэнка папрасіў праведаць вас,— звярнуўся ён да Вілены.

— Перадайце Уладзіміру Лаўрэнцевічу вялікую падзяку за ўвагу да Вілены,— сказаў прафесар Ланской.

Лебедзеў зручней усеўся, пасунуў наліты яму кубак кавы. А калі Ланской прыгадаў учарашні вопыт з Віленай, выказаў свой погляд на гэты занятак:

— Гэта, вядома, добра, але не ўсе веды можна перадаць у сне. Скарыстанне гіпнапедыі ў некаторай ступені абмежавана. Дарэчы, вельмі цікавая праблема ведаў, якія прападаюць разам з адыходам людзей з жыцця...

— Вы маеце на ўвазе памяць продкаў? — азваўся Ланской.

— Ёсць веды, вопыт жыцця, якія перадаюцца па спадчыне,— сказаў, адпіваючы каву, Лебедзеў.—Ваўчаня ці лісяня іграе ў паляванне па ўсіх правілах палявання. А мы называем гэта інстынктам. Птушкі ведаюць маршруты пералётаў, якіх ніколі не рабілі. Рыбы — шляхі нерасту. Бабры ўмеюць будаваць інжынерныя збудаванні, не канчаючы інстытутаў. А чалавек...

— Што чалавек? — занепакоілася Вілена.

— Чалавек усё-такі — загадка...— уздыхнуў таўстун, выціраючы твар хусткай.— Вазьміце яго мозг. Пятнаццаць мільярдаў *клетак-нейронаў*. А колькі мы выкарыстоўваем? Вельмі малы працэнт, нават у сталым веку...

— Як шкада,— уздыхнула Вілена.

— На паўшар'ях мозгу шмат белых плямаў,— звярнуўся да Вілены прафесар.— Я б сказаў, цэлыя мацерыкі. Чым яны заняты? — спытаў, абводзячы ўсіх урачыстым позіркам.

— Ці не там захоўваюцца веды продкаў? — выказаў здагадку Ланской.

Лебедзеў прымасціўся зручней у крэсле, каб гаварыць далей:

— Гісторыя ведае некалькі вельмі цікавых выпадкаў. Адзін чалавек, напрыклад, зваліўся з каня і раптам загаварыў на старажытнай грэчаскай мове, якую ніколі не вывучаў. Або, гадоў трыццаць таму назад часопіс «Смена» пісаў, як англійскі марак-п'яніца, напіўшыся, пачынаў гаварыць па-арабску... Калі ж станавіўся цвярозым, а гэта бывала не так ужо часта, дык зноў гаварыў на добрай старой англійскай мове...

—Ой,— *толькі і вымавіла Авеноль, якая слухала прафесара, разявіўшы рот.*

—Быў яшчэ вельмі цікавы выпадак у Гімалаях.

— Што за выпадак? — спытала Вілена, якая не прапускала ніводнага слова прафесара.

— Цясніна. На адным баку будыйскі манастыр. На другім — вёска. У той дзень, калі ў манастыры памёр брамін, у вёсцы нарадзіўся хлопчык. Ледзь ён падрос і пачаў гаварыць, як абвясціў сябе браміам. Ён ведаў процьму мудрасцей, вядомых толькі манахам. Забабонныя людзі паверылі ў перасяленне душ...

— Што ж гэта было? — спытала Вілена.

— Мабыць, усё-такі — памяць продкаў,— сказаў, адкінуўшыся на спінку крэсла і зноў дастаючы хусцінку, Лебедзеў.— Хлопчык успомніў тое, што ведалі яго продкі-браміны.

— Дадам ад сябе,— умяшаўся Юлі Сяргеевіч.— Вось узяць хоць бы палёты ў сне. Узнімаешся ў паветра без усялякага намагання, не махаючы крыламі, як пры бязважкасці. Што гэта? Чыё гэта было ад*чуванне*?

— Можа быць, гэта і сапраўды далёкі наш успамін... Мы з Уладзімірам Лаўрэнцевічам спрабуем даследаваць гэтае пытанне, абудзіць памяць продкаў.

— Вельмі смелая задача,— сказаў Ланской.

— Уладзімір Лаўрэнцевіч і даручыў мне спытаць у Вілены Юльеўны, ці ёсць у яе цікавасць да гэтага?

Вілена падалася ўся наперад, схапілася рукамі за край стала, скамечыла абрус:

— Абудзіць у мяне памяць продкаў?

— Хто ведае...— няпэўна адказаў прафесар Лебедзеў.— Вы ж у свой час прапаноўвалі сябе для некаторых доследаў.

— Доследы? Калі б я магла ўспомніць матэматыку, якую ведаў мой тата яшчэ да майго нараджэння! Калі б я магла ўспомніць усё, што ведаў мой дзед, штурман самалёта...

— Альбо прадзед, астраном, які сябраваў з Цыялкоўскім,— уставіла Соф'я Мікалаеўна.— Ён так паэтычна расказваў пра сузор'і. Я і цяпер памятаю легенду пра *цара Пталамея, яго жонку Вераніку* і звездачота Канона.



— Я на ўсё гатова! Гатова! — усклікнула Вілена.— Куды ісці? Хоць цяпер.

— Не,— *рашуча падняўся бацька.*— Я не магу даць згоду на гэтую аперацыю...

— Ды што вы! — замахаў рукамі Лебедзеў.

— Не,— яшчэ больш рашуча сказаў Юлі Сяргеевіч.— Хоць мая дачка і паўналетняя, але я ўсё ж буду пратэставаць супраць гэтага, на мой погляд, надта небяспечнага доследу. Я не хачу, каб Вілена стала прыдуркаватай.

— Ой! — з жахам крыкнула Авеноль.

Вілена перасмыкнула плячамі. Ёй прыгадалася Лада, у якой нешта здарылася з клетачкамі памяці.

— Уладзімір Лаўрэнцевіч прадбачыў гэта,— сказаў прафесар Лебедзеў.— Я таму і прыехаў сюды... замест Уладзіміра Лаўрэнцевіча, які не зусім здаровы. Але калі б вы палічылі магчымым паехаць да *яго, дык усё праяснілася б.*

— Я паеду! — аб'явіла Вілена.

— Не! Мы цябе не пусцім! — умяшалася бабуля.

— Дазволь паехаць перш мне,— лагодна прапанаваў Юлі Сяргеевіч.— Вер, што я на тваім баку. Але я павінен зразумець сутнасць эксперыменту перш, чым ты на яго пойдзеш.

Вілена апусціла галаву.

## ШУКАЛЬНІКІ СКАРБУ

Прафесар Лебедзеў і прафесар Ланской прыехалі ў Інстытут жыцця і прайшлі адразу да акадэміка Рудэнкі, які ўжо чакаў іх. Чакаў ля зашклёных дзвярэй, што вялі ў сад.

Сонца зноў схавалася. Церусіў дробны дожджык. Стары, убачыўшы гасцей, асцярожна сышоў па ступеньках на дарожку.

— Не выходзьце, не выходзьце! — закрычаў здалёку Лебедзеў.— Прамочыце ногі, Уладзімір Лаўрэнцевіч. Застудзіцеся... Вось знаёмцеся. Прафесар Ланской, бацька Вілены.

— Юлі Сяргеевіч,— прадставіўся той.

— Як жа! Як жа! — *звярнуўся* Рудэнка да госця.— Ён, напэўна, і не падазрае, што мы, фізіёлагі, яго матэматычнымі працамі карыстаемся.

— Не так даўно казалі, што новыя адкрыцці паяўляюцца на стыках розных навук,— пераадольваючы задышку, сказаў таўстун Лебедзеў.— А цяпер...

— Цяпер,— падхапіў Рудэнка,— гэта сказаць цяжка, бо нялёгка знайсці межы паміж рознымі навукамі. Фізіёлагі становяцца матэматыкамі, а матэматыка мы пастараемся сёння далучыць да фізіялогіі. Прашу вас, праходзьце.

Акадэмік Рудэнка, стараючыся не гнуцца, правёў гасцей у свой кабінет і сеў за пісьмовы стол.

— Юлі Сяргеевіч баіцца даць згоду на дослед з Віленай Юльеўнай.

— Вельмі вас разумею, Юлі Сяргеевіч. Я гэтак жа зрабіў бы. Я прадбачыў ваш візіт. Ды я і сам бы да вас прыехаў, каб не быў такой разваліннай...

— Што вы, Уладзімір Лаўрэнцевіч! — перапыніў Ланской.— Пабываць у вашым інстытуце было заўсёды маёй марай.

— Дык і трэба было даўно прыехаць. І я ў ваш кібернетычны цэнтр абавязкова прыеду, збяруся вось з сіламі...

— Буду вельмі-вельмі рады.

— Што ж, пагаворым тады пра памяць,— сказаў акадэмік, палажыўшы абедзве рукі на стол і дапытліва гледзячы на Ланскога.— Мне асабліва лёгка будзе з вамі, бо я належу да тых фізіёлагаў, якія лічаць кожны жывы арганізм, уключаючы і мыслячага чалавека, кібернетычнай машынай. Жывое ад нежывога адрозніваецца, на мой погляд, не толькі наяўнасцю абмену рэчываў, але галоўнае — здольнасцю да прыёму інфармацыі, яе апрацоўкі і выпрацоўкі на яе падставе загаду сваім органам. Нават у дажджавога чарвяка мы можам назіраць гэтыя працэсы. Нядаўна вось у гэтым садзе я бачыў схватку дажджавога чарвяка з сухавёрткай, якая напала на яго. Чарвяк рэагаваў на ўкус, атрымліваў балявую інфармацыю, сціскаўся колцамі, выпростваўся, гэта значыць — адказваў на інфармацыю рэфлекторна. Уявіце, ён выйшаў пераможцам з гэтай схваткі! Выпусціўшы ахоўную вадкасць,— заўважце, зноў рэакцыя на інфармацыю,— ён абляпіў ёю драпежніка, заляпіў таму дыхальцы і прымусіў адступіць.

— Значыць, барацьбу за існаванне трэба класіфікаваць як спаборніцтва кібернетычных машын,— заўважыў Ланской.

— Так, але такіх машын, якія кіруюць кожны раз органамі зусім непадобных істот,— адказаў акадэмік.— Вернемся да дажджавога чарвяка. Выходзіць, і ў яго ёсць памяць. Яе ячэйкі размешчаны ў хвасце. У большасці ж жывёл — у галаве, у цэнтральным мазгавым утварэнні. Але ёсць і памяць мышачная. Вось ваша дачка, цудоўная піяністка, мае незвычайную памяць. Яе пальцы самі па сабе, без удзелу галаўнога мозгу, а часам і пры свядомым яго выключэнні, могуць зрабіць на памяць у зададзеным парадку сотні тысяч рухаў з вельмі дакладнымі інтэрваламі між імі — у сотыя і нават тысячныя долі секунды. Што гэта? Чараўніцтва?

— З кібернетычнага пункту гледжання можна дапусціць існаванне ў мышцах элементаў лагічнай памяці.

— Правільна, прафесар! Элементы лагічнай памяці!.. А што гэта такое? Ці аднолькавыя яны ў дажджавога чарвяка і ў Эйнштэйна?

— У прынцыпе кажучы, павінны быць падобныя. Па механізму з'явы, вядома.

— Зусім слушна. З кібернетыкам вельмі прыемна гутарыць. Фізіялогія даўно білася над тым, каб раскрыць механізм памяці. Яшчэ нашым папярэднікам гэта ўдалося, мы толькі давялі іх адкрыцці да шчаслівага фіналу. Механізм памяці ў жывых істот, як вы сказалі, не адрозніваецца ад машыннай памяці электронных прыстасаванняў. І там і тут адбываюцца пэўныя змены ў ячэйках памяці. Вы, кібернетыкі, назіраеце намагнічванне элементаў або зарадку кандэнсатараў. Мы, фізіёлагі, бачым хімічныя рэакцыі ў клетках, здольных да такіх рэакцый. Дамовімся называць іх рэакцыямі памяці.

— Даруйце, Уладзімір Лаўрэнцевіч, што я вас перапыняю,— уступіў у гутарку прафесар Лебедзеў.— Як відаць, надышоў час увесці новую тэрміналогію. Памяць можа быць актыўнай і пасіўнай. Для актыўнай памяці, якой карыстаюцца мыслячыя істоты ў найбольшай ступені, патрэбны клетачкі мозгу, здольныя на рэакцыі памяці. Але, як відаць, існуюць у мозгу любых істот і клетачкі, дзе рэакцыі ўжо адбыліся...

— Адбыліся яшчэ да нараджэння жывой істоты,— зноў узяўся за сваё акадэмік.— Механізм такой, спадчыннай памяці, вельмі ўмоўна можна ўявіць так: ланцужкі спадчыннасці, што ўтвараюцца малекуламі нуклеінавых кіслот, змяшчаюць, як цяпер даказана, інфармацыю для росту і развіцця ўсіх клетак арганізма. Без вас, кібернетыкаў, мы не разабраліся б у гэтых складаных кодах спадчыннасці. Відаць, гэтыя коды спадчыннасці змяшчаюць у сабе праграму ўтварэння арганізма, у адным выпадку камара, у другім — слана, у трэцім — чалавека. Можна ўявіць сабе нейкія клеткі, каторыя ў выніку кода спадчыннасці сфармуюцца ўжо ў «гатовым» выглядзе, бо ў іх ужо адбыліся хімічныя рэакцыі памяці. Тады лёгка дапусціць, што такія клеткі будуць змяшчаць інфармацыю, атрыманую жывой істотай да яе нараджэння.

— Прырода мае шмат доказаў гэтаму,— пацвердзіў словы акадэміка прафесар Лебедзеў.— Гэта і бабры, якія ўмеюць будаваць плаціны, і пчолы, якія толькі народзяцца і адразу выконваюць пэўныя функцыі раення, і птушкі, што ад нараджэння ўмеюць віць даволі складаныя гнёзды і лятаць па маршрутах, якіміляталі іх продкі...

— Чым жа вытлумачыць такую асаблівасць жывых істот? — задаў пытанне акадэмік.

— Як відаць, спадчыннай памяццю, што закладзена ў жывым арганізме,— згадзіўся Ланской.

— Правільна. Цяпер зробім апошняе дапушчэнне: у чалавека ўсётакі ёсць гэтая інфармацыя ранейшых пакаленняў, памяць продкаў, як мы яе назвалі, і знаходзіцца яна дзесьці ў глыбокіх сховах.

Яна дае аб сабе знаць, гэтая памяць продкаў, на самым раннім этапе існавання чалавека, калі ён, толькі нарадзіўшыся, быстра прызвычайваецца ссаць грудзі маці. Нехта ж запомніў за яго працэс ссання... Потым пасіўная памяць чалавека саступае месца яго актыўнай памяці, і ён забывае пра тое, што ў яго мозгу дзесьці закапаны «скарб ведаў».

— Мы яшчэ не ведаем, што закладзена ў глыбінных сховах памяці чалавека,—умяшаўся ў гутарку Лебедзеў.— Можа быць, белыя плямы на мазгавых паўшар'ях, пра якія я гаварыў, сапраўды адведзены для гэтай памяці продкаў.

— Але як іх абудзіць? — запытаўся раптам Ланской.— Віленa гатовая на ўсё, але я баюся за яе. Ці трэба ёй абуджаць уражанні жанчыны каменнага веку, якая сядзела ля пячоры перад агнём ці прымала ўдзел у паляванні на мамантаў? Гэта не паможа ёй дасягнуць свае мэты.

— Правільна. Трэба абуджаць пасіўную памяць самую блізкую, тую, што маглі перадаць дачцы вы, яе бацька або вашы бацькі...— заўважыў Рудэнка.

— З чым жа гэта будзе звязана? З пагружэннем у мозг электродаў? Прызнацца вам, я маю справу з паяннем правадоў у машыне, ахвотна праводжу паралель паміж жывой істотай і машынай, але, тым не менш, панічна баюся забівання ў мозг цвікоў.

— Ну, ну,— запратэставаў Рудэнка.— Электроды не цвікі. Гэта вельмі тоненькія дроцікі...

— Але я не хацеў бы, каб галаву маёй Вілены пагалілі, як маю, і ў мозг ёй увялі сотню электродаў.

Акадэмік адкінуўся на спінку крэсла і разрагатаўся.

Лебедзеў з дабрадушнай усмешкай падышоў да Ланскога і схіліўся перад ім так, што яго лысая галава апынулася на ўзроўні вачэй Ланскога, які ўбачыў на ёй, замест валасоў, мноства залатых пяцелек.

— Памацайце,— прапанаваў Лебедзеў.— Гэта вывады электродаў, уведзеных у мозг. Урачы, як вы ведаеце, любяць ставіць эксперыменты на саміх сабе.

— Але, але,— узрадаваўся акадэмік.— У Сяргея Фёдаравіча ўжыўлена ў мозг даволі шмат электродаў. Для Вілены Юльеўны мы скарыстаем мазеры — накіраваныя радыёпромні пэўнай частаты.

Такі прамень здолее актывізаваць бяздзейныя клеткі пасіўнай памяці...

— А гэта не закране яе актыўную памяць? — трывожна спытаў Ланской.

Акадэмік нахмурыўся:

— Я ўжо меў шчасце пазнаёміцца з вашай дачкой. І пакутаваў ужо аднойчы, думаючы, як абмінуць небяспеку доследу. Я маю на ўвазе анабіёз. І, як вы ведаеце, не адважыўся.

— Я давяраю вам, Уладзімір Лаўрэнцевіч. Калі ў Вілены абудзяцца хоць некаторыя з маіх матэматычных ведаў, што меў я да жаніцьбы, то... дослед апраўдае сябе.

— Я ведаў, што буду мець справу не толькі з бацькам, але і з вучоным, — сказаў акадэмік, развітваючыся з Юліем Сяргеевічам.

Прафесар Лебедзеў застаўся рыхтаваць эксперымент, а Ланской паехаў па Вілену.

Ганна Андрэеўна ні за што не хацела адпусціць Вілену адну. Яна перагаварыла з акадэмікам Рудэнкам, і той запрасіў прыехаць і яе.

Эксперымент абуджэння памяці прадкаў праводзіўся ў лабараторыі з «слановай косці», як называла яе Вілена.

Вілена была спакойная. Толькі вочы ўзбуджана гарэлі.

Наташа пасадзіла яе ў крэсла, якое жартам называлі «зубаўрачэбным». Лебедзеў прынёс шлем, як у вадалаза. Ад яго звісалі спіралькі правадоў.

Правады далучылі да пульта, за які ўсеўся сам акадэмік. Перад ім трымцелі стрэлкі прыбораў.

— Я не ведаю, Вілена, пра што вы думаеце, але думкі вашы бачу, — сказаў ён, гледзячы на цыферблаты прыбораў.



— Я думаю ўсё пра тое ж,— глуха адазвалася Вілена.— Мае думкі лёгка чытаць.

Ад левай рукі Вілены таксама цягнуліся правады, а на матавым экранчыку відно было біццё яе пульса.

Ганна Андрэеўна са страхам глядзела на дачку.

— Увага! Уключаю! — аб'явіла Наташа.

— Што вы адчуваеце? — далікатна запытаў Лебедзеў, які стаяў побач з Віленай.

— Кружыцца галава,— пачуўся прыглушаны голас Вілены.— Нейкія прывіды... Не ведаю, што са мной...

Ганна Андрэеўна ўскочыла, але Юлі Сяргеевіч пасадзіў яе зноў у крэсла.

— Нічога, не хвалюйцеся... яна ўспамінае,— суцяшаў акадэмік.

— Што ўспамінае?

— Як відаць, тое, што не забыла зусім.

— Не ведаю, як Вілену, а мяне вы адправіце адсюль адразу ў вар'яцкі дом,— аб'явіла Ганна Андрэеўна.

— Мы ўжо заканчваем эксперымент,— супакоіў Лебедзеў.— Прадаўжаць будзеце вы самі дома, калі Вілена Юльеўна пачне ўспамінаць...

Наташа здзела з Вілены шлем, адлучыла правады. Вілена сядзела ў крэсле расслабленая, ні на што не рэагавала.

Маці кінулася да яе, пачала цалаваць яе валасы, гладзіць рукі, якія бязвольна звісалі.

Наташа дала Вілене нешта панюхаць і супакойвала:

— Нічога. Зараз ёй стане лепш. Яна ўжо заружавелася. Бачыце?



— Я пакуль бачу, што яна сама не свая, — раздражнёна сказала Ганна Андрэеўна.

Акадэмік падышоў да Вілены, уважліва паглядзеў на яе сваімі добрымі вачамі. Лебедзеў зноў памацаў пульс.

— Як вы сябе адчуваеце? — нахіліўшыся да Вілены, спытаў акадэмік.

— Пачакайце, пачакайце... — нейкім адсутным голасам вымавіла Вілена. — Дайце сабрацца з сіламі... Нешта хочацца ўспомніць...

Ланской падышоў да дачкі.

— Дазвольце мне, Уладзімір Лаўрэнцевіч, высветліць з Віленай дома яе абуджаныя ўспаміны.

— Калі ласка, калі ласка! — згадзіўся акадэмік. — Вы роўны ўдзельнік нашага эксперыменту, такі ж даследчык, як і мы. Дазвольце ўручыць вам, Юлі Сяргеевіч, вось гэты сшытак для запісаў назіранняў, — і акадэмік падаў Ланскому новенькі сшытак у пластмасавай вокладцы.

## НІШТО ЧАЛАВЕЧАЕ

Кожную ноч Вілена сніла нешта дзіўнае.

...Маленькі грывасты конік роўненька так скача праз стэп. Высокая трава б'е па твары... Вецер свішча ў вушах... Свішчуць стрэлы, што ляцяць і ляцяць... Чорнай хмарай паўставалі з травы ворагі і скачуць насустрач... Звіняць мечы... Стыкаюцца коні... падаюць разам з коннікамі ў траву... Кроў, кроў... Боль...

... Зіхаціць марская прастора адлюстраваным сонцам. Свежы вецер б'ецца ў складках доўгага адзення. На беразе сцены-скалы... Ля варот вартавыя ў сонечных шлемах, з кароткімі цесакамі...

... Базар — яркі, шумны, стракаты. Разнамоўе, падобнае на гоман птушак. Цемнатвары купец у чалме, падтуліўшы ногі, сядзіць на каменнях, расклаўшы перад сабой бранзалеты, завушніцы, пярсцёнкі. Дух займае ад прыгажосці. Побач тоўпяцца жанчыны з завязанымі валасамі на патыліцы...

...Крышталёвы струмень крыніцы бяжыць з каменняў і цурчыць у горлачка збана. Высокі гліняны збан зручна так несці на галаве. І раптам... Чарапкі разбітага збана... Шыракаскулы твар незнаёмага з вузкімі вачамі, уладарны, драпежны... Хочацца закрычаць, бегчы... Але нестае сіл...

Вілена прачыналася сама не свая. Прывіды бачыла кожную ноч. Нешта, адбітае некалі ў нейчай памяці, усплывала цяпер у яе растрывожаным мозгу.

Вілена была ў адчаі. Яна не магла займацца кнігамі, не магла браць сеансы гіпнапедыі.

Але ў памяці ўсплывалі і больш пэўныя малюнкі. Неўзабаве высветлілася, што яна ведае цяпер размяшчэнне зорак. Ёй знаёмыя да драбніц сузор'і Цяльца, Арыона, Касіапеі, Андрамеды, Валасы Веранікі...

Юлі Сяргеевіч лёгка заўважыў, што ў Вілены абудзіліся матэматычныя здольнасці.

Наташа прыязджала па сшытак у пластмасавай вокладцы, які Юлі Сяргеевіч акуратна запаўняў, перапісваючы ў яго і новыя веды Вілены, і новыя яе здольнасці, і нават пераказваючы ўсе яе мітуслівыя сны...

Неўзабаве аднавілася вучоба ўдзень і ўночы. Для Вілены цяпер нічога не існавала на свеце.



Юлі Сяргеевіч жартам назваў яе «самай заўзятай студэнткай усіх часоў».

Кантэйнер электрамагнітнай пошты зноў пачаў дастаўляць Вілене кожную раніцу букет кветак.

Некалькі разоў па відэафону з Віленай размаўляў Шылаў, прасіў спаткання, але яна адмаўлялася: хутка экзамены.

— Калі б у мяне была хоць адна такая студэнтка! — са шкадаваннем у сваім лагодным голасе гаварыў Шылаў.

Дні няўмольна беглі. Але ў Вілены быў свой каляндар: колькі дзён засталося да адпраўкі заралёта, да пачатку камплектавання экіпажа.

І вось аднойчы, калі на вуліцы ліў асенні дождж, яна выклікала да відэафона Віева і папрасіла, каб ён прыняў яе.

Ёй станавілася страшна, асабліва пасля таго сну, калі яна ўбачыла сваю дачку, якую звалі таксама Віленай і якая сустрэла Уладлена.

Ёй было страшна цяпер астацца на Зямлі і не паляцець у зоркавы рэйс...

Вілена чакала Віева ў гасціным пакоі, дзе яна калісьці іграла яму «Санет Пятраркі» Ліста.

Яна падышла да раяля, адчыніла века, але не дакранулася да клавішаў.

Увайшоў Віеў.

— Дзень добры,— сказаў ён і працягнуў яшчэ здалёк руку.— Вы хацелі бачыць мяне?

Ён пасадзіў Вілену побач з сабой, пачаў роспыты.

— Гіпнапедыя! — усклікнуў раптам.— Маладзец!.. Вы нам падказалі. Увяду ў праграму падрыхтоўкі касманаўтаў. Няхай зорнае неба запамінаюць у сне...

Вілена гаварыла далей пра эксперымент з памяццю продкаў, пра свае прывіды ўночы, пра некаторыя абуджаныя веды.

— Шкада,— сказаў Віеў,— што нашы продкі надта мала ведалі для астранавігатараў трэцяга тысячагоддзя. А вось як у вас з гэтымі ведамі?

— Я гатова да экзаменаў. Я не магу астацца на Зямлі...

Віеў устаў і прайшоўся па пакоі.

— Вельмі цяжка вас экзаменаваць, дарагая Вілена. Вельмі цяжка. Кожны экзаменатар будзе пад гіпнозам вашай адвагі, вашай мужнасці. І асабліва цяжка будзе мне. Я магу ўключыць у склад экіпажа толькі самых неабходных, незаменных людзей...

— Я ж і імкнулася стаць незаменнай. Я пастараюся гэта давесці... вам.

— Мне? Вось гэта самае небяспечнае, чаго я баюся. Я і так зацвердзіў увесь склад экіпажа, акрамя астранавігатара. Нішто чалавечае пры вырашэнні пытання аб вашым палёце не можа мець месца.

— Але хіба вы не чалавек? — спытала Вілена, ясным позіркам гледзячы на Віева.

Ён жахнуўся:

— Вось і бяда, што я не магу даверыцца нават самому сабе. Надта я захапляюся вашым подзвігам, але... Я павінен папярэдзіць, што подзвіг, які вы рабілі, быў подзвігам вашага кахання, патрэбным перш за ўсё вам. Але калі вы зробіце яшчэ адзін крок і ступіце на борт заралёта, вы станеце рабіць ужо іншы подзвіг. Рызыкуючы ў космасе жыццём, вы будзеце служыць адзінаму розуму — Сусвету. У гэтым вы будзеце роўная свайму Уладлену.

— Дык памажыце ж мне зрабіць подзвіг не толькі для самой сябе...

— Нішто чалавечае...— паўтарыў Віеў.— Я не хачу вас засмучаць. Наадварот, хачу сабраць усе вашы сілы... Але, ведаеце, я не магу даручыць каму-небудзь экзаменаваць вас...

— *Як жа? — разгубілася Вілена.— Вы ж самі абяцалі...*

— Вы не зразумелі мяне. Экзамен будзе. Але экзаменаваць вас будзе не чалавек, а электронная машына, для якой усё чалавечае не існуе.

— Электронная машына?!.

— Так. У ёй будзе запраграміраван увесь экзамен. Машына будзе задаваць пытанні і ацэньваць адказы. Машына не збянтэжыцца перад вамі... Як можа зрабіць гэта кожны з нас.

— Калі ж? — спытала Вілена.

— Вы маеце права адмовіцца.

— Не! Ні за што! Хоць бы мне давялося спаборнічаць з усімі электроннымі машынамі свету!

— Вы маладзец! Не думайце пра мяне блага.

— Што вы, Іван Сцяпанавіч! Бывайце!

— Рыхтуйцеся. У вас яшчэ тыдзень часу. Бывайце!

## ПАЯДЫНАК З МАШЫНАЙ

Віеў увёў Вілену ў вялізарную залу. *Іх крокі гулкім водгуллем адзываліся ў* пустым памяшканні.

Вілене здалося, нібы яна ўвайшла ў старадаўні язычаскі храм. Урачыстая *цішыня, купал над галавой,* вялізныя панелі з містычным узорам сігнальных лямпачак...

Віеў падвёў Вілену да пульта:

— Націсніце вось гэтыя клавішы — і ваш экзаменатар будзе прыведзен у дзеянне. Не хвалюйцеся. Успомніце, што ўсе вашы ранейшыя экзаменатары не падпарадкоўваліся кнопкаваму кіраванню. Адчувайце сябе, як у механізаванай бібліятэцы з электронным абсталяваннем. Вам проста трэба карыстацца электронным даведнікам і такім жа слоўнікам. Экзаменуйце самі сябе.

Падбадзёрыўшы Вілену, Віеў хуценька выйшаў. Вілена засталася ў паядынку з магутным электронным мозгам, які здольны рашаць самыя складаныя задачы касмічных палётаў, а цяпер запраграмаван для экзамена на астранавігатара зоркавых рэйсаў.

*Вілене стала страшна. Неасветленыя цыферблаты на пульце нагад*валі прыжмураныя вочы затоенага электроннага страшыдлы.

Вілена намацала ў кішэні жакета карагу-сучок, які жартам, а мо і ўсур'ёз, сунула ёй у апошнюю хвіліну бабуля. Смех ды й годзе, такая перадавая ва ўсім бабуля некалі ў часе кожнай прэм'еры трымала ў кішэні вось гэты талісман. Але што ён у параўнанні з гэтым шматвокім дзівам.

Раптам Вілена ўсвядоміла, што яна зусім і не адна ў зале, што за кожным яе рухам, нават за выразам твару, могуць сачыць пільныя вочы. Хіба можна дапусціць, каб з аднаго з відэафонаў у кабінеце Віева глядзеў цяпер яе разгублены твар?.. Экзамен жа ідзе не толькі на набытыя веды, але і на сілу волі, вытрымку, самавалоданне!

Вілена перасмыкнула плячамі, нібы страсаючы з сябе штосьці. Яна прымусіла сябе падумаць, што выйшла на эстраду ў канцэртнай *зале*. Знаёмае адчуванне ўлады над слухачамі супакоіла яе.

Цвёрдым крокам падышла яна да цэнтральнага пульта. Белыя клавішы адбіваліся ад чорнай панелі. І гэта памагло ёй, усталявала веру, *што перад ёй раяль.*





Яна села, занесла рукі і дакранулася пальцамі да клавіятуры, нібы ўзяла першы акорд.

I затоенае дзіва ажыло. З аднаго канца пульта да другога маланкай бліснулі сігнальныя лямпачкі. Маленькая жанчына выклікала электроннага волата на бой...

...Радасная, узбуджаная, выбегла Вілена з залы. Ля дзвярэй яе чакалі Юлі Сяргеевіч і Авеноль. Віеў дазволіў ім прыехаць, каб спакайней было Вілене.

— Вытрымала! Вытрымала!.. Пяцёрка! — закрычала Авеноль, ледзь толькі згледзела сястру.

— Было цяжка? — спытаў бацька, абнімаючы дачку.

— Не, не вельмі. Мне здавалася, што я іграла на канцэрце.

— Ты перажывала? — спытала Авеноль.

— Я? Я была захоплена... Можа нават надта захоплена. Усё атрымлівалася неяк само сабой. Я ўжо не магла стрымацца.

— Усё добра, што добра канчаецца,— сказаў Ланской.

— Ну як? — раздаўся голас Віева, які толькі што зайшоў.— Нібы не блага. Якая ацэнка?

— Ацэнка? — збянтэжылася Вілена.— Даруйце, Іван Сцяпанавіч, расхвалявалася або захапілася, не ведаю як і сказаць... Не паглядзела на табло.

— Не паглядзелі? — здзівіўся Віеў.— Як жа гэта?

— Была ўпэўнена, Іван Сцяпанавіч. Я ж на ўсе пытанні адказала правільна... і нават больш.

— Нават больш? — Твар Віева стаў заклапочаны: — Усё-такі для парадку прыйдзецца нам прайсціся ў залу, глянуць на табло.

Віеў запрасіў з сабой Вілену, Юлія Сяргеевіча і Авеноль.

Стаіўшы дыханне, увайшла Авеноль у залу. Ёй здавалася, што яна не здолела б адважыцца на экзамен, як Вілена. Асцярожныя крокі аддаваліся недзе ўгары.

Нявыключанае пасля экзамену страшыдла не спала, а насцярожана глядзела на ўсіх дзесяткамі святлявых вачэй.

Віеў здзіўлена азірнуўся на Вілену. Тая глядзела на пульт і не верыла сабе. Авеноль усхліпвала. На табло гарэў надпіс: «Нездавальняюча».

— Што гэта? — разгублена спытаў Ланской, прывычным рухам пагладжваючы паголеную галаву.

Віеў развёў рукамі:

— Экзаменатар не памыляецца.

Потым глянуў на Вілену. Твар яе гарэў, падбародак быў крыху прыўзняты, вочы прыжмураны.

— Гэта няпраўда! — у гневе сказала яна.

— Што няпраўда? — здзівіўся Віеў.

— У вашай машыны адмовілі тармазы, вось і ўсё! Яна — толькі машына,— з пагардай сказала Вілена.— Я сцвярджаю, што ўсе мае адказы былі правільныя, і настойваю на праверцы.

— Ого! — здзівіўся Віеў, азіраючы Вілену з галавы да ног.— Мне гэта пачынае падабацца.

— А мне зусім не падабаецца,— адрэзала Вілена.— Спадзяюся, што гутарка з машынай запісана на плёнку.

— Вядома. Яе можна даць праслухаць любой камісіі.

— Я на гэтым і настойваю.

— Вы хочаце памяняцца з машынай месцамі?

— Думайце як хочаце. Я ведаю, што экзамен вытрымала, і хацела б, каб у гэтым пераканаліся і вы, і ўсе, каго гэта датычыць.

...Члены камісіі сядзелі на сваіх месцах, а старшыні не было.

— Я выкажу, быць можа, агульнае неўразуменне,— сказаў прафесар Шылаў, ні да кога не звяртаючыся,— але цана часу, я б сказаў, гэта мерка дзелавітасці і ўзаемнай павагі.

— Пачакайце, дружа мой,— заўважыў акадэмік Рудэнка.— Калі экзамен затрымаўся...

— Электронная прылада не можа спазняцца.

Астатнія члены камісіі, вучоныя і заслужаныя касманаўты, нічога не разумеючы, пазіралі на гадзіннік, адзін на аднаго.

Шылаў дэманстратыўна падняўся:

— Я вельмі шкадую,— пачаў ён, але адразу сеў, бо ўвайшоў Віеў.

— Прашу прабачыць. Я адразу ад машыны.

— Экзамен затрымаўся? — паспяшыў запытацца Шылаў.

— Не, экзамен быў праведзены ў вызначаны час.

— Якая ж ацэнка? — усё пытаўся Шылаў.

— Ацэнка на табло «нездавальняюча».

Канферэнц-зала ўздыхнула, як па камандзе. Акрамя членаў камісіі, што сядзелі за доўгім сталом, тут было шмат касманаўтаў, бо пасяджэнні адборачнай камісіі заўсёды былі адкрытыя. Пытанні вырашаліся ў прысутнасці зацікаўленых асоб, адкрыта.

— Я ад усёй душы шкадую,— уздыхнуў прафесар Шылаў.

Акадэмік Рудэнка цяжка звесіў вялізную сівую галаву. Шылаў глядзеў на дзверы, праз якія ўвайшлі Ланской і Вілена. Яны селі на вольныя крэслы ля сцяны.

— Я ад усёй душы спачуваю,— прадаўжаў сваім прыгожа пастаўленым голасам Шылаў, гледзячы на Вілену,— што ацэнка сапраўды сізіфавай працы такая нечаканая. Але нам прыходзіцца, схіліўшы галовы, толькі згадзіцца з ёй.

— Не,— сказаў Віеў.— У мяне ёсць падставы прасіць камісію ўзяць гэтую ацэнку пад сумненне і самім праслухаць запіс экзамену.

Шылаў гаварыў далей, але цяпер глядзеў долу:

— Я не бачу падстаў адмаўляцца ад прынятых раней рашэнняў. Мы ўхвалілі думку шаноўнага Івана Сцяпанавіча даручыць экзамен машыне, якой ніштю чалавечае не перашкодзіць зрабіць прынцыповы вывад. Ці лагічна цяпер даручаць людзям з усімі ўласцівымі ім слабасцямі вырашаць лёс Вілены Юльеўны Ланской. Што датычыць мяне, члена камісіі, дык я... я не ўпэўнены ў сваёй здольнасці меркаваць аб'ектыўна. Лепш даверыцца машыннай ацэнцы.

— Я не паставіў бы гэтае пытанне перад камісіяй, калі б не жадаў абвергнуць самога сябе,— рашуча заявіў Віеў,— і ў галіне машыннага экзамену, і што датычыць сваіх ідэй зараплавання. Спадзяюся, я маю права прасіць камісію выказаць сваю думку па такім важным для яе старшыні пытанні?

Шылаў адчуў збянтэжанасць. Акадэмік Рудэнка згодна кіўнуў галавой:

— Гэта права Івана Сцяпанавіча. Калі ён жадае, каб мы праслухалі, у чым яго абвяргаюць, адмаўляць у нашай абароне непачціва.

Два члены камісіі падтрымалі акадэміка.

Зала зашумела. Касманаўты нахіляліся адзін да аднаго. Члены камісіі расклалі перад сабой блакноты, каб запісваць па ходу экзамену свае заўвагі.

У зале загучаў роўны, абыякавы металічны голас электроннага экзаменатара і жывы, эмацыянальны, усхваляваны, захоплены голас Вілены.

Члены камісіі слухалі і ківалі згодна, калі гутарка ішла пра матэматыку, астраномію, асновы фізікі.

Нарэшце машына задала выразныя пытанні аб прынцыпах касмічных рэйсаў.

— Скарыстанне фатонных рухавікоў для зоркавых рэйсаў,— пачуўся Віленін голас,— ажыццявіма. Гэта відаць на прыкладзе першага заралёта «Розум», аднак, мала эфектыўна.

Зноў шорхат пранёсся па зале.

— У прынцыпе гэта нагадвае старадаўнія «паставы», калі для кур'ера засылалі наперад зменных коней. У космасе ж засылка наперад грузалётаў звязана з вялікімі цяжкасцямі,— прадаўжала Вілена.— Заралёт павінен наганяць іх, перагружаць з іх паліва і ляцець далей, нарошчваючы хуткасць, каб нагнаць ужо на значна большай хуткасці наступны заправачны карабель. Калі, летучы наперад, гэта ўсё можна ажыццявіць, дык па дарозе назад...— чуваць было, як Вілена ўзяла дыханне, каб гаварыць далей.— Па дарозе назад грузавікі будуць ляцець насустрач караблю і павінны аўтаматычна ў пэўны час павярнуць да Зямлі, каб заралёт нагнаў іх у зваротным рэйсе ў пэўны момант. Гэта робіць надзвычай жорсткім графік зваротнага рэйса. Хто ведае, што можа іх напаткаць у дарозе і на чужой планеце! А парушыць жа расклад нельга, інакш страціш у зоркавай бездані аўтаматычныя кантэйнеры з палівам. Дарэчы, вялікая колькасць лятаючых аб'ектаў, паводле тэорыі верагоднасцей, робіць больш небяспечнай усю сістэму рэйса.

Члены камісіі міжволі глядзелі на Віева. У свой час ён сваім праектам абярнуў супярэчанні вучоных, якія даказвалі, што зорны карабель не можа разагнаць сябе да патрэбнай хуткасці, бо паліва, якое неабходна для гэтага, павінна важыць так многа, што будзе выдаткавана толькі на разгон уласнай вагі...

Віеў глядзеў кудысьці ў столь залы, і яго зморшчкавы твар нічога не гаварыў.

— Значыць, метад Віева для зоркавых рэйсаў непрыгодны? — запытаў халодны металічны голас машыны.

— Мала прыгодны,— выразна адказала Вілена.— Можна прапанаваць куды больш перспектыўны спосаб. Навошта лавіць у космасе спецыяльна запушчаныя па зададзенай трасе грузалёты з палівам, калі ўся міжзоркавая прастора запоўнена палівам?

— Аднак! — усклікнуў Шылаў.

— У адным кубічным сантыметры міжзоркавай прасторы ёсць адзін атам вадароду,— чуўся Віленін голас.— Цяпер, калі праблема сінтэзу гелію з атамаў вадароду вырашана, і пры гэтым вылучаецца велізарная колькасць энергіі, натуральна збіраць па дарозе гэты міжзоркавы вадарод. Ператвараючыся ўстаноўкамі заралёта ў гелій, ён дасць энергію, скажам, для тых жа іённых рухавікоў.

— Як жа яго збіраць? — задаў пытанне Шылаў, нібы мог паўплываць на кірунак запісанай гутаркі.

— Сабраць касмічны вадарод можна пры дапамозе раструба, які будзе разгорнут пасля ўжо адлёту з Зямлі. Памеры гэтага раструба, паводле звычайных уяўленняў, значныя, але для касмічных маштабаў невялікія, мізэрныя. На першым часе палёту гэты раструб будзе часткова ўзнаўляць выдаткі паліва, узятага з Зямлі, а пры дасягненні хуткасцей у дзесяткі, а потым і ў сотні тысяч кіламетраў у секунду раструб забярэ столькі атамаў вадароду, што іх будзе дастаткова для працы рухавікоў. У часе ж палёту па інерцыі з субсветлавой хуткасцю паліва будзе назбірвацца для старту з іншай планеты.

І Вілена прывяла лічбы зробленага ёю разліку.



— Адказ прыняты,— прагучаў металічны голас.

— Вось і ўсё,— сказаў Віеў, націскаючы на кнопку выключэння.— Як бачыце, мае ідэі пераканаўча абвергнуты. Электронны экзаменатар паказаў сябе ўвасабленнем руціннага мыслення, ён не здолеў убачыць больш за тую праграму, якая ў яго закладзена. Адказ, які не супаў з яго шаблоннымі ўяўленнямі, ён зусім спакойна кваліфікаваў як нездавальняючы. Але ж гэта тэарэтычны адказ! Вілена Ланская прапануе новы прынцып зараплавання. І ён болей перспектыўны, чым мой уласны, пакладзены ў аснову пабудаваных заралётаў. Будучыня — за ідэяй Вілены. Я не баюся гэтага сказаць тут! Я прапаную камісіі лічыць, што Ланская вытрымала экзамен на астранавігатара, і ўключыць яе ў склад экіпажа.

Вілена ўхапілася за бацькаву руку і шапнула:

— Які ён!.. А я думала...

Члены камісіі перагаворваліся. Слова папрасіў прафесар Шылаў.

— Я ашаломлены,— сказаў ён.— Няма слоў, каб выказаць маё захапленне. Пераломны момант гісторыі! Зорныя рэйсы па спосабу Вілены Ланской стануць танныя, надзейныя, больш простыя.— Ён глядзеў на Вілену, стараючыся прачытаць на яе твары водгук сваіх слоў.

Вілена ззяла, бо гэта быў голас першага члена камісіі, які падтрымаў яе пасля Віева.

Значыць, яна мела падставы апратэставаць ацэнку машынай яе ведаў.

— Але што нам прапануе шаноўны Галоўны канструктар? — патэтычна ўсклікнуў Шылаў.— Я не магу ніяк уцяміць, як гэта можна чалавека, які зрабіў найвялікшае адкрыццё, узнагародзіць... ссылкай у зорны рэйс! Не кажучы ўжо пра бесчалавечнасць такога кроку. Ці маем мы права адтэрмінаваць рэалізацыю бліскучай ідэі Вілены Ланской на цэлае паўстагоддзе? Я прапаную лічыць, што Вілена Ланская не толькі вытрымала экзамен, але і прадэманстравала незвычайны тэхнічны талент. Але, на жаль, такія таленты астранавігатарам у рэйсе не спатрэбяцца.

Вілена з жахам глядзела на Шылава, які добразычліва ёй усміхаўся. Ёй хацелася ўскочыць. Крыкнуць штосьці рэзкае.

Але тут устаў акадэмік Рудэнка.

— Я зусім не збіраюся адвяргаць думку шаноўнага Ігната Сямёнавіча Шылава, я далучаюся да яго захапленняў. Для мяне толькі незразумела, чаму рэалізацыя ідэі Вілены Ланской, калі яна паляціць, павінна быць адкладзена на паўстагоддзе? Для ўсіх ясна... нават для машыннага мозгу, калі ён правільна запраграмаван, што Вілена заслужыла права ляцець у зорны рэйс. Мы ведаем, што ёю кіравала. І няма ў мяне сіл адказаць адмовай жанчыне, якая паказала, на што здольна каханне. Няхай ляціць, няхай будучым пакаленням раскажа, калі вернецца, што мы з вамі, адданыя навуцы, не чужаліся і чалавечых пачуццяў.

Зноў два члены камісіі падтрымалі акадэміка. Па тварах жа астатніх можна было здагадацца, на чый бок яны схіляюцца.

Падняўся Шылаў:

— Няхай шаноўныя калегі даруюць мне, што я карыстаюся правам, прадастаўленым кожнаму члену камісіі, і прашу адкласці пасяджэнне на дваццаць чатыры гадзіны. Я абавязуюся прадставіць дадатковы матэрыял па пытанні, якое абмяркоўваецца.

У адказ Шылаву — замяшанне. Але Віеў, пацiснуўшы плячамі, аб'явіў, што ён не бачыць прычын, чаму канчатковае рашэнне не можа быць прынята заўтра.

# НОВЫЯ ТРЫВОГІ

Стаяў халодны асенні дзень. Дзьмуў моцны сівер. Дрэвы былі голыя, на спортпляцоўках было пуста.

Вілена хуталася ў лёгкае паліто,— чаму яна не надзела што-небудзь цяплейшае! — і тулілася да бацькавага пляча.

Яны павольна ішлі цэнтральнымі прысадамі. Вецер гнаў насустрач лісце.

Авеноль паслалі наперад, каб падрыхтаваць Ганну Андрэеўну і бабулю. Вілена дастала з кішэні сучок-карагу і кінула ў кусты.

Ззаду нехта спяшаўся. Юлі Сяргеевіч азірнуўся:

— Дзень добры, Ігнат Сямёнавіч! Не меў магчымасці вітаць вас у зале.

— Гэта павінен быў зрабіць я,— пачуўся голас Шылава,— але вы адразу зніклі.

Вілена павярнулася і сустрэлася вачамі з Шылавым.

— Я стараўся дагнаць вас, каб растлумачыць...

— Мне нічога не трэба тлумачыць.

— Усё ж... я разлічваю...

— Я пайду наперад да турбабіля і буду ехаць вам насустрач,— прапанаваў Юлі Сяргеевіч.

Шылаў пачціва схіліў сівую галаву. Ён быў без капелюша.

Шылаў і Вілена некаторы час ішлі моўчкі.

— Я хацеў бы, Вілена, каб вы правільна зразумелі мае паводзіны на камісіі. На жаль, вы былі сведкай непрыемных дэбатаў...

— Не, чаму ж — на жаль?

— Які страшэнны вецер... А я яшчэ і без капелюша...

— Пойдзем хутчэй, я таксама замерзла.

— Не, не спяшайцеся. Я павінен паспець вам сказаць нешта важнае.

— Гаварыце.

— Цяжка, калі супраць ветру. Вернемся крыху назад.

Вілена паслухмяна павярнула. Вецер пачаў дзьмуць у спіну.

— Навошта вам трэба было ўтрымліваць мяне на Зямлі? — без хітрыкаў спытала Вілена.

— Таму, што я кахаю вас. І таму, што я буду змагацца за вас, колькі хопіць сілы...

— Навошта я вам? Я кахаю другога...

— Рэўнасць — перажытак мінулага. Я паважаю ваша пачуццё да чалавека, які пайшоў ад вас у другое стагоддзе. Але я хачу, каб вы засталіся з намі... са мной. Я не думаў, што яшчэ здольны на такое. Я буду клапаціцца пра вас, выканаю любое ваша жаданне, буду ганарыцца вашымі поспехамі.

Вілена рэзка павярнулася да яго:

— Вы думаеце, мяне можна ўтрымаць?

— Вас? Не! Але зрабіць, каб ваш палёт не здзейсніўся, зусім лёгка. Таму я і папрасіў перапынак.

— Што вы надумаліся?

— Памятаеце, я прыязджаў да вас з паведамленнем аб прысуджэнні вашаму супругу доктарскай ступені?

— Памятаю.

— Я ведаў тады, што ён паляціць.

— Я здагадалася... Вы даведаліся аб рашэнні амерыканскага сената пра Джэксана?

— Я цяпер даведаўся пра гэта.

— Што вы маеце на ўвазе?





— Вынікі выбараў у Злучаных Штатах. Новы сенат не згодзіцца з ранейшым рашэннем, якое не дало магчымасці Амерыцы прыняць удзел у зорным рэйсе.

— Вы палохаеце мяне, Ігнат Сямёнавіч...

— Я імкнуўся прадухіліць вашу траўму. Я хацеў, каб камісія пакінула вас на Зямлі ў імя прызнання вашых заслуг, а не дзеля нейкіх палітычных разлікаў.

— Ігнат Сямёнавіч! Растлумачце!..

— Джэксан у Маскве. Ён быў учора ў мяне. Я ведаў перад камісіяй, што Амерыка будзе ўдзельнічаць у зорным рэйсе. Джэксан павінен ляцець... як астранавігатар.

— Значыць, Джэксан тут? — панура запытала Вілена.

— Заўтра ён прыйдзе на пасяджэнне камісіі з новай прапановай прэзідэнта Злучаных Штатаў.

— Гэта страшэнна!.. — усклікнула Вілена.

Яны зноў ішлі супраць шквальнага ветру.

Неўзабаве пад'ехаў на турбабілі Ланской. Ён забраў Вілену і прапанаваў прафесару Шылаву падвезці яго, але той ветліва адмовіўся.

Шылаў забыўся на вецер, стаяў у расхлістаным паліто і доўга глядзеў услед турбабілю, а потым сагнуўся і пабрыў назад у галоўны корпус зорнага гарадка.

...Назаўтра з самай раніцы ішоў дождж. Вілена прыехала адна, без бацькі. Пакінула турбабіль і прахаджвалася па той самай дарожцы, што і ўчора з Шылавым.

Яна прыехала задоўга да пачатку пасяджэння і ўсё пазірала на гадзіннік.

Нарэшце праз сетку дажджу яна прыкмеціла вялізную, захутаную ў плашч постаць чалавека і амаль подбегам кінулася насустрач.

— Джэксан! Гэта вы? Дзень добры!

— О-о! Лэдзі! Вельмі рады... Якое непрыемнае надвор'е...

— Я чакала вас...

— Мяне?

— Так, я ўсё ведаю. Сенат адмяніў ранейшае рашэнне...

— О кэй!.. Не так часта мудрасць гасцюе ў Капітоліі.

— Вы будзеце прэтэндаваць на палёт?

— О-о! Чорны Том мог бы стаць добрым астранавігатарам. Мінулы раз астранавігатар ужо быў. А цяпер...

— А вы ведаеце, што цяпер на гэтае месца рыхтавалася я?

— Вы?

— Так, каб дагнаць па часе свайго мужа. Разумееце?

— О кэй!.. Ваш муж Улэдлен сапраўдны чалавек!..

— Вось я і вырашыла прасіць вас... маліць... Джэксан... Я пакахала... У мяне адна надзея — трапіць на гэты зaралёт... Не прэтэндуйце на месца астранавігатара. Ну, я прашу вас!..

Джэксан панура глядзеў на маленькую жанчыну.

— Не трэба плакаць,— сказаў нарэшце негр.

— Гэта дождж,— адазвалася Вілена, праводзячы рукой па твары.

— Не трэба плакаць. Том Джэксан таксама хацеў плакаць, калі вы, лэдзі, не памаглі яму. Улэдлен быў сапраўдны хлопец, і Том Джэксан згадзіўся. Але цяпер... Даруйце мне... Цяпер чорны Том толькі амерыканскі падданы, дыпламат... Ай эм соры, ён не здолее што-небудзь зрабіць для вас, як не зрабілі і вы для яго... І тады, і цяпер — палітыка. А палітыка не ведае пачуццяў...

Постаць волата-негра і побач з ім маленькую Вілену бачылі праз сеева дажджу акадэмік Рудэнка і Віеў. Яны, не спяшаючыся, ішлі следам у кірунку галоўнага корпуса і размаўлялі.

— Памятаю, калі мы пахавалі бедную Ладу, ты, Ваня,— толькі адзін на адзін акадэмік называў так Віева,— сказаў, што сам не адмовіўся б убачыць будучы час. Я потым усё думаў пра цябе. Сачыў за табой усё жыццё. Колькі ты герояў у дарогу выправіў!..

— Але. Пасля «Вечнага рэйса»... Многа.

— І няўжо сам ні разу не марыў паляцець?

— Чаму ж? Марыў, *Уладзімір Лаўрэнцевіч, асабліва, калі справа* дайшла да межаў сонечнай сістэмы...

— А цяпер? Калі — да другой галактыкі?..

— Цяпер асабліва... У кожнага чалавека павінна быць свая няздзейсненая мэта... Здаецца мне, Уладзімір Лаўрэнцевіч, што ў нас з вамі *яна падобная*.

— Трапіць у будучыню? Так, ці што?

— Вось іменна.

— Дык чаму ж? Думаеш, гібель Лады для мяне ўжо мяжа маім марам?

— Хіба вы рызыкняцё, Уладзімір Лаўрэнцевіч?

— Урачы любяць доследы на сабе ставіць. А інжынеры?

— Дзе там! — махнуў рукой Віеў.— Самі бачыце, што з кожным месцам у зaралёце атрымліваецца...



... Пасяджэнне камісіі было сёння яшчэ больш людпае, чым учора. Многія даведаліся аб рашэнні амерыканскага сената і разумелі, што камісія не можа не ўлічыць яго.

У зале не маглі ўсе змясціцца. Касманаўты і супрацоўнікі касмічнага цэнтра тоўпіліся ў калідоры. Па радыё яны слухалі ўсё, што рабілася ў зале.

Віеў адкрыў пасяджэнне, далажыў пра змены, што адбыліся ў палітыцы міжнароднага супрацоўніцтва, прадставіў амерыканскага касманаўта Джэксана, які прыбыў, каб удзельнічаць у палёце зaралёта.

Першы ўзяў слова Шылаў.

— Становішча высветлілася. Месца астранавігатара прыйдзецца саступіць амерыканскаму прадстаўніку, як бы мы ні жадалі ўважыць просьбу Вілены Ланской. На адным баку вагаў я бачу разуменне глыбокіх пачуццяў, а на другім — мільярды долараў, якія зробяць зорны рэйс не такім дарагім для нашай краіны. Я ўжо не кажу пра палітычнае значэнне сумеснага палёту савецкіх і амерыканскага касманаўтаў да чужой зоркі. Мы ўсе зацікаўлены ў мірным яднанні двух вялікіх дзяржаў. Рашэнне можа быць толькі адно — астранавігатарам зaралёта «Розум-2» павінен стаць касманаўт Джэксан, якога мне і хочацца павіншаваць.

— Віншаванні — у астатнюю чаргу...— суха заўважыў Віеў.— Задача ясная. Калі ўчора вырашалася пытанне, ці адпавядае Вілена Ланская патрабаванням астранавігатара, дык цяпер... трэба рабіць выбар з дваіх.

— Прашу слова для заявы,— пачуўся голас у зале.

З групы касманаўтаў, якія сядзелі ля сцяны, падняўся невысокі чарнявы чалавек. Ён падышоў да стала камісіі.

— Слова члену экіпажа зaралёта, радыёастраному і радысту Канстанціну Званцаву,— аб'явіў Віеў.

— Дазвольце мне памагчы рабоце камісіі,— пачаў Косця.— Я адмаўляюся ад свайго традыцыйнага права на палёт у карысць Вілены Ланской. Вопытны касмічны радыст Джэксан здолее замяніць мяне.

— Адмовіцца ад палёту мае права кожны кандыдат, у тым ліку і зацверджаны па нашай рэкамендацыі ўрадам,— заявіў Віеў.— Гэтая адмова, на самай справе, можа памагчы нам, бо я, як і ўчора, падтрымліваю кандыдатуру Вілены Ланской.

Вілена сядзела насупраць Шылава і бачыла, як змяніўся яго твар.

— Даруйце,— сказаў з месца акадэмік Рудэнка.— Становішча сапраўды змянілася ў сувязі з самаадданай адмовай маладога чалавека, але... Я не прымаю фармулёўкі — адмова ў карысць каго-небудзь. Адмова, дык адмова. А каго мы прызначым на месца таго, хто адмовіўся, гэта ўжо наша справа, справа камісіі...

Шылаў заззяў:

— Я ўсім сэрцам падтрымліваю думку шаноўнага акадэміка Рудэнкі. Уладзімір Лаўрэнцевіч зусім слушна вызначае нашы правы. Не трэба забывацца, што на кожнае месца ў зaралёце, вобразна кажучы, мільён прэтэндэнтаў.

— З гэтага мільёна,— гаварыў зноў Рудэнка,— я хацеў бы вылучыць аднаго, які сам сваіх прэтэнзій на палёт не выстаўляў, але хто, быць можа, заслугоўвае ўключэння ў склад «місіі розуму», як ніхто іншы. Галоўны канструктар касмічных караблёў, выхавальнік зорапраходцаў, перадавы розум нашага часу, каму вядомы ўсе таямніцы сучаснасці. Хіба ён не здольны зразумець і ацаніць дасяг-

ненні чужой нам цывілізацыі, каб даставіць іх нашым унукам? І хіба ён сваёй дзейнасцю не заслужыў права прыйсці да нашых унукаў як іх сучаснік?

Прапанова акадэміка была зусім нечаканая для ўсіх, уключаючы і Віева. Ён устаў і сказаў:

— Выходзіць, што я стаў зацікаўленай асобай. Таму прашу лічыць старшынёй не мяне, а шаноўнага акадэміка Рудэнку.

Гэта выглядала ўскоснай згодай на палёт.

Рудэнка быў задаволены. Ён перамераў сваім позіркам усіх членаў камісіі. Шылаў папрасіў слова:

— Заслугі Івана Сцяпанавіча Віева ў заваяванні космасу такія вялікія, што не патрэбны ніякія рэкамендацыі. Ведай я, што Іван Сцяпанавіч не будзе супярэчыць уключэнню яго ў склад экіпажа, я б даўно вылучыў яго кандыдатуру.

Вілена сядзела белая-белая і глядзела на Шылава. Той быццам не бачыў яе і гаварыў далей:

— Усёй сваёй дзейнасцю Віеў зрабіў подзвіг не меншы, чым усе героі космасу, абвешчаныя Героямі Зямлі. Ён нашчадак Ікара, Кібальчыча і Цыялкоўскага, ён сімвал навукі нашага часу, ён мае права ўвайсці ў нашае Заўтра!

Шылаў, задаволены сваёй прамовай, сеў. І толькі цяпер скасавурыўся на Вілену. Убачыў яе позірк, якім яна абмянялася з Косцем Званцавым і які шмат аб чым гаварыў.

Камісія аднагалосна (устрымаўся толькі Віеў) прыняла рашэнне аб уключэнні яго ў склад экіпажа.

— Цяпер дазвольце перайсці да асобага пытання,— аб'явіў Рудэнка.— Каму быць астранавігатарам на заралёце.

— Мне здаецца, што пытанне яснае,— паспяшыў заўважыць Шылаў.

— Не зусім. Я звярнуся да нашага госця, амерыканскага касманаўта, чые заслугі мы ўсе ведаем і шануем. Том Джэксан! Вы прадстаўляеце тут Злучаныя Штаты Амерыкі?

Джэксан устаў.

— О кэй, сэр! Амерыка можа прапанаваць пяць мільярдаў долараў як свой узнос.

— Гэта вялізная лічба,— сказаў Рудэнка і глянуў на Вілену.

Яна апусціла галаву. Што яна можа супрацьпаставіць палітыцы, фінансам? Свае пачуцці?

— На жаль, Том Джэксан, вас учора не было тут і вы яшчэ нічога не ведаеце пра той новы прынцып, які прапанавала для заралётаў Вілена Ланская,— гаварыў далей акадэмік.— Я не тэхнік і папрашу каго-небудзь з інжынераў растлумачыць гэты прынцып.

Адзін з членаў камісіі падняўся і вельмі проста растлумачыў амерыканцу ідэю Вілены.

Джэксан зразумеў і расплыўся ўсмешкай.

— О кэй! Іт ыз б'ютэфал! — усклікнуў ён.— Цудоўна!..

— Мы таксама думаем,— сказаў акадэмік.— І вось цяпер дазвольце мне задаць вам, як прадстаўніку Амерыкі, пытанне. Ці не выгадней будзе Амерыцы замест прапанаванага ўзносу прыняць сваю долю ў будаўніцтве трэцяга заралёта, з назвай, скажам, «Зямля», заснаванага на гэтым больш эфектыўным прынцыпе?

Джэксан разгублена глядзеў наўкол.

— Я ўпаўнаважаны гаварыць пра пяць мільярдаў долараў.

— А калі з Амерыкі запатрабуецца менш?

— О-о! Гэта зусім іншая справа. Грошы ў Амерыцы перш за ўсё.



— Тады ці не выступіць нам з прапановай аб праектаванні новага зорнага рэйса заралёта «Зямля», у якім па жаданню прымуць роўны ўдзел усе зацікаўленыя краіны, у тым ліку і наша краіна, і Амерыка? Том Джэксан мог бы стаць адным з кіраўнікоў гэтага рэйса, як прадстаўнік амерыканскай дзяржавы, з самага пачатку праектавання карабля па новым прынцыпе і да самага канца, да яго вяртання на Зямлю.

Джэксан устаў. Ён быў усхваляваны:

— Калі пытанне ставіцца так, дык — о-кэй! Амерыка... гатова ўдзельнічаць у падрыхтоўцы новага рэйса.

— Тады дазвольце мне,— падняўся акадэмік Рудэнка,— устанавіць канчатковы склад экіпажа заралёта «Розум-2». Побач з ужо зацверджанымі дзесяццю заралётчыкамі, у склад экіпажа мы будзем прасіць урад уключыць Івана Сцяпанавіча Віева і Вілену Юльеўну Ланскую. Ці ёсць хто супраць? Устрымаўся? Прафесар Шылаў? Добра! Прынята пры адным устрымаўшымся.

Касманаўты абступілі Вілену і наперабой віншавалі яе.

## НА ПАРОЗЕ

Надышоў дзень праводзін. Снег моцна хвастаў па твары.

Людзі спяшаліся ў галоўную залу. Гул галасоў аддаваўся ў скляпенні, якое вісела на сталёвых тросах і высокіх мачтах.

Авеноль прыбегла пазней за ўсіх. У руках быў букецік чырвоных гваздзік. Яна ўбачыла Віева ў срабрыстым касцюме. З ім побач быў высокі, ледзь згорблены, сівабароды стары.

— Ну што ж, Ваня, можа і ўбачымся...— сказаў стары.

— Ад вас, Уладзімір Лаўрэнцевіч, залежыць... Я не здзіўлюся, калі ўбачымся.

— Але ж я не закаханы,— пажартаваў стары акадэмік.— А маёй Мэры не вернеш...

— Закаханы і вы!.. Ды яшчэ як!.. У будучыню.

— Супраць гэтага не супярэчу.

Авеноль падумала, чаму гэтыя пажылыя людзі так закаханы ў будучыню, а яна, каторай гэтая будучыня належыць, не можа нават уявіць свайго месца там? Яна ўздыхнула і пачала шукаць сваіх. Неўзабаве ўбачыла бацьку з Віленай.

Вілена была нейкая асаблівая, у срабрыстым, як і Віеў, касцюме. Твар яе быў узрушаны, але вочы — журботныя.

— Апошнія хвіліны... Я ганаруся табой, дачка,— гаворыць бацька.— Легенда пра Вілену будзе паўтарацца і пасля твайго вяртання.

— Дзякуй, тата... Калі б не ты...

— Усе мы толькі людзі, у кожнага свае слабасці...

— Дзе ж мама? Давай развітвацца так, быццам убачымся? Разумееш?

— Ты шмат ад мяне патрабуеш, але...— Ланской паглядзеў на купкі людзей вакол кожнага срабрыстага касманаўта і сказаў: — Але, відаць, правільна патрабуеш.

Тут падышлі маці і бабуля. Маці не заплакала. Яна прытуліла да сябе Вілену, якая здавалася ў параўнанні з ёй зусім маленькай, амаль дзяўчынкай, што прыбралася на ёлку.

— Ну, дачушка мая ненаглядная... Не ведаю, што і сказаць табе на парозе... Раней, прызнаюся, спадзявалася я, ты ўжо не злуйся, спадзявалася я, што ты не вытрымаеш, здасіся... А цяпер... цяпер самой неяк гідка думаць пра гэта.

— Мамачка! Я цябе разумею... Я таксама не магу і падумаць, што хацела Уладлена адгаварыць ад палёту.

Авеноль адчувала, што маці вось-вось можа расплакацца, а гэтага нельга было тут дапусціць.

Бабуля гэта таксама зразумела і сказала, абняўшы маці за плечы:

— А ты не кажы так, нібы хаваеш каго...

— Сябе хаваю. На ўласных хаўтурах прысутнічаю.

— Цябе столькі народу праводзіць не прыйшло б,— пажартавала бабуля.

— Ох і праводзіны! — ледзь вымавіла маці.— Нестае ў мяне больш сіл!..

Юлі Сяргеевіч заўважыў гэта, узяў Ганну Андрэеўну пад руку і адвёў ад Вілены. Авеноль праціснулася на іх месца і падала Вілене



чырвоныя гваздзікі. Яна ўчора ўвесь вечар шукала іх у магазінах і знайшла.

— Няхай гэтыя кветкі нагадваюць табе пра нашу прыгажуню-Зямлю,— сказала Авеноль.— Цікава, якія ты кветкі ўбачыш, калі вернешся?

— Я вярнуся сюды па такія ж кветкі,— сказала Вілена, усміхаючыся і цалуючы сястрычку.

— А я цябе сустрэну з такім самым букетам.

— Кім жа ты станеш?

— Яшчэ не прыдумала, але прыдумаю абавязкова. Перадай Уладлену.

— Ты яго раней убачыш. Разам сустракаць мяне будзеце.

— На маім месцы стаяць будзеш, вось тут,— уставіла бабуля.

— Ой, бабуля! Я не хачу замест цябе. Ты сама...

— На гэты конт у мяне свой погляд,— загадкава сказала бабуля.— Я вось на цябе мілуюся, Вілена мая, і думаю... Тут некаторыя сябе хаваюць, кажуць — нас ужо не сустрэнеш... А я не хаваю сябе. Якое ж гэта пахаванне, калі я працяг свайго жыцця бачу, Джульета мая!

— Чаму Джульета? — спытала Авеноль.

— Былая Джульета ў імя кахання жыццё зусім пакінула. А новая Джульета інакш пытанне вырашыла.





— А табе хацелася б яшчэ раз сыграць Джульету? — спытала Авеноль.
— Ужо калі прызнацца вам, дык хацела б я сыграць... Вілену.
— Дзякуй, бабуля! З табой заўсёды лёгка! Ты дужая.
Бабуля абняла абедзвюх унучак, прытуліла іх галовы да сябе і ціха сказала:
— Я таму дужай выглядаю, што ў парадоксы часу не веру. Час нязменны. Фокусаў тут не можа быць. Так што я цябе дачакаюся, унучачка родная. Ляці з лёгкай душой. Я не спрабавала табе навязваць свае погляды і адгаворваць ад подзвігу, бо ў подзвігу тваім ёсць выражэнне Вялікага Кахання, якому ў юнацтве я толькі на сцэне служыла. А ты — у жыцці. І гэтым я ганаруся.
Рудэнка заўважыў Вілену, падышоў.
— А вось і яна, гераіня дня!.. Вам нават да твару гэты срабрысты касцюм, дарагі мой зоранавігатар!..— усміхаючыся, сказаў ён.
— Дзякуй!— адказала Вілена.— У лёдавай глыбе я мела б горшы выгляд...
— Дзейнічаць заўсёды лепш, чым чакаць,— сказаў акадэмік.
— Прыдумала!— нечакана ўсклікнула Авеноль.— Я таксама касманаўткай стану! І мы з табой сустрэнемся, Віленка мая! Сустрэнемся такімі ж!..
— А сілы ў цябе хопіць?— запытала бабуля.
— Я вазьму ды закахаюся! Закахаюся — і ўсё тут!..
— Ну што ж,— адазваўся стары акадэмік.— Каханне ўсё перамагае. Дазвольце мне ў знак любві ўсенароднай пацалаваць вас тройчы на паросе. Эх, сесці няма дзе па старому рускаму звычаю.
І акадэмік Рудэнка абняў і расцалаваў Вілену, потым пачаў пераходзіць да другіх касманаўтаў.
З натоўпу да Вілены прабіраліся прафесар Лебедзеў, яго пляменнік Болеў. З імі разам была і лабарантка Наташа. Яна першая кінулася на шыю Вілене.
— Якая вы!..— толькі і здолела вымавіць яна.— Як бы я хацела стаць такой!..
Лебедзеў, увесь расчырванелы, доўга і моўчкі трос Вілене руку. А Болеў пазіраў у яго з-за спіны.
— Вілена Юльеўна! — гаварыў ён.— А я...
— А я вас, Ваня, таксама пацалую,— сказала Вілена і, прыўзняўшыся на пальчыкі, пацалавала збянтэжанага маладога чалавека.— Гэта вам,— дадала яна, падаючы яму нейкі пакуначак.
— Што гэта?
— Мае валасы.
— Вашы валасы? — зжахнуўся Болеў.
— Так,— проста адказала Вілена.— Прыйшлося адрэзаць. У шлеме было б цесна. Акрамя таго... багі патрабуюць ахвяр...
— Я буду захоўваць іх...
— Дзякуй за ўсё, дарагі. Хай вас хто-небудзь гэтак жа пакахае, як я Уладлена.
Віеў выйшаў з натоўпу на вольную палавіну залы і гучна аб'явіў:
— Экіпаж заралёта, за мной!
Пачаліся апошнія развітанні — абдымкі, пацалункі. Каля Віева ўсё большала касманаўтаў.
— Калі б не было развітання, не было б і сустрэч,— сказала Наташа.
— Якіх сустрэч?.. Хто ж яе сустрэне! — стрымліваючы рыданне, ледзь вымавіла Ганна Андрэеўна.



— Няма нічога вышэй за каханне жанчыны...— не здавалася бабуля.
— Няма нічога глыбей за гора маці! — цвярдзіла сваё Ганна Андрэеўна.
— У гэтым і непераможнасць чалавецтва,— сказаў Юлі Сяргеевіч.
Усе, хто праводзіў, выйшлі на балкон. Адсюль было відаць лётнае поле, праўда, без звыклай для аэрадромаў узлётнай дарожкі. Рэалёт — паветраны карабель, здольны ўзлятаць без разбегу, дзякуючы вертыкальным стартавым рухавікам,— стаяў у чаканні групы заралётчыкаў. Ён даставіць касманаўтаў на востраў, адкуль яны паляцяць да зораў.
Касманаўты срабрыстай чародкай ішлі праз шэрае ад снегавой крупы поле да рэалёта.
Тыя, што стаялі на балконе, намагаліся пазнаць тых, каго праводзілі. Іх было дванаццаць. Самай маленькай сярод іх была Вілена.
Яшчэ хвіліна, другая — і ўсе яны зніклі ў цёмнай пройме дзвярэй карабля. Дзверы шчыльна захлопнуліся.
Зараўлі рухавікі. З-пад крылаў заклубіўся дым і нібы ўзняў на сабе машыну-волат. Яна хутка набірала хуткасць.
На зямлю паволі садзіўся туман.

## ЭПІЛОГ

У ілюмінатары гарэлі знаёмыя з зямлі сузор'і. Як бясконца даўно ведала Вілена іх! З таго часу столькі адбылося! Засталіся ззаду сустрэча з цывілізацыяй этанаў і мірыяды кіламетраў, пройдзеных «Розумам-2». Карабель колькі разоў ужо сустракаўся з аўтаматычнымі грузалётамі, беручы ў іх паліва для фатоннага рухавіка. Апошнія сустрэчы былі ўжо па дарозе назад з планеты Этана. І раптам цяпер...
Радыёлакатар выявіў на падыходзе да Зямлі нябачны касмалёт. Ён ляцеў па трасе заралёта амаль з той жа хуткасцю, што і «Розум-2». Вілена вылічыла, калі і на якой хуткасці павінна адбыцца гэта непрадбачаная сустрэча.
Можа, гэта Зямля, турбуючыся пра сваіх зорапраходцаў, паслала ім насустрач запасны паліваво з.
Нарэшце з касмалёта быў прыняты сігнал радыёмаяка. Незнаёмы голас паўтараў:
«Заралёту «Розум-2» запраўціцца дадаткова гаручым. Карабель не пакідаць на прызямной арбіце, а прызямліць на палярным касмадроме. Заралёт прызначан для музея».
— Для музея! — незадаволена буркнуў Віеў.
Вілена ўстрывожылася. «Чаму ў музей прызначан «Розум-2»? Што ж здарылася з першым заралётам? Ці вярнуўся ён? Ці чакае яе на Зямлі Уладлен? Ці ўдалося камандзіру Тучы знайсці ў космасе ўсе аўтаматычныя запраўчныя станцыі, пасланыя па яго трасе? А што, калі...»
Сувязі з Зямлёй яшчэ не было. Радыётэлескопы Зямлі, вядома, прынялі паведамленне пра вяртанне «Розуму-2», але апаратура заралёта яшчэ не чула зямнога голасу.
Віеў аддаў распараджэнне запраўціцца дадатковым гаручым. Манеўр збліжэння караблёў у космасе быў праведзен дакладна.
Грузалёт памчаўся наперад. Больш правільна, «Розум-2», прадаўжаючы тармажэнне, каб увайсці ў сонечную сістэму на параўнаўча малой хуткасці, адставаў.
Хутка Зямля!.. Хто чакае іх? Што прынясуць яны на Зямлю, акрамя музейнага экспаната састарэлай тэхнікі?

Віеў добра разумеў, што яго тэхнічныя ідэі састарэлі. Аднак няхай і на «музейным заралёце», але — экспедыцыя Віева ўсё ж несла на Зямлю неацэнныя звесткі пра цывілізацыю больш высокую, чым зямная.

Стужкі галаграм засведчылі, як жывуць этаны, так падобныя на людзей. Усе яны сумяшчаюць сваю працу на прадпрыемствах або ў навуковых лабараторыях з апрацоўкай багатай глебы планеты. Цудоўныя сродкі транспарту дазволілі этанам пасяліцца між лясоў і палёў. Ім лёгка пераносіцца з дамоў на ўлонні прыроды, у мясціны, дзе яны працуюць.

Этаны ахвотна перадалі свае веды госцям з Зямлі. Вельмі каштоўнымі будуць уяўленні этанаў пра законы развіцця Сусвету, пра структуру рэчыва, пра адзінства энергетычных палёў, пра гравітацыю і антыгравітацыю, нарэшце, пра асобае энергетычнае поле — «поле думкі». Карыстаючыся гэтым полем, этаны маюць зносіны на любых адлегласцях без прыбораў. Дарэчы, людзям будзе цікава, што, як правіла, апаратура там малекулярных памераў, а ў сілавых машынах узноўлены мышцы волата і хімічныя працэсы, якія адбываюцца ў іх. Віеў нават назваў цывілізацыю этанаў бялковай, у адрозненне ад зямной, металічнай.

Але асабліва важна будзе людзям Зямлі даведацца, што на Этане існуе адзінае для ўсёй планеты грамадства, пабудаванае на камуністычных асновах, без прынукі і прыгнёту, без парушэння маральных норм.

Этаны ўжо даўно прыйшлі да пераканання, што некаторыя ўласцівасці жывёл, выпрацаваныя незлічонымі пакаленнямі продкаў, якія змагаліся за існаванне шляхам забойства другіх жывёл, у тым ліку і да сябе падобных, непрыймальныя для вышэйшага розуму. Яны глыбока праніклі ў разуменне механізму спадчыннасці, даўно адкрыўшы малекулярныя ланцужкі нуклеінавых кіслот, якія праграмуюць развіццё любога арганізма. І яны навучыліся ўздзейнічаць на гэты ланцужок, каб выключаць у новых пакаленняў «звярыную аснову» — імкненне да забойстваў, да гвалту, да перамогі аднаго над другім.

Этаны, такім чынам, палепшылі самі сябе, навекі скасаваўшы войны, злачынствы і антыграмадскія ўчынкі. Жорсткасць, якая была ў аснове барацьбы за існаванне ранейшых пакаленняў, цяпер стала чужой кожнаму этану яшчэ да яго нараджэння. Нават бялковы харч яны навучыліся вырошчваць у глебе, як і сілавыя мышцы машын, замест таго, каб забіваць для задавальнення сваіх патрэб жывыя істоты.

«Хто ведае,— думаў Віеў,— можа гэты спосаб удасканалення жыцця стане карысным і на Зямлі, дзе выкараняюцца рэшткі ранейшых адносін, заснаваных калісьці на забойствах і войнах, на ўладзе, прымусе, прыгнёце, жорсткасці...»

Усе гэтыя неацэнныя адкрыцці Віеў разлічваў паведаміць толькі пасля прызямлення. Бо ён не ўяўляў сабе, якое новае пакаленне цяпер на Зямлі, калі мінула паўстагоддзя за тыя пяць гадоў, што былі яны ў палёце. Між іншым, яго цікавіў і парадокс часу Эйнштэйна, які на планеце Этана нельга было праверыць, бо не было абсалютнага вылічэння часу. Толькі на Зямлі можна будзе ўстанавіць, колькі ж часу прайшло на самай справе.

Здарылася так, што ў першай радыёграме, якая прыйшла з Зямлі ў адказ на даўняе паведамленне «Розуму-2» пра сваё вяртанне, было шмат шчырай радасці, цеплыні, але адсутнічала дата. Магчыма, што парадокс часу на Зямлі перастаў ужо быць праблемай.



У той радыёграме, якую Віеў паслаў у адказ, ён не задаў пытання, колькі гадоў мінула. Ён не хацеў, каб члены яго «місіі розуму», выстаўляліся невукамі, што сумняваюцца ў відавочнай на Зямлі ісціне.

Вілена цяпер усё часцей думала пра словы бабулі, якая не верыла ў парадокс часу і лічыла гэта дасціпнай выдумкай. «А што, калі праўда на яе баку?»

Вілена цяпер вельмі добра ведала тэорыю адноснасці, каб усумніцца ў яе вывадах. І ўсё-такі яна запытала:

— Іван Сцяпанавіч, для тэорыі адноснасці ўсё роўна, што лічыць рухомым, а што нерухомым?

— Вядома, можна ўявіць сабе, што Зямля верціцца вакол сваё восі і мчыць па арбіце вакол Сонца. Але можна з тым жа правам лічыць, што Сусвет разам з Сонцам верціцца вакол Зямлі.

— Што ж тады адкрыў Капернік?

— Ён упершыню ўбачыў нерухомы пункт па-за нашай зямной планетай.

— А калі я ўбачу, што ляціць не наш карабель, а зямны шар?

— І гэта будзе заканамерна. Зямны шар аддаляўся ад нас амаль з хуткасцю святла, а цяпер вяртаецца.

— Але ж тады не ў нас, а на зямным шары час павінен ісці павольней? І Авеноль, а не я, застанецца маладой. Мы ж з вамі павінны пастарэць на пяцьдзесят гадоў. А мы не пастарэлі...

Віеў разрагатаўся:

— Цудоўны кур'ёз! Стаўлю пяцёрку. Гэты кур'ёз упершыню прыдумаў даўні праціўнік тэорыі адноснасці Герберт Дзінгль.

— У чым жа яго памылка?

— У недарэчнасці вывадаў, да якіх прыходзіш. Калі б Зямля, не маючы рухавікоў, уцякала ад нас, набіраючы субсветлавую хуткасць з дапамогай нашага фатоннага рухавіка, дык варта было б дапусціць нам памылку, зрабіць перагрузку смяротэльнай і — загінулі б, выходзіць, не мы, а ўсё чалавецтва напаткала б пагібель?.. Не! Нельга разглядаць Зямлю без іншых цел Сусвету. Бо, у адносінах да іх, яна не паляціць з хуткасцю святла. Гэта мы так разганяліся сярод зорак. На нас пры гэтым дзейнічалі ўсе гравітацыйныя целы Сусвету, якія мянялі маштаб нашага часу, залежны ад гравітацыі.

Раней Вілена задаволілася б такім тлумачэннем, як і тады, калі Уладлен тлумачыў ёй вобразна, але недакладна, сутнасць парадокса часу, але цяпер... Цяпер ёй аргументы праціўнікаў Дзінгля здаліся надуманымі. А што, калі на самай справе ніякага парадокса часу не існуе і бабуля інтуітыўна адчувала гэта?

Калі б на тое воля Вілены, дык першым запытаннем да Зямлі было б: ці вярнуўся першы заралёт і які цяпер год. Але Вілена была толькі астранавігатарам. З Зямлёй размаўляў Віеў, а ў яго былі свае погляды.

Паміж радыёрэплікамі зямнога касмічнага порта і заралёта праходзіла спачатку па некалькі дзён, потым па некалькі гадзін, нарэшце, дзесяткі хвілін... Вілена надта добра памятала, чаго каштавала ёй прачакаць сем мінут у часе тэлеспаткання, каб убачыць у адказ усмешку Уладлена.

Калі інтэрвалы між радыёрэплікамі сталі роўнымі гэтым сямі мінутам, Вілена адчула сябе ўжо дома, на Зямлі... Радыёграмы былі толькі службовыя: сухія лічбы падказвалі, як ляцець заралёту, дзе прайсці небяспечныя паясы высокіх энергій, дзе прызямліцца.

«Няўжо на Зямлі ўжо не памятаюць яе пачуццяў? Не, значыць, заралёт не вярнуўся!..» Адчай валодаў Віленай. Але на Зямлю вяр-

талася ўжо другая Віленa, не тая, якая рыхтавалася да палёту. Яна прызвычаілася валодаць сабой, ды і не было ў яе часу аддавацца слабасцям, трэба было дакладна разлічваць курс заралёта ў часе складанага манеўру пасадкі.

Вілена гэтак жа віртуозна валодала цяпер электроннымі прыборамі, як раней раялем. Яна задала пілотам дакладную праграму выхаду на прызямную арбіту вышэй за паясы высокіх энергій і праходжання карабля ў «горлачка магнітнай бутэлькі» каля паўночнага полюса.

Дадатковае паліва, атрыманае пры падыходзе да Зямлі, дазволіла заралёту «Розум-2» сесці на Зямлю. Пасадка была зроблена на адным з астравоў Запаляр'я.

Заралёт спачатку стаў на свой трохкіламетровы хвост, упёршыся люстэркам фатоннага рухавіка ў зямлю. Дужыя рукі-волаты лятаючых кранаў падхапілі яго і асцярожна палажылі на скалы вострава. Можна было выходзіць.

Спадарожнікі Віева і Вілены аддраівалі люк, які не адчыняўся з часу адлёту з Зямлі.

І вось ён адчыніўся. Заралётчыкі ўбачылі блакіт неба над Зямлёй, а пад ім сіняе, сіняе мора.

Віеў выйшаў першы і, узяўшы за руку Вілену, памог ёй сысці з высокага парога. За імі выстраіліся і астатнія дзесяць заралётчыкаў.

Па зялёнай траве касмадрома да іх беглі людзі.

Вілена дыхала на ўсе грудзі, і ўсё-такі ёй не хапала зямнога паветра. Яна адчувала, што сэрца гатова вырвацца з грудзей.

Яшчэ нельга было пазнаць твары людзей, бо далёка. Але што гэта? Чаму на востраве ў Запаляр'і няма снегу? Чаму на моры няма лёду? Значыць, сапраўды мінула паўстагоддзя і людзі паспелі перайначыць прыроду?

Сумненняў у парадоксе часу больш няма!..

Але хто бяжыць наперадзе тых, што сустракаюць? Дзяўчынка з косамі? Дык гэта ж Авеноль! Сэрца ў Вілены нібы спынілася на якое імгненне.

Побач з Авеноль яна ўбачыла Уладлена. Не вытрымала, хоць давала зарок Віеву, і кінулася ім насустрач.

Уладлен, яе Уладлен, усё такі ж, толькі цяпер без акуляраў, як бывала, сціснуў яе ў абдымках і не адпускаў.

Вілена глянула ў яго з-пад рукі і ўбачыла... бабулю. Яна ішла, усміхаючыся, побач з акадэмікам Рудэнкам. Яго белая барада развівалася на ветры. А за імі — знаёмыя Вілене ўсё тыя ж Джэксан і Косця Званцаў.

Як хораша! Вілена з палёгкай уздыхнула. Выходзіць, ніякага парадокса часу няма! Усё было памылкай... Але дзе ж тата і мама?

Дзяўчына з косамі падавала Вілене букет чырвоных гваздзік.

— Пачакай жа, Вілена,— сказаў Уладлен.

Можна было падумаць, што Вілена трымала Уладлена! Гэта ён трымаў яе. І адпусціў толькі тады, калі падышлі бабуля і стары акадэмік.

Вілена ўзяла кветкі, абняла Авеноль і кінулася да старой:

— Бабуля, любая! Я такая шчаслівая, што ты тут...

І старая жанчына, ледзь перасільваючы ўзрушэнне, гаварыла:

— Вілена, мая Вілена, я ўсё ж дачакалася цябе. А вось твая ўнучатая пляменніца. Мы з Ванем назвалі яе тваім імем. Вілена, падыдзі да цёткі!

Вілена нічога не разумела. Дзяўчынка з косамі смяялася.



— Я нашу ваша імя,— сказала яна.

— Як? — здзівілася Вілена.— Ты не Авеноль?

Дзяўчынка адмоўна пакруціла галавой і паказала вачамі на старую:

— Вось бабуля Авеноль. А я — Вілена Болева.

Цяпер толькі Вілена пільна пачала прыглядацца да Уладлена без акуляраў. Можа і ён не Уладлен?

— Я чакаю цябе ўжо больш года,— сказаў Уладлен.— Наш рэйс завяршыўся добра. І я верыў, што ты вернешся. Але я не спадзяваўся, што ты паляціш. Цяпер, калі ўлічыць усё, што адбылося, я не варты цябе...

— Не! Варты! Яшчэ як варты!

Вілена зноў прытулілася да Уладленавых грудзей. Потым прыўзняла галаву і запытальна так глядзела на старога акадэміка.

— А я вас пазнаў, дарагая мая Вілена, пазнаў... І срабрысты касцюм усё гэтак жа вам да твару...

— Значыць? — запытала Вілена.

— Значыць, я шчаслівейшы за Ладу,— адказаў акадэмік.

— Анабіёз? — зжахнулася Вілена.

— Мяне ж не ўзялі ў зорны экіпаж,— быццам апраўдваючыся, сказаў Рудэнка.— А вось іх узялі,— і ён паказаў на Джэксана і Косцю Званцава.

Абодва моцна пацiскалі рукі Вілены.

— Мы лятали на караблі «Зямля», пабудаваным па вашым прынцыпе,— сказаў Косця Званцаў.

— Многа дзешавей. Многа надзейней. Дзякуй! — сказаў Джэксан.— Не дарма вы яго прыдумалі.

— Як жа дарма, калі...— усклікнула Вілена, шчаслівымі вачамі гледзячы на Уладлена.

Пасля першых абдымкаў, пацалункаў надышло супакаенне. А разам з ім і пачатак сур'ёзных размоў.

— На планеце нам было вельмі цяжка зразумець яе насельнікаў,— расказваў Уладлен.— Але мы пацвердзілі там расшыфроўку музыкі нябесных сфер... Мы прывезлі шмат запісаў гэтай музыкі. Трэба перш расшыфраваць яе, і тады мы даведаемся пра ўсе падарункі так не падобных да нас разумян.

Рудэнка абнімаў Віева.

— Я загадаў разбудзіць мяне перад прылётам вашага карабля. Дык што ты прывёз, голубе?

Віеў і Рудэнка адышлі ў бок. Віеў кораценька паведаміў акадэміку пра спосаб, якім этаны ўдасканальвалі сябе.

— А ці трэба гэта людзям Зямлі? — спытаў Віеў.

Рудэнка задумаўся.

— Мне цяжка сказаць. Я не паспеў яшчэ пра ўсё даведацца. Яны,— ён так гаварыў пра людзей новага часу,— шмат зрабілі. Я думаю, што ў кожнай цывілізацыі павінен быць свой шлях. Дапамога магчыма, але не сляпое перайманне. Мабыць, ёсць два спосабы ўдасканалення людзей. Адзін — гэта «малекулярная стэрылізацыя» этанаў, хай будзе дазволена мне яго так назваць. А другі — гэта выхаваўчае ўздзеянне самога грамадства на сваіх членаў, адміранне «звярыных асноў», як несумяшчальных з новымі ўмовамі жыцця і непатрэбных у новы час. Гэтым шляхам ідуць людзі на Зямлі. Яны ўжо стварылі камуністычнае грамадства, адзінае на ўсёй планеце. Войны цяпер сталі немагчымымі, а галоўнае, непатрэбнымі. Таму і імкненне людзей да забойстваў няма і не будзе, бо гэта ўжо непатрэбна для іх існавання. Прырода мудрая. Яна падтрымлі-

вае толькі тыя асаблівасці віду, якія садзейнічаюць яго захаванню. Пытанне ж пра тое, ці быць усім нам цяпер вегетарыянцамі, вырошчваць мясную жывёлу для харчавання ці мясістыя грыбы для той жа мэты, гэта ўжо другараднае пытанне...

Вучоныя доўга хадзілі па касмадроме. А маладыя людзі новага часу, якія праводзілі астатніх заралётчыкаў у будынак касмадрома, з пашанай глядзелі на іх, сучаснікаў гісторыі, што была для іх гонарам.

Уладлен і Вілена, трымаючыся за рукі, ішлі па высокай траве, што была ім у пояс. Яны выйшлі на бераг мора і спыніліся ля старога драўлянага крыжа, прыкрытага празрыстым каўпаком.

— Паклон табе, лейтэнант Сядоў! — сказала Вілена.— Мы прадоўжылі твой шлях у Вялікае Невядомае!

— Цяпер Вялікае Невядомае ляжыць для нас з табой, Вілена, вунь там,— сказаў Уладлен, паказваючы рукой на поўдзень, дзе разгаралася зара.

— Там?

— Але, там. Дзе жывуць людзі... па-новаму.

— Нам, выходзіць, трэба адкрыць яшчэ адну планету?

— Самую дзівосную.

— А на гэтай новай планеце — пра тое, што кахаеш, можна гаварыць тысячу разоў ці гэта трэба сарамліва ўтойваць?

— Не ведаю,— сказаў Уладлен.— Але такім старцам, як мы з табой, можна і паўтараць тысячу разоў...

Яны прыселі на скалу.

— За што ты мяне пакахаў? — спытала Вілена, прытуліўшыся шчакой да яго пляча.

— А хіба можна пакахаць за што-небудзь?

— Ну, а калі б я не была гімнасткай, не здалася табе феяй, калі б не іграла на раялі?

— Я ўсё роўна пакахаў бы цябе. Але вось калі б ты не была сама сабой, калі б не паказала, на што здольна каханне... цябе не было б зараз са мной. А хіба я мог так зрабіць?

Яны ўсталі і глядзелі на аранжавую зару, што адлюстроўвалася ў залацістым моры.

— У мяне ўжо галава ідзе кругам. Гэта ранак ці вечар? — спытаў Уладлен.

— Любы мой, вядома, ранак... Наш новы ранак.

Пераклалі з рускай мовы
**Вера ПАЛТАРАН і Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

*Яўген* **ЗАМЕРФЕЛЬД**



# ХІБА ЯЗДА?..

Хіба язда, калі прамільгваюць
Бяроза, Гайна, Зембін, Мсціж?
Так ні травінкі і ні вільгаці
Не разбярэш, а праляціш.

Аж да Бягомля, закупораны
У шкло аўтобуса.
А вы б,
Вы ўсе, хто часам іншым створаны,
Вось так
праехалі б у глыб,

Каб і на вас дыхнула кветкамі,
Запахла водарам, ракой,
На ўвесь раён па-над палеткамі
Парушыў жаўранак спакой?

На возе вы.
Конь спатыкаецца,
Ідзе, не думае дайсці.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Або ў той час, калі ўзнімаецца
Імжа за Бытчай на пуці?

---

Прысвячаецца тым, хто калісьці ездзіў па дарозе Барысаў — Бягомль.

І не відны даўно абрысы вам
Тых родных месц, дзе вы былі.
Адтуль, з-за горада Барысава,
Дагналі хмары, наплылі.

Да Весялова, да Мастоў яшчэ
Хоць і відаць, але дыбаць...
А ўжо над вамі хмараў стоўпішчы,
А па баках — лугі і гаць.

А Зембін — першае прыстанішча,—
Далёкі ўзрост мой маладь...
Каму той конскі транспарт
стане шчэ
Святой рамантыкай язды?

●

Любіў, люблю, калі шпурляюць
З падкоў-талерак снег у твар
Сытыя коні.
Ветры граюць...
Насустрач б'е зары пажар.

Бягуць сярэбраныя хвоі,
Бярозы, кованыя з льду.
«Масквіч» і той нас не дагоніць,
Калі на поўны ход іду.

Капытны крок, а ззаду — метры.
Імчацца коні.
— Эй, давай!
Капыцяць, мкнуць на кіламетры.
Спыніць паспрабуй, затрымай!..

Кідае санкі ўніз і ўгору,
Управа, лева...
Дагані!..
Лес прамільгнуў.
Палёў прасторы.
А там наперадзе — агні.

□ □ □



На месцы гераічнага подзвігу Мікалая Гастэлы камсамольцы рэспублікі збудавалі гэты абеліск.

*Дзень сённяшні — дзень заўтрашні*

Мікола ГРОДНЕЎ

# НА ЗЯМЛІ, СЛАЎНАЙ ПОДЗВІГАМІ

Нарыс

Больш за дваццаць год неба над Дзякшнянамі спакойнае.

Пасля зімы яно вымываецца вясновымі дажджамі. А потым, што ні дзень, чапурыцца перад зямлёй, як дзіця перад маці: зранку адзенецца ў празрыста-блакітны ўбор, удзень сям-там падпудрыцца воблакамі.

Да абеліска часта прыходзяць тыя, хто быў сведкамі подзвігу — Канстанцін Паўлавіч Стэцкі і Мікалай Пракопавіч Камар. Ёсць што ўспомніць бывалым людзям.



к вечару ж іншы раз пакажа і свой характар — нахмурыцца, пырсне шчодрым дажджом, а бывае — секане маланкай, грымне перуном.

Дармо, што летнія грымоты час ад часу страсянуць зямлю. Неба над Дзякшнянамі мірнае, спакойнае.

Зямля ў Дзякшнянах мала сказаць урадлівая — шчодрая зямля! Але, як кажуць, слаўная хата не вугламі, а гаспадарамі.

Мікалай Камар, ідучы з агароднай плантацыі, на якой дружна забуяў гуркоўнік, зацвілі раннія памідоры, думаў пра сваіх людзей. Яшчэ некалькі год назад на гэтым месцы нават бульба па жалуду расла, а летась такі ўраджай сабралі, што не паспявалі адвозіць і гуркі, і памідоры, і радыску, і капусту. Усё гэта плён людскіх рук. Мікалай думаў, што трэба будзе на партыйным сходзе выступіць і сказаць, якія ў Дзякшнянах людзі. Працавітыя, адданыя, руплівыя. Адным словам, харошыя людзі!

— Мікалай Пракопавіч! — аклікнула яго паштальёнка Лена.— Вам пісьмо.— І, як некалі, пажартавала.— За яго і паскакаць можна было б: бач, з-за свету прыйшло...

Памятае Мікалай, як ранняй вясной сустрэла яго Лена з поўнай сумкай газет і не тое што папрасіла, а загадала: скачыце, і ўсё!

Падышлі хлопцы, узялі ў паштальёнкі газеты, прачыталі, што ім паказала Лена, і Уладзімір Сасновіч на поўным сур'ёзе сказаў:

— Ну, Мікалай Пракопавіч, за такую радасць я перад сваімі хлопцамі так бы ўрэзаў «яблычка», што снег растаў бы пад нагамі.

Што ж, Мікалай паправіў шапку — «было не было» — і авансам, пры ўсім народзе, ох і памясіў снегу! Потым хлопцы падхапілі Мікалая на рукі і колькі разоў падкінулі на «ўра». Дзіва што! Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалай Пракопавіч Камар, начальнік другога вытворчага ўчастка, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга!..

З тае пары, калі б Лена ні ўручала Мікалаю пісьмо, заўсёды пажартуе па старой звычцы: «Патанцуйце!..»

На гэты раз Лена не настойвала.

Пісьмо прыйшло сапраўды здалёку, з Марыйска... Ад школьных камсамольцаў.

*«Паважаны Мікалай Пракопавіч,—* прыгожым почыркам выведзена кожная літара.— *Наша камсамольская арганізацыя носіць імя Мікалая Гастэлы. А надоечы мы даведаліся, што Вы і Ваш зямляк Канстанцін Паўлавіч Стэцкі былі сведкамі гераічнага подзвігу капітана Гастэлы. Раскажыце, калі ласка, Мікалай Пракопавіч, нам аб гэтым. А яшчэ хацелася б ведаць, якая цяпер тая зямля, дзе загінуў Мікалай Гастэла, як жывуць і працуюць людзі, якія берагуць памяць героя...»*

У той вечар Мікалай Пракопавіч пісаў ліст у Марыйск.

*«Дарагія сябры!..»* — ён прыгадаў той дзень. Неба было блакітнае, але трывожнае...

*«Так, мы са Стэцкім К. П. былі сведкамі гераічнага подзвігу Мікалая Гастэлы. Нам цяпер ужо цяжка прыгадаць, які гэта быў дзень, бо з тае пары мінула дваццаць пяць год. Аднак добра памятаем, што гэта было на першым тыдні вайны. Прыкладна а дванаццатай гадзіне дня па дарозе Маладзечна — Радашковічы рухалася вялізная нямецкая аўтакалона з салдатамі, з гаручым, са зброяй...»*

...Быў пяты дзень вайны.

Баявы загад з дывізіі, як заўсёды, кароткі і дакладны: «207 палку ў складзе чатырох самалётаў парамі бамбардзіраваць мотамехчасці праціўніка, якія праваліся ў раён Маладзечна — Радашковічы. Вышыня бомбакідання 600—800 метраў...»





**12 чэрвеня разам з усімі выбаршчыкамі нашай краіны будуць галасаваць за дастойных кандыдатаў народа ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР і рабочыя, спецыялісты саўгаса імя Янкі Купалы. Актыўна працавалі перад выбарамі агітатары — галоўны бухгалтар саўгаса Іван Акуневіч, намеснік сакратара камітэта камсамола Вера Зянкевіч і ўчотчыца Марыя Мякінік.**

Фота **А. ДЗІТЛАВА.**

У той дзень звярнуўся да капітана Гастэлы камандзір палка Цітоў, сказаў:

— Нашай пяхоце вельмі цяжка. Трэба памагчы.

— Паможам, таварыш палкоўнік! — адказаў Гастэла.

Неўзабаве капітан Гастэла ўжо вёў баявую машыну на захад. І вось прызначаны па загаду раён...

На зямлі ішоў бой. Успышкі гарматных стрэлаў, чорныя шапкі выбухаў...

Пад Радашковічы падпаўзаў вораг. Непадалёк ад Дзякшнян, у густых кустах ля самай шашы, стоўпіліся варожыя аўтамашыны, цыстэрны з гаручым, танкі, мотапяхота.

Самалёт пачаў бамбіць. Зрабіў адзін разварот, другі...

*«Гэтае відовішча на нас зрабіла вялікае ўражанне,*— прадаўжаў Мікалай Камар.— *Калона даўжынёй каля трох кіламетраў ператварылася ў нешта страшнае: салдаты беглі хто куды, пакінуўшы палаючыя аўтамашыны... У гэты час наляцелі варожыя самалёты, і пачаўся страшэнны, няроўны паветраны бой. Савецкіх самалётаў было тры, варожых — дзевяць. Бой прадаўжаўся доўга. Нашы лётчыкі змагаліся адважна. Нават зараз, дарагія сябры, мы не можам спакойна ўспамінаць гэтую паветраную баталію...»*

Белыя воблакі выбухаў акружылі самалёт. Адзін з сотняў варожых снарадаў разарваўся каля левага матора. Здарылася непапраўнае. Асколкі прабілі бензабак. Самалёт загарэўся. Яшчэ можна было пакінуць машыну — былі парашуты. Аднак унізе, на зямлі, быў вораг. І тады палон... Не! Капітан Гастэла не забыў словы вайсковай прысягі: «Клянуся абараняць Радзіму, не шкадуючы сваёй крыві і свайго жыцця...»

Ён прыняў рашэнне — загінуць, але нанесці апошні ўдар па ворагу.

Самалёт ляцеў над калонай. Вогненны хвост цягнуўся над машынамі.

Бензазаправачнікі і аўтамашыны ўспыхвалі адна за другой. Нарэшце Гастэла развярнуў свой бамбардзіроўшчык і накіраваў яго ў скопішча варожай тэхнікі.

*«Гэты подзвіг, сябры,*— пісаў далей Мікалай Камар,— *адбыўся ў адно імгненне. Ён стаў бессмяротны. Подзвіг лётчыка Гастэлы варты гісторыі... У нас ёсць руднік, калгас імя Гастэлы. Рассякаючы хвалі, ідзе па акіяне танкер з гордай назвай «Капітан Гастэла». А яшчэ рады паведаміць вам, што нашы землякі свята шануюць памяць героя. Неўзабаве пасля вайны ў Радашковічах устаноўлены помнік Мікалаю Гастэле, а летась на тым месцы, дзе Гастэла зрабіў подзвіг, пастаўлены яшчэ адзін помнік».*

На адкрыцці новага помніка быў мнагалюдны мітынг. Прыехала шмат моладзі з навакольных саўгасаў. На мітынгу была і маці Мікалая Гастэлы. Сакратар Маладзечанскага райкома партыі т. Быкоўскі ўручыў юнакам і дзяўчатам, якія былі прыняты ў камсамол, камсамольскія білеты.

Вакол помніка ля Радашковічаў растуць кучаравыя ліпы. Іх пасадзілі камсамольцы. На помніку заўсёды, зімой і ўлетку, кветкі...

Мікалай Пракопавіч кожны дзень праходзіць каля новага помніка і глядзіць на бясстрашны вобраз сокала ў момант рашучага імгнення. Капітан Гастэла ішоў на смерць, каб на гэтай зямлі вечна цвілі кветкі, каб людзі не глядзелі трывожна ў неба.

Да новага помніка з Дзякшнян вядзе новая вуліца. Людзі перасяліліся сюды з хутароў, пабудавалі прыгожыя дамы. Сваю вуліцу яны назвалі Гастэлаўскай.

Вуліца прыгожая не толькі дамамі. Вуліца прыгожая людзьмі.

Мікалай Камар пісаў пра сваіх людзей. Спярша доўга думаў, каго назваць лепшым. Потым, успомніўшы словы сакратара Маладзечанскага райкома партыі т. Быкоўскага, што «ў кожнага чалавека ёсць больш добрага, чым благога, толькі гэтае добрае трэба ўмець бачыць», прыгадаў кожнага камсамольца. Іх у Дзякшнянах васемнаццаць. І ўсе яны пасля школы засталіся ў саўгасе: хто на жывёлагадоўчай ферме, хто вырошчваць хлеб, хто — гародніну. Ва ўсіх працоўная дарога пачалася аднолькава, ад родных ніў.

Гэта было прыкладна гадоў шэсць таму назад — якраз трава на лузе па пояс вырасла. Мікалай прачнуўся разам з сонцам і пачаў кляпаць касу, каб з мужчынамі паспець на сенажаць. Толькі засталося паправіць касу асялком ды паснедаць, як на двор прыйшла жонка Васіля Стэцкага.

— Колечка, даражэнькі,— пачала маліць яна,— выручы... Ніколі не забуду... І Галя, колькі будзе жыць, столькі дзякаваць. Пазыч тысячы тры. Гэта ж я надумалася Галю ў які інстытут упіхнуць. То як жа без грошай...

Мікалай строга паглядзеў на Васіліху, спытаў:

— А чаму сам Васіль не прыйшоў?

— А каб яму язык адсох, твайму Васілю, як ён слова замовіць за роднае дзіця не хоча!

— Грошы ёсць,— сказаў Мікалай.— Але я табе іх не дам, Васіліха. Няма чаго дзяўчыну з панталыку збіваць...

У той вечар Мікалай Камар прапанаваў сабраць у Дзякшнянах адкрыты камсамольскі сход. На сход прыйшла ўся моладзь. Гаварылі доўга, спрачаліся, раіліся.

— Табе, Галя, вельмі па душы той інстытут, у які цябе пасылае маці? — спытаўся Мікалай Камар.

Галя не ведала, што сказаць.

— Вось бачыш! З роднае зямлі трэба браць старт у жыццё. Скажаш, дзеля чаго тады вучылася дзесяць гадоў? А дзеля таго, каб глыбей разумець жыццё, каб ведаць, чаго ад яго хочаш.

Назаўтра Галя Стэцкая прыйшла да дырэктара саўгаса Волкава:

— Лявон Васільевіч, людзі на ферме працуюць, і я пайду на ферму.

На тым незабыўным сходзе словы Мікалая Камара павярнулі ў іншы кірунак біяграфію Галі Стэцкай. Шмат трэба расказваць, як Галя спярша стала лепшым жывёлаводам у саўгасе, а потым — не адразу, праз два гады — лепшай цялятніцай у раёне. Камсамольцы саўгаса вылучалі яе сваім сакратаром.

Два гады таму назад дырэкцыя саўгаса паслала Галю вучыцца ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, што ў Горках, за кошт саўгаса.

Цяпер Галя на трэцім курсе. Калі Мікалая Камара, як лепшага ў раёне начальніка вытворчага ўчастка, узнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Галя прыслала тэлеграму: «Ад душы віншую вас, мой хросны бацька, Мікалай Пракопавіч. Вярнуся ў саўгас, пастараюся, каб на нашай зямлі людзі праслаўляліся новымі ордэнамі».

Быў позні вечар. Дзеці даўно пакладаліся спаць.

Дзеці... У Мікалая таксама растуць дзеці. Будуць і яны шукаць рамантыкі ў жыцці, захапляцца подзвігамі. Гартаваць сябе смелымі, мужнымі, адданымі Радзіме. А пакуль малыя, хай спакойна спяць... А ён яшчэ раскажа марыйскім камсамольцам пра звычайнага дзякшнянскага хлопца, нядаўняга выпускніка Радашковіцкай школы Уладзіміра Сасновіча.

Памятае Мікалай, як Валодзя кожную раніцу спяшаўся ў школу. Пасля школы, пакуль сесці за ўрокі, ішоў на плантацыю і памагаў маці. Памятае, як ад школьнай камсамольскай арганізацыі імя Мікалая Гастэлы Валодзя выступаў перад рабочымі саўгаса ў клубе. Ён гаварыў, што зрабілі камсамольцы ў саўгасе.

І вось адразу як бы пасталеў. Без курсаў, без стажыроўкі раптам паявіўся ў камбінезоне механізатара ля саўгаснай майстэрні. На другі дзень ён на трактары «Беларусь» араў ужо ржышча. Здзівіўся Мікалай,



Саўгасны трактарыст Уладзімір Сасновіч.

як хлопец са школьнай парты адразу на трактар сеў! (Валодзя навучыўся ў школе трактарам і грузавіком кіраваць.)

«Што ж, у добры шлях, юны таварыш!» — сказаў яму Мікалай.

Ад шчырага пажадання ці, як кажуць, з лёгкай рукі школьных педагогаў Валодзя праз год стаў лепшым трактарыстам на ўчастку.

Лёгка сказаць: прыйшоў, пастараўся і клас паказаў!..

Не адразу куецца жалеза, нялёгка і перамога прыходзіць.

— Памятаю першае хрышчэнне,— дзяліўся думкамі на другі год Валодзя з Мікалаем.— Ледзьве прыйшоў ад трактара. Праўда, норму выканаў, затое — ох колькі пораху патраціў! Неяк дацёгся дадому, памыўся... Маці за стол кліча, вячэраць. А я хутчэй — на ложак... Назаўтра трэба паднімацца, а я ні рукой, ні нагой. Галава як свінцом наліта. Маці снедаць заве, а я адмаўляюся і, як бы жартуючы сам з сябе, кажу: «Эх, Валодзька, Валодзька, адзін дзень на пуп узяў, а ўжо крэкчаш, як стары... А да пенсіі,— у-у брат!— далёка яшчэ...» Кпіны не памаглі. Тады ўзяў аптымізм на ўзбраенне. Успомніў даваенную трактарыстку Ангеліну, успомніў Лёню Шнэйдара. Казалі, ён аднойчы на «Беларусі» за змену тры нормы даў! А потым пайшоў са сваёй Надзяй на канцэрт у Радашковічы. Ляжу, успамінаю харошых людзей, а сілы ў мяне не прыбаўляецца. Тады ўспомніў: учора араў на альтанцы, а сёння ж трэба пераязджаць на гастэлаўскае поле. Вылез з-пад коўдры, скокнуў на падлогу і — давай зарадкай займацца. Плечы баляць, ногі быццам сутарга зводзіць, а я, нягледзячы ні на што, разводжу рукамі, аж косці трашчаць! Праз колькі хвілін адчуў сябе куды жвавейшым. Уключыў



Стася Галубовіч — перадавая даярка саўгаса.



музыку. Прыйшла і бадзёрасць. Памыўся, паснедаў і гайда да трактара!.. У той дзень на гастэлаўскім полі норму перакрыў. На трэці — амаль што дзве даў. А ўвечары і на танцах пабыў. Так яно і пайшло... Цяпер Лёня Шнэйдар адну норму за змену, я — дзве. Лёня — дзве, я — тры! Паспрабуй, дагані, кажу! Але аднаго разу я — тры нормы, і Лёня тры! Затое, калі сонца зайшло, Лёня спаць пайшоў, а я — на танцы.

У харошага чалавека і слава харошая. Пра Валодзю Сасновіча людзі кажуць, што ён — працавіты, шчыры, сціплы... Адным словам — хлопец хоць куды! Ён лепшы таварыш Мікалаю Камару і Канстанціну Стэцкаму, свайму аднагодку Ваню Гурману і таму, хто з ім хоць раз пабудзе, скажам, у бібліятэцы ці на танцах. Валодзя — агітатар у трактарнай брыгадзе; памочнік усім, у каго іншы раз не куецца, а плешчацца; дарадчык у таго, хто часам шукае ісціны, ды не знаходзіць.

Летась Мікалай Камар прапанаваў Валодзю рыхтавацца ў партыю.

— А ці прымуць? — спытаў ён.— Малады яшчэ...

Наконт ідэйнай падрыхтоўкі Валодзя не сумняваўся. Яшчэ ў школе ён перачытаў шмат твораў класічнай марксісцка-ленінскай літаратуры. Газета — яго лепшы спадарожнік, нават з першага класа.

— Я рэкамендацыю табе дам,— запэўніў Мікалай Камар.

Сёлета ў дзень адкрыцця XXIII з'езда КПСС на бюро Маладзечанскага райкома партыі Уладзімір Сасновіч быў прыняты ў рады ленінскай кагорты.

Расце ў саўгасе надзейная працоўная змена.

А колькі можна цікавага расказаць пра камсамольца Ваню Гурмана. Хлопцу яшчэ няма дваццаці год — а ў Дзякшнянах называюць яго не проста Ванем, а Іванам Пятровічам. Не таму, што Іван Пятровіч ростам невялікі, дык от — як бы знарок павелічаюць. Яго заслужана паважаюць. Ён — радавы рабочы. А больш дакладна — спецыяліст шырокага профілю. Як кажуць, ён — касец, жнец і на дудзе іграе. Карацей — майстар на ўсе рукі. Трэба пайсці за плугам, бараной,— Івану Пятровічу ні ў кога вопыту не пазычаць. Трэба мінеральнымі ўгнаеннямі падкарміць пасевы,— варта сказаць толькі Івану Пятровічу: зробіць строга па агранамічнаму. Або, скажам, іншы раз Мікалая Камара запросяць у Маладзечна на нараду ці канферэнцыю. Іван Пятровіч застаецца на ўчастку выконваючым абавязкі начальніка. Заўсёды вясёлы, гаваркі. Ну, а што да строгасці — на траіх начальнікаў хапіла б! Аднаго разу Васіль Зіневіч неяк плугамі дарогу калупнуў, дык Іван Пятровіч прымусіў злезці яго з трактара і рыдлёўкай ямкі зараўняць. А потым яшчэ на камсамольскім сходзе Васіля як след прапясочыў...

Берагчы чэсць змоладу — вось што галоўнае ў Вані Гурмана. Такі святы абавязак кожнага камсамольца. Дзе б ён ні быў — у Дзякшнянах, за партай у школе ці на службе ў арміі.

Надоечы прыязджаў з армейскай службы ў адпачынак яго цёзка Іван Пятровіч Барodзік. Таксама росту невысокага. Але не станем удакладняць, які менавіта рост запісалі яму ў вайсковым білеце, скажам адно: хай выстраіцца ўзвод ці аддзяленне, Іван Пятровіч Бародзік, заплюшчыўшы вочы, адразу зойме сваё месца... замыкаючага. І не памыліцца...



Майстар на ўсе рукі Іван Гурман.

Сустрэліся цёзкі на Гастэлаўскай вуліцы. Павіталіся, разгаманіліся. Потым Іван Пятровіч Гурман пытае:

— Іван Пятровіч, а ці скора адслужышся?

— Само сабой зразумела, скора, Іван Пятровіч,— адказаў Барадзік.— Трэці год ужо размяняў на службе.

— І яшчэ, значыць, год! О...— паспачуваў Гурман.

Прызнацца, аднагодкі Барадзіка даўно адслужыліся, а Іван Пятровіч толькі на пабыўку прыехаў. Ва ўсім, як казаў ён, вінаваты ваенкамат. У свой час Іван Пятровіч прыбыў са сваімі аднагодкамі для адпраўкі ў часць. Старшы лейтэнант паглядзеў на яго — хлопец як мае быць, здаровы. Пагутарыў з ім — сціплы, разумны, от толькі ростам малы... Прапанаваў ваенкому, каб Івану Пятровічу Бародзіку даць адтэрміноўку. Далі. Думалі, што хлопец падрасце. А ён па росту вышэй за свайго бацьку і не пайшоў... Вось яго і запрасілі на армейскую службу, прыкладна, калі яму споўнілася гады дваццаць тры. А служыць Іван Пятровіч спраўна. Мае падзякі ад начальства.

— Ну, а наконт далейшага, Іван Пятровіч, як? — спытаў Гурман.

— Толькі ў саўгас. А куды ж яшчэ! — упэўнена адказаў Іван Пятровіч і, прыжмурыўшы вока, дадаў: — Адразу заказваю касцюм з дзіркай на лацкане... для ордэна.

Быць Івану Пятровічу кавалерам ордэна ці не, але ж вернецца ён у саўгас і — будзе так працаваць, як цяпер служыць у арміі: узорна і старанна...

Была позняя ноч. Мікалай Камар заканчваў ліст.

*«На тую зямлю, дзе зрабіў гераічны подзвіг Мікалай Гастэла, прыязджаюць людзі з усіх куткоў нашай краіны і з-за мяжы. А калі закончыце школу, магчыма, і вам, сябры, давядзецца бываць у Беларусі. Тады абавязкова заедзьце да нас у Дзякшняны. Сваімі вачамі пабачыце, як мы жывём і працуем. Пазнаёміцеся з нашымі харошымі людзьмі. А пабыць на зямлі, слаўнай подзвігамі, гэта — усё роўна, што ўбачыць самі подзвігі. Мы вам пакажам нашы палі і лясы партызанскія, фермы і сады... Не дзеля славы стараемся са звычайнага рабіць незвычайнае, а каб усяму свету паказаць, што нашчадкі герояў таксама робяць подзвігі ў мірнай працы. Вось, прыкладна, і ўсё, дарагія сябры, што я хацеў расказаць.*

*Шчырае прывітанне вам ад землякоў Янкі Купалы. М. КАМАР».*

**Саўгас імя Янкі Купалы Маладзечанскага раёна.**



Скульптура з гутнага шкла: дзікі і сабачка. Яны зроблены Рамуальдам Багінскім.





# НЁМАНСКАЯ ВЯСЁЛКА

**Фотанарыс**
**Віталя Бараноўскага і Валянціна Ждановіча**

Спяваю ў захапленні табе я пахвалу,
Не дарагому каменю,
Не золату, а шклу.

М. В. ЛАМАНОСАЎ.

Аўтобус бег на захад. Добра ранняй вясной апынуцца ў старажытнасці. Пара абнаўлення крапае нават абымшэлыя сцены, і Мірскі замак падміргвае цёмнымі байніцамі. Вось мы праехалі краем Налібоцкай пушчы, у чашчобе якой ляжаў яшчэ мездраваты, прыцярушаны зверху жоўтай ігліцай снег — і перад намі бліснуў агеньчыкамі Навагрудак, добры, ласкавы, чысценькі Навагрудак.

Зажурыліся, чакаючы аўтобуса на Бярозаўку. Нейкія людзі сноўдаліся па станцыі, наставіўшы каўняры. Панавала нязвыклая цішыня.

Але вось рухавы хлопец, агоньхлопец, адзін з тых, хто дзяўчат з панталыку збівае толькі сваім выглядам — кашуля нарасхрыст, з-пад шапкі чуб кучаравы — не хлопец, а сам персанаж з кінафільма, бадзёра крыкнуў:

— Хто на Бярозаўку? Адным махам давязу!..

І ягоны старэнькі, кірпаценькі аўтобусік так жвава памчаў нас па дарозе, што мы і апамятацца не паспелі, як апынуліся на месцы.

Ёсць на свеце такія маленькія індустрыяльныя пасёлкі, як Бярозаўка. Людзі тут яшчэ не зусім адвыклі ад зямлі, ад працы хлебароба, многія маюць сваю невялічкую гаспадарку: уласную хатку, гародчык, курэй ды гусей, а то і парасё ў хлеўчуку. На страсе абавязкова тырчыць тэлевізійная антэна з вераб'ямі і ластаўкамі на ёй. Другія даўно адмовіліся ад ідылічнага побыту і жывуць у шматпавярховых дамах, карыстаюцца ўсімі гарадскімі паслугамі.

Але ўсе гэтыя людзі — рабочыя. Усё жыццё іх звязана са шклозаводам. Завод выводзіць людзей у людзі, паляпшае іх дабрабыт, выхоўвае дзяцей, клапоціцца пра парадак на вуліцы. Завод — цэнтр



Дэкаратыўныя вазы (мастані Галіна Ісаевіч і Сільвія Раудвеэ).

прымянення творчых сіл людзей і цэнтр іх культуры.

У 1891 годзе Бярозаўка была вёскай. Тады два паны — Краеўскі і Столле — пабудавалі на левым беразе Нёмана невялікую фабрыку крышталю. Працавала на ёй паўтараста чалавек.

З цягам часу фабрыка стала шклозаводам, і людзі далі яму мілагучнае імя «Нёман». Цяпер гэта трэцяе ў краіне прадпрыемства па выпрабу мастацкага шкла. Дзве тысячы чалавек ствараюць нёманскую вясёлку — квяцісты калейдаскоп самых звычайных і самых незвычайных шкляных рэчаў. Усе дарослыя жыхары Бярозаўкі маюць непасрэднае дачыненне да гэтага мастацтва, якое памагае аздобіць наш побыт, выхоўвае наш густ, якое яшчэ з маленства прымушае нас заўважаць прыгожае ў самых простых рэчах — нават у той шклянцы, з якой мы п'ём ваду.

Ехалі мы ў Бярозаўку і стараліся ўявіць сабе, як гэта робіцца шкло. Недзе чыталі, што раней вельмі цяжка працавалі выдзімальшчыкі шкла, а гранільшчыкі, дык тыя... Наогул, мы пабойваліся ўбачыць усё гэта сваімі вачамі. Аднак, калі мы дачуліся пра магутнасць шклозавода «Нёман», дык збаяліся другога: а ці не выдзімаюць шкло машынамі? Стаіць гэткі інтэлігентны рабочы — белая кашуля пад гальштукам — і націскае на кнопачкі. А другая машына — аўтамат, электронны робат — наразае па крышталю грань.

Кажуць, гэта ўжо магчыма. У сталіцы шкла, у горадзе Гусь-Хрустальны, шкло выдзімаюць машыны. Аніякага каларыту «ручнога промыслу», ні радасці ад назірання творчага працэсу! Нам надта не хацелася пагадзіцца з тым, што мастацтва ствараюць механізмы. І вонкавы выгляд шклозавода нічога добрага ў гэтым сэнсе не абяцаў: гмахі-карпусы, гмахі-коміны — індустрыяльная сучаснасць.

Мы пераступілі парог цэха выпрацоўкі, і завод сустрэў нас аптымістычнай музыкай. Мы ўбачылі незвычайнае працоўнае раздолле, і столькі высакародных фарбаў замітусілася пад блакітнай столлю, што ажно дух захапіла. То была толькі ўверцюра. І здалося, каб уявіць сабе самае радаснае відовішча працы — ярчэйшага прыкладу не знойдзеш...

Вакол вялізарнай печы, на круглым, як абаранак, дашчатым памосце, прыўзнятым на добры метр, працавала мо з паўсотні чалавек. Гэта выдзімальшчыкі шкла і іх падручныя. Яшчэ столькі ж людзей сядзела вакол памоста на зэдліках — сапраўдны аркестр, пад акампанемент якога на эстрадзе рухаюцца шкладувы. Але і гэтага параўнання мала, каб намаляваць дзівосную карціну іх працы.

Вы бачылі калі-небудзь карнавальнае шэсце? Не, вы гэтага ніколі не бачылі, бо вы не былі на шклозаводзе «Нёман».

Хлопцы ў яркіх кашулях, дзяўчаты ў святочных летніх сукенках. Паасобку — кроў з малаком. А ўсе разам — хітраватая і радасная калектыўная ўсмешка, зусім не падобная на карнавальную маску. Іх усмешка ад шчырасці, ад захаплення сваёй працай. Выдзімальшчык грацыёзна выкідвае ад печы да формы трубку, на канцы якой гарыць маленькае сонейка, кропля расплаўленага шкла. Потым ён дватры разы злёгку дзьме ў трубку, і кропля ператвараецца ў зіхатлівы шар — «баначку». Прапаленым наскрозь катальнікам (нешта накшталт рыбацкай лёўкі) выдзімальшчык пагладжвае шар і хуценька ўстаўляе яго ў форму. Некалькі энергічных рухаў, і вось з формы, як куранё з яйка, з'яўляецца на белы свет, на чалавечую радасць графін, або ваза, або проста чайная шклянка.

Звычайна ля адной формы ўвіхаюцца тры выдзімальшчыкі. Пакуль адзін з іх дастае з печы шкляную кроплю, другі лашчыць «баначку» катальнікам, а трэці выдзімае канчатковую форму. Так яны па чарзе і перакідваюць трубку, а здалёк на гэта глядзіш, як на святочны феерверк.

Старыя столеўскія карпусы ўжо дажываюць апошнія дні. Хутка іх не будзе. У новых карпусах высачэзныя вокны, і ў блакітным святле неба нараджаецца нёманская вясёлка. Ля кожнай печы — складаная вентыляцыйная сістэма. Лагодны ветрык асвяжае твары выдзімальшчыкаў.

Мы знаёміліся з імі тут жа, у цэху, пад меладычны звон шкла.

Пятро Якаўлевіч Кісляк сорак год працуе на заводзе, і сыны яго — Пятро і Генадзь — працуюць побач. Кісляк-старэйшы пачынаў працаваць трынаццацігадовым хлапчуком, перарабіў за сваё жыццё шмат усялякіх рэчаў, і вось цяпер ён майстар-аддзельшчык.

Пэўна, у кожнай кватэры знойдзецца ваза, чырвоная, жоўтая або сіняя, па якой прарэзаны празрысты ўзор. Гэта накладное шкло. Пятро Якаўлевіч — вялікі знаўца накладнога шкла. І калі прыглядзецца да яго ўпэўненых рухаў, дык усё здаецца вельмі проста: спачатку на трубку ён бярэ кроплю бясколернага шкла і выдзімае

Завод рэканструіруецца. Ідзе мантаж гаршковай печы.





Леанід Лапчынскі. Краявід Палесся.



Уладзімір Мінейка. На ворыве.



Дэкаратыўны глечык (мастакі Уладзімір Мурахвер і Людміла Мягкова). Збанок для вады і прыбор для курэння (мастак Сільвія Раудвеэ).

Дэкаратыўная ваза (мастак Альберт Балабін).

Сувенір «Качачка» (майстар Іван Пятрэнка).

Набор бакалаў «Паненкі» (мастак Уладзімір Мурахвер).

Збанкі (мастак Уладзімір Мурахвер).



Падсвечнікі і ваза для кветак (мастак Сільвія Раудвеэ).

**Віталь Бараноўскі, Валянцін Ждановіч.** Да фотанарыса **«Нёманская вясёлка».**

Фужэры (мастакі Людміла Мягкова і Сільвія Раудвеэ).





Выдзімальшчык Іван Пухоўскі.

невялічкую «баначку». Крыху астудзіўшы «баначку», Пятро Якаўлевіч возьме другі набор на яе, на гэты раз — каляровае шкло. І ўжо ў форме выдзьме двухслойную вазу.

Мы запыталіся ў майстра, ці так лёгка рабіць накладное шкло, як нам здаецца? Ён хітра ўсміхнуўся і адказаў:

— Яно, хлопчыкі мае, падатлівае, мяккае, гэта самае шкло. Толькі яго разумець трэба. І тады любую рэч зробіш. От быў у нас майстар Баляслаў Іванавіч Шыманскі, дык нават мастакі і тыя надзівіцца на яго не маглі. Сапраўдны чарадзей! Летась пайшоў на пенсію. Ды ад шкла далёка не адыдзешся — цягне яно да сябе, нібы магніт. Вы яшчэ ўбачыце Шыманскага ля печы.

Майстры сваёй справы Рамуальд Багінскі і Мікола Медавікоў.



Шыманскага мы не ўбачылі. Казалі, прыходзіў, але мы з ім размінуліся.

Усё нам тут здавалася цудам. Вось побач працуюць два маладыя хлопцы. Абодва высокія, дужыя, у стракатых кашулях. Толькі Саша Радчанка носіць сіні берэт, а Ваня Пухоўскі абыходзіцца без такой раскошы. Нашто яму шапка, калі сонечныя валасы ўпрыгожваюць шчаслівы твар. Ён і ўсміхаецца неяк сонечна і крышку сарамліва.

Хлопцы робяць збанкі, аздобленыя дротам. Дрот — тоненькая нітка з малочнага шкла, якую выдзімальшчык навівае спіраллю на «баначку». Малочнае шкло ў расплаўленым стане падобна на густую смятану і ліпне да «баначкі», як клей. Збанкі атрымліваюцца паласаценькія, зграбненькія. Пасля соладка піць з іх халодны, ядраны квас.

— Зноў да Касцюкевіча карэспандэнты ідуць,— гаварылі нам услед дзяўчаты-алмазчыцы.

— Хто такі Касцюкевіч? — спыталіся мы ў начальніка цэха апрацоўкі.— Ці не той пажылы, вусаты гранільшчык, у кепцы?

— Ён самы і ёсць.

Аляксандр Іосіфавіч Касцюкевіч — жывая гісторыя завода. Прафесія гранільшчыка яму дасталася ў спадчыну ад бацькі. І дзед таксама быў гранільшчыкам, першым на Гродзеншчыне.

— А што тут дзіўнага,— кажа Касцюкевіч.— У нас у Бярозаўцы як народзіцца чалавек, дык яму адразу вызначаюць у метрыцы спецыяльнасць выдзімальшчыка ці гранільшчыка. Лёнька, сын мой, таксама гранільшчык. Дачка Валянціна — алмазчыца. І ў пятым калене Касцюкевічы таксама будуць гранільшчыкамі. Куды ж яны дзенуцца ад сваёй бацькаўшчыны, ад завода?

Аляксандр Іосіфавіч націскае на пускавую кнопку. Тоненькі струменьчык вады аблізвае круг-абразіў, змывае шкляны пыл. У руках патомнага гранільшчыка нараджаецца дасціпны ўзор крышталёвай вазы.

Гэтулькі шкляных рэчаў адразу больш нідзе не ўбачыш. Бярозаўка тое самае месца, дзе пясок, крэйда і сода ператвараюцца ў каштоўнасць. І калі мы яшчэ не заўважаем каштоўнасці ў тонкай чайнай шклянцы, дык толькі таму, што не бачылі іх адразу тысячу. Бо тысяча шклянак — гучны ксілафон, і спрытныя рукі сартыроўшчыцы іграюць на ім фантастычныя п'есы...

Нам паказалі заводскі музей. У цесным пакоі на аксаміце, на плюшы туляцца шкляныя вырабы розных часоў. І мы здзівіліся, што тут такі музейны дух, і тое самае шкло, якое нядаўна звінела ў цэху ўсімі музычнымі гукамі, адразу страціла жывую сілу, стала падобна на многія музейныя экспанаты.

Потым мы зайшлі ў мастацкую майстэрню. Там пазнаёміліся з Людмілай Міхайлаўнай Мягковай і Сільвіяй Янаўнай Раудвеэ. Імёны іх мы даўно ведалі па лепшых экспанатах многіх мастацкіх выставак. Але цяпер, сярод апрацаваных і неапрацаваных рэчаў, сярод запыленых, даўнейшых і ўжо нецікавых для мастака твораў, і новых, якія пераліваюцца чыстым колерам, іграюць вясёлкавай гранню, сярод нязграбных пакуль што загатовак,— яны аказаліся простымі, звычайнымі жанчынамі, без усялякіх прэтэнзій на арыгінальнасць.

Мягкова і Раудвеэ, седзячы на падлозе, загортвалі ў паперу вазачкі, попельніцы і збанкі, чаркі і падносы, цэлыя сервізы і маленькія статуэткі.

— Адпраўляем на выстаўку ў Ленінград,— растлумачыла Людміла Міхайлаўна.

— Кожны месяц займаемся вось такой «творчасцю»,— дапоўніла



Аляксандр Іосіфавіч Касцюкевіч — патомны гранільшчык.

Сільвія Янаўна.— То ў Маскву, то ў Ленінград, то ў Мінск, то за мяжу...

— Затое ж не ведаеце, куды дыпломы складваць.

— Хапае...

Мы пастулова разгаварыліся, выпытваем «сакрэты» вырабу мастацкага шкла.

— Як вы заўважылі, пэўна,— гаворыць Мягкова,— амаль усе вырабы нашага завода выдзьмутыя. Гэта самы характэрны метад выпрацоўкі шкла. Мастак павінен заўсёды падкрэсліць, з якога матэрыялу зроблена рэч. Вось бачыце, гэты збанок выкананы з глушанага шкла. Ён чорны і непразрысты. І каб не вушка з празрыстага шкла, ніхто б не зразумеў, ці гэта чорнае шкло ці чорная пластмаса.

— Вы бачылі дробную скульптуру чэшскіх майстроў? Яна вырабляецца з дроту, і таму глядзяцца толькі дробныя рэчы. Каб павялічыць памеры скульптуры, трэба браць ужо не дрот, а больш ёмістыя загатоўкі. І тады мастака чакае непрыемнасць: анатамічныя дробязі парушаюць якасць скульптуры.— Раудвеэ ставіць на стол шкляную фігурку зубра.— Гэты сувенір зроблены на нашым заводзе. Аўтар яго — майстар Рамуальд Багінскі. Гутны спосаб дазволіў



**Галоўны мастак завода Уладзімір Мурахвер.**

яму пазбегнуць тых анатамічных дробязей, якія характэрны для вялікай скульптуры з дроту.

— Гэта ўжо нашае, нёманскае, беларускае,— дадае Мягкова.— Пэўна, у нас пачынаецца новы напрамак. Тое-сёе ўжо зроблена,— на стале з'яўляюцца чырвоны конь-дзік, фанабэрыстыя пані ў капелюшах.— Трэба, каб у шкляной рэчы спалучаліся лаканізм, строгасць,— наша ж мастацтва рацыяналістычнае. А для аздобы неабходна зусім маленькая дэталь: гравіроўка, траўленне, блёстка, пазалота. Галоўнае — форма, колер. Іх строгая адпаведнасць кожны раз адкрываецца праз пошукі: колькі лістоў ватмана папсуеш, пакуль знойдзеш адзінае, сапраўднае рашэнне!.. І, ведаеце, нават, маючы вялікі вопыт, іншы раз цяжка ўявіць сабе, як будзе выглядаць рэч у шкле, што стане, скажам, са шклянкай, калі ў яе нальюць вадкасць, ці будзе прыгожа спалучацца яе колер з колерам вадкасці?

Крыху пазней галоўны мастак завода Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер паказваў нам дзіцячыя малюнкі, шчыра захапляючыся іх непасрэднасцю.

Дзіцячая святая прастата, эмацыянальнае ўзрушэнне і стройная выкрышталізаваная форма шкляного тварэння — якая ўзаемасувязь паміж імі?

Мы дзве гадзіны, не адрываючыся, разглядалі аранжавую крышталёвую вазу, на шурпатай паверхні якой былі вышліфаваны авальныя лінзы-акенцы. Прамяністыя водбліскі і адлюстраванні напаўнялі кожнае акенца, і колер пераліваўся ад густога шакаладнага адцення да залатых, зялёных і сініх блёстак. Недзе ў сярэдзіне вазы быццам тлелі вугольчыкі. Вось так нечакана, непасрэдна ад самога шкла, у строгай форме з'яўляецца той выразны настрой, тое ўражанне, якое заўсёды ўласціва дзіцячаму малюнку.

Чысціня чалавечай душы і чалавечага настрою — асаблівы элемент, які не значыцца ні ў адным падручніку па шкловарэнню і без якога гіне любое мастацтва. Мо якраз таму і не хацелася глядзець на музейныя экспанаты, адарваныя ад чалавечай дзейнасці, экспанаты без патрэбы, атуленыя казённым плюшам і музейным сумам.

Дзень і ноч раве газавае полымя ў печах, бесперастанку тысячы рук апрацоўваюць шкло. Рукі юначыя і пажылыя, мускулістыя рукі выдзімальшчыкаў і тонкія трапяткія рукі алмазчыц.

Праз гэтыя рукі штодзённа праходзіць сорак тысяч шкляных рэчаў!

Мы здзівіліся, калі нам сказалі, што на шклозаводах шкло не б'ецца. Хіба ж можна гуляць з агнём і не апячыся? Аказваецца, можна. Выдзімальшчыкі ніколі не апякаюцца. Гравёры, сартыроўшчыцы, алмазчыцы б'юць толькі бракаваныя вырабы. І вось нам загадалі кінуць у скрынку з боем пяцьдзесят малочных бракаваных плафонаў. Нам стала не па сабе. І ўсё ж мы іх кінулі... Калі яшчэ раз давядзецца разбіць столькі плафонаў?!.

Нашага ўчынку ніхто не заўважыў. Але ж і пасмяяліся з нас жанчыны, калі мы пераносілі фужэры, што спатрэбіліся для нацюрморта.

— Насілі б мы гэтак, як вы,— фужэраў нават у Бярозаўцы не хапіла б...

— Глянь, Зося, як далікатна ён ступае...

Тут Зося адной рукой падхапіла ўсе нашы фужэры і напоўніла імі скрынку:

— Вось так, хлопчыкі!

На кожным кроку спрыт, усмешкі. У кожных вачах гарадь крышталёвыя самацветы...

Перад самым нашым ад'ездам у Бярозаўку вярнулася зіма. Снегам заваліла яловы лес, і стрэхі, і дарогі.

Мы ўбачылі Бярозаўку ў новым характве. Мы ведалі, што будзем доўга сумаваць па гэтай маляўнічай мясціне, і будуць нам доўга сніцца каляровыя сны. За тыдзень мы нагледзеліся на цэлы год.

За гэты тыдзень мы зразумелі, як у пяшчотнай прыгажосці дымчатага і апалавага шкла захоўваецца таямніца творчага духу старадаўняга рамяства.

І нам здалося, што малюнак алмазнай агранкі крышталю мастакі пераносяць у матэрыял не з ватманскага аркуша, а з тых самых замшэлых сцен Навагрудскага замка. Таму што няма той творчай грані ў сапраўдным мастацтве, якая б не адлюстроўвала гісторыю народа, гісторыю народнага ўмельства.

За гэты тыдзень мы даведаліся, што звычайнаму шклу надаюць каштоўнасць не свінцовыя вокіслы, а людскія рукі, што ў сэрцы адвечнага мастака-народа запальваюцца чароўным полымем тыя майскія фарбы, якімі славіцца нёманскае шкло.

◆ ◆ ◆

50 год Вялікага Кастрычніка

# ПАМЯЦЬ СЭРЦАЎ

**Рэпартаж**



У Мінску на Цэнтральнай плошчы ўзвышаецца светлы, лёгкі будынак. У ім — Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Каля будынка заўсёды людна. Шмат турыстаў, школьнікаў, маладых воінаў...

— Сёлета перад Днём Савецкай Арміі ў музеі адкрылася новая экспазіцыя,— сказаў намеснік дырэктара па навуковай частцы Яўген Канстанцінавіч Габец.— Гэта пачатак нашай работы па ажыццяўленню пастановы ЦК КПБ «Аб далейшай рабоце па ўвекавечанню гераічных подзвігаў савецкіх людзей у перыяд Айчыннай вайны». Вядома, гэта часовая экспазіцыя. Як яна выглядае, можна ўбачыць, пабыўшы ў залах...

Якраз пачыналася новая экскурсія, і мы далучыліся да яе. Старэйшая супрацоўніца музея экскурсавод Вера Альфонсаўна Крывічаніна — былая партызанка. Захапляюча расказвае яна пра першыя дні вайны, пра тое, як змагаліся воіны Чырвонай Арміі, абараняючы родную зямлю ад вераломных фашысцкіх полчышчаў.

— Паглядзіце,— запрашае наведвальнікаў Вера Альфонсаўна.— Вось гэтую гімнасцёрку і камсамольскі білет лейтэнанта Аляксея Наганава знайшлі пры раскопках руін Брэсцкай крэпасці. А гэта зброя, сабраная ў крэпасці. Ва ўмовах жорсткай асады брэсцкі гарнізон змагаўся больш месяца. Гераічныя абаронцы сказалі: «Памрэм, але з крэпасці не пойдзем».

Нямеркнучай славай пакрылі сябе нашы воіны пры абароне Мінска, Магілёва, Ленінграда, Масквы, Севастопаля, Адэсы і іншых гарадоў савецкай краіны. У экспазіцыі — новыя матэрыялы пра подзвігі воінаў-беларусаў, якія ўдзельнічалі ў гераічнай абароне Масквы і Ленінграда.

33-я армія, якая перагарадзіла дарогу фашыстам на подступах да Масквы, трапіла ў акружэнне. Дзякуючы гераізму такіх воінаў, як лётчык-беларус Іван Казлоўскі, які зрабіў 48 баявых вылетаў, з акружэння былі вывезены раненыя, для арміі былі дастаўлены зброя, боепрыпасы, харчаванне. Яго подзвіг запісаны ў гераічны летапіс Айчыннай вайны. З партрэта на вас пазірае просты беларускі хлопец-лётчык — Герой Савецкага Саюза Іван Казлоўскі. Пад шклом яго ўзнагароды — ордэн Леніна, зорка Героя, чатыры ордэны Чырвонага Сцяга, ордэн Чырвонай Зоркі, медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі». Побач партрэты другіх сыноў беларускага народа, якія ўдзельнічалі ў абароне сталіцы нашай Радзімы і ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза — генерал-маёра А. Барэйкі з Віцебшчыны, генерал-лейтэнанта Е. Дабравольскага і палкоўніка І. Хруцкага з Магілёўшчыны, генерал-палкоўніка І. Камеры з Гродзеншчыны...

Многа беларусаў удзельнічала ў гераічнай абароне Ленінграда. Сярод беларусаў, якія змагаліся за Ленінград, вядомы снайпер Фёдар Смалячкоў. За тры месяцы баёў ён знішчыў 120 фашыстаў! Цяпер выяўлена імя новага снайпера-беларуса з Аршаншчыны Пятра Кузьмянкова, які ў баях на Ленінградскім фронце знішчыў звыш 200 фашыстаў.

Новыя цікавыя матэрыялы паказаны ў экспазіцыі пра абаронцаў Мінска ў першыя дні вайны. Наведвальнікі з цікавасцю аглядаюць матор, выстаўлены ў першай зале. Гэта — рэшткі самалёта, на якім капітан Гастэла са сваімі двума сябрамі здзейсніў легендарны подзвіг у першыя дні вайны. Матор быў знойдзены на полі недалёка ад Радашковіч і здадзены ў музей.

Беларусь — рэспубліка, якая прыняла на сябе першы ўдар ваеннай браніраванай машыны гітлераўскай Германіі.

Фашысты, акупіраваўшы Беларусь, прынеслі з сабою «новы парадак» — — рэжым тэрору, разбою і рабства. За час акупацыі знішчана 209 гарадоў, 9 200 сёл і вёсак, 1 200 000 будынкаў. А чалавечыя жыцці! Ніколі не забудуцца страшныя лічбы: у лагерах смерці на тэрыторыі Беларусі замучана і знішчана 1 мільён 400 тысяч чалавек грамадзянскага насельніцтва і 800 тысяч ваеннапалонных.

Натуральна, што савецкія людзі, якія пад сонцам сацыялістычнага ладу пазналі радасць вольнага жыцця, не маглі мірыцца з фашысцкім «новым парадкам». Пад нагамі акупантаў гарэла зямля — ім не было спакою ні ўдзень, ні ўночы, ні ў гарадах, ні ў вёсках.

Беларусь стала краінай класічнага партызанскага руху. Аглядаючы матэрыялы, выстаўленыя ў трох залах, мы маем магчымасць прасачыць, як на беларускай зямлі зараджаўся, рос і шырыўся рух народнага гневу, як разгаралася і зашугала полымя партызанскай барацьбы.

Славуты Дзед Талаш — партызан двух войнаў, Ціхан Бумажкоў — першы з беларускіх партызан,— удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Мінай Шмыроў (Бацька Мінай) — каман-



Экскурсавод Вера Альфонсаўна Крывічаніна.



Рэшткі матора з самалёта, на якім Мікалай Гастэла зрабіў свой подзвіг.

дзір Першай беларускай партызанскай брыгады на Віцебшчыне, Канстанцін Заслонаў — славуты камандзір аршанскіх партызан-чыгуначнікаў, Васіль Корж — адзін з першых палескіх народных мсціўцаў, які стаў камандзірам партызанскага злучэння на Піншчыне, Васіль Казлоў — сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі і кіраўнік партызанскага злучэння на Міншчыне, Пятро Машэраў — камандзір партызанскага атрада на Полаччыне, Фёдар Маркаў — камандзір Вілейскай партызанскай брыгады, Кірыла Арлоўскі — камандзір партызанскага атрада ў Баранавіцкім злучэнні... Гэта толькі некалькі прозвішчаў з галерэі герояў усенароднай барацьбы ў Беларусі.

Выстаўлены новыя экспанаты, знойдзеныя і сабраныя ў апошнія гады: тут і асабістыя рэчы многіх славутых герояў-партызан і партызанскіх кіраўнікоў, і прадметы партызанскага быту, і партызанская зброя.

Гармата на колах. Яе знялі з падбітага танка партызаны атрада «Іскра», у кузні паставілі на колы ад сеялкі, і гармата добра служыла партызанскім артылерыстам.

Снарады. Бомбы. З іх партызанскія падрыўнікі выплаўлялі тол і рабілі міны, якімі падрывалі эшалоны, розныя ваенныя аб'екты.

У партызан былі свае майстэрні па рамонту зброі, вырабу амуніцыі. Цікавы набор інструменту і абсталявання майстэрняў мінскай брыгады «Разгром» і пінскага атрада імя Катоўскага.

Шырока прадстаўлена дзейнасць камуністычнага падполля. Выстаўлены экземпляры першых нумароў газеты «Звязда», што былі выдадзены камуністамі-падпольшчыкамі ў 1942 годзе ў Мінску. На здымку мы бачым домік, дзе рыхтаваліся гэтыя нумары і партрэт гаспадыні гэтага доміка Таццяны Якавенка.

Друк — вострая зброя. Яна добра служыла агульнанароднай справе барацьбы ў гады вайны. Карта камуністычнага падпольнага друку на часова акупіраванай фашыстамі Беларусі паказвае, дзе выдаваліся падпольныя газеты. У той час выходзілі сто шэсцьдзесят дзве газеты, у тым ліку тры рэспубліканскія, чатырнаццаць абласных, сто сорак пяць міжраённых і раённых.

Партызанская выдумка, знаходлівасць не ведалі межаў. У звычайнай сумачцы-радыкулі мінчанка Алена Мазанік прынесла міну, якой быў знішчаны кат беларускага народа гітлераўскі генеральны камісар у Беларусі Вільгельм Кубэ. Гэта сумачка стала рэліквіяй.

Звычайны стары насценны гадзіннік. У ім падпольшчыкі хавалі камуністычную літаратуру. Звычайная хустка-канаплянка. У ёй партызанская сувязная Марыя, адна з шасці сясцёр-падпольшчыц Хаўранковых з Магілёва, пераносіла партызанскія лістоўкі. Маток тэлефоннага шнура. З яго дапамогай Аляксандр Азончык, бясстрашны партызан з атрада «Патрыёт», што дзейнічаў на Вілейшчыне, разам са сваімі сябрамі-падрыўнікамі пусціў пад адхон 47 эшалонаў праціўніка.

Драбавік, з якім пачаў партызаніць стары селянін з вёскі Бастынь Барыс Нікандравіч Цяльпук. Уся яго сям'я — адзінаццаць чалавек — таксама была ў партызанах.

Кажушок падлетка-партызана Ігара Слімбарскага; палявая сумка, з якой партызаніў піянер Іван Стасевіч; жорны, якімі карысталіся барысаўскія партызаны,— усё гэта цяпер рэліквіі, што даюць адчуць абстаноўку тых дзён.

І сцягі. Іх многа, слаўных, авеяных легендамі партызанскіх сцягоў. Пачынаючы ад сцяга 1-й беларускай брыгады Бацькі Міная і канчаючы аксамітным палотнішчам, на якім золатам гараць словы: «Пераходны Чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ лепшай камсамольскай партызанскай брыгадзе».

Як сімфонія народнага подзвігу, гучаць лічбы на стэндзе ў трэцяй партызанскай зале: на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 1 108 партызанскіх атрадаў, аб'яднаных у 199 брыгад — звыш 370 000 партызан. У гарадах і райцэнтрах вялі работу 70 000 падпольшчыкаў. Акрамя таго, амаль 400 000 чалавек, што жылі ў вёсках і лясных лагерах, складалі партызанскі рэзерв.



Танкавая гармата на колах з-пад сеялкі.

У наступных трох залах шырока і грунтоўна асвятляецца роля савецкага тылу, які забяспечваў усім неабходным Савецкую Армію; подзвігі воінаў-беларусаў на франтах у гады Айчыннай вайны; вызваленне Савецкай Арміяй Беларусі з-пад ярма акупантаў; вызваленчы паход савецкіх войск па краінах Заходняй Еўропы; іх пераможнае шэсце, якое закончылася поўнай капітуляцыяй фашысцкай Германіі.

У вызваленні Беларусі ўдзельнічалі воіны шмат якіх нацыянальнасцей. Яны змагаліся, як адна дружная сям'я савецкіх патрыётаў.

На відным месцы — партрэты нашых выдатных савецкіх палкаводцаў, пад шклом асабістыя рэчы, узнагароды тых, хто загінуў, вызваляючы беларускую зямлю.

Асобныя стэнды прысвечаны героям вызвалення Віцебска, Магілёва, Мінска, Гомеля... Генерал-маёр танкавых войск Бахараў, які змагаўся за многія беларускія гарады, генерал-палкоўнік Глаголеў, генерал-лейтэнант Пулкадзмітрыеў — актыўныя ўдзельнікі вызваленчага паходу па зямлі Беларусі.

Усё новыя і новыя імёны герояў Айчыннай вайны, нашых слаўных землякоў. Аляксандр Гурын — контр-адмірал, удзельнік абароны Запаляр'я; Сцяпан Шутаў — двойчы Герой Савецкага Саюза, камандзір 20-й гвардзейскай танкавай брыгады, якая вызваляла Кіеў; Міхаіл Батракоў — старшы лейтэнант, Герой Савецкага Саюза, які ўдзельнічаў у вызваленні Прыбалтыкі; Аляксандр Гаравец — Герой Савецкага Саюза, адзіны лётчык у свеце, які ў адным баі на Курскай дузе збіў дзевяць варожых самалётаў; старшы лейтэнант Пятро Гучок, лётчык, які ўдзельнічаў у штурме Берліна; Пятро Бандарэнка — контр-адмірал, начальнік палітупраўлення Чарнаморскага флоту; Сяргей Гарадовіч, старшына, што за гераізм і адвагу ў баях на Одэры атрымаў высокую ўзнагароду — ордэн Багдана Хмяльніцкага...

Гэты пералік яшчэ можна прадоўжыць. Іх яркія біяграфіі з'яўляюцца добрым прыкладам таго, як трэба жыць, каб стаць верным сынам сваёй Айчыны.

Савецкая Армія — дзецішча сацыялістычнай дзяржавы — гартавалася ў цяжкіх баях, дужэла ў полымі вайны. Мы захапляемся яе грознай тэхнікай, магутнай зброяй.

Славутая «кацюша» — гвардзейскі рэактыўны мінамёт, які наводзіў страх на гітлераўцаў. Экскурсавод расказвае пра подзвіг гарматнага разліку ў складзе Барадуліна, Святлічнага і Назаранкі. Хлопцы каля вёскі Кажамякі засланілі шлях нямецкай дывізіі, якая выбіралася з віцебскага «катла». Воіны загінулі як героі, але вораг не прайшоў.

Пачэснае месца ў музеі займае гаўбіца № 12667, якой камандаваў капітан Іван Самбук — родам з Беларусі. Ён пачаў ваяваць гэтай гарматай у 1941 годзе пад Масквой. Быў спачатку зараджаючым, наводчыкам, а по-



Бясслаўная фашысцкая зброя, гітлераўскія крыжы і сцягі, што павержаны былі долу Савецкай Арміяй... Жыццё крочыць наперад.

тым стаў камандзірам. У баях за Дняпро і Прыпяць атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Удзельнічаў у вызваленні Прагі і закончыў вайну на Эльбе.

Надпіс на шчыце гарматы паведамляе, што яна знішчыла 7 фашысцкіх танкаў, 18 бронетранспарцёраў, 89 кулямётаў, 39 дзотаў, 29 агнявых кропак. Даведаўшыся, што старая гаўбіца мае такую баявую біяграфію, воіны перадалі яе ў музей. Яе былы камандзір Іван Самбук — выкладчык Мінскага радыётэхнікума — часты госць музея.

...Зала Перамогі. Яна выглядае велічна і строга. Злева — вялікая, амаль на ўсю сцяну, копія карціны мастакоў Кукрыніксаў «Падпісанне акта пра безагаворачную капітуляцыю Германіі». Пад ёй на шыльдачцы словы: «Чырвоная Армія дабіла ворага і прымусіла яго скласці зброю». На падлозе — сцягі і штандары гітлераўскай Германіі, перад імі грудок трафейнай зброі, касак.

А направа, як сімвал нашай слаўнай перамогі, урачыста развяваюцца чырвоныя сцягі ўсіх саюзных рэспублік. Яны дружнай сям'ёю разграмілі германскі фашызм, які ўяўляў смяротэльную небяспеку для ўсяго чалавецтва.

Людзі, будзьце пільныя!

Кожны, выходзячы з музея, абавязкова прачытае гэтыя словы, што на транспаранце перад выхадам. І ў думках скажа: «Будзем берагчы мір. Праклён вайне!»

...Мы зазірнулі ў кнігу водгукаў, што ляжыць на століку. У ёй поўна ўсхваляваных запісаў: «Дзякуем вам, дарагія таварышы з музея», «У памяць аб героях абяцаем добра вучыцца», «Мы ганарымся подзвігамі свайго народа», «Дарагія браты-беларусы, ленінградцы заўсёды з вамі», «Ад душы дзякуем усім, хто пабудаваў музей», «Будзем заўсёды берагчы мір», «Няхай заўжды будзе сонца!»

Подпісы турыстаў з Алтая, Краснаярска, воінаў з Поўначы, вучняў з Харкава, студэнтаў з Мінска, калгаснікаў з Палесся...

Героям, што адваявалі наша шчасце, — вечная памяць сэрцаў людскіх!

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

**Фота В. Ждановіча.**

# ТРЫВОЖНАЯ НОЧ

Мікола Севярын доўга мераў крокамі свой цесны пакойчык. Затым спыніўся перад акном і адсунуў фіранку. Цьмяна свяціліся высокія карпусы цэментнага завода. Адтуль даносіўся глухі гул.

Раптам у калідоры пачуліся крокі, мяккія і асцярожныя. І адразу ж — ціхі стук у дзверы... У пакойчык зайшоў Іван Васілеўскі, рухавы хлопец з чорным, як смоль, чубам.

— Ты дзе прападаў? — Мікола паглядзеў на гадзіннік.

— Давялося доўга чакаць, — адказаў Іван. — Далі яшчэ адзін запал... На ўсякі выпадак...

Начная змена заканчвала работу. Праз паўгадзіны невялікі перапынак. Да прыходу другой змены хлопцы вырашылі падкласці ўзрыўчатку пад кампрэсар. Яе не так проста было пранесці на завод, бо эсэсаўцы правяралі на прахадной кожнага.

Мікола схаваў толавыя шашкі за пазуху і павярнуўся перад сябрам:

— Ну як?..

— Нічога. Добра...

І яны выйшлі з дому. Ішлі паволі глухім завулкам, размаўлялі. Рэдка ў якіх вокнах свяціліся агні. Толькі над скрыжаваннем вісеў няяркі ліхтар. Тут ім загарадзілі дарогу паліцэйскія.

— Дакумент!.. — сказаў адзін з іх, наставіўшы аўтамат.

— Вось аўсвайс... — Мікола адразу ж падаў пасведчанне.

Ліхтарык слізгануў па паперцы.

— Абодва працуеце на цэментным?

— Так. Абодва!.. — бойка адказаў Іван.

— Можаце ісці, — паліцэйскія зніклі за вуглом.

Хлопцы пакрочылі па бязлюднай вуліцы. Гняла насцярожаная ціша. І цемра. Зрэдку па вяршалінах дрэў слізгалі пражэктары.

Расчыніліся рыпучыя дзверы прахадной. У будцы былі два эсэсаўцы. Мікола паказаў пропуск.

— Шэф выклікаў, — сказаў ён.

— Нам гэта невядома. Пачакайце, — эсэсавец доўга і недаверліва пазіраў на пропуск, потым на Міколу. Той трымаўся спакойна, нічым не выдаў свайго хвалявання.

— Шэф загадаў тэрмінова адрамантаваць кампрэсар, — рашуча загаварыў Мікола.

У прахадную зайшоў начальнік аховы.

— Рамонт? Шэф загадаў? Гут, гут! Прайдзіце! — ён адчыніў дзверы на двор.

Хлопцы, не спяшаючыся, накіраваліся ў канец двара, а потым павярнулі ў кампрэсарную. Не паспеў Мікола зачыніць за сабой дзверы, як следам адразу ж зайшлі эсэсаўцы з аўчаркай. «Няўжо пранюхалі... Пісталет?.. Не паспею дастаць...» — пранеслася ў галаве ў Міколы. Аўчарка пільна сачыла за кожным яго рухам і гырчэла.

Мікола ўзяў маслёнку і пачаў завіхацца ля кампрэсара.

— Каб механізмы працавалі лепш... — усміхнуўся ён.

— Гут! Гут!

Агледзеўшы цэх, эсэсаўцы пайшлі. Мікола з палёгкай уздыхнуў: «Начная праверка. Пранесла...»

Іван падышоў да дзвярэй. Цяжкія крокі аддаляліся. Хлопцы хутка дасталі «шашкі» і падклалі пад кампрэсар. Падрыхтавалі на ўсякі выпадак два запалы. Калі падвядзе адзін — узарвецца другі...

Сябры апошні раз абвялі вачыма кампрэсарную. Тут усё знаёма і звыкла.

...Спусціліся ў каналізацыйную трубу і папаўзлі. Пад імі хлюпала халодная, ліпучая гразь. Не было чым дыхаць... Іван адчуў, што яго сэрца пачало часта і хутка біцца, а галава налілася алавяным цяжарам.

— Я больш не магу... Адзін адсюль выбірайся, — сказаў ён, павярнуўся на бок і абвяў.

— Братка, трымайся! Чуеш, трымайся!.. — Мікола трос сябра за плечы.

Іван маўчаў. Тады Мікола ўзваліў яго на плечы і паволі папоўз. Неўзабаве дыхнула свежым паветрам. І адразу з лагчыны, куды выходзіла труба, данёсся брэх сабакі, нямецкая гаворка. Хлопцы ляжалі недалёка ад выхаду. Івану стала трохі лепш. На нейкую хвіліну сабака змоўк, відаць, прыслухоўваўся, нюхаў паветра. Потым зноў забрахаў.

— Рэкс! — крыкнуў гітлеравец.

Сабака змоўк. Крокі аддаляліся...

Хлопцы вылезлі з трубы. Іван ледзь пераступаў. Мікола падтрымліваў яго пад руку. Зноў забрахаў сабака. У неба ўзвілася ракета, потым другая.

— Хальт! — пачуўся патрабавальны голас.

Хлопцы кінуліся да ракі. Па іх стралялі, над галовамі свісталі кулі. Непадалёк застукацеў кулямёт. Справа пацягнуліся зялёныя, чырвоныя, жоўтыя ніткі трасіруючых куль.

— Паплывем!.. — крыкнуў Мікола, спыніўшыся.

І яны кулем скаціліся па крутым спуску да рэчкі. Над ёе чорнаю гладдзю плылі туманы. Халодная вада апякала разгарачанае цела.

— Трымайся за мяне... — ціха сказаў Мікола.

Страляніна пачала заціхаць. Пад нагамі пачулася пясчанае дно. І вось бераг. Недалёка чарнела сцяна лесу. Небяспека, здаецца, мінула. Хлопцы сядзелі ў кустах і глядзелі на праціглеглы бераг, недалёка ад іх косы прамень пражэктара слізгаў па зарасніках.

Там, адкуль яны выбраліся з такой вялікай небяспекай, цьмяна свяціўся завод. Хлопцы вачамі адшукалі вокны кампрэсарнай. І раптам адтуль вырвалася яркае барвовае полымя, пачуўся глухі выбух... Цэментны завод «Рось» перастаў працаваць на ворага.

**Язэп ЗАЗЕКА.**

# ЯК СЛЕД БЛІСКАВІЦЫ

Першы раз апынуўся я тут, на васемнаццатым кіламетры ад старажытнага Бабруйска. Вельмі доўга чакаў я гэтай сустрэчы з мясцінамі, пра якія так многа чуў, чытаў, думаў.

Тут, на гарбацэвіцкай зямлі, рунее новае жыццё: стаяць прыгожыя сялянскія будынкі, набіраюцца сіл маладыя сады, гойдаецца густое жыта. Гледзячы на наваколле, я з хваляваннем думаю пра кароткае, але яркае, як след падаючай зоркі, жыццё Платона Галавача, аднаго з арганізатараў камсамола Беларусі. Ён бегаў тут басанож па лугавых росах, марыў пра будучыню, рабіў першыя крокі ў самастойнае жыццё.

Каб пабачыць мясціны, дзе нарадзіўся Галавач, каб пагутарыць з



**Платон Галавач. 1932 год.**

людзьмі, разам з якімі прайшло яго дзяцінства, я і адправіўся на Бабруйшчыну.

...Першая сустрэча са старэйшай сястрой Платона Галавача—сямідзесяцігадовай Верай Раманаўнай Венчык, якая жыве ў Гарбацэвічах.

Жанчына гасцінна сустрэла мяне, запрасіла прысесці. У сялянскай пяцісценцы ўтульна і чыста. Пафарбаваная падлога блішчыць, як люстэрка. З густам расстаўлены тэлевізар, радыёпрыёмнік, паліца з кнігамі, шафа.

Расказваючы пра маленства брата, Вера Раманаўна ражком хусцінкі выцірае слёзы...

— Платону было толькі паўтара годзіка, калі пасля працяглай хваробы памерла маці. Мне тады споўнілася восем гадоў. Я засталася і нянькай і маці для маленькага Платона, таму што бацька з раніцы да позняга вечара працаваў у полі.

Калі Платон крыху падрос, ён ахвотна памагаў па гаспадарцы: чысціў бульбу, падмятаў падлогу, насіў дровы.

Сямігадовым хлопчыкам паступіў у двухкласнае царкоўна-прыходскае вучылішча ў Гарбацэвічах. Як зараз памятаю, пашыла яму з саматканага палатна кашулю і штонікі, дастала недзе лоту фарбы, пафарбавала. Апрануўся ён і пайшоў на заняткі...

Вельмі часта раніцай Платон выходзіў з дому, нічога не еўшы. Шкада мне было хлопца. Я варыла бульбу, налівала малака ў бутэльку і несла ўсё гэта ў школу. Трэба было абавязкова трапіць у вялікі перапынак, бо хлопчык саромеўся есці пры дзецях багатых. Ён сустракаў мяне, і мы хаваліся ў ляску, што знаходзіўся побач са школай.

Платон вельмі хацеў вучыцца і быў старанным. Ён вельмі любіў аднавяскоўцаў, добра ведаў іх жыццё, а калі вырас, пачаў пісаць пра іх кніжкі.

Расказ В. Р. Венчык дапоўніў стары жыхар Пабокавіч, гаваркі дзядуля Цімох Васільевіч Федаровіч:

— Платона я добра памятаю. Гуляў разам з ім. Ён быў надта прыветлівы, сціплы хлопец. Увесь час чытаў: з дзецьмі гуляў—чытаў, свіней пасвіў—чытаў, ішоў у лес—таксама чытаў.

Аднавяскоўцы памятаюць свайго земляка, ганарацца ім, любяць успамінаць пра яго.

«З Платонам Галавачом мы раслі разам. Разам пасвілі і свіней, і кароў, і коней. Жылі мы тады на хутары каля вёскі Банеўкі, недалёка ад Пабокавіч. Нам часам не было чаго есці, мы былі рады чэрствай скарынцы хлеба і бульбіне. Але мы хацелі больш ведаць, і не дзіўна, што часам цішком ад бацькоў адносілі апошні гарнец мукі да былога загадчыка школы Антона Крайко, каб толькі ён даў прачытаць якую-небудзь кнігу. Дзікенс, Майн-Рыд, нашы рускія класікі—усіх мы чыталі запоем. Платон Галавач любіў таксама маляваць. Настаўнікі прарочылі яму будучыню мастака».

Так успамінае стары камуніст Андрэй Агеевіч Бародзіч, якому Галавач прысвяціў свой буйнейшы твор—раман «Праз гады».

Адразу ж пасля вызвалення беларускай зямлі ад белапалякаў Платон Галавач адным з першых у вёсцы, семнаццацігадовым юнаком, уступае ў Камуністычны Саюз Моладзі, стварае Гарбацэвіцкую камсамольскую ячэйку. Хутка гэтая ячэйка, у якую ўвайшлі дзеці самых бедных сялян, пачала нястомна змагацца за ўстанаўленне новага жыцця ў вёсцы. Камсамольцы арганізавалі хату-чытальню, памагалі ліквідаваць непісьменнасць, растлумачвалі сялянам сэнс сацыялістычных пераўтварэнняў. Яны ставілі спектаклі, складалі прыпеўкі, у якіх высмейвалі кулакоў, царкоўнікаў, абывацеляў. Душой усіх добрых пачынанняў быў любімец вясковай моладзі Платон Галавач.

Як вядома, першаадкрывальнікам





**Платон Галавач** (стаіць у цэнтры) **сярод камсамольцаў гарбацэвіцкай ячэйкі.**

заўсёды цяжка. У вельмі складаных умовах даводзілася працаваць і першым камсамольцам гарбацэвіцкай ячэйкі. На іх шляху сустракаліся не толькі сябры. Па глухіх вёсках тады шнырылі банды Булак-Булаховіча, атамана Марускі і іншыя. Яны грамілі сельсаветы, забівалі камсамольскіх актывістаў.

Платон Галавач у атрадах часцей асобага прызначэння змагаўся з бандытызмам, а потым стаў адным з кіраўнікоў Бабруйскага акруговага камітэта камсамола. У маі 1922 года ён паступіў у мінскую аднагадовую савецка-партыйную школу. Пасля заканчэння вучобы яго накіроўваюць у Барысаў, дзе ён працуе інструктарам па рабоце сярод сялянскай моладзі пры павятовым камітэце камсамола.

Працаваць, як і на Бабруйшчыне, даводзілася ў цяжкіх умовах. Барацьба з бандытамі, якімі тады кішэлі барысаўскія лясы, яшчэ не закончылася. Платон Галавач быў добрым прапагандыстам палітыкі партыі, умелым арганізатарам моладзі. За кароткі час амаль ва ўсіх кутках Барысаўскага павета ён стварыў камсамольскія ячэйкі і практычна памагаў ім наладжваць работу.

Вярнуўшыся з чарговай паездкі, Галавач любіў расказваць пра тое, што чуў і бачыў.

«Колькі было ў гэтых расказах цікавых назіранняў, трапных характарыстык,—успамінае А. Вігдараў, які часта сустракаўся з Галавачом.— Расказваў Платон павольна, слухаць яго было вельмі цікава, і ў часе гутаркі не сыходзіла з яго твару добрая, разумная ўсмешка».

Нястомна і плённа працаваў Галавач у Барысаве. Яго можна было бачыць усюды: у далёкай глухой вёсачцы і на фабрыцы «Чырвоная Бярэзіна», у школе і рабочым клубе. Ён актыўна ўдзельнічаў у літаратурных вечарах, на якія збіралася шмат моладзі. Вечары пачыналіся з чытання вуснай газеты. І тады амаль кожны раз непрыкметна паднімаўся бялявы юнак з васільковымі вачамі і чытаў свае творы. Гэта былі цікавыя малюнкі з жыцця і працы моладзі, аб ролі камсамола ў пераўтварэнні горада і вёскі.

Але каб больш паспяхова перабудоўваць жыццё, каб вучыць другіх, патрэбна многа ведаць самому. Платон Галавач добра разумеў гэта. Папрацаваўшы год інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола, ён паступае ў Вышэйшую партшколу імя У. І. Леніна, у якой правучыўся тры гады.

Аб тым, як жылі і вучыліся навучэнцы партшколы, расказваецца ў артыкуле Платона Галавача «Партшколія».

«Моцна налягаюць партшкольцы на ленінізм, бо ведаюць, што ім трэба добра ўзброіцца ленінскай тэорыяй. Ленінізм у нас — галоўнае».

Пасля заканчэння ў 1926 годзе Вышэйшай партшколы Платон Галавач зноў вяртаецца на камсамольскую работу. На III Пленуме ЦК камсамола Беларусі (чэрвень 1926 года) яго зацвярджаюць загадчыкам арганізацыйнага аддзела ЦК ЛКСМБ. У той час працоўныя краіны з натхненнем змагаліся за выкананне рашэнняў XIV з'езда партыі, які ўзяў курс на індустрыялізацыю.

Работы было непачаты край. Платон Галавач неаднаразова ездзіў на Асінбуд, цікавіўся ходам будаўніцтва, жыццём і бытам рабочых. Бываў ён і ў камуне імя Беларускай ваеннай акругі, арганізаванай на Мар'інскіх балотах. Вядома, што П. Галавач падказаў Янку Купалу тэму для новага твора. У выніку была напісана шырока вядомая паэма «Над ракой Арэсай» — буйнейшы паэтычны твор Купалы савецкага часу.

22 красавіка 1928 года, у дзень нараджэння У. І. Леніна, адкрыўся IX Усебеларускі з'езд Ленінскага камсамола. Платон Галавач выступіў на з'ездзе з дакладам аб рабоце камсамола на вёсцы. На гэтым з'ездзе ён быў выбран першым сакратаром ЦК ЛКСМ Беларусі і адказным рэдактарам «Чырвонай змены».

У Платона Галавача выдатна спалучаліся баявыя якасці камсамольскага кіраўніка з талентам партыйнага публіцыста-арганізатара. З газетнай трыбуны ён звяртаўся да шматтысячнай аўдыторыі камсамольцаў і моладзі рэспублікі і гаварыў аб самых надзённых задачах. Гаварыў проста, шчыра, палымяна.

Камандарму беларускага камсамола было тады ўсяго дваццаць пяць гадоў. Не гледзячы на малады ўзрост, Платона Раманавіча ўсе любілі і паважалі, а сябры называлі яго проста — Платоша.

Вось што расказвае пра першую сустрэчу з П. Галавачом беларускі пісьменнік Янка Скрыган: «...мяне здзівіла, што ён мала падобны на маё першае ўяўленне аб ім. Пасля ён выступаў, выйшаўшы на трыбуну. І тут выявілася яшчэ большае непадабенства на загадзя нарысаваны вобраз: што ён любіць глядзець трошачкі з-пад ілба, што гаворыць вельмі спакойна і ціха і што голас у яго мяккі, з малюсенькім насавым гучаннем. І здалося зусім нечаканым, што няма ў яго ні рэзкага жэсту, ні строгага позірку, ні павышанай камандзірскай ноты — усё па-чалавечы проста і душэўна».

У канцы мая 1928 года працоўныя і інтэлігенцыя Беларусі сустракалі на станцыі Негарэлае вялікага пралетарскага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага, які вяртаўся з Італіі. На пероне стаяў вялізны натоўп людзей: дэлегацыі з Мінска, пісьменнікі, журналісты, сяляне навакольных вёсак. Усе з нецярплівасцю чакалі сустрэчы.

«І калі ў змроку вечара прыйшоў цягнік, — успамінаў потым П. Галавач, — у якім ехаў Аляксей Максімавіч, мы ўсе беглі насустрач, каб хутчэй убачыць яго, узяць на рукі і несці да нашага, савецкага цягніка. Спявалі «Інтэрнацыянал». Гэта было найвялікшай праявай любві да свайго любімага пісьменніка».

Тут жа каля вагонаў адбыўся кароткі мітынг. Ад імя камсамольцаў і моладзі Беларусі Максіма Горкага вітаў сакратар ЦК ЛКСМБ Платон Галавач. Ён сказаў, што ў сваёй рабоце камсамол скарыстоўвае як адзін з магутных сродкаў выхавання — мастацкую літаратуру.

Платон Галавач быў дэлегатам XII з'езда КП(б)Б, які праходзіў у лютым 1929 года. У прамове на з'ездзе ён гаварыў аб рашучым разгортванні самакрытыкі ў камсамоле, аб узмацненні ролі камсамольскага актыву, аб значным паляпшэнні партыйнага кіраўніцтва камсамолам. На гэтым з'ездзе Платона Галавача выбралі членам ЦК кампартыі Беларусі.

21 лістапада 1929 года адбыўся пленум ЦК ЛКСМБ. У інфармацыйным паведамленні гаварылася, што тав. Галавач П. Р. адклікаецца ў распараджэнне ЦК ВЛКСМ і ЦК ВКП(б) і што пленум вызваліў яго ад абавязкаў сакратара ЦК, члена бюро ЦК ЛКСМБ і рэдактара газеты «Чырвоная змена». Хутка пастановай прэзідыума ЦВК БССР ён прызначаецца намеснікам наркома асветы БССР. У красавіку 1930 года Галавач пакідае гэтую пасаду і займаецца толькі літаратурнай працай.

19 кастрычніка 1937 года яго жыццё трагічна абарвалася. Платон Раманавіч памёр у поўным росквіце свайго шматграннага таленту.

У Мінску на Маскоўскай вуліцы стаіць даванны чатырохпавярховы дом, пафарбаваны ў жоўты колер. У ім з 1930 па 1937 год жыў і працаваў П. Р. Галавач. Трэба было б, каб пра гэта напамінаў які-небудзь памятны знак. І яшчэ: было б вельмі добра, каб і адна з вуліц нашага горада насіла імя камандарма беларускага камсамола.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ.**




**Віталь ЛУЦЭНКА**

# ПРАЗ ТРЫ АКІЯНЫ

**Старонкі з дзённіка матроса**

## МЫ ВЫЙШЛІ Ў МОРА

Хто не марыў з маленства пра падарожжы ў далёкія краіны, па морах і акіянах. Я гэтага дня чакаў дваццаць год і, нарэшце, дачакаўся. Іду ў свой першы рэйс матросам на рэфрыжэратары «Саянскія горы».

Наша каюта № 84 была на дваіх. Светлая, прасторная. Два крэслы, канапа. Апрача ложкаў з мяккімі, на спружынах, матрацамі, этажэрка для кніг, два рундукі для абутку, дзве шафы, скрыні для бялізны, умывальнік.

Пакуль я аглядаў каюту, у яе зайшоў рослы, з карымі вачамі хлапчына, працягнуў мне шырокую, моцную руку.

— Павел, — сказаў ён, вітаючыся. — Значыць, будзем жыць разам...

Мы разгаварыліся. Выявілася, што Павел, як і я, першы раз ідзе ў мора. Да нас даносіцца доўгачаканая каманда капітана: «Аддаць усе канцы!»

Засталіся ззаду вучэбныя, водныя і пажарныя трывогі, пагрузка на судна, развітальныя парады сяброў, родных. Разразаючы водную гладзь канала, уздымаючы буруны за кармой, судна адвальвае ад пірса і кіруецца ў мора. Хоць на вуліцы панылае, шэрае надвор'е, настрой у нас добры. На душы лёгка. Аж да самага мора нас праводзіць чародка белых галубоў.



**Рыбалавецкае судна абсталявана па апошняму слову тэхнікі.**

Фота аўтара.

Не паспелі мы ўвайсці ў мора, як зазіхацела незвычайна яркае

сонца. Аж слепіць вочы: нельга зірнуць на ваду. Гледзячы на галубоў, на сонца, старыя маракі гавораць:

— Гэта добрая прыкмета!

Пройдзены Балтыйскае, Паўночнае моры, пралівы Скагерак, Ла-Манш. Мы плылі недалёка ад берагоў Швецыі, Даніі, Англіі, Францыі, Партугаліі, Іспаніі. На гэты раз спрадвечна штармавы Біскайскі заліў — магілкі караблёў — сустрэў нас даволі прыязна, калі не лічыць лёгкую гойданку. Павел ляжыць на ложку пластом, яго адолела марская хвароба. Я ж на дзіва добра пераносіў пазней і шторм у Індыйскім акіяне.

## ЗНАЁМСТВА З ГІБРАЛТАРАМ

Займалася світанне, калі мы падыходзілі да Гібралтара. Дзве моцныя сустрэчныя плыні адносілі судна ад намечанага курсу. Амаль кожную мінуту чацвёрты памочнік капітана вызначаў месца знаходжання судна і дакладваў на мосцік дзяжурнаму штурману. Апрача вахценнага, на мосціку знаходзіўся капітан Мікалай Якаўлевіч Дзмітрыеў, які ўсю ноч прабыў там.

— Курс — маяк «Еўропа»! — загадаў капітан рулявому.

— Ёсць курс — маяк «Еўропа»!

З кожнай хвілінай судна ўсё бліжэй падыходзіць да берагу. На фоне цёмнага неба, падобная на вулкан, узвышаецца маналітная скала, акаймаваная ля падножжа шлейфам стракатых рэкламных агнёў. Загадкавымі здаюцца дзівосныя водбліскі святла ў прыбярэжнай вадзе. Хочацца паглядзецць, які ён, горад... У тую хвіліну для нас Гібралтар быў загадкай.

Дзьме свежы, мяккі вецер, нібы разганяючы цемень ночы, здзірае з гары дымчаты полаг. Са сховішчаў на скале тырчаць дзесяткі гарматных ствалоў. На яе вяршыні з шалёнай злосцю круцяцца лакатары, злосна ашчаціліліся антэны радыёстанцый і радыёпеленгатараў. Адтуль жа, з сярэдзіны гары, часта заміргаў моцны пражэктар, шквалам абрушыўшы на нас кропкі і працяжнікі.

— Хто вы? Адказвайце зараз жа! — катэгарычна запытала некалькі разоў запар яркае міргаючае вока. І адразу жэрлы гармат заварушыліся ва ўсіх кутках гары і папаўзлі да адной цэлі — нашага судна.

— Транспартны рэфрыжэратар «Саянскія горы» Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», — сігналіць у адказ капітан ліхтарамі.



Гібралтар.

Мы адчулі, што падыходзім да англійскай авіяцыйнай базы, якой з'яўляецца Гібралтар.

Выйшлі на рэйд, аддалі якары. Чакаем прыходу ўлад. На дзіва доўга цягнецца час, а ўлады не спяшаюцца. Напэўна, яны яшчэ дасыпаюць свае прыемныя сны.

Ранішнюю цішыню разрывае рокат ваенных рэактыўных самалётаў. Яны ўзнімаюцца з вузкай паласы бетону, якая далёка ўваходзіць у мора, і са страшэнным выццём праносяцца над мачтамі нашага судна.

Праз узлётную паласу праходзіць вуліца, якая злучае порт Гібралтар з Іспаніяй. Калі трэба прыняць ці адправіць чарговы самалёт, шлагбаумы перакрываюць вулічны рух. Як толькі самалёт узляціць ці прызямліцца, шлагбаумы адкрываюцца, і ўзлётная паласа ператвараецца ў звычайную вуліцу.

Гібралтар — вялізарная перавалачная база для турыстаў усіх кантынентаў. Магазіны, кафэ, кабарэ, казіно сустракаюцца на кожным кроку. Чутны англійская, французская, кітайская, іспанская, шведская, нямецкая і іншыя мовы свету. Гандляры так бойка таргуюцца з турыстамі, што здзіўляешся іх спрытнасці і знаходлівасці. Як сапраўдныя цыркачы.

Іншаземцы-турысты выбіраюць сувеніры, імкнуцца збыць цішком кантрабандныя тавары. Увішныя прайдохі-гандляры стараюцца з усяе сілы, каб зацягнуць кліента ў свой магазін, а там ужо яны яго не выпусцяць, пакуль што-небудзь яму не прададуць. Яны такія нахабныя, што проста лезуць у кішэню, і калі ўжо ўбачаць грошы, то ад іх не адчэпішся. Даводзіцца на дапамогу зваць паліцэйскага.

Нам перагарадзіў дарогу высокі, худы чалавек з васковым тварам і дрыжачымі рукамі і на рускай мове замармытаў:

— У імя ўсяго святога, зайдзіце ў наш магазін! Толькі паглядзіце! Калі ж абмінеце, шэф прагоніць мяне. Толькі зірніце!




Здаецца, гэты зазывала падняўся з труны.

Чалавек круціў лысай галавой, размахваў перад намі плакацікам, на якім не зусім пісьменна было напісана: «Дешево и сердито — носки, плащ, косынка, ковёр»...

Убачыўшы, што мы зацікавіліся плакатам, стары заўсміхаўся:

— Гэта я сам напісаў, стараўся...

— Вы рускі? — не стрымаўся мой сябар Валерка Глевашоў.

— Не, я іспанец.

— Адкуль жа вы ведаеце рускую мову?

— Сам вывучыў, — загаварыў стары. — Доўгі час я быў без работы. У мяне быў свой невялічкі магазін, але я прагарэў, і ўсё загінула. Работы нідзе не было, і я вымушаны быў вывучыць рускую мову. Добра, што ў мяне ў Іспаніі, тут недалёка, ёсць стары сябар, ваш суайчыннік, ён мяне і навучыў рускай мове. Цяпер гаспадары магазінаў бяруць мяне на расхват. Плацяць працэнты ад выручкі...

Давялося са спачування да старога зайсці ў магазін. Не таргуючыся, мы з Валеркам нешта купілі з драбязы. Як мы потым дазналіся, на тыя грошы, што мы



**Праехаць на асле ў Гібралтары каштуе не менш, чым на таксі.**

патрацілі, у іншых магазінах гэтыя рэчы можна было б купіць удвая танней.

Не паспелі адысці і некалькі крокаў, як нас зноў пацягнулі ў магазін...

Нарэшце мы выйшлі да невялікага ўтульнага парку ля гранітных скал. Адразу залюбаваліся яго зялёнымі прысадамі, пальмамі і кветкамі. Мы спяшаліся хутчэй убачыць малпаў, пра якіх чулі ўжо шмат. Расказвалі, што малпы, якія жывуць у парках і на скалах Гібралтара, крадуць у турыстаў сумкі, капелюшы, фотаапараты, нават адна прайдоха-малпа ўмудрылася ўкрасці з носа англійскага турыста акуляры. Мы ж ні адной малпы так і не ўбачылі, хоць і прамоклі да ніткі. Кажуць, што гібралтарскія прадпрымальнікі, каб прывабіць больш турыстаў, усяляк рэкламуюць малпаў і іх штукарствы.

Побач з паркам, ля гранітнай скалы, прытулілася вялізнае казіно. Там людзі прагульваюць сумленне, гонар і жыццё, там за грошы прыгажуні прапануюць каханне. Аматары вострых адчуванняў едуць сюды з усіх канцоў свету.

Адбіваючыся ад атак гандляроў, блукаючы пад дажджом па парку, мы вельмі стаміліся і хацелі есці. У нас яшчэ быў у запасе вольны час, але мы рашылі вярнуцца на судна. Надумалі ўзяць таксі, каб хутчэй дабрацца да порта, але яны ўсе ў раз'ездзе. Няма і старых кабрыялетаў з бліскучымі меднымі ліхтарамі, запрэжаных паркай коней. Праўда, на стаянцы мы ўбачылі тачанку з ішаком. За гэты транспарт патрэбна заплаціць не менш, чым за таксі ці кабрыялет. Нам шкада стала прамоклага, аблезлага асла, у якога, нібы лісце дзядоўніку ў гарачыню, абвіслі вушы. Мы пайшлі пешшу.

Нечакана пачуліся п'яныя галасы, якія цягнулі нейкую песню. Гэта пляліся, узяўшыся за рукі, амерыканскія ваякі. П'яныя янкі бесцырымонна чапляліся да дзяўчат і жанчын, якія трапляліся ім на вуліцы, груба штурхалі мужчын. Іх усе старaніліся, гандляры спяшаліся зачыніць дзверы магазінаў, кабарэ.

— Як толькі амерыканцы з'явяцца ў горадзе, не чакай дабра, — гаворыць індыец-гандляр, з якім нам даводзілася гутарыць. — Адразу пачынаюцца бойкі, нахабства...

Вольна, беспакарана адчуваюць сябе тут амерыканскія малойчыкі.

## НА ТРАВЕРЗЕ — ПОРТ-САІД

Мы ў Міжземным моры. Мяккі, нібы аксамітны, вецер песціць твар. Крыху гойдае на блакітных хвалях. Злева і справа ад нас — эскорт дэльфінаў, якія праносяцца, нібы ракеты. Яны весела куляюцца, наладжваюць гонкі, спаборніцтвы па скачка́х...

Нам сустракаюцца і акулы, а таксама яшчэ нейкія марскія насельнікі.

— На траверзе Порт-Саід! — дакладвае рулявы штурману Яўгену Салаўёву.

Мы падыходзім да вельмі прыгожага белага горада, які патанае ў зеляніне трапічных раслін. На судна ўзыходзяць лоцман, партовыя ўлады. Праверыўшы дакументы, нам дазваляюць ісці да пірса, дзе будзем чакаць збору ўсяго каравана, каб прайсці Суэцкі канал.

Караван сабраўся пад вечар. Уночы ўвайшлі ў канал. На носе нашага судна ўмацавана вялізная, акаваная жалезам скрыня з магутным пражэктарам. У скрыні — электрык-араб, які накіроўвае моцнай сілы прамень на сярэдзіну канала. На палубе паднятая з вады шлюпка швартоўшчыкаў. А самі яны разбрыліся па ўсіх палубах. Адны прыладзіліся пад надбудовамі і спяць на сваіх паходных матрацах, другія глядзяць фільм у салоне. Швартоўшчыкі спатрэбяцца, калі мы спынімся ў канале, каб прапусціць сустрэчны караван, тады яны замацуюць швартовы на беразе канала.

Мы з боцманам дзяжурым. Кузьма Іванавіч знаходзіцца тут на выпадак, калі спатрэбіцца аддаць якары. Сядзім моўчкі. Гаварыць не хочацца зусім. За дзень так напрацаваліся, што цяпер не да размоў. Добра б паспаць, але спаць нельга.

Ярка свеціць месяц. Тут, на носе судна, мёртвая цішыня. Ледзь чуцён плёскат вады; з берагу даносіцца крумканне жаб, трэск цыкад. Нібы маланкі, успыхваюць частыя зарніцы, асвятляючы ўсё навокал сляпучымі сполахамі.

Пакрысе боцман разгаварыўся. Ён расказваў пра Сімферопальшчыну, дзе доўгі час працаваў, пра розныя моры і краіны, дзе давялося пабываць яму.

Да нас падсеў араб. Ён гаварыў па-англійску, крыху па-руску, па-нямецку. Знайшлі спосаб пагутарыць. Інжынер-электрык Саід Абдэль Агк працуе на канале з маленства. Яго прадзед і дзед будавалі гэты канал, і абодва памерлі тут, надарваўшыся. Якіх толькі спецыяльнасцей не паспрабаваў Саід, пакуль не ўзняўся да класнага спецыяліста.

— Скажу чэсна, — гаворыць Саід, — лепшых людзей, як рускія, я не сустракаў за ўсё сваё жыццё...

Яго таварышы, што падышлі да нас, у знак згоды ківаюць галовамі, а Саід працягвае:

— Хіба можна калі-небудзь забыць выпадак, які здарыўся з маім сябрам тут, на гэтым канале. У той дзень вялізны караван ішоў праз Суэцкі канал. Наперадзе было савецкае судна «Слаўгарад». У цеснай скрыні дзяжурыў Ахмет. Я заўважыў, што пражэктар асвятляе толькі левы бок канала. Што такое? Ахмет быў нейкі бледны, разгублены. Набліжаліся да Ісмаіліі, воінскага ўчастка, але прамень, як і раней, блукаў між двух берагоў. Я кінуўся да Ахмета і ўбачыў, што ён хворы, бо ледзь узняў галаву. Адчуўшы, што сябар хворы, я рашыў яго змяніць. Ахмет пачаў узнімацца на палубу, але сарваўся і плюхнуўся ў ваду. Я закрычаў што было моцы: «Чалавек за бортам!» Я ведаў, што яго можа раструшчыць вінт. Спыніцца судна не мае права — заторыцца ўвесь караван. І я ад роспачы закрыў твар рукамі, заплакаў. Мяне нехта крануў за плячо: «Не плач, друг. Знойдуць хлопцы твайго таварыша». Сапраўды, я ўбачыў шлюпку, у якой былі савецкія маракі. Яны і ўзнялі на борт амаль што мёртвага Ахмета. Рускі доктар выратаваў яго. Хіба хто адважыўся б на такое? Яшчэ скажу, што ў Ахмета цяпер васьмёра дзяцей. Яму памагае дзяржава. Ён атрымаў добрую кватэру, дзеці вучацца ў школе...

За час, які былі ў Суэцкім канале, мы пасябравалі з арабамі. Расставаліся, як добрыя сябры, абмяняліся на развітанне адрасамі.

— Да сустрэчы! — крычалі яны нам са шлюпкі, якую мы апусцілі за борт.

Чырвонае мора самае салёнае ў свеце, але, нягледзячы на гэта, у ім поўна жывых істот. Мы назіралі, як праплывалі вялізныя чароды дэльфінаў, лятаючых рыбак, тысячы мядуз. А колькі акул! У Чырвоным моры водзяцца людаеды — тыгравыя і белыя акулы.

## СІНГАПУР — ГОРАД ЛЬВА

Прайшлі Індыйскі акіян. Там добра нас пагойдала, пакуль пераадолелі шторм у дзесяць балаў.

На гарызонце — славуты горад, пра які складзены тысячы легенд і анекдотаў. Сінгапур. У перакладзе на рускую мову — горад льва. Тут перакрыжоўваюцца марскія дарогі, што ідуць з Індыйскага і Ціхага акіянаў. Тут сустракаюцца падарожнікі з усіх краін і кантынентаў.

Сінгапур сустрэў нас гудкамі і звонам якарных ланцугоў, сотнямі суднаў, што стаялі на якары, увазходзілі ў порт і адыходзілі з яго.

Мы яшчэ не паспелі падысці да месца стаянкі, як на борт паляцелі кіпцюры з доўгімі канатамі. Па канатах, нібы запраўскія піраты, паднімаліся гандляры. Неўзабаве на палубе ўжо сядзелі кітайцы, індусы, малайцы і наперабой прапаноўвалі тавары з крыклівымі этыкеткамі зарубежных фірм.

З першых дзён мы рашылі пазнаёміцца з горадам і наведаць славуты Тыгравы парк.

Ля марскога вакзала, праз мост, пераходзім вуліцу. Вулічны рух левым бокам. Здзіўляемся віртуознасці шафёраў. У чатыры рады па вузкіх вуліцах імчаць аўтамабілі з хуткасцю не менш 50 кіламетраў у гадзіну, бо за зніжэнне скорасці штрафуюць. Няма нічога дзіўнага, што ў горадзе штодзень бывае звыш двухсот аварый і катастроф.



Ля ўваходу ў Тыгравы парк.



Вось такія «скульптуры» прымушаюць уздрыгваць ад агіды.

Усюды веларыкшы з пасажырамі, гароднінай, садавінай. Іх твары — нібы вылітыя з чырвонай медзі, сарочкі задубелі ад поту і солі. Не зважаючы ні на што, яны націскаюць сухімі, мускулістымі нагамі на педалі, некуды спяшаюцца, абганяючы адзін другога. З катаржнай працы пад гарачым трапічным сонцам веларыкшы ледзь кормяць свае сем'і.

Змяніўшы два аўтобусы, мы дабраліся на ўскраіну горада, да Тыгравага парку. Калі праехаць па дарозе побач з паркам, можна трапіць у вялізныя пушчы какосавых пальмаў, лімонных і бананавых дрэў, можна ўбачыць малайцаў — мужчын і жанчын, голых па пояс. За адпаведную плату яны згодзяцца пазіраваць перад вашым фотаапаратам, запросяць на паляванне і рыбную лоўлю, праспяваюць і патанцуюць для вас...

Страшэнным аскалам зяпы сустракае нас пры ўваходзе вялізны тыгр у акружэнні пятнаццаціметровых пітонаў. Ён, нібы вартавы, пільна глядзіць на кожнага, хто ўваходзіць у сад, не міргаючымі





За адпаведную плату яны пазіруюць перад фотаапаратам.

вачамі, вялізныя клыкі акрываўлены, увесь ён сціснуўся ў камяк, кожную хвіліну гатовы скокнуць.

А гэта цэлы статак чалавекападобных малпаў сварацца між сабой: не падзялілі ананасы. Двухметровы самец асклабіўся ў дзікай злосці. Магутныя плечы наліліся мускуламі, моцныя рукі гатовы да бою. Здаецца, ён толькі што кінуў камень у свайго праціўніка, а другую глыбу вывaрочвае левай рукой...

Усе фігуры каляровыя. Стракаціць у вачах ад пер'я птушак, ад фантастычных расфарбаваных пачвараў і вырадкаў.

З абурэннем глядзім на скульптуры. Вось рагатае страшыдла з дзікай татуіроўкай. Нажом распатрашыла яно грудзі і жывот жанчыне і вырывае сэрца, лёгкія, пячонку... Багаты патрыцый глядзіць на ўсё гэта і ўсміхаецца. А вось пачвары рвуць на часткі няшчаснага раба; тут жа чалавека пілою распілоўваюць на часткі...

Наглядзеўшыся на ўсё гэта, мы ніяк не можам супакоіцца. Перад вачамі ўвесь час стаяць акрываўленыя ахвяры, ашчэраныя пачвары і страшыдлы.

З Тыгравага парку да цэнтра горада мы ішлі пешшу. Вузкія вуліцы сціснуты з абодвух бакоў беднымі хаткамі. З іх вокан тырчаць жэрдкі, на якіх сушыцца бялізна, вопратка ў латках; усцяж вуліцы — столікі, за якімі сядзяць бедна апранутыя людзі. Над усім гэтым — смурод, мухі, невыносная духата. А побач — палацы з басейнамі і садамі, ля пад'езду самыя модныя аўтамабілі заморскіх фірмаў.

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, АЛЯСКА!

Разразаючы блакітныя хвалі, нясецца наперад беласнежнае судна. У сівізне бурунчыкаў Усходне-Кітайскае мора. Яно мерна вуркоча за бортам, ласкавае і пяшчотнае. Чарада дэльфінаў з цікавасцю разглядае новенькі велікан-рэфрыжэратар «Саянскія горы». Да роднага порта засталося зусім мала. Тры акіяны і дзевяць мораў пройдзены за сорак сутак.



Коні сабраліся ля вялізнага палтуса.

Маракі калінінградскай каманды ўпраўлення «Мортрансфлоту» палюбілі гэтае зручнае для жыцця судна. Яны, на чале з вопытным капітанам Мікалаем Якаўлевічам Дзмітрыевым, трымаюць сваё слова: ідуць да порта прызначэння з апярэджаннем графіка.

Усе добра разумеюць важнасць задання. Аднадушна прымаецца рашэнне: ісці, не затрымліваючыся, у раён здабычы.

Надвор'е не радуе нас. Віруе мора. Часта наваколле зацягваецца густым туманам. Нібы мыльная пена, ён чапляецца за мачты, надбудовы судна.

Жыццё на «Саянскіх гарах» ідзе спакойна, без мітусні. Распарадак дня распісаны з дакладнасцю да хвіліны. Чотка працуюць усе механізмы, упэўнена і ўвішна выконваюць свае абавязкі маракі.

— Хлопцы, глядзіце! — закрычаў неяк рулявы Валерка Спасенных, паказваючы рукою на левы борт.

Мы адразу ўбачылі вялізнага кіта, які ляніва плыў непадалёк. Побач з ім уздымаліся два фантаны вады і пары... Хвілін праз пятнаццаць мы ўбачылі зусім блізка яшчэ два вялікія фантаны. Шкада, што мы не кітабоі!

У часе рэйса нас заўсёды праводзілі статкі дэльфінаў, яны гулялі і куляліся ля самага борта. Часта сустракаліся марскія коцікі, касаткі. Непадалёк ад Аляскі мы назіралі пералёт дзікіх качак. Іх можна было налічыць сотні тысяч.

А на палубе кіпела работа. Падцягнуты, старанны боцман Кузьма Іванавіч Трафімаў, увішны цясляр Міхась Берлаус, гаварун і весяльчак матрос Пеця Савушкін узбройваюць стрэлы; трумныя матросы Валодзя Глызін, Славік Петрушэнка, Валодзя Смыгін узнялі крышкі трумаў; Паўлік Гнаіўскі і Рыгор Дземчанка сплятаюць гашы на сталёвых канцах. Рыхтуецца да прыёму грузаў і машынная каманда: электрыкі, рэфматарысты, рэфмеханікі...

Світанне пачалося а першай гадзіне ночы. Цемень хутка рассейвалася. На ўсходзе запалымнела зара. Увесь гарызонт заліўся яркім, вясёлкавым святлом.

Упершыню за дзесяць дзён мы ўбачылі сонца, вялікае і яркае. Яно вылазіла з-за хмар, нібы грыб з-пад прэлага лісця. Акіян, сумны, непрыветлівы і шэры, пачаў змяняцца проста на вачах. Цёмныя, парэзаныя зморшчынамі белых бурунаў, мутныя яго хвалі ператварыліся ў цёмна-сінія валы. Жывым срэбрам блішчыць на сонцы вада, б'е ў твар свежы тугі вецер, змешаны з вадзяным пылам. На вушах, на твары асядае соль. Вецер бадзёрыць, надае сілы. Добра!

Усё гатова да прыёму рыбы: у трумах створана патрэбная тэмпература, лючыны ўзняты на палубу, апрабаваны лябёдкі. Кожны ведае, што яму рабіць у часе перагрузкі. Нас з нецярпеннем чакаюць у заліве Аляска.

Неўзабаве мы прыбылі ў раён здабычы. Па радыё нас віншуюць усе судны з удалым прыходам. Як праз сіта, сеецца дробны дождж.

Першым швартуецца да правага борта флагман аб'яднанай экспедыцыі дызель-электраход «Чуркін». Прывітальна ўсміхаецца яго капітан Сяргей Мікалаевіч Заварзін.

— Вельмі рады вашаму ўдаламу прыходу, — гаворыць ён. — Дзякуй. Вельмі вас чакалі. Стаім без работы. Вось толькі надвор'е...

Між іншым, дождж хутка і нечакана для ўсіх перастаў, і выглянула сонца. Для ўсіх гэта было сапраўднае свята.

— Гэта вы прывезлі нам сонца... — жартавалі маракі, калі пачалася пагрузка.

...Мы дрэйфуем за 15 міль ад Аляскі. Моцная плынь у шэсць вузлоў адносіць судна ад берагу. Зроку адкрываюцца ярка-сінія горы з смарагдавымі вяршынямі. Здаецца, гэта казка, бо ніколі яшчэ не даводзілася бачыць у жыцці такія фантастычныя фарбы. Вясёлкай пераліваюцца леднікі ў сонечных промнях, усім спектрам фарбаў гарыць неба. Нельга адарваць вачэй ад гэтых дзікіх гор і леднікоў. Добра відзён ляднік Маласкіна. Проста на носе — казачная гара Святога Ільі вышынёю 5489 метраў. Побач з ёй гара Самавар...

Надрываючыся, гудуць маторы лябёдак, і стрэлы, нібы натрэніраваныя рукі, падаюць усё новыя і новыя пакеты марожанай рыбы ў ненажэрныя пашчы трумаў. Пагрузка не спыняецца ні ўдзень, ні ўночы.

Аддадзены канцы «Далёкаўсходняму» і «Чуркіну». Першыя тысячы цэнтнераў рыбы ў трумах. А трэцяй гадзіне ночы падыходзяць новыя судны. Не паспелі да нас прышвартавацца дызель-электраходы «Арсеньеў» і «Ішым», як да іх бартоў набліжаюцца са свежай, толькі што вылаўленай рыбай сярэднія рыбалоўныя траўлеры.

Працуючы, мы так разагрэліся, што паскідалі ватоўкі і шкадуем, што нельга скінуць кашулі. На вейках, бровах, на бародах тоўстым пластом ляжыць іней. На палубе лета, хлопцы загараюць, а тут, у труме, сапраўдная зіма.

Я працую разам з усімі з самага пачатку пагрузкі, хоць у мяне — трумнага матроса — зусім іншыя абавязкі. Ледзь паспяваю бегаць са скрынямі. З кожным разам яны становяцца ўсё цяжэйшыя. Некалькі разоў кулём ляцеў услед за скрыняй, якая вырывалася з рук.

— Нічога, такое і ў нас бывае, — па-сяброўску супакойвае брыгадзір з «Ішыма» Юра Гардзіенка. — З непрывычкі такое...

Кашуля прыліпла да спіны. Гудуць набухлыя рукі, агнём пякуць далоні, ные сярэдзіна. Я перастараўся пры першай пагрузцы і цяпер гэта адчуваю. Пастулова прывыкаю і ўжо больш не адчуваю такой стомы.

Ніхто не падганяе рабочых, ніхто не пакрыквае на іх, але ўсе спяшаюцца. Брыгада ведае, што судна трэба хутчэй разгрузіць, каб даць магчымасць траўлерам здаць улоў рыбы, які часова быў спыніўся з-за недахопу транспарту.

Працаваць нялёгка. Але ніхто не наракае на цяжкую працу. Ныцікаў тут не любяць. Ныцікі і рвачы адсюль уцякаюць. Не вытрымліваюць ганьбы сваіх таварышаў і суровага клімату.

...Прайшло пяць з паловінай дзён з таго часу, як мы прыйшлі на здабычу. Судна загружана як мае быць. Наш капітан задаволены работай грузчыкаў.

Ва ўсіх цудоўны настрой. Заданне выканана. Адыходзім на шэсць сутак раней тэрміну.

Развітальныя гудкі суднаў. З намі развітваюцца, як з добрымі сябрамі. Ужо ў дарозе атрымалі радыёграму на імя капітана Дзмітрыева і першага памочніка Лысака: «Ад імя аб'яднанай экспедыцыі «Дальрыба» прашу перадаць экіпажу падзяку за добрую работу. Асабліва вам удзячны за высокую арганізацыю працы, за дапамогу, аказаную нашым суднам. Шчаслівага плавання, дарагія таварышы! Начальнік аб'яднанай экспедыцыі А. Лялін».

Кіпіць і пеніцца за кармою кільватарны струмень. Плаўна пагойдваючыся на хвалях, імчыць беласнежны рэфрыжэратар. Спяшаемся ў родны порт.

Першы рэйс «Саянскіх гор» быў удалы.

Так трымаць, сябры!




# ВІЗА Ў КРАІНУ ЎСМЕШАК

**Раман ТАРМОЛА. Поўня. Выдавецтва «Беларусь», 1966.**

Яшчэ і сёння не аціхлі спрэчкі пра традыцыі і наватарства, яшчэ і сёння ламаюцца крытычныя пёры, стараючыся даказаць перавагу адной думкі над другою. Праўда, некаторыя вельмі ўжо шчырыя прыхільнікі фальклорнага пачатку паэзіі нават народнасць нашай літаратуры чамусьці вымяраюць толькі колькасцю выклічнікаў «ой!» і «ах!», толькі ўжываннем памяншальна-ласкальных слоў. Белы і вольны верш, асацыятыўную паэзію яны лічаць нейкай модай і нават блізка не падпускаюць да традыцый і народнасці, хоць у нас ёсць многа прыкладаў ашчаднага, усебаковага выкарыстання і гэтых здабыткаў. Скажам, цудоўная паэзія Максіма Танка. Якім бы памерам ён ні пісаў свае вершы, *якія б* сучасныя формы і спосабы выражэння ні ўжываў — яго творы заўсёды былі і астаюцца вельмі народнымі.

У кнізе «Поўня» ёсць усе адзнакі так званага сучаснага стылю: асацыятыўнасць мыслення, смеласць, я сказаў бы нават, добрая адвольнасць у выбары параўнанняў, каранёвыя рыфмы, сучасная абуджаная хваляваннямі за лёс чалавецтва думка, якая сягае за звыклыя гарызонты зямнога прыцягнення. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, пра новую кніжку Рамана Тармолы можна гаварыць як пра засваенне і далейшае развіццё традыцый у нашай беларускай літаратуры.

Возьмем для прыкладу адзін з самых лепшых твораў зборніка — «Паэму году твайго». Гэта чысты гімн шчыраму каханню, пра якое расказана не адасоблена, а ў нейкай абавязковай сувязі з прыродаю, працаю, агульным жыццём чалавека. Вось менавіта гэтым паэма і становіцца традыцыйнаю. Мы міжволі, чытаючы яе, успомнім жамчужыну нашай паэзіі — паэму Янкі Купалы «Яна і я», дзе паэтызацыя кахання з непераўзыйдзеным майстэрствам разгортваецца на фоне працы. Успомнім не для таго, каб шукаць нейкія паўторы ці перайманні (іх якраз у гэтай паэме няма), а каб яшчэ раз пацвердзіць тую думку, што традыцыйнасць у лепшым сэнсе гэтага слова была і будзе тым маяком, па якім заўсёды выроўнівалі свае лірычныя караблі паэты ўсіх часоў. Высокі эмацыянальны напал, выбуховая сіла шчырасці, вялікае напружанне думкі, — усё тое, што характэрна для купалаўскай паэмы, — якраз не павяло Рамана Тармолу па лёгкай пратаптанай сцежачцы эпігонства, а наадварот, памагло яму гаварыць сваім голасам, выказаць усю сваю радасць і замілаванне да жыцця, да чалавека.

Менавіта ён, чалавек, якраз і стаіць у цэнтры большасці вершаў, сабраных паэтам у гэтай кнізе. Людскія радасці і гора, трывогі і хваляванні, клопаты і патрэбы чалавека не абмінаюць чуйны сейсмограф паэтавага пачуцця.

У невялікім вершы, вынесеным на пачатак кнігі, Раман Тармола гаворыць:

> Калі жыццё — у вечнасці імгненне,
> А цэлая эпоха — дабрата,
> Лепш чалавека ўсмешкай абпраменіць...
> Цяпло хоць з-пад зямлі яму дастаць.

Гэта, мне здаецца, добрая віза на ўваход у яго паэтычную краіну, дзе асноўны клопат кожнага — дбаць пра тое, каб побач з прадуктамі сельскай гаспадаркі і прамысловасці перавыконваліся ўсе нашы планы на душу насельніцтва і па ўсмешках. Але ж дваццаты век — трывожны век. Сённяшні дзень ніяк не параўнаеш з тымі далёкімі часамі, калі вайна была не такою ўжо і страшнаю: зачыніўся сабе ў хаце, праціўнік паторгаў-паторгаў дзверы ды і пайшоў далей... Сёння ўся наша планета ўзята на прыцэл. Ды хіба толькі гэта! Колькі яшчэ ўсяго непатрэбнага не дае нам часам усміхацца!

> Грамаадводаў болей не трэба!
> Людзі,
> прыдумайце болеадвод! —

патрабуе аўтар, і мы не можам астацца раўнадушнымі да гэтых радкоў: яго хваляванне не можа не перадацца нам, чытачам. Глядзіце, якую наіўную просьбу нясе першы радок — «грамаадводаў болей не трэба». І затое як здорава дапаўняе яго другі, у якім ужо няма таго, дзіцячага патрабавання, а гучыць нечаканае, як выбух:

> Людзі,
> прыдумайце болеадвод!

Гэта ўжо майстэрства. Тут адчуваецца рука дбалага садоўніка, якому не ўсё роўна, якія будуць яго яблыкі. Тут думка і фраза працуюць зладжана, аберуч.

Калі параўнаць «Поўню» з першаю кніжкаю Рамана Тармолы, заўважаецца, што пра майстэрства ў аўтара з'явілася болей клопатаў, што ён больш спыняе сваю ўвагу і на вобразнай сістэме, і на стылёва-рытмічнай разнастайнасці радка:

> Грузавікі сена возяць.
> Паўзуць, як мядзведзі, зялёныя з раніцы.
> Вечарам касцоў на свае спіны возьмуць
> І ледзь-ледзь цягнуцца.

Рытм памагае працаваць думцы. Сапраўды, колькі стомленасці, натужлівасці, нават задыханасці ў гэтых вольных радках! І, пэўна, зусім цяжка было б стварыць такі малюнак працы, калі б, падпарадкоўваючыся педантычнасці некаторых крытычных установак, прытрымлівацца абавязкова роўнай колькасці складоў у радках, якія рыфмуюцца.

Пашырэнне сродкаў выражэння ў нашай беларускай паэзіі відавочнае. Паэзія, як ад судакранання хмар з палярнымі зарадамі, выкрасаецца ад параўнання і злучэння далёкіх, здавалася б, зусім несуадносных з'яў, рэчаў, думак. І Раман Тармола разумее гэта. Чытаючы яго кнігу, абавязкова спынішся на такіх добрых прыкладах паэтычнага мыслення: «праменні — гнуткія вудзільныя», «агеньчыкі ў вачах, як паплаўкі», «гром лужыны, як шыбы, страсяне» і г. д. Хаця хто-кольвек такія вобразы і не супраць аднесці да чыстай паэзіі і не супраць зняхаіць за тое, што тут няма вялікай думкі, мне ж здаецца, што мы павінны шанаваць іх за тую на-

страёвасць, якую даюць нам гэтыя ўсплёскі нечаканасці.

Ніякай асабліва глыбокай думкі няма і ў такім харошым вершы, які хочацца прывесці цалкам:

Прысеўшы на прамень,
як на галінку,
Спявае—
толькі песнямі жыве—
У свеце цэлым—звонкая пылінка,
У садзе спелым—дзіва-салавей.
Як тут маўчаць,
калі такая раніца!
Ад росаў ходзіць кругам галава.
Грэх,
проста грэх яшчэ з кім-небудзь
раіцца:
Спяваць ці не спяваць?!

Ведаючы, што аўтар прыхільнік паэзіі высокіх думак і яму не вельмі падабаецца так званая «чыстая» паэзія (росы, зоры, воблакі), я, прачытаўшы гэты чысты верш, прызнаюся, задумаўся: мусіць, паэзія міжвольна павяла аўтара і ён сам не заўважыў, што адыходзіць у бок ад сваёй упэўненасці. Што ж паробіш: думка і пачуццё—гэта дзве сястры, якія зусім не замяняюць адна другую. Толькі разам яны здольны нарадзіць такія радкі:

Ляцяць самалёты,
як выклік
І мне, і птушкам усім.

А там, дзе якраз нестае пачуцця, паэта падсцерагае няўдача. Менавіта такое атрымалася з вершам «Золата». Ад пачатку і да канца адчуваецца нейкая зададзенасць тэмы—проста аўтар вырашыў напісаць гэты верш, а па-мастацку не перажыў тэмы. Таму словы ў творы прыблізныя, блеклыя, вобразная сістэма расслабленая. «Гэта ж пачута яшчэ адна прымаўка—радасць, якая ў сэрцы не месціцца»,—узнёсла сцвярджае аўтар, а чытач, нават неспрактыкаваны, заўважыць, што радасць гэтая не паказана. Словы існуюць самі па сабе (яны абыякавыя да радасці), а пачуцця няма.

Часам і харошыя вершы псуе нязнойдзенасць лагічнага завяршэння тэмы. Напрыклад, у цёплым, эмацыянальным вершы «Поўня» пад канец паэт пачынае клясціся ў сваёй адданасці зямлі і сцвярджае, што яна яму «ў тысячу разоў даражэй». Гэта спрошчвае задуму і разбурае створаны да гэтага тонкі лірычны малюнак. Ці, скажам, цікавы верш «Пасажырка». У ім усё крыху гіпербалізавана, многае трымаецца на дапушчэнні ўмоўнасці («па цягніках—пасажыркаю восень»). А вось канец зроблены чыста рэалістычны: «І кантралёр з яе (з восені) штрафу не возьме, хоць безбілетны яна пасажыр». Як бачым, змяшанне гэтых двух планаў робіць верш крыху наіўнаватым.

Асабліва крыўдна, што ў такой цікавай кнізе Рамана Тармолы, кнізе са сваім вобразным светам, часам сустракаюцца знаёмыя ўжо радкі, вобразы:

Вунь ялінка у зорку цэліць—
Ей ракетаю б узляцець?

Лісце кляновае—лапкі чырвоныя
Гусі пакідалі ў лужыны звонкія...

Мост загудзеў, як удараны
бубен...

Люблю сваю зямлю—калыску
вечную.

Як медзь асенняе чаканкі,
Кладзецца лісце на гарбы.

Цяпер крышку пра паэмы. Яны займаюць даволі такі ладнае месца ў зборніку. Як ужо гаварылася вышэй, на маю думку, самай закончанай, самай цікавай з'яўляецца «Паэма году твайго». Праблемную, шырокай па дыяпазоне задумана паэма «Проста—я». Менавіта гэта і зрабіла яе нейкай раскіданай, не сабранай. Ёй нестае ўнутранага сюжэту, які б памог сабраць у адно цэлае цікавыя ў асноўным кавалкі. Цяпер жа іх можна перастаўляць як хочаш: апошнія ставіць уперад, сярэднія пасоўваць на канец, і ад гэтага нічога не зменіцца, бо ў паэме няма ўнутранага развіцця думкі. І самай няўдалай, мне здаецца, атрымалася паэма «Вяртанне ў лета». У ёй ёсць добрыя вобразы, напісана яна цёпла, але ўсё гэта не выратоўвае паэму, бо тэма, якую вырашае яна, вельмі ж ужо старая, можна сказаць, банальная: хлопец едзе ў горад, каб пабачыць каханую, якая выйшла ўжо замуж за другога.

Закрываючы кнігу, усё ж адчуваеш, што прыемна правялі час у падарожжы па светлай лірычнай краіне паэта, які заняты вечным клопатам—як мага больш знайсці для людзей шчырых усмешак і цеплыні.

**Янка СІПАКОЎ.**






# НЯРОЎНЫ ЎЗЛЁТ

**УЗЛЁТ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965.**

Узлёт Ікара. Пералёт Чкалава, Байдукова і Белякова праз акіян. Палёт Гагарына. І зусім звычна пачынае гучаць: «выхад у касмічную прастору», «пасадка на суседняй планеце». А гэта не такі ўжо далёкі вырай.

Наш час змяняе першароднае гучанне слова, узбагачае яго новымі паняццямі; робіць шматгранным.

Перада мной невялікі, адразу скажу—аляпавата афармлены мастаком В. Дазорцавым, зборнічак вершаў студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Зборнік называецца «Узлёт».

Узлёт прываблівае спакон, і, *на першы погляд*, асабліва ў юным узросце спагадлівае і паблажлівае неба паэзіі асвойваюць пераважна студэнты. З гадамі яны адчуюць, што неба гэтае часцей суровае, чым лагоднае, што ў бясхмарным блакіце шмат паветраных ям...

Узлёт свой маладыя паэты робяць у той час, калі Сусвет паэзіі ўжо добра абжыты, адсюль—у кожнага з іх павінна быць асаблівая адказнасць за першы ўзмах сваіх крылаў.

Мушу тут жа заўважыць—у зборніку атрымалася нешта такое, што пазіралася адразу пасля вайны ў многіх вясковых школах. З-за таго што не хапала настаўнікаў і памяшканняў, у адным класным пакоі зачастую сядзелі і першакласнікі, якія толькі навучыліся чытаць па складах, і перарасткі, якія перад вайной паспелі ўжо скончыць некалькі класаў і цяпер ласкавым вокам пазіралі на настаўніцу.

Сапраўды, чытаеш верш Рыгора Семашкевіча пра тое, як аднавяскоўцы прынеслі з Іспаніі «мужную песню з прыпевам: «No pasarán!..», і бачыш, што напісаны ён вопытнай рукою цікавага і ўдумлівага паэта:

А я з сорак пятага,
А я з сорак пятага—
Равеснік Дня перамогі
І выбуху першага атамнага.
Сягоння вісіць
Над планетаю нашай
Гэтая бомба—
Мая равесніца страшная.

Лагічна выцякаюць з верша заключныя радкі, дзе аўтар заклікае сваіх аднагодкаў крыкнуць «за акіян людзям хіжым і подлым: «No pasarán!..»

Побач з гэтым узнёслым, пафас-

ным вершам задушэўна гучаць словы паэта пра родную зямлю, пра гай. куды паэт уцякае, «нібы ў партызаны». Кранаюць непасрэднасцю радкі:

Зямля, ты ўваходзіш у мяне
I бліскавіцаю, і спелым ліўнем.
А папрашу ласкава — па вясне
Пяро на шчасце добры бусел
скіне.

Невыпадкова, што менавіта падборкай Рыгора Семашкевіча адкрываецца кніга вершаў універсітэцкіх паэтаў.

Радуюць і густа замешаныя, напружаныя вершы Міколы Маляўкі: «Ля помніка Леніну», «Не раз другім сынам...», «Паэтам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны», «Вераб'іная ноч».

Ад імя сваіх равеснікаў, з якімі ён працаваў у Карэліі, ад імя тых рамантыкаў і летуценнікаў, для якіх найвялікшая паэзія — праца, паэт гаворыць:

Работы лягчэй не пытаў
I з месца на месца не лётаў.
За цэлую роту стаптаў
На поўначы кірзавых ботаў.
Ніколі Ільіч на мяне
Не гляне з маўклівым дакорам,
I шчокі мае не кране
Пякучаю чырванню сорам.
Жадаць буду я аднаго
Усе свае вёсны і зімы:
Зрабіць хоць часцінку таго,
Што Ленін зрабіў для Радзімы.

Гэта — шчырая споведзь нашага маладога сучасніка.

Старая, як свет, ісціна: няма сцёртых, збітых тэм, а ёсць нянове іх увасабленне, пацвердзілася і ва «Узлёце». Відаць, нават электроннай машыне не пад сілу злічыць, колькі разоў пісалася пра рыштаванні, а вось Генадзю Дзмітрыеву ўдалося напісаць пра гэта па-свойму, я сказаў бы, вельмі прачула і ўсхвалявана:

...Ізноў стаю на рыштаваннях,
Прабіўшы хмары галавой.
...Перада мной, як перад богам,
Раздаўся ўшыркі гарызонт.
...Скафандрам мне — мая
спяцоўка.
Лячу скрозь дым, агонь і гром.
Растала ўнізе будпляцоўка —
Мой дом, мой першы касмадром.

Зборнік падпісваўся да друку ў ліпені месяцы, а не перад восьмым сакавіка — відаць таму такое сціплае месца адведзена ў ім універсітэцкім паэтэсам. Яны прадстаўлены двума імёнамі: Галіны Панько і Марыі Шаўчонак. Без абавязковых, так званых жаночых, атрыбутаў нераздзеленага кахання і чуллівых уздыханняў — проста, натуральна гучыць мініяцюра Галіны Панько «Першы стог»:

Апошні ахапак духмяны лаўлю,
Махаю хусцінкай агністай.
I вось я спускаюся ўжо на зямлю
Са стомаю альпініста.

Марыя Шаўчонак таксама вельмі па-свойму ўбачыла палаткі ў стэпе:

Сонца палынам прагоркла,
Сеўшы за рудым узгоркам.
Як лодкі, ля сіняга берагу
Прыціхлі палаткі белыя.

Як і за паэтэс, крыўдна за цікавага паэта Міколу Міцкевіча: яму таксама выпаў ліміт на два вершы. На сенажаці, дзе ўсё да травінкі выкашана паэтамі ўсіх пакаленняў, ён знайшоў яшчэ шмат духмянага мурагу. Пачынаецца сенакос:

Чырвонае ад сораму,
Што не ўстала рана,
Сонца вінавата глянула на нас.

I за работу ўзяліся косы:

Косы працавітыя
П'юць расу,
А смага —
Колькі ні стараюцца —
Яшчэ больш расце.
Пояць касцы, пояць,
За ўзмахам — узмах,
Толькі косы просяць:
— Піць.
Яшчэ... Яш-шчэ-э...

Дождж загнаў пад копы касцоў. А «брыгадзірскай меркаю па-над лугам цэлым зыркая вясёлка мерае пракос».

Шырэй за ўсіх у зборніку прадстаўлены Мар'ян Дукса. Відаць, з цягам часу гэта будзе цікавы паэт са сваім почыркам, сваёй тэмай. Але большасць яго вершаў, надрукаваных у зборніку, пакуль што — толькі накіды, чарнавікі. Няблага пачаты, напрыклад, першы верш «Архітэктары — кемныя людзі». Але ж якая банальная, сусальная канцоўка:

Каб не ведаць тугі і суму —
За шкляныя хавайся дзверцы!
Запаветны набраўшы нумар,
Выклікай патрэбнае сэрца.

А далей пайшлі ўспаміны пра далёкае маленства. Тут абавязкова «спачатку за косы цягалі кірпатых дзяўчатак», пасля «бушавала чаромха», «насілі бярэмам лілеі». Паэту, відаць, трэба выбірацца з гэтых уезджаных каляін і тарыць сваю сцежку ў паэзіі.

Імя Хведара Чэрні чытачу вядома даўно, але ва «Узлёт» трапілі далёка не лепшыя яго вершы. А шкада...

Падборка вершаў Уладзіміра Дзюбы адкрываецца вершам «Кастры», Міхася Губернатарава — «Полымя». Нягледзячы на такое багацце «агню», вершам абодвух паэтаў нестае цёплага, паэтычнага дыхання. Уладзімір Дзюба прымушае сваю каханую ўцякаць цераз платы. А калі яна не спартсменка, ды ў дадатак плот высокі, — што тады?.. З усёй падборкі пасля дапрацоўкі можна было надрукаваць хіба толькі адзін верш «Няміга». А ў Міхася Губернатарава, на жаль, і аднаго не выбераш...

З гумару (а яго, надта малавата ў зборніку) асабліва хочацца адзначыць вершы Пятра Сушко. Проста афарыстычна гучаць яго радкі:

Вось набяруся я гора дзе,
Калі не пакінуць у горадзе,
Лепш на востраў Святой Марыі,
Чым на перыферыю!

Шкада, што «Узлёт» не адкрыў нам новых імёнаў. Тыя, чые вершы вызначаюць воблік зборніка, даўно вядомы чытачу па рэспубліканскай перыёдыцы.

Відаць, больш мэтазгодна было б прадставіць у зборніку шырэйшае кола аўтараў, а вершы адбіраць стражэй. А то ў іх зашмат ліўняў, рос, кос, суму па маленству, высілкаў у што б там ні стала прадэманстраваць эрудыцыю.

Пішуць, напрыклад, пра восень — дык як тут абмінуць Левітана! («А осень ищет, ищет Левитана» Александр Николайченко.)

А калі пра мора — не абыходзяцца без Айвазоўскага:

«...мора...
...зялёнага вала ламаючы шкло,
Было вечна такім, як пісаў
Айвазоўскі».
(Эдуард Зубрыцкі.)

Дрэнна, калі паэт пачынае з вершаў пра вершы, пра паэзію. Ці не скрамней было б пісаць пра гэта пазней, спачатку авалодаўшы майстэрствам?..

Эдуард Зубрыцкі, напрыклад, сціпла ставіцца да сваіх вершаў:

Я пакіну вас, вершы, у пакоі адных
У суседстве з Шэкспірам і Блокам.

Увогуле, «Узлёт» атрымаўся няроўны. Многія з вершаў павінны былі б яшчэ пабыць у гняздоўях чарнавікоў, пакуль не адужалі б іх крылы. Нават у добрых вершах шмат агрэхаў: недакладныя, нязграбныя радкі, лішнія строфы. Укладальніку, Алегу Лойку, трэба было «прайсціся» па іх цвярдзейшай рукой.

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

◆ ◆ ◆



Міхаіл Гарбацэвіч на трэніроўцы.

# ВЯРШЫНІ БЯРУЦЬ НАСТОЙЛІВЫЯ

*Яшчэ студэнтам* Міхаіл Гарбацэвіч пачаў займацца спортам. Аднойчы на гарадскіх спаборніцтвах вышэйшых навучальных устаноў ён заняў трэцяе месца сярод *лыжнікаў політэхнічнага інстыту*та і выканаў норму першага спартыўнага разраду.

— У цябе, Міша, пэўны талент лыжніка,— віншуючы сябра, гаварылі таварышы.— Калі справа пойдзе такімі тэмпамі, то праз год-другі майстрам спорту станеш, а можа і чэмпіёнам Беларусі...

Захапленне спортам прыйшло да Міхаіла паступова. Спачатку — лыжная секцыя, а летам паспрабаваў свае сілы ў бегу на стайерскія дыстанцыі. І зноў поспех. 3 000 і 5 000 метраў Міхаіл прабягаў за час, што перавышае норму другога спартыўнага разраду. І вось ён увайшоў у зборную інстытута і стаў пязменным удзель*нікам усіх студэнцкіх спаборніцт*ваў.

Аднойчы, у разгар першынства вышэйшых навучальных устаноў Мінска, Міхаіл зусім нечакана для самога сябе і сваіх сяброў апынуўся ў ролі гледача. Пачалося з таго, што на здольнага хлопца звярнуў увагу майстар спорту па спартыўнай хадзьбе Рыгор Іванавіч Бляяўскі.

— Слухай, Тоня,— звярнуўся Бляяўскі да трэнера Антаніны Трашчалавай,— аддай мне Гарбацэвіча. Гэта ж прыроджаны хадок!..

— Бяры, калі сам Міша жадае,— адказала Антаніна.— А то, і сапраўды, у нас зусім няма каму выступаць па спартыўнай хадзьбе. А хутка ж гарадскія спаборніцтвы.

— Што, Міша, зоймемся хадзьбой?— спытаў Рыгор Іванавіч.

— Я не супраць, толькі ці выйдзе *што* ў мяне...

— Выйдзе, абавязкова выйдзе!

Пачаліся трэніроўкі. Рыгор Іванавіч быў задаволены. Міхаіл аказаўся здольным вучнем. Хутка ён дабіўся галоўнага: эластычнасці рухаў, рытмічнасці, умення задаваць узяты тэмп.

І вось настаў дзень спаборніцтваў. На старт выклікаюцца ўдзельнікі па спартыўнай хадзьбе. Суддзі правяраюць заяўкі, звяраюць нумары спартсменаў.

— Політэхнічны інстытут. Міхаіл Гарбацэвіч,— выклікае суддзя.

Міхаіл падыходзіць да суддзейскага століка, прыкметна хвалюецца. Гэта ж будзе яго першы старт у афіцыйных спаборніцтвах па спартыўнай хадзьбе.

— Які разрад?— пытаецца ў Міхаіла суддзя.— Штосьці ў заяўцы не прастаўлена.

— Па бегу — другі, па лыжах — першы,— крыху разгубіўшыся, адказвае хлопец.

— Пры чым тут бег! Якія там лыжы?..— пачаў злавацца суддзя.— Вы ж збіраецеся стартаваць па хадзьбе...

— А па хадзьбе разраду яшчэ няма.

— Дык чаго ж вы на старт выйшлі? Да гарадскіх спаборніцтваў, як вам павінна быць вядома, дапускаюцца спартсмены не ніжэй другога разраду. Сыдзіце з дарожкі.

Такога павароту справы Міхаіл не чакаў. Столькі рыхтаваўся, а цяпер даводзецца сесці на трыбуну і назіраць, як будуць выступаць іншыя. А яму так хацелася сёння паспрабаваць свае сілы...

Трэніроўкі пад кіраўніцтвам Рыгора Іванавіча Бляяўскага тым часам ішлі сваім парадкам. Разам з Міхаілам трэніраваліся ўдзельнікі зборнай каманды рэспублікі майстры спорту Барыс Храловіч, Альберт Котаў, Іван Бакуновіч. І Міша ўважліва прыглядаўся да іх рухаў, пераймаў стыль хадзьбы.

Міхаіл Гарбацэвіч паспяхова скончыў інстытут, стаў працаваць на галоўным канвееры Мінскага аўтазавода спачатку майстрам, потым тэхнолагам. А пасля работы спяшаўся на трэніроўку. Цяпер яго ўключылі ў склад зборнай каманды ДСТ «Чырвоны сцяг», і патрабаванні ўзраслі.

Летам 1961 года праходзілі рэспубліканскія міжведамасныя спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. На мінскім стадыёне «Дынама» стартавалі мацнейшыя хадакі на чале з Барысам Храловічам. Быў сярод іх і Міхаіл Гарбацэвіч. Цяпер ён меў другі разрад і адчуваў сябе даволі ўпэўнена.

... Старт дадзены. Спартсмены робяць круг па стадыёне і выходзяць на вуліцы горада, па якіх праходзіў нялёгкі дваццацікіламетровы шлях. Адразу ж наперадзе апынуўся Барыс Храловіч. Міхаіл Гарбацэвіч, прытрымліваючыся графіка, складзенага яго трэнерам Бляяўскім, трымаўся недзе ў сярэдзіне.

Вось і фініш. Барыс Храловіч першы заканчвае дыстанцыю. Перад Міхаілам фінішыруе яшчэ некалькі спартсменаў. А праз нейкае імгненне Рыгор Іванавіч віншуе свайго вучня з выкананнем нормы першага разраду.

Малады інжынер многа і настойліва працуе над праблемай павышэння надзейнасці і даўгавечнасці аўтамабіляў. З галоўнага канвеера яго перавялі ў эксперыментальны цэх. Тут нараджаюцца новыя ўзоры «МАЗаў». Для інжынера-выпрабавальніка Міхаіла Гарбацэвіча адкрылася шырокае поле для творчасці. І ён тварыў, выпрабоўваў, вынаходзіў. Прыемна было ўсведамляць, што ў новых магутных аўтамабілях «МАЗ-500» ёсць і часцінка яго працы.

Інжынер не пакідаў заняткаў спортам і перад асабістым першынством краіны па спартыўнай хадзьбе, якое праходзіла ў 1963 годзе ў Ташкенце, ён асабліва многа і старанна трэніраваўся, бо

рашыў штурмаваць майстарскі рубеж. Адчуваў сябе гатовым да гэтага і разлічваў на поспех.

Стартавалі пад спякотнымі промнямі паўднёвага сонца. Ісці было нялёгка. Хутка пасля старту выявілася лідыруючая група. У ёй быў і Міхаіл Гарбацэвіч. Ён стараўся не адставаць ад Барыса Храловіча. Вось ужо ззаду першая палавіна дыстанцыі. Усё, здаецца, добра. Міхаіл па-ранейшаму ў галаўной групе. Але праз некаторы час ён адчуў, што ці вытрымае такі шпаркі тэмп... Да таго ж спякота ўсё больш даймае...

Міхаіл, забыўшыся пра стому і гарачыню, упарта крочыў наперад. Застаўся апошні кіламетр. Міхаіл узмацняе тэмп. Фініш. Па твары трэнера зразумеў: майстарскі рубеж узяць не ўдалося. Значыць, трэба яшчэ настойлівей трэніравацца, шліфаваць тэхніку хадзьбы. А перамога будзе, абавязкова будзе.

Яго можна было бачыць і на лыжні, і ў спартыўнай зале са штангай і мячом, і на кросе лесапарку. Да сезона 1965 года Міхаіл рыхтаваўся надзвычай інтэнсіўна. Ён цвёрда рашыў узяць запаветны рубеж.

У канцы мая мацнейшыя скараходы рэспублікі сабраліся ў Мазыры. Трэнер зборнай каманды Беларусі Уладзімір Рыгоравіч Кушняроў, у якога займаўся цяпер Міхаіл Гарбацэвіч, даваў апошнія парады сваім выхаванцам.

— Ты, Міша, не цягніся асабліва за лідэрамі. Прытрымлівайся свайго графіку.

Кампанія падабралася надзвычай моцная. На старт дваццацікіламетровай дыстанцыі выйшлі вопытныя майстры спорту Альберт Котаў, Іван Бакуновіч, Анатоль Прыгоцкі, Аляксандр Базыленка. Яны адразу ж задалі тон спаборніцтвам. Памятаючы наказ трэнера, Міхаіл Гарбацэвіч крочыў у «другім эшалоне». Праўда, адрыў ад галаўной групы быў зусім невялікі. Калі Міхаіл, робячы чарговы круг, праходзіў міма трэнера, той паведамляў яму час. Аказалася, што Гарбацэвіч ідзе крыху вышэй намечанага графіка.

— Добра, Міша, добра! — падбадзёрваў яго Уладзімір Рыгоравіч. — Трымайся такога тэмпу.

Перад фінішам Гарбацэвіч апярэдзіў некаторых майстроў з лідыруючай групы. Узяты тэмп яму ўдалося захаваць да канца. Фінішыраваў ён шосты, з выдатным часам — 1 гадзіна 32 мінуты 17 секунд. Гэта амаль на тры мінуты вышэй нормы майстра спорту. А ў канцы лета Міхаіл Гарбацэвіч дабіўся новай перамогі — стаў чэмпіёнам Усебеларускай спартакіяды прафсаюза работнікаў машынабудавання ў хадзьбе на дзесяць кіламетраў.

Малады інжынер дасягнуў новай вышыні і на вытворчасці. Цяпер ён узначальвае лабараторыю падвескаў і тармазоў у эксперыментальным цэху, распрацоўвае новыя, больш дасканалыя тармазныя прыстасаванні і рыхтуецца да новых стартаў. Яго запаветная мэта — трапіць у Маскву, на фінал Спартакіяды народаў СССР. А пакуль што трэніроўкі, трэніроўкі, трэніроўкі...

Міхаіла Гарбацэвіча можна бачыць і на пасяджэннях камсамольскага бюро, членам якога з'яўляецца. І тут у Міхаіла спраў нямала: ён жа адказны за работу сярод падлеткаў. А іх у цэху многа. Не-не, ды хто-небудзь і выкіне якую штуку... Гарбацэвічу даводзіцца настаўляць іх на правільны шлях. А яго аўтарытэт сярод моладзі вялікі і як вядучага інжынера, і як майстра спорту.

Міхаіл Гарбацэвіч шчаслівы, што з'яўляецца актыўным удзельнікам усіх перамог аўтазаводцаў у працы і спорце.

**Леў СЕВАСЦЬЯНАЎ,**
**член савета спартыўнага клуба «МАЗ».**

Фота **С. Чырэшкіна.**

**Міхаіл Гарбацэвіч** (злева) **у заводскай лабараторыі.**





Аляксей **СУЭЦІН**

# У КРАІНЕ ПРЫНЦА ДАЦКАГА

## ШАХМАТЫ Ў ДАНІІ

Увосень 1965 года мне разам з другім савецкім гросмайстрам М. Тайманавым давялося прыняць удзел у вялікім міжнародным турніры, прысвечаным стагоддзю шахматнага клуба сталіцы Даніі. Трэба сказаць, што за шматгадовую гісторыю існавання шахматнай арганізацыі ў Даніі гэта быў толькі трэці міжнародны турнір.

Шахматныя традыцыі Даніі звязаны з імёнамі такіх выдатных шахматыстаў і тэарэтыкаў, як гросмайстар А. Німцовіч, майстры Нільсен і Фром (у яго гонар названы контргамбіт: 1. f4 e5!?).

Апошнім ветэранам дацкіх шахмат гэтага пакалення з'яўляецца старэйшы дацкі майстар І. Энэвольдсен, з якім на гэты раз нам і прыйшлося скрыжаваць шахматныя шпагі і бліжэй пазнаёміцца. І. Энэвольдсен — настаўнік сучаснага пакалення дацкіх шахматыстаў, аўтар шэрагу цікавых работ па розных галінах тэорыі.

Цяпер у Даніі шахматамі захапляюцца літаральна ўсе. Поспехі лепшага дацкага гросмайстра Б. Ларсена зрабілі яго прозвішча вельмі папулярным нават для тых датчан, якія вельмі далёкія ад шахмат. За Б. Ларсенам энергічна ідзе юнае пакаленне. На Сусветнай студэнцкай алімпіядзе каманда юных дацкіх шахматыстаў упершыню дамаглася поспеху, заваявала бронзавыя медалі. Усе гэтыя падзеі ўзнялі цікаўнасць грамадскасці Даніі і да арганізацыі міжнароднага шахматнага турніру, які адбываўся пад эгідай мэра Капенгагена.

Шахматны клуб датчан аб'ядноўвае восем тысяч членаў: ён мае памяшканне для гульняў, спецыяльны шахматны магазін і выдае раз у месяц шахматны часопіс.



**Перад уваходам у гавань Капенгагена застыла русалачка, нібы прыйшла з казак Андэрсена.**



Суровая прырода Даніі.

Клуб існуе на членскія ўзносы, і, натуральна, што арганізацыя такога турніру, як міжнародны, не яму па сілах. Прыйшлося звярнуцца да мецэнатаў. Сродкі далі галоўнае ўпраўленне Капенгагена, рэдакцыі газет «Інфармацыя» і «Палітыка», а таксама адзін з буйных універмагаў Капенгагена. Была вызначана вельмі высокая плата для гледачоў турніру (пяць крон), выпускаліся платныя праграмы з партрэтамі і біяграфіямі ўдзельнікаў, спецыяльныя бюлетэні з партыямі кожнага туру. Нягледзячы на высокі кошт білетаў, гледачоў было даволі многа (прыкладна 300—400 чалавек за вечар). Асабліва шмат было публікі ў дні рашаючых шахматных баёў, калі Б. Ларсен, пасля няўдалага старту, пачаў рашаючы штурм у барацьбе за высокія месцы.

Для нашых аматараў шахмат турнір у Капенгагене выглядаў бы крыху нязвыкла. Гуляць прыходзілася і раніцою і вечарам — па дзевяць гадзін у суткі. Былі толькі два спецыяльныя дні дайгравання і адзін выхадны (ён быў прысвечаны паездцы ў легендарны горад Эльсінор, дзе, паводле падання, некалі жыў прынц Гамлет).

Гледачы паводзяць сябе ў часе турніру вельмі вольна: яны ходзяць, кураць, але трэба заўважыць, што ўвесь час захоўваюць поўную цішыню і парадак, як бы ні абвастраліся шахматныя паядынкі.

Забягаючы наперад, скажу, што пасля заканчэння турніру нам давялося пазнаёміцца з правінцыяльнай шахматнай арганізацыяй у другім па велічыні горадзе краіны — Орхусе (250 тысяч жыхароў). Там мы праводзілі сеансы з гадзіннікамі і згулялі дзве кансультацыйныя партыі. Цікавая арганізацыя гэтых партый: зрабіўшы ход, Тайманаў і я выходзілі да гледачоў і падрабязна расказвалі пра свае далейшыя шахматныя планы і варыянты — іншымі словамі, лабараторыя шахматнай творчасці была ўвесь час адкрыта. Што ж, магчыма, гэта і павучальны метад прапаганды шахмат, хоць сам творчы працэс ад гэтага, безумоўна, не выйграе.

І ў Орхусе на кожнае такое мерапрыемства была ўведзена ўваходная плата. Таму, на мой погляд, і тут быў даволі абмежаваны прыток аматараў шахмат.

Запомніўся ўтульны шахматны магазін, уладальнік якога А. Нэс ужо шмат год старанна калекцыяніруе літаратуру па шахматах. У гэтай сапраўды ўнікальнай калекцыі (каля чатырох тысяч назваў) можна знайсці самыя ўнікальныя шахматныя кнігі і часопісы ўсяго свету як сучасныя, так і з далёкага мінулага. Ёсць спецыяльны раздзел: «Савецкая шахматная літаратура», дзе (дарэчы, крыху здзіўлены і прыемна ўражаны) я ўбачыў і дзве свае кніжкі, і абсалютна ўсё, што было надрукавана за пасляваенныя гады ў Беларусі. Каштуюць, аднак, кнігі вельмі дорага, і магазіну, напэўна, значна лягчэй іх набыць, чым прадаць.

## ТРЫУМВІРАТ ПЕРАМОЖЦАЎ

Цяпер пра самую шахматную барацьбу. Яна была вельмі вострая. Турнірны экватар быў даўно пройдзены, а прэтэндэнтаў на першае месца заставалася больш палавіны ўсіх удзельнікаў. Аж да дванаццатага туру мне ўдалося быць адзіным лідэрам. У гэтым туры адбылася змена лідэра, праўда, зусім



не страшная для нашых агульных інтарэсаў. Уперад выйшаў М. Тайманаў, на паўачка за ім ішоў я, яшчэ на паўачка за мною былі адразу чатыры нашыя канкурэнты: гросмайстары С. Глігарыч, В. Горт, Б. Ларсен і міжнародны майстар І. Дзюкштэйн.

Пачалася жорсткая фінішная гонка. У наступным туры я зраўняўся з Тайманавым, а ў перадапошнім да нас далучыўся Глігарыч. Горт і Ларсен адставалі ўсяго на паўачка! Апошні тур хоць і быў насычаны самымі вострымі сітуацыямі на шахматнай дошцы, не ўнёс, аднак, істотных змен у групе лідэраў — усе прэтэндэнты атрымалі яшчэ па ачку, толькі Горту прыйшлося задаволіцца нічыёй з майстрам Нільсенам, які замыкаў табліцу і значна адстаў ад усіх (дарэчы, ён пасля серыі з трынаццаці нулёў паўтарыў вынік свайго першага туру тут, у апошнім...)

Спартыўная барацьба, такім чынам, была вельмі жорсткая. Месцы ў турнірнай табліцы ў выніку размеркаваліся так: С. Глігарыч, А. Суэцін, М. Тайманаў па 11 ачкоў з 15 магчымых. Б. Ларсен — 10,5, В. Горт — 10, І. Дзюкштэйн — 9, Г. Баруа — 8,5, С. Хаман — 8 (выканаў норму міжнароднага майстра), К. Ханфі — 7,5, І. Энэвольдсен — 7, І. Слот — 6.

Вельмі добрае ўражанне пакінула гульня маладых дацкіх майстроў, перш за ўсё С. Хамана і І. Слота. Апошні дамогся абсалютна лепшага выніку на Сусветнай студэнцкай алімпіядзе. Але прадстаўнікі старэйшага пакалення ні ў якім разе не маюць намеру саступаць моладзі. Пра гэта пераканаўча сведчаць вынікі такіх ветэранаў шахмат, як Г. Баруа і І. Энэвольдсен.

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА СТЫЛЬ Б. ЛАРСЕНА

З лёгкай рукі М. Таля (і, магчыма, яшчэ некаторых нашых спецыялістаў) склалася думка, што адзін з папулярнейшых гросмайстраў — Б. Ларсен больш за ўсё байца «халоднага душу» пазіцыйнай барацьбы. На наш погляд, гэтая думка вельмі спрэчная.

Зразумела, Б. Ларсен вельмі



Даўняя гісторыя і сённяшняя будзённасць побач.

творчы шахматыст, ён пазбягае шаблонных рашэнняў. Яго гульня пакуль што вельмі няроўная, часам занадта вычварная. Але гэта бывае да таго часу, пакуль спартыўны момант гульні яго непасрэдна хвалюе. І вось сур'ёзныя няўдачы на старце (½ з 3!) адкінулі Б. Ларсена далёка назад. Ён адразу пачаў гуляць па ўсіх правілах шахматнай стратэгіі. Больш таго, у мяне склалася ўражанне, што якраз у майстэрстве пазіцыйнага наступу — яго асноўная сіла (камбінацыйная чуйнасць яму нярэдка здраджвае, як было ў партыі з Д. Янашвілічам). Стыль Б. Ларсена, здаецца, бліжэй за ўсё стаіць да творчасці А. Німцовіча.

## ХОД 9. а3 ДАЕ «ПРАЦЭНТЫ»...

...я прадаўжаю не без поспеху ўжываць у апрабіраваным варыянце чыгорынскую абарону: 1. е4 е5, 2. Кf3 Кc6, 3. Сb5 а6, 4. Са4 Кf6, 5. 00 Се7, 6. Ле1 b5, 7. Сb3 d6, 8. с3 00, 9. а3?!

Мая партыя з І. Нільсенам (чорныя) развівалася так: 9. ...h6, 10. d4 Ле8, 11. Кbd2 Сf8, 12. Сс2 Сg4? (недакладнасць, лепш: 12. ...Сd7. Цяпер слон чорных выклю-

чаецца з гульні і становіцца нерухомым аб'ектам). 13. h3 Ch5, 14. d5 Ke7, 15. Kf1 c6, 16. dc Фc7, 17. Kg3 Ф : c6, 18. Фf3 d5. (Па сутнасці вымушана, бо ёсць пагроза 19. C : h6!. Але цяпер гульня паказвае ўжо выгаду белых) 19. ed Ф : d5, 20. K : g6 K : g6, 21. Ke4! Kh7, 22. a4! b4, 23. cb C : b4, 24. Лd1 Фe6, 25. Cb3 Фe7, 26. Фf5 Khf8 (Рашаючы пралік, які дазваляе белым камбінацыйна канчаць барацьбу. Непасрэдна магло выратаваць партыю толькі 26. ...Kgf8.)



27. C : h6! gh, 28. Лd7! (гэта — аснова задумы белых, соль задумы. Нельга, вядома, 28. ...Ф : d7 з-за 29. Kf6+) 28. ...K:d7, 29. Ф : g6+ Kpf8, 30. Фh7!, і чорныя здаліся.

## ПРАБЛЕМА БЕЛАГА І ЧОРНАГА КОЛЕРУ

Здаецца, ніколі перада мною не стаяла так востра праблема тактыкі барацьбы белымі і чорнымі, як цяпер. Справа ў тым, што воляю жэрабя, я гуляў белымі толькі з адным гросмайстрам Г. Баруа, а чорнымі прымаў пераважную большасць гросмайстраў і майстроў. Я вырашыў трымацца цвёрда намечанай тактыкі — белымі гуляць толькі на выйгрыш, чорнымі ж імкнуцца да класічнай роўнасці (робячы выключэнне толькі ў адным-двух выпадках). Відаць, гэта была правільная тактыка. Але псіхалагічны пройгрыш на фінішы ў партыі з Б. Ларсенам паказвае, што і гэтая тактыка зусім не дасканалая. А ці існуе яна наогул, дасканалая тактыка турнірнай барацьбы?

## УРАЖАННІ ПА-ЗА ТУРНІРАМ

Наша прабыванне ў Капенгагене было адзначана не толькі захапляючай барацьбой, але і на дзіва цёплымі, сяброўскімі сустрэчамі па-за шахматным асяроддзем. З асаблівым задавальненнем успамінаецца ўрачыстае закрыццё турніру, якое супала з юбілейным вечарам, прысвечаным стагоддзю капенгагенскага клуба. У часе сяброўскай вячэры было сказана нямала цёплых слоў, нават выканана некалькі песень, напісаных вялікім энтузіястам і знаўцам шахмат і музыкі Е. Расмунсенам. Выконваліся яны дружным хорам удзельнікаў вячэры пад акампанемент фартэпіяна. Адна з песень прысвячалася ўдзельнікам турніру, апошні яе куплет быў адрасаваны мне. Змест куплета такі: Суэцін ахвотна дорыць сваю кнігу «Як гуляць дэбют» сябрам, і мы, аматары шахмат, жадаем вывучыць гэтую кнігу, але для гэтага трэба ведаць рускую мову. І вось гэтаю зімою нам трэба будзе наведваць гурток рускай мовы, што мы і зробім вельмі ахвотна.

Вольнага ад гульняў часу мы мелі вельмі мала. І ўсё ж нам удалося паблукаць па маленькай раўніннай Даніі. Не толькі па зямлі, але і па вадзе.

Гонар датчан — горад Эльсінор з яго таямнічым замкам Кронберг, услаўленым яшчэ ў далёкія часы Шэкспірам. І слава Эльсінора расце разам са славай Шэкспіра. Пры ўваходзе ў Кронберг знаходзіцца абгароджаны тоўстай крэпасной сцяною і ровам з вадою, дзе плаваюць чорныя і белыя лебедзі, старажытны мемарыял Шэкспіра. Замак пакідае моцнае ўражанне, але сам музей спустошаны заваёўнікамі ўсіх мінулых часоў.

З Кронберга, як на далоні, бачны берагі Швецыі і прыгранічны гарадок Эльсэнберг. Але бераг недаступны для турыстаў: тут гаспадары — салдаты НАТО, якія размясціліся пад самым Кронбергам.

Другая рэліквія мінуўшчыны — гістарычны музей у замку Фрыдэнсберг, унутранае ўпрыгожанне якога выканана ў стылі барока.

Нам удалося блізка пазнаёміцца з некаторымі журналістамі Капенгагена. Як правіла, ураўнаважаныя датчане любяць класічную музыку, і гэтая рыса аб'ядноўвае разам людзей самых розных прафесій і ўзростаў.



Найбольш падрабязна наш турнір асвятляўся ў газеце «Інфармацыя» папулярным журналістам Янам Рабэнам. Пасля заканчэння турніру мы з Тайманавым частку вечара правялі ў яго на кватэры. Пасля досыць вялікай порцыі музыкі і чорнай кавы наш гаспадар вельмі сціпла папрасіў паглядзець адну з яго аматарскіх партый. Мне асабіста яна вельмі спадабалася, і я хачу пазнаёміць з ёю нашых чытачоў:

### В. Крыстэнсен — Я. Рабэн (Капенгаген, 1964 год)

Венская партыя: 1. e4 e5, 2. Kc3 Kf6, 3. Cc4 Cc5, 4. d3 Kc6, 5. Cg5 h6, 6. Ch4 g5!, 7. Cg3 d6, 8. Kf3 Cg4, 9. h4 Kh5, 10. hg K : g3, 11. fg Ce3!, 12. Л : h6 Kpd7!?!

Вельмі арыгінальная стратэгія. Чорныя імкнуцца да вострай фігурнай атакі на караля белых. Наступная барацьба поўная камбінацыйных матываў.

13. C : f7 Л : h6, 14. gh Фh8, 15. Cd5 Лg8!!

Гэта аснова задумы белых. Адцягваючы белага слана, яны паспяваюць арганізаваць прыгожую атаку, у якой далёка не апошнюю ролю будзе мець конь чорных «c6».

16. C : g8 Ф : h6, 17. Фe2 Kd4!, 18. K : e5+! de, 19. Ф : g4+ Kpd6, 20. Фh4 Cd2+!, 21. Kpd1 Фf8, 22. Фg4 Фf2!, 23. Kb5+ Kpc5, 24. b4 Kpb6, 25. Фg6 c6, і белыя здаліся. Так гуляюць у шахматы аматары! Праўда, наш сябар журналіст Я. Рабэн мае першую катэгорыю.

Цікава было пазнаёміцца бліжэй з Б. Ларсенам. За шахматнай дошкай — гэта эталон ураўнаважанага барацьбіта. Б. Ларсен вельмі любіць славу, вельмі спартыўны. У жыцці ж — ён просты хлопец. З усіх мастацтваў больш за ўсё любіць музыку, класічную, хоць часам здольны вытрываць і салідную порцыю сучаснай. Любімы яго кампазітар Бетховен, любімы шахматыст — Эмануіл Ласкер. Ларсен добра валодае рускай мовай, спецыяльна вывучаў яе. Ён ужо заканчваў вышэйшую тэхнічную адукацыю, але цяпер у сувязі з шахматамі адклаў свае вучэбныя справы. «Я вырашыў стаць прафесіяналам, — гаворыць Б. Ларсен. — У трыццаць год зразумеў, што люблю шахматы больш за ўсё, а мець ці не дыплом інжынера, мне ўсё роўна. Хоць, вядома, я буду заканчваць усё ж вучобу». Б. Ларсен жыве на сродкі, якія атрымлівае як прызы і плату за сеансы, гастралюе па Еўропе. Сталага заработку ён не мае, таму бюджэт яго часам вельмі «скачкападобны». Да апошняга часу ў Даніі шахматы былі не настолькі папулярны, і якраз Б. Ларсену прыходзіцца ўзварушваць цаліну.



Дацкія школьніцы.

Блізка пазнаёміўся я і з другім гросмайстрам Еўропы — югаславам С. Глігарычам. Гэта спартсмен, як кажуць, да самых касцей. Нягледзячы на свае 42 гады, ён яшчэ і цяпер шэсць дзён на тыдні займаецца спортам, чаргуючы плаванне і футбол, дзе ў маладзейшыя гады ён набліжаўся да сапраўднага майстэрства.

Данія — ціхая, утульная краіна. Трэцяя частка яе жыхароў жыве ў Капенгагене. Праўда, у суботу і ў нядзелю Капенгаген становіцца амаль пустым. Працуюць толькі рэстараны і некаторыя кафэ. Усе жыхары — за горадам або па хатах,

сярод сям'і. Не ўсё добра ў Даніі перш за ўсё з пункту гледжання маралі. Злуе і выклікае агіду засілле парнаграфічнай літаратуры ў кіёсках. Для продажу яе адкрыты нават спецыяльныя крамкі. Праблема 17—18-гадовых—вось амаль адзіная для ўсіх фільмаў, што паказваюць у кінатэатрах.

Дзіўнае ўражанне пакідаюць датскія стылягі з касматымі, нястрыжанымі галовамі і вельмі дзіка апранутыя. Іхнія зборышчы ў цэнтры горада для многіх юнакоў сталі абавязковымі, хоць яны зусім бессэнсоўныя. Тут цяжка адрозніць, хто мужчына, а хто жанчына—усе яны з доўгімі прычоскамі і ўсе ў штанах... Так, духоўная пустата раз'ядае шмат каго з маладога пакалення датчан, і гэта—вельмі балючая праблема ў такой утульнай і прыгожай краіне, як выглядае яна звонку.




# НОВЫЯ КНІГІ

**Гросмайстар А. Котаў, адышоўшы ад практычнай гульні ў шахматы, паспяхова выступае ў якасці пісьменніка-шахматыста. Яго раман «Белае і чорнае» карыстаецца поспехам у чытачоў, а ў тэатры імя Вахтангава па матывах гэтага рамана рыхтуецца спектакль.**

**Зусім нядаўна ў выдавецтве «Молодая гвардия» выйшла ў свет новая кніга А. КОТАВА—«ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ».**

**Кніга гэта вельмі цікавая. Вось невялікі фрагменцік з яе:**

«Пасля нядоўгага трохдзённага візіту ва Уругвай мы з Керасам па дарозе дадому перасякаем Атлантычны акіян. Шлях з Бразіліі ў Афрыку—доўгі... Каб неяк падтрымліваць добры настрой пасажыраў, сцюардэсы раздаюць падарункі, пачынаюць нейкія гульні.

Адна з іх прайшла паміж радамі крэслаў, несучы ў руках вялікі крыштальны бакал, напоўнены запалкамі.

— Колькі запалак у бакале?— пытае яна на розных мовах кожнага пасажыра і запісвае адказ на паперку.

Калі чарга дайшла да мяне, я, прыкінуўшы ў галаве, сказаў:

— Сорак шэсць.

Мінут праз пяць сцюардэса зноў падышла да нашых крэслаў і падала Паўлю Керасу цудоўны будзільнік.

— Гэта вам прыз,—сказала яна.—Вы адгадалі...

— Вось удачнік!—міжволі вырвалася ў мяне.—Якую колькасць ты назваў?

— Сорак адна,—адказаў Паўль.

— Чаму?

— Таму, што мне якраз сорак адзін год...»





## НА ТЭМЫ СПАРТЫЎНЫЯ



Эстафета.



Без слоў.










Без слоў.

— А яшчэ мужчына! Мог бы даць дарогу!..



Малюнкі з часопісаў розных краін.




**КАВАЛЮК Аўгіння** нарадзілася ў 1935 годзе на Гродзеншчыне. Скончыла Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы.
Настаўнічае ў г. Рызе.
Выдала зборнік вершаў для дзяцей «Белае дзіва».

**ПАЎЛАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Замошша на Случчыне. Служыў у Савецкай Арміі, скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.
Цяпер працуе ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».
У выдавецтве «Беларусь» выйшлі зборнікі вершаў: «Узлётная паласа» і «Далягляд». Аповесць «Яжэліха»—першы празаічны твор аўтара.

**ЗАКОННІКАЎ Сяргей** нарадзіўся ў 1946 годзе на Лепельшчыне.
Студэнт філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**КАЛАЧЫНСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1917 годзе ў Крупках.
Працаваў у рэспубліканскім друку, быў адказным сакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Беларусь». Аўтар кніг паэзіі: «Сонца ў блакіце», «Насустрач жыццю», «У вялікім паходзе», «Прыпар», «Гронка рабіны» і іншых.

**ПІШЧЫКАВА Клара** нарадзілася ў 1933 годзе ў Мінску. Скончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працавала ў рэдакцыі раённай газеты на Вілейшчыне.

**МАЛЮК Анатоль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў Воранаўскім раёне.
Скончыў факультэт мовы і літаратуры Мазырскага педагагічнага інстытута, у якім цяпер працуе выкладчыкам.

**ЗАМЕРФЕЛЬД Яўген** нарадзіўся 25 лістапада 1912 года ў вёсцы Пархімкавічы на Магілёўшчыне. Скончыў Мінскі педінстытут імя Горкага.
Працуе настаўнікам школы-інтэрната ў г. Барысаве. У літаратуры вядомы як аўтар метадычных дапаможнікаў па мове, крытычных артыкулаў і прадмоў да кніг беларускіх пісьменнікаў.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ», № 6**
*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 3/V-66 г. Падпісана да друку 25/V-66 г.
АТ 08690. Тыраж 8260 экз. Зак. 250. Цана 40 кап. Папера $70 \times 108^1/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспп. 79.**

Да фотанарыса **Віталя Бараноўскага і Валянціна Ждановіча.**



Фрагмент вазы.



Дэкаратыўная ваза мастака Уладзіміра Мурахвера.